

**А. НАЗАРАНКА. Восеньскі вецер** (літаграфія, 1988).

# Маладосць

**ОРГАН
ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА
ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ
БЕЛАРУСІ**

ШТОМЕСЯЧНЫ
ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС

**Выдаецца з 1953 года**

**11·89**

**(441)** **ЛІСТАПАД**

**МІНСК
Выдавецтва ЦК КП Беларусі**

# У нумары

## Паэзія · Проза



## Публіцыстыка








Вокладка **М. Анемпадзістава.**

На шмуцтытуле паэзіі і прозы — **А. НАЗАРАНКА. Беларусь** (літаграфія, 1986).

На шмуцтытуле публіцыстыкі — **фота С. БРУШКО.**






# Паэзія Проза



# *Данута Бічэль-Загнетава*

## ПРАЗАРОКІ

*Тамары Чабан*

У свеце,
заселеным людам тутэйшым,
у свеце шырокім,
як возера Нарач,
як шчырая песня,
як чорнае гора,
свяцілася вёска з назовам святым
Празарокі —
калыска адважных, высокіх,
калыска празораў.

Без жорсткай вайны
нашым продкам амаль не вялося.
Не мог у спакоі пакінуць
зямлі нашай вораг.
Яму насупор на пагорках
паміж вербалоззя
стаўлялі наўсцяж мігакі,
дзе вачэй не змыкалі празоры.

Ад пільных гадзін суглядання
пачнецца ў вачах амарока —
ці шоргнуў цянёк усуцемку,
ці наўспеш скаціўся буглёк...
Заўжды пад рукамі
сухія сукі ў празарока.
Заўжды ледзьве цвеліцца ў прыску
жывы вугалёк.

Ды бура узнялася знагла
і друхло намачыла дашчэнту.
І ворагі лезуць. Скрозьдоннымі сталі палі.
Празор ад зары падпаліў сваё сэрца, як
шчэпку.
У вогнішча цела гарачае ператварыў.
Бо ён берагчы гэты лапцік
зямлі да знямогі пакляўся.
Успыхлівы позірк празора
наперадзе ўсіх ваякоў.
Ад вогнішча пошугам ведамка дойдзе да
князя.
Да войска трывожную полынь
дакоціць ланцуг мігакоў.

А смерці не страх.
Паглядзі, колькі душ адпалала!
Адных засталіся імёны, **а іншыя** зніклі зусім.
Францішак Скарына,
Кастусь Каліноўскі,
Купала...
Мастак абразоў,
летапісец...
Гарэцкі Максім.

Згарэць на ахвярніку людства!
А мо на сугрэўным каберцы
пагрэцца, таймуючы сонную кволь
спадцішка?

Гарыце, дзяўчаты, празорамі —
вы —праўдаверцы!
Не трэба, дзяўчаты, ад долі сваёй уцякаць.

## ЛЕПЕЙ

Сон саладзейшы напапалам, як яблык.
Лепш з грыбнікам хадзіць па грыбы,
чым з асенняю песняй.
Песня дуэтам гучыць прыгажэй, чымся
сола.
Снедаць, палуднаваць і галадуху спраўляць
лепей на пару.
Ноччу кахацца — не выдумляць
рыфмаванкі.
Лепей браць кветкі з рук закаханых,
чым палівацъ на магіле.
Гараваць, у сняжніцы знікаць,
напрадвесні з-пад снегу ўзыходзіць
з мужчынам найлепей.

На беларускай мове
добра ўдваіх размаўляць.
Бульбу садзіць і капаць,
сена ў копы стаўляць...
Дробных дзяцей кожны вечар,
бы ягнятак, дамоў заганяць...
У няславе канаць.

Толькі на ворагаў меч узнімаць
зручна, як сэрцу не рупіць ніхто.

## СТАМЛЯЮСЯ

Стамляюся,
без натхнення шукаючы працы.
Захапляюся працай —
сілы няма адарвацца.
Сілы няма паўстрымацца,
каб ад працы ізноў не стамляцца.
Ніякава мне: супынюся —
адпачну, як стамлюся....

Калі б ты быў — так падумаю —
не шэрым каменем у бярэзніку чорным,
я з табой і стамілася б
і адпачыла б ад стомы.
Ты ж — граніту нязрушная глыба —
назаўжды замоўкнуў, як рыба.
Я з апастылай крывёю —
марнасць, няма супакою.

Каб не вянчаўся ты з вечнай зямлёю,
не з падушкай задушнай — з табою
абнімалася б і не стамлялася б.

Ночы мяне найгорай стамляюць —
ізноў да гора мяне прытуляюць.

## САНЕТ ДА НЁМАНА

На зялёнай рацэ крыгаход.
Шчырых крыгаў рухомая карта.
А ці ж доля хоць шэлегу варта,
як у гэткім разладзе народ?
Паўтараю ў прадонне ваш лёт,
Багдановіч, Купала і Цётка,
з гарадзенскага прысаку лётка
паўтараю — з нябёс і пад лёд.
Нёман, Нёман, адзіны каханы,
абальеш прахалодаю раны
і схаваеш ад горкіх нягод...

Расцвітуць сэрца сцюжнага крыгі
да бязлюднай спрадвечнай адлігі —
гэтак знойдзецца згублены брод.

## СВЯТОЧНАЕ

На дзень не хопіць у мяне гумору.
Завешу вокны, акунуся ў змору,
згубіўшыся ў пакоі, нібы ў моры,
пакуль застогне тэлефон, як хворы.
— Як маешся? — спытае хрыплая трубка.
Каго чакаю, той замоўк, як труп.

Знямоглая, пасплю, як на вуголлі.
Ці доўга палянуюся ў падполлі?

Пацягнуць ногі да шляхоў-развілак.
Пагрэю вочы... І няма памылак.
Нырцую ў сну краіну-самазванку.
З бяссонкамі сам-насам да світанку.

■

Сэрца грукоча, як позні абоз,
баліць апошнім болем чакання.
Лісты ад мінулага не да чытання.
Чаму не даходзяць лісты да нябёс?

Душа не чакае нічога нідзе —
птушынай сцяжыны ад маладзіка.
Сярэбраны тварык яго двайніка
у Нёманавай патанае вадзе.

## АНІЯКІХ

Хворыя ад кахання
не заступяцца за Радзіму.
Пералезуць праз частакол.
Заблудзяцца ў чатырох сценах.

Хто шукае надзейных плячэй,
той не змаганец яшчэ.
Хто мае надзейныя плечы,
той без талок смялок.

Чым дзён у восені менш,
тым плёну лягчэйшы мех.
Прыцінь — спрыцень.
Холад — заход.
У безнадзейнасці белыя коні.
І чырвоны месяц у поўні.
І хмарэчы белыя скроні.

А з Вашае Светласці Шэрых Вачэй
аніякіх узнагарод...

## ГОРАД

Люты. Збыткуецца холад.
Кусаецца люта зіма.
Коціцца сонейка ў горад,
куды табе ходу няма.

Мучышся ў золкім бяссіллі.
Зззяе на краі зямлі
горад, куды запрасілі
і ключ ад кватэры далі...

Нават слязы не прымае.
Брамы замкнуў назаўжды.
Шчыльна зачынены мае
ўсе лабірынты-хады.

Выкінь у шчыліну моўчкі
ключ і са свечкай-слязой
кроч у мінулае, ў прочкі,
у непрытульнасць, у золь.

Клопаты, жартачкі, гулі.
Ты ў завірухі адна.
Горад, якім падманулі,
ззяе наскрозь давідна.

Рэжа святлом твае вочы
свята, вясёлы кірмаш.
Моўчкі спыніся на ўзбоччы
крыўду абтрэсці з камаш.

Знікнеш —ніякага спадку —
бедная пані Бічэль...
у нешчаслівым выпадку,
ў змрочнай чужыне вачэй.

## СУПОЛЬНА

Люд вакол абязмоўлены свойскі.
З кім жа шчырае слоўца замовіць?
Ці ў нябёсах на матчынай мове
размаўляеш, Кастусь Каліноўскі?

Ты на вісельню йшоў за Радзіму,
ды яе выракаюцца дзеці.
Дыялект свой — дыямант праўдзівы —
выкідаюць з застрэшкаў на смецце.

Ім наўме толькі скокі ды гулі.
Вёскі мруць, не запальваюць печаў.
На нябёсы ўзыходзяць бабулі,
хто малітву штовечара шэпча.

У Мсціслаўлі, Наваградку, Вільні
шчэ відушчыя словы, як духі.
Пад страхою касcё і цапільна...
У нябёсы рывок ад задухі!

Бунтаванне каціласл валам
па збунтованых рэках і пушчах.
Кастусю, як цяпер нефармалам,
бракла часу даслухаць відушчых.

Калі чуць толькі ўласнае сэрца,
лепш стрымаць яго, каб не грымела...
Ды яшчэ Беларусь не памерла!
Шчэ супольна сямейка збярэцца!

## POST SCRIPTUM

Скончыцца мірам без міру, але не вайною.
Будзе нікчэмнаму свету мяне не шкада.
Ключ у дзвярах выконвае сальта двайное.
Кат, мой каханы, апошняга слова не даў.

Ані любові, ні смерці,
вартай мяне.
Каб жа ў віне!
У смольнай цягучай мане...
Будзе душыць мяне цемра задушнай начы.
Гэта чаканне канчаецца гулкім нічым.

Без апраўдання, без плакання лёс навучыў
з мілым кахацца толькі ў маім сне.

Сэрца пакоціцца па лабірынтах
пустэчы.
Вочы, дзве раны на твары, ніхто
не залечыць.
Вокны і вуліцы глуха.
Гадзюкі-сустрэчы.
Шорсткія плечы муроў...
і вечар старэчы.

Ахвяраванняў духоўных не злічаны скарб.
Нават вясна не прымае, хто духам аслаб.
Дух мне займае...
Празрыстае неба і дол,
Мой незакляты, светлы скрыдлаты анёл!

## ПАМЯНЯЮ АСФАЛЬТАВЫ ШЛЯХ

Маладых захапленняў прывіды мярэсцяцца
на людных завулках. Не адчароўваю іх
у мужчынскія постаці, хай застаюцца
прывідамі.
Дзівавауся цяняк, а чаму не пашлю узды-
ханняў яму. Сэрца дыгае, аж захлынаецца,
а тралейбус не пачакаў таго, хто спаз-
няецца.

На замежныя мовы не тлумачацца пацалункі.
Іх тыраж невядомы нікому, апроч...

Наталенне песняй і стома ад песні дара-
жэй мне за цалю з інжынерам савецкім
на пару. Заўважаю таго, хто на небе,
хто за вокнамі ездзіць — не бачу.

Але штодзённа знішчаю маршчын шаранчу
з безнадзейна вясновага твару. За апош-
ні мядзяк адкуплю недасяжную мару.

Птах з-за хмараў, за песню тваю шэры
адрэз жыцця аддаю. Памяняю асфальтавы
шлях на сцяжыну захмарную, птах!

Праваліся ў цясніну грудзей, беларускіх
на прыпеку горак...
Таймаванне, здранцвенне, адчай, безнадзей,
небыццё, забыццё, надвячорак.





# *Людміла Забалоцкая*

■

Шкадую дзён, якія адышлі,
Шкадую дзён, якія не збыліся.
Я — лісце у сусвеце, толькі лісце,
А дні мае — начныя караблі.
Стамілася чакаць вяртання сноў,
Забыла, што ёсць шчасце і пяшчота,
І знічкі дагараюць каля плота,
А новыя не выспелі ізноў.
Шчаслівы міг, калі ажыў давер,
Сціраецца, старэе і знікае,
Ліецца звон, і сум не замаўкае,
Мой ціхі сум — мой непужаны звер.
Я знічкі адгарэлыя збяру
І апушчу іх жменю у калодзеж,
А ты іх асцярожна ахалодзіш
І пусціш у вячэрнюю зару.
Ім нельга так бязладна паміраць,
Людскога адцураўшыся даверу,
Ліхтарыкамі свецяць на паперу
І шэпчуць, што ажыць прыйшла пара.

Люты фіялетава-асмужаны,
У ліхтарным звоне золкіх сцюж,
Падары прагалы мне і лужыны,
Вочы на зіму сваю замруж.
Ледзяшоў даверлівыя клавішы
Мройна адчуваць пад свіст вятроў.
Буду я вясне з адзім'я кланяцца
З праславянскіх сцішаных бугроў.
Ведаю, не ўсё на свеце вечнае,
Знаю, што памёр стары мой сад,
Прытушыў наіўна-чалавечае
Сэрца ў высакосны снегапад.

Вытчацца з трагедыі — трагедыя,
Лішні дзень — а колькі гора ў ім,
Ты хутчэй мініся, год нязведаны,
Ты растань над светам, нібы дым.
Выракуся болю апантанага,
Адзіноты горкай між людзей.
І душу, усім вятрам адданую,
Адчыню, як вокны, для Надзей.

■

Пабляклі словы — колеры жыцця,
І ўжо няма у сэрцы забыцця.
Малочны месяц цэдзіцца над полем,
Над свечкамі халоднымі трысця.
Стамілася чакаць здзяйснення мар,
І коціцца на схіл жыццёвы шар,
І сэрца ледзянее у сумоце,
І сонца не вызірвае з-за хмар.
Я ходзікі самотныя спыню
І падыду да ціхага агню,
Вугольчыкі датлеюць у каміне,
Цяплом сваім сагрэўшы даланю.
Усё аддам. Нашто ў шчаслівы свет
Свой несці паўзабыты сілуэт,
Нашто мой боль, нашто расчараванні,
Нашто мой непрыкаяны партрэт?

■

Чужыя людзі сцішна адыходзяць
У вечнасць, у падступную імжу,
І я, нібы ў напоўнены калодзеж,
Услед жалобным ценям іх гляджу.
Старыя твары, маладыя твары...
Любімыя. Нялюбыя. Чые?
Хто з попелам астыглым, хто з пажарам...
І ўсё ж іх мне пякуча не стае.
Хто поўначчу пайшоў, хто на світанні,
Калі шчымлівы золак б'е ў званы,
Хто місію закончыў, хто — пытае,
Ці дажыве да цёплай сівізны.
Кружляе лістапад у цёмным лесе,
І ў танцы дрэў тужліва-залатым
Маўкліва памяць твары перакрэсліць
І стане узірацца з нематы.
І толькі часам мройна, лебядзіна
З няпамяцтва прарвецца нечы лік,
Як любы, як апошні, як адзіны,
Як вытанчана-ясны маладзік.

■

Залатыя шары расцвілі ў палісадах,
І у хмурую золь адышлі у палі.
І ў ладдзі адзінокай па ціхіх прысадах
Месяц плыў і сляпучыя зоры плылі.
А шары уцякалі ў вясну назаўсёды,
Каб убачыць, якая на яве яна.
І сумота была ў вераснёўскай прыроды,
Павуцінка на дрэве, нібы сівізна.
Не прыпомніць калі, можа, шарай гадзінай
Сонца шчэ не ўзышло, і ў залеве глухой
Залатыя шары перад лесам застылі,
І пачуўся спакой, і пачаўся спакой.
Іх не ўбачыў ніхто у вясне аніколі,
І у горадзе тым на Ганчарнай гары
Кожнай восенню ноччу імкнуцца на волю,
Каб сустрэцца з вясной, залатыя шары.

■

Сняжніцай ценькай, як сініца,
Адчай ачахне, як агонь.
Барвянай кропелькай суніца
Праб'ецца з колішніх снягоў.
І зайчанё, як немаўлёнак,
З чырванаталу закрычыць.
Пацягнецца салодка клёнік,
Што лёг у гурбу на спачын.
І прыйдзеш ты — такі далёкі,
З палынным пахам на губах.
...Сняжніцы стомленыя крокі
І пракаветная журба.

■

Дзяцеліна, дзяцеліна.
Дзятлава трава.
Сеяў дзяцел ў каляіне,
Дзе была жарства.
Прыжылася, прыкарэла
Да чужой зямлі.
Маладзела і старэла,
І гады ішлі.
І тапталі дзяцеліну
Людзі і буслы.
Не прасіла, не маліла,
Каб па ёй не йшлі.
І дзяўблі яе уволю
Птушкі і дажджы.
І усіх яна патоліць,
І ўсё ж будзе жыць.
Кліча ўсё жывое ў госці,
Покуль сіл стае.
Людзі могуць пазайздросціць
Шчодрасці яе.

■

Пpаталін жоўтых і барвяных
Каскад сініцам асачыць.
Калін згарчэлая калянасць,
У горле ценькім не пячы.
Жывіца позніцца адплакаць
Бурштынам даўкім у латак.
Глушэц, зляканы ад сабакі,
Уцёк і ў мораку растаў...



# ПЛЁНУ І ПРАЦЫ!

## ТВОРЫ МАЛАДЫХ ПРАЗАІКАЎ

Нарады маладых літаратараў у Каралішчавічах, а цяпер у Іслачы...

У кожнага, хто пабываў там, засталіся свае, да канца нікому не выказаныя ўспаміны. Мне, да слова, помняцца каралішчавіцкія спрэчкі і з калегамі і з нашымі кіраўнікамі — спрэчкі зацягваліся да позняга вечара, калі за вокнамі высокай двухпавярховай будыніны на фоне бледна-фіялетавага снегу ўсё выразней вымалёўвалася калматая зялёная яліна, помніцца хруст мяккага снегу, нязвыклая, пасля гарадской мітрэнгі, цішыня, у якой толькі адно і чуеш — шум блізкага лесу. І яшчэ помніцца тагачаснае лёгкае і светлае адчуванне еднасці са сваімі аднагодкамі, якое памагала паверыць у свае сілы і ў сілу свайго пакалення. Можна сказаць без перабольшання: нарады ў Каралішчавічах для многіх сталі своеасаблівым пачатковым класам для ўваходжання ў вялікую школу літаратуры.

Цяпер нарады адбываюцца ў Доме творчасці «Іслач». Летась на пачатку снежня маладыя паэты, празаікі, перакладчыкі з усіх куткоў рэспублікі на працягу тыдня, як і некалі ў Каралішчавічах, знаёміліся, вучыліся, дыскутавалі, весяліліся... Як аднаму з кіраўнікоў па прозе мне цяжка гаварыць, а тым больш прарочыць, хто з тых удзельнікаў семінара вырасце ў класіка, а хто ў масцітага ці знакамітага, гэта, само па сабе зразумела, залежыць асабіста ад кожнага, хацелася б сказаць пра іншае: добры творчы дух каралішчавіцкіх нарад перадаўся ў новы Дом творчасці, і таму ўжо сёння многім удзельнікам іслачскай нарады, мабыць, успамінаюцца не толькі абмеркаванні сваіх і чужых твораў, але і доўгія, пад самую поўнач, прагулянкі па белых зімовых дарожках сярод заснежаных сосен, новыя знаёмствы, творчы вечар у Валожыне, пленум СП БССР, дзе прынялі ўдзел семінарысты і на якім з аналізам стану маладой літаратуры выступіў старшыня камісіі СП Беларусі па рабоце з маладымі Генрых Далідовіч.

Думаю, што на нашым семінары празаікаў не было ні настаўнікаў, ні вучняў — вучыліся ўсе разуменню жыцця, задач літаратуры. Спрэчкі былі — а без іх было б і нецікава,— але, як мне здалося, гэтыя спрэчкі былі без зласлівай помслівасці, якая гэтак шкодзіць і літаратуры і літаратарам. Добры настрой унеслі ў работу семінара пасланцы Ленінграда, якія, дарэчы, без перакладчыкаў грунтоўна разбіраліся ў вартасцях твораў беларускіх літаратараў.

Прадстаўляем на старонках часопіса асобныя творы маладых празаікаў, якія летась бралі ўдзел на нарадзе ў Іслачы. Пад час рэдагавання мы імкнуліся як мага паўней захаваць творчую манеру пісьма кожнага аўтара.

**Васіль ГІГЕВІЧ**





*Галіна Ланеўская*

АПАВЯДАННЕ

# НАРОДЖАНЫЯ ПОЎЗАЦЬ

Магчыма, у гэтага апавядання з'явіцца працяг. Працяг пад назваю «Юлька». Але пакуль што Юлька ў новым апельсінавым, звязаным сотамі світэры сядзіць перада мною ў крэсле, захінае чорна-чырвоным клятчастым пледам змерзлыя ногі і, гартаючы газету, суха паўтарае:

— Калі з нашае размовы што-небудзь атрымаецца, назаві гэта «Народжаныя поўзаць»... Я табе потым растлумачу. Але ты занатуй «Народжаныя поўзаць»...

Тут Юлька рэзка адкідаецца на спінку, і мае старое крэсла ад яе немалой вагі вурхае-рыпіць. Ізноў я адводжу пагляд, каб не бачыць, як пырхне, разальецца па Юльчыных бледных шчоках, плямка за плямкаю, румянак. Не разумею, навошта так нервавацца. І газета, у рэшце рэшт, не гумовая. Зараз парвецца, а Юлька, закрыўшы вусны далонькай, войкне і здыме, быццам так лепш разгледзіш, цёмныя акуляры. І, натрапіўшы на яе жаллі- ва акругленыя зеленаватыя вочы, мне давядзецца аддаваць свой экземпляр. Яна ж наставіла ў першым жа абзацы чырвоных клічнікаў, і пэўна так і не дачытала артыкул да канца. Хто-хто, а я Юльку ведаю... Мы знаёмыя яшчэ па першым атрадзе (гэта клас восьмы-дзевяты) піянерскага лагера «Лясны агеньчык». Ды што знаёмыя — спалі побач, ссунуўшы да сценкі ложкі і апранаючы замест начнушак спартыўныя касцюмы,— баяліся, што хто-небудзь з хлопцаў, дакладней, мужчын, якія з'яўляліся пасля адбою ў вакне нашай, разлічанай на дванаццаць чалавек, дзявочай палаты, пераблытае і ляжа не туды, дзе яго чакаюць. Дзівачкі... А Юлька ж ужо тады насіла ў сабе свой недзіцячы боль. І нікому нічога не казала...

З таго апошняга ў маім жыцці піянерскага атрада я цяпер наўрад ці каго пазнаю. Нават сустрэнься мы вочы ў вочы. А з Юлькаю, хоць мы і не мяняліся адрасамі-тэлефонамі, лёс сутыкае не радзей, чым раз на год. Выпадкова... Але гэтага хапае, каб не забыцца адна на адну, каб пазнаваць у аўтобусе, магазіннай чарзе, натоўпе і ў калоне дэманстрантаў. Раптоўныя сустрэчы, як і шматгадовае сяброўства, як вядомая толькі двум таямніца, ствараюць між людзьмі няўлоўнае непарушнае поле даверу...

Мал. П. Багданава.

Юлька, як і я, канчала БДУ. Толькі не філалагічны, а гістарычны факультэт. Мы нават ва універсітэцкім камітэце камсамола адзін год разам давалі і здымалі вымовы і папярэджанні. Цяпер Юлька працуе ў музеі Крыловіча. Сёння і ў яе, і ў мяне выхадны. Мы выпадкова сустрэліся на праспекце. Разгаварыліся, і я запрасіла Юльку ў госці. А яна расказала такое... Кава ў гліняных кубачках так некранутая і застыла... Адчуваю, Юлька жахліва саромеецца і свайго пяцьдзесят другога памеру, і рудой кучаравай шавялюры, і цёмных акуляраў, якія вечна спаўзаюць з яе кірпатага, зацярушанага канапушкамі носіка... Лёгка ёй казаць: «Напішы!..» І назву прыдумала: «Народжаныя поўзаць...». А з чаго пачынаць? З учарашняга артыкула, які перачытвае ўвесь наш горад — ад бальнічных палат да аўтобусных прыпынкаў? Ці...

Лепш усё ж па парадку... З таго лета, калі Юльчыны бацькі атрымалі трохпакаёвую кватэру ў новым, сярод баракаў збудаваным доме. Пакуль даводзілі ўсё да ладу, куплялі і расстаўлялі мэблю, вешалі люстры і шторы, яны адправілі сваю адзіную дачушку — ужо шасцікласку — да бабы Ліды, матчынай маці. Тады Юлька, мяркуючы па фотаздымках, танклявая, бесклапотная і смяшлівая — дапамагала бабе Лідзе зграбаць сена, піла сырадой і ледзь не штодня хадзіла ў лес па ягады і грыбы. Лета было дажджлівае і парнае. Вострая на вока, Юлька наразала па вядру баравікоў. І спынялася праз кожныя спачатку трыццаць, потым дваццаць, дзесяць крокаў перадыхнуць. Так было і тым разам. Спынілася. А цераз сцежку між вузлаватых каранёў з кустоў у кусты паўзуць, звіваюцца слізкія бліскучыя змейкі. Змяя са змеянятамі... Спужалася і закрычала Юлька потым, калі яны схаваліся ў малінніку. А адразу, кажа, толькі знямела. Датуль яна сапраўднае змяі, не тое што змеянят, ніколі не бачыла. Толькі на малюнках. Цяпер Юлька надае гэтаму выпадку злавеснае, ледзь не ракавое адценне... Мне нават падалося, ці не сфантазіравала яна яго.

Увосень Юлька перайшла ў новую школу. Усё тут было як у старой. Нават выкладзены пліткамі пры ўваходзе год: «1961». Чытаецца і калі заходзіш, і калі выходзіш. А між тым з вуснаў у вусны з трапятаннем, жахам перакатвалася: «Малышаў, Малышава, Малышавы...» Тое, што каржакаватага, пад нуль голенага, але ўсё адно неахайнага, як іголкамі натырканага брыдкімі словамі дзевяцікласніка завуць Робертам, а ягоную сястрыцу, адасоблена млявую, то з чырвонымі пазногцямі, то з падфарбаванымі чарнілам валасамі двоечніцу з паралельнага — Анжэлай, Юлька дазналася значна пазней. Спачатку проста, як усе, абыходзіла іх. Малышаў страсаў з першаклашак дробязь на цыгарэты, тыднямі не з'яўляўся ў школу. Завуч ці дырэктар на чарговай лінейцы абяцалі выгнаць, здаць у міліцыю, выклікалі ў школу Малышаву маці, якая, казалі, працавала ў нейкай рэдакцыі. І Юльку аднойчы пасылалі ўкінуць выклік у паштовую скрынку.

Але маці ніколі не прыходзіла. Прыходзіў сівенькі ціхмяны дзядок з кавенькаю і ветэранскімі ордэнскімі планкамі на пінжаку (ягоныя вочы былі схаваныя за цёмнымі акулярамі). Ці, найчасцей, бабка, якая, хадзілі чуткі, да пенсіі займала нейкую высокую звышсакрэтную пасаду. Юлька чамусьці вельмі добра запомніла, як цвёрда крочыла яна па школьным калідоры і расхіналася ззаду ці не занадта кароткая шэрая з разрэзам спадніца. Ногі ў яе былі жылістыя і па-кавалерыйску крыху выгнутыя. Гаварыла Малышава бабка рэзка, пагардліва, і самыя строгія настаўнікі ў яе прысутнасці ніякавелі, запіналіся і ненатуральна ўсміхаліся. Потым, калі бабка, моўчкі ўсё выслухаўшы, адыходзіла, гэтыя ніякаватасць і нерашу-





часць імгненна ператвараліся ў злосць, якую настаўнікі міжволі спаганялі на самых безабаронных вучнях.

Недзе пад зіму Юлька запісалася ў баскетбольную секцыю і навучылася даволі лоўка прымаць падачы і закідваць у кошык аранжавы, пупырчаты, як апельсін, мячык. Трэніраваліся яны ўвечары, калі ў школе, акрамя спартыўнай залы, святло гарэла толькі на першым паверсе, дзе займаліся другія—чацвёртыя класы. Дзеля эканоміі нават калідор асвятлялі ўсяго адна-дзве лямпачкі. У перапынках, не зважаючы на забарону сівога вусатага трэнера, яны спяшаліся ў прыбіральню папіць вады. Тым разам Юлька выбегла з прыбіральні ў змрочны калідор апошняй (пакуль нацягнеш той купальнік!). Подбегам кінулася даганяць дзяўчат. Тут кінарэжысёр, пэўна, даў бы некалькі запаволеных кадраў... За вакном пад ліхтаровым святлом мігцяць, ападаючы на зямлю, першыя сняжынкі... А па цёмным школьным калідоры, не зводзячы з іх захопленых вачэй, бяжыць цыбатае дзяўчо ў купальніку...

Юлька кажа, дасюль не можа вытравіць з памяці шалёныя, бясколерныя вочы Малышава. Адной рукой ён ухапіў яе за грудзі, другой... Юлька чула, як трэснула ўнізе гумка, потым і сам купальнік... Малышаў зацягнуў яе ў клас. Юлька сама цяпер не разумее, чаму не крычала. Можа адразу страціла прытомнасць?.. Ці не, хутчэй проста баялася, хто пачуе... Усё гэта было падобнае на жахлівы сон. Балюча разануў па пазванках, па спіне, потым на шыі край стала ці парты... Засыпаная пылам і крэйдаю падлога... І боль, ад якога знямела ўсё цела... Калі Малышаў, хістаючыся, выйшаў і ляпнуў дзвярыма, ёй падалося, прайшла цэлая вечнасць... Юлька падпаўзла да дзвярэй, вызірнула ў калідор... Яе і пасля таго хвалявала, каб ніхто не ўведаў. Галоўнае, каб ніхто не ўведаў... Нікога не было не толькі ў калідоры, але і ў раздзявалцы. І, сцяўшы зведзеныя сутаргаю зубы, Юлька апранулася, запхнула ў сумку падраны ліпкі купальнік. Яна адчула сябе ў бяспецы не тады, калі зайшла ў раздзявалку і пачула са спартыўнае залы вясёлыя дзявочыя галасы, а менавіта тады, калі схавала ў сумку купальнік...

Бацькі былі на вячэрняй змене. Бацька—на заводзе, дзе робяць вылічальныя машыны, мама—на фабрыцы, дзе шыюць бялізну. І яна паспела, загарнуўшы ў газету, выкінуць купальнік у смеццеправод, памылася і ў рэшце рэшт заплакала ці нават закрычала. Галоўнае, што яе турбавала: каб толькі ніхто не ўведаў. Яна лічыла, што страціла годнасць, і гэтага жахлівага сораму не перажывуць ні мама з яе хворым сэрцам, ні бацька... Цяпер яна, Юлька, стала не такою, як усе дзяўчаты... Можа б бацькі што і заўважылі. Але ў горадзе якраз пачалася эпідэмія грыпу. І Юльчыну тэмпературу пад сорак, бледнасць, бяссонне, начныя стогны і крыкі, вядома, прыпісалі хваробе... І тое, што пачала раптоўна спраўнець, таксама палічылі ўскладненнем. Не, яна не зацяжарала, хоць і перачытала ўсе медыцынскія кнігі, і нават піла купленыя на базары зёлкі. Гэта была нервовая хвароба. Каб тады на яе цяперашні розум падлячыцца... А так... Ацёк так і не спаў з яе цела. Потым рэзка пагоршаў зрок. І Юльцы выпісалі спачатку светлыя, потым і цёмныя акуляры. Яны не толькі здымаюць боль. Яны, ведаю, хаваюць ці не залішне дарослыя на мяккім, не сапсаваным касметыкай, з вясны канапатым Юльчыным круглявым тварыку вочы...

А Малышаў?—спытаеце вы. Я, крыху счакаўшы, спытала тое ж. Юлька бачыла яго зусім нядаўна. Суправаджала дэлегацыю замежных турыстаў (летам па выхадных яна падрабляла ў экскурсійным бюро). І калі з раніцы вывела групу галандцаў з «Юбілейнай», да іх незаўважна зацёрся сучасна апрануты малады чалавек. Ён лісліва ўсміхаўся і шэптам паўтараў:



«воронка», «воронка», «рублі, долары»... і тузаў за кішэні свае вароныя штаны і куртку. Галандцы ўважна ўсміхаліся і непаразумела пaглядалі на свайго перакладчыка, а той на Юльку. Давялося падысці бліжэй:

— Вы ж бачыце, яны нічога не разумеюць...

Зблізу хударлявы малады чалавек выглядаў на ўсе сорак. На ягоным азызлым нязголеным твары з'явілася рэзкая непрыемная ўсмешка:

— А ты не лезь, куда не просят. Без тебя разберемся. Разумека!..

Вадзяністыя, поўныя нянавісці вочы. Не вочы—правалы... Іх Юлька пазнала б з тысячы... Цяпер Юлька не ходзіць на праспект Машэрава. Уся публіка, што шпацыруе там вечарамі, няўмольна нагадвае ёй Малышава... Нават адэкалон, ёй здаецца, ва ўсіх мужчын тут аднолькавы...

А Анжэла, Робертава сястра, тая самая двоечніца з паралельнага, нядаўна прыйшла на працу ў музей Крыловіча. Прыбіральшчыца, якая ўжо шмат гадоў жыве з Малышавымі ў адным пад'ездзе, адразу заўважыла: у анкеце Анжэла не згадала ні свайго бацькі, ні брата. І па сакрэту расказала Юльцы, што маці Роберта і Анжэлы даўно не працуе ні ў якой рэдакцыі. А вось мужа свайго, мілага, ветлівага скрыпача, засадзіла ў турму. Падгаварыла ўкрасці нейкую дарагую, каштоўную скрыпку, перадала сваім замежным кліентам. Ён у турме, а яе імя на судзе нават не згадвалі. А Роберта бабка з Анжэлаю выставілі пасля таго, як некалькі разоў па яго прыязджала міліцыя. «Чысценькімі хочуць быць!»—прыгаворвала прыбіральшчыца. Анжэла з ёю не віталася...

Яна прыходзіла на працу штодня ў новай сукенцы, лагодная, усмешлівая. І, як ні дзіўна, усе супрацоўнікі, вядома, акрамя прыбіральшчыцы і Юлькі, нават строгі, суровы дырэктар Антон Пятровіч, спяшаліся ўсміхнуцца ёй у адказ. Частавалі, як самую маладую, цукеркамі, дазвалялі спазняцца... Маўляў, «дзела маладое»... А Юлька зусім страціла спакой. Пакуль рыхтавалі новую экспазіцыю, яна шмат працавала ў архівах і чытала, якія страшныя, несправядлівыя артыкулы пісаў на Крыловіча Анжэлін дзед, той самы ціхмяны ветлівы дзядок Малышаў. Потым, калі час змяніўся, ва ўсіх бібліятэчных падшыўках замест малышаўскіх артыкулаў засталіся дзіркі. Пэўна ж, пра гэта ведала не адна Юлька, але Анжэла як працавала, так працавала...

Горла перахоплівае, калі ўяўляю, як Анжэла, «фея з чарнільнымі валасамі», фарбуе пунсовым лакам пазногцікі і з'едліва пасміхаецца з Юлькі:

— Табе, Юлька, сачыць за сабою трэба. Спортам займацца, чуеш, спортам, каб вагу скінуць. Вось я. Сама сябе зрабіла. Ты можа не памятаеш, якою я была ў малодшых класах. Гляну на фотаздымак—жах! Фартух у крэйдзе, калготкі з'ехалі. Тоўстая, няўклюдная... А потым як матылёк з чарвячка—раз і вылузнулася. У мяне сакрэтаў няма. Дыета і спорт. Тэніс, басейн, аэробіка. Раз на тыдзень сауна, мядовы масаж. Летам штогод на мора, у інтурыстаўскую гасцініцу. Ну і вядома...

Тут Анжэла, магчыма, пацягваецца ці гулліва падміргвае:

— Ну і, вядома, мужчынку сабе знайдзі. Хоць якога. Пераспіш, адразу жыццё ў іншым свеце пабачыш. Я б звар'яцела, каб да твайго ўзросту ў дзеўках хадзіла. Мне дык вось усё роўна—высокі ці нізкі, лысы ці сівы... Абы грошы. Усе яны на адзін твар, калі даходзяць да ложка...

Дзе ўжо беднай Юльцы да Анжэлы! Яшчэ ў класе дзесятым паслалі іх, як актывістак, на экскурсію ў Ленінград. Дык хлопцы па чарзе выходзілі з Анжэлаю ў тамбур, а потым, думаўшы, што Юлька спіць, адзін аднаму пераказвалі: «Ты скажы! Ну і цалуецца, халера... Язык да крыві пракусіла»...

«Не жанчына — вампір... Мне ў Ленінградзе першае што трэба — світэр з горлам купіць. Каб маман засос на шыі не ўгледзела...»

А нядаўна Анжэла з'явілася на працу ў хустачцы. Пад спачувальныя ўздыхі: «Бедная...» растлумачыла, што, дастаючы нешта з верхняй паліцы, упала з зэдліка. А ўсё тая ж прыбіральшчыца паспяшалася дадаць: «Верце вы ёй! Да жанатага цяпер чапляецца. З нейкага ансамбля. Вось жонка і спусціла з лесвіцы». А Анжэла, як кажа Юлька, цяпер цвёрда вырашыла выйсці замуж. За каго-небудзь спакойнага і заможнага. І паспяхова спакушае сарамлівага аспіранта Станіслава, які часта прыходзіць да іх у музей па нейкія матэрыялы...

Вось такая гісторыя... Бяру ў Калькі газету, і мне ўжо самой здаецца, што, як і Юлька, я не здолею перачытаць пазначаны чырвоным клічнікам абзац. У ім — жахлівыя падрабязнасці допытаў 30-х гадоў... Літары курчацца, спякаюцца ў адзіную пляміну. Зеленавата-чорным злавесна фасфарысцыруе толькі падкрэсленае прозвішча — Малышава... Я працягваю руку, хачу запаліць настольную лямпу, але Юлька спыняе, просіць:

— Не трэба... Так лепш...

Потым падымаецца, пераступае цераз плед, падыходзіць да запацелага вакна, з якога, бы праз сіта, цэдзіцца туманны надвячорак. І так, стоячы спінаю да мяне, гаворыць:

— Ведаеш, а заўтра яна, нават калі і чытала газету, прыйдзе, быццам нічога і не было. Раскажа, як весела правяла выхадныя, пакажа электронны гадзіннік. Са шматзначным «падарылі». А нашыя ўсе будуць старацца паказаць, што бабчына мінулае не тычыцца ўнучкі. За вочы можа хто што і прашэпча, але ў вочы... Чытала? Часопісы аб'яўляюць: у наступным годзе мяркуем апублікаваць дзённік прастытуткі. Разумееш, іх цікавіць не твой, не мой, а Анжэлін дзённічак. Але не, я ёй не зайздрошчу... Гэта жахліва! Гандляваць сваім целам... Усё жыццё прыніжацца: «долары, маркі, рублі...». Дзеля чаго? Каб лішнюю куртку мадняцкую ці сукенку паўгода панасіць. У Анжэлы толькі вочы нядобрыя, мітуслівыя нейкія. А так з выгляду — каралева. Ні ценю роспачы ці сумнення. Маўляў, я самая лепшая і жыву правільна. Ведаеш, як упершыню з гэтым сутыкнулася, вельмі пакутавала: дзе ж яна, справядлівасць? А цяпер бачу, за ўсё ёсць адплата. І Малышавы старэйшыя... Хоць і пражылі ўсё жыццё, як сыр у масле... У іх жа дзеці, унукі без пачуцця гонару, з плыткаю душою... Ім ніколі не дадзена лётаць, ім ніколі не перажыць вялікага пачуцця, не пісаць вершаў, не тварыць... А без гэтага ці спазнаеш, што такое Жыццё? У Старажытным Егіпце самым цяжкім пакараннем было пазбаўленне гонару. Пазбаўлены яго стараўся зрабіць як мага больш слаўных спраў, нават подзвіг здзейсніць, абы зноў яго набыць... А Малышавы вось усё жыццё пражылі, нават не ведаўшы, што гэта такое — гонар. Анжэле няма чым мяне ўпікнуць, дык, уяві сабе, убівае ўсім у галаву, што я «з прыветам»... А сама, упэўнена, зайздросціць мне... Перад святам Перамогі падпісвалі ветэранам паштоўкі, дык яна мне і кажа: «Шчаслівая ты, Юлька, у цябе дзед загінуў героем. Ён для цябе святы. А ў мяне вось жывы. Усе ягоныя маразмы цярпі дзеля размеркавальніка і персанальнай пенсіі. Яны з бабкаю пасля вайны вунь як маман разбэсцілі, эгаістка эгаісткай, толькі самую сябе і любіць... І мяне зусім не глядзела. І не працавала»... Я ёй: «Як ты можаш так пра маці?!» А яна толькі плячыма цёпае. І такі ў яе вачах непрыемны бляск з'яўляецца... Бр-р-р... Я вельмі не люблю, баюся нават, калі мне зайздросцяць... Ды яшчэ Анжэла...



Юлька зноў распалілася і, сашчапіўшы на грудзях рукі, пачала хадзіць па пакоі...

— Юлька, — гэта ўжо я, — дык чаму ты вырашыла назваць усё «Народжаныя поўзаць»? Максіма Горкага, ці што, успомніла? «Рожденный ползать летать не может»?

— Не. Ты чытала «Ракавыя яйкі» Булгакава? Чырвоны промень быў вынайдзены дзеля таго, каб паскорыць нашае развіццё, каб кураняты з яек хутчэй вылупляліся, каб у рэшце рэшт можна было накарміць усіх галодных... Але гэты цуд трапіў у рукі невука. І пачалі замест курэй пладзіцца гады...

— Гэта жорстка, Юлька. Гэтак можна, як у Навелы Матвеевай:

И за ненависть томительную к змеям...
Человеконенавистником прослыть...

Яна быццам не пачула, рэзка спынілася, запаліла святло:

— Ведаеш, я больш так не магу. Няхай мяне лічаць ненармальнай. Я заўтра ж выступлю на сходзе і скажу, што ўнучка Малышавых не мае права працаваць у музеі Крыловіча. Яго сын быў «сынам ворага народа». Ён, можа, і на фронце таму загінуў, бо рваўся менавіта крывёю змыць пляміну, пячатку, пастаўленую Малышавымі... Чаго мне, зрэшты, баяцца? Самае жахлівае я перажыла ў шостым класе... Уяўляеш, калі гэтая Малышава бабка і Крыло...

Зноў Юлька перарвалася на паўслове і застыла...

— Юлька!

— Што? Дык што я казала?..

© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016



*Сяргей Астраўцоў*

АПАВЯДАННІ

# СУРМА

*У нас, крывічанаў,*
*Халодная кроў,*
*Пакуль не захопіць*
*Да краю любоў.*

М. Грамыка,
«Наша кроў»

Пачаткі гэтага аповеду сягаюць таго старажытнага часу, калі яшчэ не былі спляжаны гушчары пушчаў ды дуброў і асушаны багністыя балоты, калі людзі яшчэ не патруцілі ды не панішчылі жывёльны свет і не было патрэбы складаць Чырвоную кнігу. Тады Нёман, званы Кранонам, жвава струменіў, бесклапотна несучы свае моцныя крынічнае чысціні плыні ў Бурштыннае мора.

Каб вы ж толькі паўзіраліся на гэты край з вышыні птушынага лёту! Долу разраслiся кудлатыя пушчы, бясконца, колькі ставала вока. Далягляды мелі збольшага дзве фарбы: густую зеляніну ды асляпляльны блакіт па-над ёй. Палеткі на выцерабах налучаліся яшчэ настолькі малыя і рэдкія, што падаваліся ўсяго толькі лапікамі на зялёнай апратцы зямлі — пажоўклымі, зрудзелымі, брудна-карычневымі ўвосень, смарагдавымі ад руні ўвесну ды бурштынам, а дзе дык разлітаю поўняю летняй парою. Рэдка калі праслізне ўюном тут істужка нямоцна ўбітае дарогі ды згубіцца ў зялёнай дуброве.

Зямля гэтая была шчодра ўшпіленая блакітнымі сподкамі азяркоў, бы тая бульбіна вачанятамі. Радзей надараліся вялікія азёры, што здаваліся бяздомнымі, невычэрпнымі, як любоў і павага да Бацькаўшчыны. Зваліся яны годна, велічна. Свіцязь-возера, Князь-возера, Нарач... Колькі і цяпер яшчэ памяць людская трымае ўзнёслых і таямнічых паданняў, звязаных з гэтымі найменнямі! Пабачылі б вы і рэкі, якія няроўнымі, пакручастымі атожылкамі-капілярамі скрозь прасяклі валатоўскае цела зямлі. Па іх сямтам беглі лёгкія стругі і паважна плылі цяжка наладаваныя купецкія караваны. Рака, як на той час, была найпершым шляхам зносін, гандлёвым шляхам.

Мал. **П. Багданава.**

 

Сяліліся тут гожыя мужныя людзі, званыя крывічамі. Зграбныя, з адкрытым позіркам шчырых вачэй, яны ад даўнага абралі гэтую зямлю сабе за бацькоўскую. Займаліся крывічы бортніцтвам, палявалі звера, аралі ляда, жменяй кідалі ў раллю зерне-насенне ды мелі да стала жытні хлеб. Было што і да хлеба: дзічына, мёд ліпавы, была і рознага гатунку рыба, на якую плялі езы, лавілі нератам ды білі час-парою восцямі ў плыткай вадзе.

Жылі яны зазвычай мірна, у злагодзе ды добрай згодзе са шчырымі суседзямі ды спаміж сабой. Мелі ў сваіх сэрцах пашану да старэйшых ды дзядоў. Штодня білі модлы багам сваім даўнім. Наўперад Ярылу і Перуну. Ды шчыра верылі ў іхнюю прыязнасць і моц. Таму звярталіся да іх з гарачымі просьбамі, уперад як выправіцца на паляванне, у часе лютых паморкаў ды напярэдадні збройнай бітвы.

Пакланяліся і агню-полымю. У мольбішчы, на высокім пагорку, што панаваў над наваколлем, ціхмяна-пакорлівы святар пільнаваў, каб не загасла вогнішча. Агонь не мусіў быў сканаць, яму чалавекам наканавана было застацца з духам, жыць. Бо інакш цяпло пакінула б людское жытло, а разам здрадзіла б яму і жыццё. Нядбайнага святара таксама чакала тады смерць. Таму полымя ненажэрна глынала і глынала сваімі пошугамі дубовае голле як дзень, так і ноч. Дзень пры дні. Чараду гадоў. Толькі цёмначы хапатлівыя водбліскі моўчкі скакалі ў старажытным танцы па халодных, абыякавых, як здавалася, абліччах камнёвых стодаў *.

Пры патрэбе білі крывічы хцівага ворага. І месца на селішча абіралі на водных шляхах, зручнае дзеля пільнавання ракі ды надзейнае абароны. У сутоках рэк, на выспах ды лугавінах. Гэтак і старажытны Тур-горад збудаваўся на стромай паўвыспе Нёмна. Ніжэй ад Зніча ды залатабародага мажнага Перуна князкія людзі справілі першую падрубу. Навокал неўзабаве вырасла ладнае паселішча, якое дзеля небяспекі атачылі шчытнымі палямі горадні.

Аднойчы, пасля дужага пажару, загадаў князь пабраць у наваколлі крушні ды іншае каменне, якога было багата ў тутэйшых мясцінах. Пацягнулі, высільваючыся, угару калёсы з тым каменнем дужыя прысадзістыя коні — нашчадкі дзікіх пушчанскіх тарпанаў, утаймаваных ды прыручаных чалавекам. А муралі, не марнуючы часу, узяліся будаваць вежы, непадступны горад-замак, у якім мог мець паратунак і мястовы пасадны люд, і навакольныя ратаі.

Тур-горад стаяў у выгодным месцы. Таму паступова ўбіраўся ў сілу, замажнеў, гандлюючы, беручы мыта з падарожных купцоў. Слава ды багацце места не даспадобы былі сквапным ворагам. Аднойчы яны прыйшлі да муроў і сухапуццем, і вадою на стругах пад напятымі ветразямі. Своечасова заўважылі варожых вояў дазорцы на вартавой бакшце **. Замкнуліся турэйчаны ў родным месце і адбілі варожы наступ, стрываўшы цяжкую аблогу. Як ні высільваўся, ні намагаўся люты вораг, мусіў быў вяртацца ў сваё кубло з ганьбай.

Шырылася слава турэйскае зямлі. Кожнаму карцела ва ўласным радаводзе ўпісаць імя крывіцкага князя. Падлабуніцца да яго пнуліся і колішнія ягоныя недабрадзеі. Спаміж іх і комтур, што даўней быў знеслаўлены пры мурах Тур-горада. За іншым разам былыя ворагі прыплылі госцямі з поўнымі крамніны скрутамі ***. Прыняў радавітых замежных госцяў турэйскі князь у сваім палацы, бо зла-крыўды не памятаў, не трымаючы яе лішне ў сэрцы.

* Ідалы.
** Абарончая вежа (старабел.).
*** Карабель (старабел.).



Дакляраваў той заморскі комтур князю агледзіны сваіх каштоўных дарагіх рэчаў, вытанчанай багатай крамніны. Пабачыў гаспадар і зброю гартаваную-сталёвую, аздобную, і звонкі ценькі посуд, і шаты-ядвабы, але застаўся да ўсяго абыякавы. Яго болей вабілі ваяцкія подзвігі, ловы ды мураваныя вежы роднага Тур-горада. Аднак жа знаку не падаў, бо не гонар было яму, князю. Тады разгублены госць, бачачы, што не думае той раскашэліцца, скеміў штосьці сам сабе ды пачаў настойліва прапаноўваць тую прыгажосць у дарунак.

Адмовіцца самавітаму князю без дай прычыны не было як. Пакрыўдзіць госця не выпадала. Ласкава былі прынятыя дарагія заморскія падарункі. Цяпер княская годнасць вымагала адплаціць госцю належна. Задумаўся княжа. Жыў ён без раскошы, бо іншы меў клопат — умацаванне Тур-горада і ўсяе турэйскае зямлі. Таму не было ў яго ані аксамітных тканінаў, дываноў, ані глякаў з вінамі хмяльнымі чырвонымі.

Таму аддаравалі дарагому госцю чым хата была багатая. Шчодра засыпалі ў сховы заморскіх скрутаў залатое збожжа, аддзячылі бурштынным мёдам у дзежках дубовай клёпкі, жалезам з рудніц кавальскіх, нізкамі пяшчотных футраў. Асабіста госцю ў знак павагі князь прэзентаваў сымболь гэтага краю — туравы рог, сурму.

З усмехам прыклаў комтур да сваіх вуснаў той рог, раздзьмуў шчокі — і пачуліся журботныя зыкі. Трывожным, нярадасным рэхам адгукнулася блізкая пушча на той спеў, болем, здалося, сказіўся твар Перуна. І ў тым розгаласе пачуўся занепад былое славы гэтае зямлі.

Седзячы за арцабамі на дубовым услоне, слухаў князь салодкія прамовы госця. Набражыўшыся ячнага тутэйшага піва, расхвальваў той князя і вояў дружыны княскай, подзвігі ягоныя ваярскія, удалыя паходы, перамогі над ворагам. Ні адно сэрца яшчэ, сведчаць нашыя мудрыя продкі, не стрывала супроць ліслівага слова. Найлепшымі сябрамі пажагналіся колішнія супраціўнікі.

Скуль было ведаць задаволенаму князю, які вольнай хвілінай старанна сілібізаваў словы чужое кнігі, аздобленай прыгожымі застаўкамі ды ініцыяламі, што ягоныя апошнія крокі лепей было не рабіць. Атрута чужынскага слова спакваля спарадзіла ў ягоным сэрцы няўвагу, а тады і пагарду да старых рукапісных скруткаў. Па смерці князя спалены былі тыя кнігі ў вялізным вогнішчы, званым аўтадафэ.

А неўзабаве іншая ўжо вера запанавала ў тутэйшых абшарах. І пайшлі, чарадою пацягнуліся па вёсках, сялібах святары ды мніхі-каптурнікі, у чорных шатах, з брыдкімі голенымі патыліцамі, з крыжам ды святой вадою. Свенцілі, хрысцілі ўсякага, хто не быў трывалы ў сваёй веры.

І тады ўжо маліліся тыя неафіты безлічы сваіх святых. А перад усім прамаўлялі пацеры матцы боскай ды богу аб трох абліччах. Бясконца пільнаваліся посту. А потым, злашча ў святы, жэрлі і напіваліся гарэлкі да парсючынага віску. І п'яныя, тыя ўпадалі ў шкоду, а ўрэшце, здаралася, качаліся на двары ў гразі, як быдла. А ўжо нараніцу кленчылі замольваць грахі: падчас румзаючы, заўзята вымаўлялі паводле святога прарока Давіда аб тым, што натура чалавека заганная і што ў ёй карэняцца распуста, хлуслівасць, пагарда да бога. Вось чаму, паўтаралі ў сваіх келлях мніхі, схільны чалавек на ўсялякае ліха, прабывае ў невуцтве, штохвіліны парушае дзесяць хрысціянскіх запаветаў. Сэрца ж яго — бы тая высахлая крыніца...

На месцы, дзе панаваў Пярун, грабары ўкапалі дубовае крыжышча, ва-



 

кол якога купаваўся ў святыя дні вялізны натоўп, убіваючы ў сябе бязлітасна крыж, распачынаючы з чала. Потым жа змуравалі тамака Перунову капліцу, бо месца было надта прыдатнае. А самога стода, які пазіраў на ўсё гэта адным вокам, лежачы ў быльнягу, яго колішнія вернікі ў рэшце рэшт узнялі ды ўкінулі ў раку.

Кажуць, ён, на здзіў усім, спачатку паплыў на ўсход, супроць плыні. Потым застагнаў, заенчыў і, тонучы, шпурнуў на бераг стралу з лука *. I ўпала тая на замкавым дзядзінцы. Болей Перуна не бачылі. А ў той жа дзень, як занатаваў летапісец, здарылася непагода і маланкамі панішчыла ў Тур-горадзе ўсё, што было драўлянага і падступнага агню.

Цяпер тутака, на гэтым месцы, засталася толькі глейная пярэспа, якая ў повень хаваецца пад рачной вадою з контурам і змяняе свае абрысы залежна ад нораву натурыстае плыні. Няпэўны той пярэспе пакінуты напярэданнем стан. Дзе яна пасунецца далей у ваду, а дзе тая адвае лішні шматок у зямлі, паглыне свінцовымі хвалямі.

А рог той вісіць цяпер у музеі, у чужыне; шыльдачка поруч заўсёдна нагадвае недасведчаным наведнікам: рукамі не датыкацца.

Можа, гэты сумны факт і стаўся б апошнім словам у паданні пра Тур-горад, каб не мясцовы настаўнік гісторыі, стары дзівак, які ўсё не хацеў даваць веры, што людзі без шкадавання могуць забывацца на імёны сваіх продкаў, іхнія паданні і гераічныя ўчынкі, а гістарычная памяць, як і ўсякая іншая, памірае. Ён гэтаму ўсяляк супрацівіўся. Вучні хаты-школкі неаднойчы ля вогнішча Перунова кургана слухалі аповеды настаўніка пра тое, як першабытны жыхар гэтых мясцін выраблаў з крэменю сякеры, нажы і галоўкі да дзід. Перад вачыма дзятвы паўставалі малюнкі жыцця сярэднявечнага горада, палявання на пушчанскіх звяроў-волатаў, пераправы цераз раку інсургентаў. Дзецям было цікава, ды старому гэтага падалося замала, яму заманулася абудзіць усю прыспаную вёску, як ён казаў.

Але стары настаўнік дарэмна імкнуўся зацікавіць аднавяскоўцаў тым, што яны — нашчадкі легендарнага князя Тура. Мужчыны толькі чухалі патыліцы і хітравата пасміхаліся, жанкі наогул не вымыслялі нічога разумнейшага, як божкаць і крактаць. I паспрабуй здагадацца, пра што яны пры гэтым такое думалі і ці думалі наогул. Нават старшыня пахмурна выслухаў яго, сплюнуў недакурак і прамовіў з неахвотаю: «Гэта ўсё добра, але ад гэтага бульба мне лепш не ўродзіць... згодзен, Пятровіч?»

Аднак Пятровіч не пакідаў свае думкі, спрабаваў гутарыць з людзьмі на сходзе. Нібыта слухалі ж яго і спачувалі нават, але ён бачыў: ім не цікава. I як гэта ні сумна казаць, але сваімі аповедамі ён урэшце даўся ўсім у знакі. Калегі сталі яго сгараніцца, калгаснае начальства незалюбіла, нават простыя вяскоўцы часам пачалі выказваць нейкі недавер, амаль непрыязнасць. Чалавеку ў такім становішчы ўласціва рабіць памылкі, што палягчаецца тым, што ўсякі недабрадзей пільнуе кожны ягоны крок. То і не дзіва, што абшаснуцца аднойчы давялося і школьнаму гісторыку.

Старога настаўніка паспешліва адправілі на пенсію пасля таго, як ён у класным пакойчыку, пераўтвораным у краязнаўчы музей і поўным усялякіх чарапкаў, костак ды камнёвых сякер, на каламутна-малочнай дошцы намаляваў вершніка з крыжавым шчытом і мечам.

Цяпер ён мусіў хадзіць да ракі адзін. Розныя думкі тоўпіліся ў ягонай галаве, калі пазіраў на вірыстую плынь, што, як жыццё тое людское, можа заглынуць — і згінеш без знаку, а дужага, глядзіш, рантам і сама збаіцца.

* Беларусы ўяўлялі Перуна волатам з залатою барадою, які трымае лук-вясёлку і калчан з агнявымі стрэламі-маланкамі.







Людзі дужа ж дападкія да незвычайнага; з ахвотаю вераць у тое, чаго, магчыма, ніколі й не было. Платон з чужых словаў занатаваў паданне аб Атлантыдзе, і ад таго часу яно непакоіць людзей. «Ды я б вам пра такую Атлантыду расказаў! — кпіў стары ў думках. — Ніякая іншая не дакажа! I лёс такі ж, калі не горшы».

У наступную хвіліну ён уяўляў сябе прынамсі Шліманам, калі той, па доўгіх гадах марных пошукаў, адшукаўшы нарэшце Трою, даведаўся, што ў памяці жыхароў Гісарлыка — вёскі, што стаяла на камені легендарнага горада, не засталося аб ім ані каліва ўспаміну.

Чаму так сталася? Гэтае пытанне заўсёды вярэдзіла настаўніку душу, не давала спакою. Але ён гэтак і не знайшоў на яго адказу, колькі ні ўзіраўся ў цёмную Нёманаву ваду.

# ВАЛАТОЎКА

— Быць яму волатам, як і ўсе Валатоўцы, і знаным чалавекам, інжынерам ці доктарам... — прарочыла цётка-павітуха, выціраючы сабе ручніком рукі, і лагодна пазірала на парадзіху, што, спалатнелая, нерухома ляжала на ложку.

Дзіця, хлопчык, кугакала ў белых хвалях шчодра адрэзанага кужалю, смешна перабіраючы ножкамі, якія яшчэ не асвойталіся з тым, што зараз нарэшце льга выпрастаць сябе...

Што й казаць, было такое. Вядома ж, было. I адбывалася менавіта так. Ужо дайце веры. Бо пра самы той дзень апавядала яму калісьці бабка яго, нябожчыца Куліна. Так-так, у хаце жанкі скупіліся — хто быў паблізу, у гародзе корпаўся ці яшчэ дзе на гаспадарцы ўвіхаўся. «Людцы, хадзеце, чулі: Валатоўчыха дзіця нарэшце нарадзіла. Запозненае, ды яшчэ і хлопчыка!» Вось такая навіна абляцела таго разу іхнюю вёсачку. I усе, хто мог, прыйшлі павітаць новага аднавяскоўца ды сказаць добрае слова матцы яго. Ён часам уяўляў сабе гэтую сцэну, у якой першымі асобамі былі маці, суседка праз чатыры хаты і немаўля, гэта значыць сам ён. (Бацька тады быў дзесьці ў заработках.) Калі ж тое адбылося, божа ж мой... Неўзабаве вось усе шэсцьдзесят споўняцца. Каб не адна спрыяльная акалічнасць, дык рыхтавацца б яму прымаць калежанскія віншаванні і, пад духавы аркестр, кветкі, купленыя на грошы з прафсаюзнае касы.

...Аўтобус, бітма набіты «пазік», быццам уздыхнуўшы, сашчапіў разам дзверы і ад'ехаў. На гравійцы застаўся чалавек, старамодна апрануты, але гарадскога выгляду. Паставіўшы валізак, ён разагнуўся і разгледзеўся навокал. Тут была, калі казаць па-газетнаму, яго малая радзіма.

Напоўніцу ўвабраўшы ў сябе чыстага вераснёўскага паветра, ён з замілаваннем вымавіў: «И дым Отечества нам сладок и приятен!.. — і, перамаўчаўшы, сам не ведаючы навошта, сентыментальна дадаў: — Вот, почитай, приехал помирать в родные пенаты...»

Да яго роднай вёскі Валатоўкі ад гравійкі было недалёка, каля двух кіламетраў. Дарога, некалі добра ўбітая коньмі ды калёсамі, паступова ўтравела (у вёсцы ж засталіся пераважна адныя старыя!), але крочыць ёю было латва, быццам ягоныя ногі і не былі кволыя на варыкоз. Абапал ляжалі палеткі, на якіх штосьці даспявала. Усё навокал цешыла чалавека. Толькі на-

паўдарозе вочы непрыемна ўразіла карціна раскапанага, як успоратае чэрава, кургана. Але крыху далей, у яшчэ не змеліяраванай нізінцы, папудзіў дзікіх галубоў, якія з пошумам выпырхнулі з хмызняку, чым падарожны застаўся відавочна ўсцешаны.

Мінула яшчэ колькі часу, паказалася аселіца. Вось і першая хата. На столку пры плоце ў мізэрным праменні вячорнага сонца грэлі свае косткі дзве старэнькія, спятрэлыя ды лядашчыя, як той самы плот. Яны запытальна, з цікаўнасцю спынілі на ім свае ўжо амаль бясколерныя вочы. Яму зрабілася нейк ніякавата, быццам ён і не чакаў сустрэць тутака людзей. Але нешта зварухнулася ў ягонай памяці, ён прыўзняў капялюш і прагаварыў чым ветлівей:

— Здравствуйте.

— Вой, дык гэта ж ці не Валатоўчысін Хведзька?! — замест адказу прымружылася, каб лепей паўзірацца, адна з іх.

— Э-э, да-да, Маруси сын я, Федор, — сумеўся ён ад неспадзяванасці, што так адразу быў пазнаны праз столькі год.

...Бацькоўскую хату, пакінутую бог ведае колькі часу таму, як памёр бацька, ужо, напэўна, ніколі нельга было б вярнуць да жыцця. Начаваць прыйшлося спыніцца ў бабы Хадоры, суседкі, ды так і застаўся ў яе...

Цяпер была пара, вольная ад заняткаў. Студэнты былі на бульбе, а выкладчыкі мелі, можна сказаць, працяг улеткавага адпачынку. Прафесар Волат выкладаў у інстытуце стылістыку мовы. Выкладаў усё сваё сталае жыццё. Хоць выйшла гэта і досыць выпадкова. Надарылася ў свой час вольнае месца ў аспірантуры, дык так усё і сталася. Ішоў час, з цягам якога ён пераадольваў прыступку за прыступкай, агорваючы іх сам, без нічые дапамогі. І вось — пасада, аклад, адпаведны ёй, нарэшце, прафесарская кафедра. Толькі апошнімі гадамі яго чамусьці пачало турбаваць незадавальненне сабою, прычыну якога ён зразумеў не адразу. Але даўмецца да гэтага, як пазней зразумеў, было не дужа каб і складана. Бо выходзіла ж на тое, што не паспеў Волат як след узяцца пісаць працу, пра напісанне якой марыў усе гады, а ўжо і цэлае жыццё, мяркуй, пражыта. Усё ў яго засталося ззаду, у мінулым. Жонка яго, хварэўшы на рака, даўно памерла. Дзеці раз'ехаліся за свет, хто куды. Адзін сын, каб будаваць новы горад, другі — трансчыгунку. Дачка, настаўніца, працавала дзесьці ў Афрыцы, навучала тамтэйшых дзетак.

Ён яўна быў заседзеўся ў горадзе. Кватэра, кнігі, шпацыры ў парку... Змена жыццёвага ладу мела на яго гаючы ўплыў. Дні цяклі, напэўна, трэба было ўжо і вяртацца, але ён анігадкі, нібыта і забыўся на ўсё. Думалася хораша, чыталася з асабліваю асалодай, ён нават вершы спрабаваў пісаць, чаго ад студэнцкіх гадоў з ім не здаралася.

Седой курган,
Свидетель старины былой
И ратной славы,
Дремотный сон
Опановал тебя...

Перадапошняе слова яўна выпіналася з агульнага шэрагу. Волат сноўдаўся па пакоі, сашчапіўшы за спінай рукі, мармытаў штосьці сабе пад нос, але нічога лепшага не прыдумаў, хоць на язык прасіўся патрэбны дзеяслоў, і таму ён мусіў пакінуць гэты занятак да наступнага разу.

Адвячоркамі яны з Хадорай перабіралі назбіраныя ўдзень грыбы, пілі **праўдзівую** гарбату з зёлак, нетаропка аб усім гаманілі. І часцей ад усяго пра курганы. Пра паданні і сівыя легенды аб асілках, што спяць у іх, ды аб







курганнай кветцы. З сумам заводзілі размову аб збэшчаных гэтых магілах.

— Вучоныя з горада раскапалі, ды так і пакінулі. Ну тыя хоць штосьці для музея ўзялі. Хоць такая карысць. А свае, тутэйшыя хлопцы, з суседняй Капліцы, ліха на іх... Як гарадскія ад'ехалі, за рыдлёўкі таксама ўзяліся. Усё скарбу шукалі, выпіўкі ім мала было. А знайшлі адны шкілеты ды чаропкі. Патрушчылі ўсё...

Хадора скончыла, і яны пасядзелі моўчкі.

— Ды хіба дасі ты рады, — зноў пачала яна, як нібыта не могучы пазбавіцца болю ад развярэджанае раны. — Божа мілы, цяпер цэлы свет як з глузду з'ехаўшы. Пайшла сіла Валатоўкі нашай разам з курганамі. Далібог, як вада са студні, — яна зноў змоўкла, як бы даючы яму час адчуць гэтую страту.

— Ярылаву гару хоць не зачапілі яшчэ, — абнадзеіла, каб нагнаць яшчэ большай скрухі, яна, — але на яе самыя ўжо сталічныя важуцца, парторг казаў людзям на сходзе. Вось налеццем, мусіць, й наедуць. З жалезнікамі і рыдлёўкамі. Памірае Валатоўка наша...

— А что, не тот ли это курган, что подле леса? Куда, помнится, мальчонкой конфетку носил. Тот ли это, Хадора? — Не хочучы думаць пра адно нядобрае, паспрабаваў ён нейк з'іначыць гэты змрочны настрой.

— То й цяпер на Купалле носяць туды і цукеркі, і акраец хлеба. Носяць яшчэ яму людзі. Не забываюць...

І нейк павялося ў прафесара бываць на Ярылавай гары. І падоўгу. Потым дня без таго ўжо не мог пражыць. Нават і да лесу не хадзіў, у якім раней бавіць любіў свой час.

Аднойчы Волат шмат шпацыраваў, здарожыўся і захацеў пасядзець. Ён наогул шанаваў святыні, але тут, на гэтым узгорку, болей не было дзе сесці апроч каменя-валуна з нечытэльным старадаўнім надпісам. Усеўшыся, прафесар узяўся чытаць, у яго з сабою быў курс славеснасці для гімназій, бо ён надта падабаў старыя кнігі.

Неўпрыкмет, аднак, пачало імжэць. Пакрысе дождж мацнеў, а яго, Волата, нібы пакінулі сілы ў гэтым святым месцы. Напачатку ён спрабаваў абараніць галаву ад вады падручнікам, але дарма. Ну і хай сабе — апусціў ён рукі, і яму чамусьці зрабілася шкада сябе да шчымлення ў сэрцы, як у далёкім маленстве. Але паступова яго апанавала млявасць і абыякавасць да ўсяго. Дождж ліў, а ён сядзеў і маўчаў. І невядома, колькі гэта доўжылася.

«Грымотаў яшчэ не ставала толькі!» — падумалася яму раптам.

Ад нечаканасці ён паўтарыў гэтыя словы ўголас і ажно скалануўся: столькі мелі яны таемнай моцы і нейкі своеасаблівы моўны прысмак. Пасля гэтага Волат, крэкчучы, стаў на ногі, пачаў спускацца слізкай сцежкай, задзяваючы мокрыя халодныя хмызы. «Грымоты, гры-моты!» — з націскам паўтараў ён нараспеў, як нейкі марш, хлюпаючы па лужынах...

Вярнуўся ён дахаты ўжо шарай гадзінай і адразу злёг. Гаспадыня ўвіхалася каля яго ложка цэлую ноч і ўсё дакарала сябе: «Ах, божачкі! І як я не сцяміла... Усе хаты абышла. І дзе прапаў чалавек? Ніхто яго не бачыў. А ён жа, глянь, да Валатоўкі пайшоў...»

Волат, відаць, моцна застудзіўся, бо ніякія ўзвары з зёлак не палепшылі яму здароўя. Наранiцу паслалі ў мястэчка па доктара. Але хворы гарэў, як царкоўная свечка, і ўжо ўколы антыбіётыкаў нават не далі рады.

Хадора не адыходзіла ад яго.

— У мяне там, у горадзе, у кватэры, кніжка грашовая. То я табе перапішу ўсё. А мне без патрэбы, — спяшаўся сказаць ёй ён. — А пахавайце мяне пад тым каменем, на кургане. Хоць у апошні раз зрабіце, як гэта я сам

хачу. Такая мая апошняя воля. То зрабі, Хадора, калі ласка... Просьба мая такая да цябе...

...Чатыры дужыя дзецюкі, якіх удалося спакусіць-умовіць за паўлітэрку, паволі неслі нябожчыка. Разам з Хадорай за труной клыпалі колькі старых, а яшчэ, параперадзе ўсіх, уздымаўся мажны дзядзька, які меў крыж ды біблію і быў у вёсцы нібы за папа.

Здавалася, у велічы гэтай карціны было штосьці язычніцкае, бо гэта быў Абрад.

Але не паспела дзіўная пахавальная грамада ўзняцца на курган, як пачуўся гук матора. Дзе сцежкаю, дзе купінамі і дробным хмызняком, скачучы, імкліва набліжалася старшынёва машына, якую адразу пазналі.

Лядашты «газік» з выцвілым дахам спыніўся наводдаль, з яго, раз'ятраны, выскачыў сам старшыня, лямантуючы як дуж:

— Ану, стой! Куды?! Не паложана эт-та і яму закапаць нямедлена. Слышалі? Харaніць толькі ў спецыяльна прэдназначаным месце...

Хлопцы апусцілі труну і, пацепваючы плячыма, каб крыху размяць цяглiцы, палезлі ў кішэні па цыгарэты ды запалкі.





## *Валянціна Кукса*

АПАВЯДАННІ

# ЖУРАВІНЫ

Рукі звыкла складалі дзіцячую вопратку. Марына спяшалася. Да цягніка заставалася зусім мала, а Івана ўсё не было з работы. І прасіла, каб адразу ішоў дадому, аднак зрабіў па-свойму, а трэба ж паказаць, дзе што прыгатавала, як і калі карміць Міцьку. Ніколі не прыходзілася яму гаспадарыць аднаму ды яшчэ з дзіцяткам. Але так ужо здарылася, што родных паблізу няма, а тут неадкладна трэба класціся ў бальніцу на аперацыю.

Марына раз-пораз паглядае ў акно, пільна прыслухоўваецца да кожнага шоргату ці стуку за дзвярыма. Так і ёсць. Шукае клямку. Ледзь уваліўся ў хату. Марына сухімі пякучымі вачыма паглядзела на Івана. Хацела толькі цішыні.

— Іванка, глядзі, вось Міцькава вопратка, а вось твае кашулі. Есці наварыла, на прыпечку стаіць...

— Хопіць, не здохнем! Валяй. Мы з Міцькам пойдзем правядзём цябе.

— Не чапай дзіцяці. Спіць. Да цягніка хвіліны засталіся. Бегчы трэба.

— Сказаў правяду, значыць, правяду. Муж я табе ці не? Не на курорт сабралася.

— Не трэба, Іванка. Аставайся дома...

Балела ў баку, рукі вялыя і непаслухмяныя. Спяшалася. Іван трошкі супакоіўся. Кінула позірк на хлапчука, які спаў. Узяла свае рэчы. Выйшла.

Веснавы вецер ганяў па небе хмары, шамацеў чаротам. Сыпала дробным дожджыкам. Вечарэла. Да прыпынку было з паўкіламетра. Ногі ледзь адрывала ад зямлі. У роце было суха. Высушыла і ў горле. Задыхалася, але спрабавала бегчы.

Вось і цягнік. Ляцiць маланкай, а Марына ледзь перастаўляе ногі. Але ён пачаў збаўляць ход. Марына пайшла напрасткі цераз роў і выйшла да вагона. У галаве гулка тахкала кроў, перад вачамі скакалі зоркі... У вагон зайсці дапамаглі людзі. За спіной зачыніліся дзверы. Марына азірнулася. Іван бег, хістаючыся з боку на бок, на руках трымаў Міцьку. Марына яшчэ ўбачыла, як яны ўпалі ў раўчук — цягнік хутка набіраў ход...

---

Мал. **П. Багданава.**



...Яна то трацілa прытомнасць, то прыходзіла ў сябе. Ляжала на ложку. Да рук і да ног цягнуліся трубачкі, са шкляных прабірак якіх бегла нейкая вадкасць. У вушах ціхенька звінела. Як толькі яна адкрывала вочы, то адразу бачыла нібы далёкі нямы кадр з кіно: вечарэе. Вецер. Чарот згінаецца да зямлі. Іван з Міцькам падаюць у роў. І адразу ж чула ляскат цягніка і трацілa прытомнасць.

— Божачкі, супакойся. Твайго сына сястра забрала. Прыязджала да цябе. — Нечы ласкавы голас і мяккі дотык да лба супакоіў Марыну.

— А са мной што? — спытала Марына. Яна пачула свой голас, нібы з-пад зямлі. Як ні старалася ўбачыць тую, што выцірала ёй твар, не змагла.

— Аперацыю зрабілі. Вось каменьчыкі якія знайшлі ў цябе. Прыгожыя. Дзесяты дзень усё сына завеш. Але дасць бог, ачуняеш. Маладая яшчэ. Трыццаці няма?..

І ачуняла. Выпісвалася, калі над зямлёй прагульвалася восень: то лісце падфарбуе, то ледзяным ветрам дзьмухне, то неба зробіць такім высокім і крышталёва-сінім, ажно балюча ў вачах. Спелі журавіны.

Івана не было і ў першую ноч і ў другую. Прыйшоў, калі пачуў ад людзей, што Марына выпісалася, але яна зразумела, што жыцця не будзе і надзеі цяпліць не трэба. Цяпер ён прыходзіў дадому кожны дзень, кожны дзень на падпітку. Клаўся спаць і Марыне загадваў класціся побач. Дыхаючы перагарам ёй у твар, бубніў:

— У, сучка, думаў, здохнеш, выжыла... Падсцілка... Ты ж нябожчыкам смярдзіш.

Калі Марына спрабавала ўстаць і выйсці з пакоя, ён хапаў яе за валасы і цягнуў на ложак.

— Куды лезеш? Хахаля шукаць?!

Марына сціскала зубы, каб не стагнаць ад крыўды. Не баялася. Ненавідзела. Не хацела здраджваць сабе. Трэба было сцярпець, каб пакінуць гэты дом, пакуты, зневажанні... Вось толькі назбірае журавін, прадасць. Грошы будуць... Бо прапіў усё, што мела Марына. У людзей жа не будзеш прасіць. Сорам які. Працаваць пакуль нельга. А вось журавін назбіраць зможа. Патрохі, хоць па паўлітроваму слоіку...

А журавін на балоце процьма! Яны чырвонымі кроплямі рассыпаны па жаўтаватым імху. Ціха і сонечна. Сонца пяшчотна грэе спіну. Ные ў баку, пячэ ў жываце, баліць там, дзе зашыта. Нагінацца ўсё цяжэй і цяжэй. Марына становіцца на калені, збірае ягады. Адна да адной у жменю, а потым у слоік. Закрыла дно, а калі зоры заскакалі перад вачамі — напоўніла да горлачка. Яшчэ колькі жменяў — і поўны. Разагнулася, аж пацямнела ў вачах. Прыхінулася да асінкі. Заплюшчыла вочы. Тахкала не толькі там, дзе сэрца, але і ў скронях, у вушах, калола пальцы апушчаных, нібы зламаных, рук. Але Марына ўсміхалася ціхай усмешкаю. Толькі сабе. Цяпліла сэрца думка, што хутка сустрэнецца з сынам.

За два тыдні назбірала колькі слоікаў журавін, схавала пад дошчачкай у кладоўцы, а сёння аж трохлітровы слоік! Нічога, што дрыжаць рукі і ногі... Хопіць даехаць. А там... Хіба яна без рук? Ці калека? Шыць умее. Вязаць. Альбо ўладкуецца на працу... Пражыве. А сёння трэба дайсці дадому. Хутка звечарэе. Вунь як лістота асінавая залясекатала.

Увязала слоік у хусцінку і ледзь прыкметнай сцяжынкай выйшла на шлях.

Дадому падыходзіла, калі сонца схавалася, раса туманом слалася па траве, а зоркі высыпалі на небе. «Ці то зоркі мігцяць, ці то ўваччу?» — падумала Марына. Свежа і халаднавата. Яна ўбачыла, што вокны яе хаты

асветлены электрычным святлом. Адчыніла дзверы і ўдыхнула непрыемны пах застоенага паветра. У нос патыхнула часнаком, тухлай капустай, цыгарэтным дымам. У хаце чуўся храп.

На ложку ў ботах, звесіўшы кудлатую галаву з падушкі, спаў Іван. Калі ён удыхаў паветра, то вусны ўцягваліся ў рот, на момант ён сціхаў, а потым гучна выдыхаў паветра, захлёбваючыся, падсвістваючы.

— Ой, горачка ты маё! І дзе ж гэта ты так навалтузіўся?

Марына прысела на лаву. Хай ужо храпе. Ёй нават усміхнуцца захацелася... Спіць — маўчыць, а гэта паўздароўя.

Пайшла ў кладоўку, каб высыпаць журавіны. Дошчачкі на месцы не было. Вядра таксама. Упала на калені. Мацала ўсё, што трапляла пад руку — вядра не было. Колькі рассыпаных ягад раздавіла каленямі. Выпаўзла ў сені. Не плакала. Не стагнала. Выла. У кутку ляжала тое самае вядро, куды яна ссыпала журавіны. Пустое.

Стоячы на каленях, абхапіла яго рукамі, прыцiснула да грудзей, нібы старалася запоўніць яго слязьмі. Але вочы былі сухія. Паставіла вядро на падлогу, абапіраючыся аб сцяну, паднялася, пайшла ў пакой. Іван хроп. Марына не магла адвесці позірку ад яго ненавіснай постаці. Пацiху набліжалася да яго. Рукі наліваліся сталёвым цяжарам.

— Людцы, даражэнькія, уратуйце мяне, — шаптала Марына. Ёй здавалася, што яна крычыць, колькі стае сілы. — Уратуйце, божачкі!

Яна ўхапіла яго за каўнер і пачала трэсці, потым павярнула тварам да падушкі і прыціснула да яе Іванаву галаву.

— Задушу, задушу...

Іван перастаў храпці. Павярнуўся і ўпаў на падлогу.

— Гы-гы-гы, — рагатаў Іван, пад лоб закаціўшы вочы. — Ой, не зыкачы...

— Заб'ю, гадзіна, заб'ю, — шыпела Марына. Уселася зверху на Івана, ухапіла за валасы, тыкала яго носам у падлогу. А Іван рагатаў. Яго вар'яцкі смех забраў у Марыны апошнія сілы. «Каб сякеру. Дзе ўзяць сякеру? — трасучыся, Марына паднялася на ногі. — Яна пад лаваю ці пад печчу...»

Марына выйшла на кухню, заглянула пад печ. Сякера ляжала там. Марына ўзяла яе. Цяжкая. Неверагодна цяжкая. Вярнулася ў пакой. На спіне (калі і паспеў зноў захрапці) ляжаў Іван. Па яго доўгай няголенай шыі бегаў кадык. З сякерай у руцэ каля яго стаяла Марына...

Хоць ты яго спалі зараз, хоць засячы, хоць задушы — яму ўсё роўна.

«Сынку, — вытахквала сэрца, — сынку...»

Сякера глуха стукнула аб падлогу.

Марына павярнулася да дзвярэй, выключыла святло, выйшла ў сені. Знайшла навобмацак вузельчык з журавінамі і, як старая, пакрочыла ў бок чыгункі.

Халодны вецер ганяў па небе хмары, шамацеў чаротам, гаспадаром гойсаў па балоце.



# ШЧАСЛІВЫ ДЗЕНЬ

## I

«Абы рукі былі — работа знойдзецца», — гэтак думалася Ніне, саракагадовай паўнаватай жанчыне, у якой на шчоках яшчэ трымаецца здаровая ружовасць.

Апошні час Ніне ні з таго ні з сяго станавілася сумна, адчуванне было такое, нібыта яна штосьці згубіла, а што — не ведае сама.

Праўда, і сямейныя клопаты не пакідалі ні днём, ні вечарам. Ніна канчала завочна інстытут, і трэба было здаваць дзяржаўныя экзамены. Пасля дзесятага класа сын рыхтаваўся паступаць у вучылішча — таксама турбота. Ды па хаце сёе-тое зрабіць трэба. Учора ліст ад маці прыйшоў, піша, што захварэла, лякарства просіць.

Але вось, здаецца, пачало ўсё адыходзіць: здала экзамены, сын паступіў. Купіўшы ў сталіцы лякарства, Ніна пад'язджала аўтобусам да ўскраіны свайго гарадка, задуменна гледзячы на палі, пералескі, знаёмую роўную меліярацыйную канаву, на месцы якой год дзесяць назад працякала рачулка Струга. Некалі ў дзяцінстве Ніна бегала да рачулкі, схаванай у хмызняку, зарасніку дзікай парэчкі, ягады якой спелі сярэдзінай лета. А пад восень, на пачатку верасня, ля рэчкі густа і ярка палымнела яшчэ горкая рабіна.

І зноў незразумелы сум і смутак скалануў душу, адчула, што вось-вось нешта страчвае. Дагэтуль думала: «Здам усе экзамены — і гара з плячэй зваліцца». Якое тут звалілася!

Людзей у аўтобусе было не многа. Ехалі моўчкі. Перад Нінай сядзеў мужчына год сарака. На каленях ён трымаў букет белых жаўтавокіх рамонкаў.

Падымаючыся, каб выйсці на бліжэйшым прыпынку, мужчына сутыкнуўся позіркам з Нінаю.

— Вазьміце, — ён працягнуў ёй рамонкі.

— Што вы, не вазьму, — збянтэжана адказала яна. — Навошта?

— Мабыць, вам не надта весела, а так хоць маленькая радасць, — мужчына паклаў кветкі на калені Ніны і хутка выйшаў на прыпынку.

Ніне рэдка дарылі кветкі. Нават у маладыя гады, калі сустракалася са сваім цяперашнім мужам, толькі аднойчы атрымала галінку чаромхі. І то колькі радасці было!

Успомніўшы тую даўнюю галінку чаромхі, Ніна сумна ўсміхнулася, пагладзіла твар кветкамі, якія, здаецца, нагадвалі нейкае новае дзіўнае радаснае жыццё. Прыплюшчыла вочы.

«Што дома Сяргею скажу?» — падумала Ніна з крыўдаю.

— Зноў смецця ў хату прынесла, — сустрэў муж з папрокам, але, глянуўшы на жонку, змоўк. — Ці мо хто падарыў? — няўзнак угадаў ён.

Ну як скажаш Сяргею, што таго чалавека яна першы раз бачыла. Праўдзе муж амаль ніколі не верыў, а маніць яна так і не навучылася, таму спытала:

— Ты вячэраў?

— А то цябе чакаць буду.

Ніна не злавала. Даўно ўжо зразумела, што па натуры яе Сяргей добры чалавек, але ж на язык востры, нават грубаваты, таму злаваць не было сэн-

су. Некалі яна спрабавала тлумачыць яму ўсё, ды толку не было. Цяпер усё больш змоўчвала. Гэта стала звычкай, ад чаго не было лягчэй, але ж цішэй у хаце. Не радавала гэта, але і не абражала, як раней. Ніна ведала, натаміўшыся, ездзячы па калдобістых дарогах сярод палеткаў, Сяргей вечарам з'есць і першае і другое.

— Заўтра раніцай да маці паеду. Лякарства дастала. Адвязу.

— А мне што. Трэба, то едзь,— адказаў ён, адразаючы лусту хлеба.

## II

Цягнік, грукаючы коламі, набіраў ход. Людзей у вагоне было шмат. Ніна ехала моўчкі. Было сумна. Хацелася адпачыць. Ад чаго, яна не ведала.

Тым часам цягнік ужо імчаў праз палі, дзе пачынала каласіцца жыта, лугі, якія цвілі і іх ужо касілі мужчыны. Ляжалі валы сена, копы, і нават стаялі высокія, яшчэ не аселыя стагі сена. Лета было ў самай сваёй красе. Ніна глядзела на ячменнае поле за акном... Раптам яна зразумела і адчула, як стаміліся яе вочы ад гарадской цеснаты шэрых высокіх будынкаў. А тут — якое раздолле...

Вачам стала лёгка. І дыхаць, здаецца, стала лягчэй...

Цягнік спыніўся на знаёмым прыпынку. Ніхто не сустракаў Ніну, і яна паціху пакрочыла па пыльнай дарозе. Каля старой вярбы разварочвалася «Волга». То быў яе брат, які прыехаў па яе. «От, дзіва,— сказала б маці.— Колькі б ні было чалавеку гадоў, а пры сустрэчы з роднымі кожны ўспрымае другога такім, якім той быў у дзяцінстве».

— Не думала, што сустрэнеш,— вітаючыся з братам, сказала Ніна.

— Ліст твой сёння атрымалі, думаю, паспею да цягніка,— адказаў Васіль.— Паспеў.

— Што там новага ў вас?

— А, усё, здаецца, па-старому. Маці чакае цябе.

— Маці ўвесь час каго-небудзь чакае,— чула сказала Ніна.

Васіль уважліва паглядзеў на сястру.

— У цябе стомлены выгляд,— сказаў, чамусьці адводзячы позірк.

«Няўжо так пастарэла?» — падумала Ніна, а сказала іншае:

— Троху прытамілася. Ужо колькі часу без адпачынку. Здаецца, і не перарабляюся вельмі.

— Выкінь дрэннае з галавы, дый адпачнеш.

— Ой, братка, каб гэтак можна было: захацеў — выкінуў, захацеў — зноў паклаў. Галава не каліта.

Ехалі па шашы і абганялі бегуноў у спартыўных майках. Першы хлопец, высачэзны, шыракаплечы, нёс у руках факел. За ім бегла яшчэ некалькі чалавек.

— Што гэта за рытуал? — спытала Ніна, разглядаючы бегуноў.

— Сёння ж свята Беларусі, яе вызваленне. Святкуюць вечарам. І Купалле сёння. Памятаеш, як у дзяцінстве бегалі да вогнішча? — сказаў брат.

— Помню,— ціха адказала Ніна.

— Давай з'ездзім,— прапанаваў Васіль.

— Спачатку да маці.







## III

Пабываўшы ў роднай хаце, якая неяк сама па сабе стала нізенькай і маленькай, Ніна з братам паехалі ў другую вёску, дзе звычайна штогод святкавалі Купалле. У іх маленькай вёсачцы ўжо не было каму святкаваць, некалькі хат засталося, а ў іх адны старыя...

Спыніліся на ўзбочыне дарогі. Над лесам гучала развітальная песня:

Закаці, закаці
Ты, ясна сонейка,
Хоць за лес, за лясок...

Ніна паглядзела на дзяцей, хлопчыка і дзяўчынку. Малой было гадоў пяць. Вялізныя банты напаміналі крылы стракатага матыля. У ручцы яна трымала букет лясных кветак. Кветкі крыху прывялі, але дзяўчынка іх не выпускала. Гэта былі рамонкі, званочкі і галінка верасу. Дзяўчынка раз-пораз аглядалася, а хлопчык, гадоў сямі, трымаў у руцэ чарнічнік, абрываў ягады і карміў малую, па-даросламу ўшчуваючы:

— Не круціся, на яшчэ адну.

Ніна ўсміхнулася, гледзячы на дзяцей, пасля паглядзела наўкол. Узышоў месяц. Толькі што за лесам схавалася сонца. У народзе кажуць, што ліпень — месяц спаткання дзвюх заранак, дзённай і начной. Цямнела. Хтосьці запаліў вогнішча. Маленькае полымя прабівалася паміж сухіх галінак, лізала іх і на нейкі час знікала, каб зноў лізнуць з большай сілай. Пачалі падыходзіць людзі. Акружылі вогнішча шчыльным колам, назіралі, як паяўляюцца чырвоныя язычкі. З кожнай хвілінаю яны большалі, выцягваліся ўгору. Набраўшы сілы, яны шугнулі жаўтавата-ружовым полымем і вырваліся на волю. Дым знік. Застаўся толькі агонь, над якім ярка чырванелі іскры.

Калі агонь разарваў путы галля і рвануў у зорнае неба, асвяціўшы ўсё навокал, лёгкі ўздых вырваўся ў людзей. І Ніна таксама ўздыхнула. Прыйшла палёгка, якой яна так доўга чакала. Навокал гаманілі людзі, дзеці кідалі ў агонь сухое голле. І раптам дзяўчынка з вялікімі бантамі, якія напаміналі стракатага матыля, кінула ў агонь букет лясных кветак: рамонкі, званочкі і галінку верасу. Маці ўхапіла малую ля самага агню, прыціснула да сябе. З жахам азірнулася: «Згарыш, дурнічка!»

Ніна паглядзела на дзяўчынку, якая нібы прырасла да маці ад страху, моцна абхапіўшы яе за шыю ручкамі. «Даўно ўжо мой сын не прытуляецца да мяне з такою пяшчотаю... Лічыць, што дарослы»,— падумалася ёй.

Ад'язджалі далёка за поўнач. Пагасла вогнішча. Перасталі бегаць дзеці. Сціхлі песні, але адна з іх усё жыла ў душы:

Закаці, закаці
Ты, ясна сонейка,
Хоць за лес, за лясок...

Дзіўны малюнак уразіў усіх: сівы туман выпаўз з-за лесу.

— Няўжо туман? — здзівіўся Васіль.

— Туман, а што ж яшчэ,— сказала Ніна.

— Ды не, гэта пыл ад машыны...

— Туман, туман, Васіль, не верыш? — Ніна схапіла брата за руку, і яны пабеглі ў туман. Як у дзяцінстве.

Апынуўшыся ў самай яго гушчыні, Ніна ўспомніла, як калісьці, зусім яшчэ маленькай, заблудзілася ў тумане. Густы, шэры, мокры, ён, здавала-

ся, абляпіў яе з усіх бакоў. Яна ступіла некалькі крокаў у адзін бок, у другі — дарогі не было. Спужалася так, што, здавалася, не было чым дыхаць.

— Мама! — закрычала яна. — Мама! — не верачы, што яе пачуюць. І раптам з туману выйшла маці. Прама да яе.

— Чаго ты спалохалася, мая дурненькая? Вунь кладка, бачыш? А там хата... Узяла за руку і павяла.

Куды падзеўся той страх, і адкуль прыйшло святло, і туман нібы расступіўся...

— Чаго шчокі мокрыя? — пытаў Васіль.

— Ад туману, — прыхінулася да пляча брата. Дрыготкаю рукой выцерла мокрыя шчокі.

# ВЯСКОВЫЯ МАЛЮНКІ

## I

Даўно не была ў сваёй вёсцы. Туды можна даехаць аўтобусам. Калі ж ісці пехатою — вёрст дванаццаць.

Я люблю ісці пешшу. Дарога пралягае праз жытнёвае поле, затым уцягваецца ў малады хваёвы лес, што вырас пасля вайны. У густым хвойніку спяваюць птушкі і вечна чэкаюць сарокі.

У вайну на гэтым месцы было поле. Сюды з мястэчка вывозілі яўрэяў і стралялі. Кажуць, што людзей засыпалі нават жывымі і пасля зямля варушылася...

Дарогаю вострa ўспрымаеш роднае наваколле. Успамінаецца маленства, быццам зноўку станаўлюся малою, толькі адчуванні цяпер іншыя. Пачуццё незваротнасці, безупыннасці часу лёгкім смуткам кладзецца на душу.

Так і не заўважаю, як дарога скіравала ў вёску. Сустракаю хлапчука гадоў двух-трох. Кароткія штонікі, сарочка з іх выпушчана, увесь замурзаны, далонькі і ножкі парэпаныя. На смуглявым тварыку бліщчаць чорныя, як спелыя парэчкі, вочкі. У тоўсценькай ручцы — галінка. Услед за ім ідзе жанчына ў чорнай спадніцы, у квятастай кофце на гузіках, і ў хустцы, павязанай, як у нас завуць, пад дульку... Да чарнаты загарэлы твар. Насустрач ім сунецца з пашы статак. За ім цягнецца ўгору пыл. Каровы стомлена рыкаюць.

Угледзеўшы, што хлопчык не думае збочваць з дарогі, жанчына лямантуе:

— Прэч! Ідзі сюды, кажу! Пастух знайшоўся!

Хлопчык спыняецца, паварочваецца, бяжыць да маці і ўтыкаецца мурзатым тварыкам у яе спадніцу. Сцішваецца.

Каля крайняй хаты стаіць дзядзька Васіль. Глядзіць на кароў.

— Чаго твая карова такая ўзвалнаваная? Мо гілюе? — пытае ён у пастуха.

— Каб першы раз! Ужо трэці, — адказвае пастух. — Галава ў яго сівая, ногі крывыя, нібыта дугі. У нас пра такіх людзей кажуць — каблуком ходзіць. Каблук па-вясковаму — гэта дужка ад каша...







— Дык вядзі да бычка хутчэй. Мо загілюе ды цялё будзе. Усё нейкая капейчына ў хаце, — раіць дзядзька Васіль.

Жанчына, якая сустракала карову, раптам азірнулася на Васіля, здзіўлена гукнула:

— Бач ты, як карову, то хутчэй да бычка, а як хто да маладзіцы сходзіць, дык брыдкім словам называюць!

Мужчыны спачатку разгубіліся, кумекаюць, што да чаго, а потым грымяць рогатам.

— От, халера... А што з вас толку? — Абы смагу сагнаць... Ад каровы гэта ўжо прыбытак у хату, — трэ пальцамі дзядзька Васіль. Памаўчаўшы, дадае: — М-да... І там жыццё, і тут жыццё...

## II

Такой буйной квецені садоў даўно ўжо не бачыла. Гудуць чмялі, ачмурэлыя ад паху бэзу. Хаты ледзь відны з-за зеляніны вішань, сліў і таго ж бэзу. А гэты дом стаіць так, каб яго ўсім было відна. На сцяне надпіс: «Здесь живет заслуженный колхозник Бязик Иван Данилович».

Хочацца паглядзець, што там у двары: тры маладзіцы месяцца на прызбе, дзве на лаўцы каля плота, на якім вісяць слоікі і глечыкі, а сам заслужаны калгаснік сядзіць каля пярэстай каровы на ўслончыку, трымаючы падойнік між каленяў. Белыя струмені малака б'юць у дно падойніка.

— Дзе твая Рудня? — пытаюцца жанчыны ў Бязіка. — Як і ўсе вясковыя жанчыны, ягоная жонка мае мянушку Рудня. Гэтак называлася вёска, з якой некалі Бязік узяў сабе маладзіцу.

— А чорт яе ведае. Казала, што хутка прыйдзе. Гэта яшчэ раніцою было, а цяпер вечар...

— Яна пакуль абыдзе ўсіх дзяцей. Колькі іх у цябе?

— Здэцца, трынаццаць.

## III

Прывітанні вяскоўцаў. Хто пазнае, а хто пытае:

— Чыя ж ты, дзетачка? Бы знаю, але не ўспомню... А-а, — гавораць яны наўздагон, успомніўшы.

Дарога паварочвае, і вачам адкрываецца пойма абмялеўшай пасля меліярацыі ракі, воддаль яе, у нізіне, — падворак, такі родны. Справа, бліжэй да мяне, раскінуў голле стары сад. Цяпер ён бела-ружовы. Перад ім на пагорку хатка. Цікавыя людзі жывуць у ёй: Антось і Вера. Зусім састарыліся. Гадоў па восемдзесят абодвум. У яе няма ніводнага зуба. Пратэзы не ставіла. Гаварыла: калі сваіх няма, то чужымі не нажуеш, а вочы свецяцца, як у маладой. Вера перачытала шмат кніг, і нават цяпер яе ад іх не адарваць. Болей за ўсё любіць чытаць пра каханне.

— Бабы, якую я кніжку пра любоў прачытала. Вось. Бывае ж у жыцці такое! — кажа часам.

— Табе колькі гадоў?! Мо ўжо дзевяноста, а ты ўсё пра любоў!

— А як жа, з любові і жыццё.

— Хіба ты са сваім Антосем і цяпер у любоў граеш?

— Вам абы парагатаць, — злуецца Вера.

Аднекуль з'яўляецца Антось. Ногі ў каленях у яго нібы звязаныя, позірк скіраваны не на людзей, а некуды ўверх.

2*

— Так, усё ніпачом. Чапуха. А там так, сплашной холад.— Антося ў вёсцы завуць Такала за тое, што ўсюды, дзе трэба і не трэба, ён гаварыў: «Так». «Так, у магазін прывезлі віно». «Так, па руб. дзве...»

Пасля дзецюкі паўтаралі гэтыя словы, каб уразіць сваіх жонак: «Так, ты сплашной холад».

Гэтыя ж старыя не супраць пагаварыць пра музыку. Сам Антось граў на гармоніку. Як кажуць, з нічога мог зрабіць музычны інструмент. «Бач,— казалі бабы,— Іван яму за паўлітроўку прынёс баян, а ён перабраў, склеіў, а цяпер глядзі, як грае!»

— Самая тупая ў музыцы — гэта свіння,— часта казаў Антось.— Кожная жывёліна неяк рэагуе. Конь спыніцца, вокам не маргне,— слухае. Цялё дык усё варочаецца, тупае нагамі. А вось свіння, ну, ніякага руху. Граў, граў, а хоць бы якое вніманне. Так.

— Антось, умарыў,— рагочуць людзі і пытаюць: — А як гэта ты свінню ў хату ганяў ці сам да яе хадзіў?

— Сам хадзіў. Я на паркане сядзеў каля хлява, а яна ляжала ў летніку, так, а хоць бы рохнула! Так.

Антось, бывала, прыйдзе да суседа і скажа:

— Так, трэба крутнуць у Пінск да дачкі.

Крутнуць — гэта азначала пазваніць.

— Так, добры дзень, Ганюта, ці прыедзеш на выхадныя? Не? Значыць, курыцу не рублю.

Больш нічога яго не цікавіла, і ён выходзіў з хаты. Усе ведалі, што Антось баіцца курыцу «рубіць», але пры нагодзе кожнаму хацелася запытаць у яго:

— Антось, а чаго ты прасіў Мікалая «зарубіць» курыцу?

— Як чаго? Так. Яна ж на цябе, ну, проста чалавечым вокам глядзіць. Так. А тут раз — і адсекчы галаву. Так. Яна ж жывая. Не магу. Так.

— Ты вось што,— раіў неяк Антось свайму суседу, назіраючы, як жонка цыруе таму падраныя шкарпэткі,— зачэм табе іх купляць?

— Як гэта? На босую нагу хадзіць жа не будзеш.

— Вось табе простая парада. Я, напрыклад, купляю жаночыя панчохі. Тут прымацую гумкай, каб трымаліся,— паказаў ён на калена,— а тут,— кіўнуў пальцам на падэшву,— стопчацца, адрэжу, зашыю і зноў хаджу.

— Не,— не згаджаецца сусед,— гэтак неяк некультурна.

— Так, а хто пад штанамі бачыць тваю культуру? Затое,— кажа,— эканомія!..

Далей чакае мяне сустрэча з маці...



***Уладзімір Калкоўскі***

**АПАВЯДАННІ**

# Надзейны спосаб

## 1

Думка, што яна можа застацца ў дзеўках, трывожыла Тамару яшчэ з тае даўняе пары, калі яна выпадкова пачула ў размове:

— Што ж, яна так і не пайшла замуж?.. Чаму?

— Чаму, чаму... Не ўзяў ніхто. Чаго ж яшчэ не ідуць?

Упершыню тады ёй нават страшна стала, што калі-небудзь і пра яе так могуць сказаць. Адразу здалося, што гэта цяжка і ганарова — дабіцца, каб цябе ўзялі. Размаўлялі дзве сяброўкі, якія, відаць, доўга не бачыліся; адна была стройная, танклявая, у блакітным шыракаполым капялюшыку.

— Ну а сама ты, Нінка?.. Калі ўжо? — запыталася яна зноў і ўсміхнулася, гарэзліва і белазуба.

— Як толькі, дык адразу! — хуценька і неяк звыкла прамармытала цыбатая, сухатварая Нінка; валасы яе, пафарбаваныя ў фіялетавы колер, тырчэлі маленькімі, густымі, як вапна, пасмачкамі. Тамары тады падумалася, што якраз такія валасы ў яе лялькі, якая ўжо мо з дваццаць год праляжала на шафе.

Нават шкада ёй стала Нінку, хоць і сама яна не з прыгажунь. Праўда, Валерка, сусед і прыяцель, казаў сябрам, што яна сімпатычная і яму падабаецца. З чарнавокім, смуглявым, усмешлівым Валеркам яна сябравала, калі яшчэ ў школе вучылася. Аднойчы засядзелася з ім дапазна на лавачцы, што пад старой ліпай ля дома, нават не цалаваліся, размаўлялі толькі. «Яшчэ раз пасля дзесяці не будзеш дома — з дубцом пайду шукаць!» — сустрэла яе на парозе маці.

Раней Тамара бачыла, як маці выгнала дачку з клуба і вяла яе па яшчэ людной вуліцы. Дачка была ў блакітнай блузе, размаляваная, яна ішла і раз-пораз быццам спатыкалася; маці ішла ззаду ў дамашнім халаце і тапках, трымала ў руцэ доўгі, пругкі дубец з рагачыкам на канцы. «Ах ты сволач! сволач ты рабая!» — паўтарала яна гучна.

На танцах у клубе летам у іх ігралі студэнты-будатрадаўцы, яны будавалі дарогу ля вёскі. Збіралася моладзь са ўсяго наваколля, наязджалі з га-

---

Мал. **А. Карповіча.**




радоў былыя вяскоўцы, у самы разгар было не прайсці ў клубе. Студэнты прывозілі свае песні, іх тут ніколі не чулі, гэтыя песні потым да наступнага лета спявалі ўсе ў вёсцы.

Танцы раней світанку не канчаліся, але Тамара ішла дамоў у дзесяць і да самай раніцы не магла заснуць пад мяккія, меладычныя гітарныя водгукі, што трапяткім, прывабным звонам так далёка разносіліся ў начной цішы... Валерка спачатку праводзіў яе, але прыяцелі неяк угаварылі яго зайсці яшчэ ў клуб, і ён пазнаёміўся з Наташкай. Яна прыязджала ў госці са сталіцы, хадзіла з распушчанымі валасамі, такіх джынсаў, як у яе, не было ні ў кога з вясковых дзяўчат. З таго вечара ён пачаў праводзіць яе.

## 2

Скончыўшы школу, Тамара паехала ў горад працаваць на заводзе. На танцы ў горадзе яна не хадзіла, яшчэ дома яна шмат чула пра тое, што бывае ў горадзе на танцах. Аднойчы суботнім вечарам яна пайшла з дзяўчатамі ў парк. Там, у цэнтры, была танцпляцоўка, агароджаная металічнай сеткай, абапал якой па ўсяму перыметру стаяла шмат людзей; адны глядзелі на танцуючых моўчкі, другія шэптам перагаворваліся. Раптам абарвалася музыка, танцуючыя збіліся ў кучу, загаманілі, замахалі рукамі, дзяўчаты пранізліва завішчалі. Было відаць, як у сярэдзіне стракатага разнатварага натоўпу нейкага высокага, у цёмных акулярах трымалі за рукі, а да яго падскокваў маленькі, чарнявы і біў галавой у жывот. Калі прыйшла міліцыя, усе хуценька разбегліся, а высокага павялі да выхаду; у адной руцэ ён трымаў пабітыя акуляры, другой трымаўся за вока... Тамара падумала, што на гэтых танцах заўсёды так.

Былі танцы і ў іх інтэрнаце. Але ж адны дзяўчаты на заводзе, якія хочаш, на любы ўзрост, прыгажуні, проста сімпатычныя. Хлопцы сабе цану ведаюць.

— А што, што проста так швэндацца?— казаў неяк Тамары адзін знаёмы, наладчык на іх участку, гаваркі, вельмі шчыры, вядомы на ўвесь завод сваімі любоўнымі поспехамі.— Трэба максімум на трэці раз з ёй пераспаць. Ці хаця бы зрабіць папытку. Інакш яна цябе паважаць не будзе!

Некаторыя лічылі, што і трох дзён занадта, у першы ж вечар запрашалі «на музыку». Але Тамара дзяўчына сур'ёзная. «Ён жа першы з цябе тады пасмяецца. І раскажа ўсім»,— вучыла яе маці. Нават дзіўна ёй было спачатку назіраць, што такіх, як яна, не вельмі многа. У адным пакоі з ёй жыла Паўліна, пышнавалосая, ружавашчокая прыгажуня, у яе заўсёды было адразу некалькі кавалераў. «Усе мужчыны — каты,— казала яна.— Але падзяляюцца яны на дзікіх і дамашніх. З дзікімі трэба пад настрой, а з дамашнімі сур'ёзна».

Аднаго кавалера, Валянціна, усе добра ведалі. Ён быў высокі, з вусамі, насіў касцюм з гальштукам і паліто, яго Паўліна запрашала ў госці, частавала чаем, хадзіла з ім пад ручку ў кіно і тэатр. Другіх дзяўчаты ніколі не бачылі ў інтэрнаце. Толькі па сакрэту, хітравата ўсміхаючыся, Паўліна прызнавалася:

— Ну, Тамарка! З такім хлопчыкам сёння пазнаёмілася. Сімпапулечка!

— І дзе гэта ты?

— На работу падвёз. «Жыгуль» у яго.

— І ты так!.. Ну як так можна?

— Можна. Якраз цяпер яшчэ можна. А вось потым нельга будзе.

— А Валянцін? Калі дазнаецца?

— Як? У мяне ж канспірацыя. Ну і калі дазнаецца — дык што? Я ж — не ты... Знаць трэба, як да іх брата падступіцца!

Другая суседка Тамары па пакою (яны жылі спачатку ўтраіх) была ціхоня. Маленькая, пухлявенькая, яна звычайна вечарамі вязала, лежачы на сваім ложку, і глядзела тэлевізар.

— Валя, у нас заўтра білеты на «Вакол смеху» будуць даваць. Сам Іваноў у ДК прыязджае. Вядучым, кажуць, будзе... Мо сходзім? — пыталася Тамара.

— Пад гэтага Іванова я і дома пасплю! — адказвала Валя, соладка пазяхнуўшы.

Хлопец у яе быў, Коля, хударлявы, даўжэзны, амаль на дзве галавы вышэйшы за яе. Зрэдку ён заходзіў у госці, прысаджваўся да Валі на ложак, і яны ўвесь вечар шапталіся. Тамара здагадвалася, што значна часцей ён наведваецца, калі яны на рабоце (працавалі яны ў розныя змены), бо ў пакоі «пахла мужчынам». І неўзабаве гэтыя здагадкі пацвердзіліся. Валя раптам на вачах стала ўсё больш і больш пухнуць. Нарэшце аднойчы расплакалася і прызналася, што Коля знік. Пры апошняй сустрэчы сказаў, што паедзе ў камандзіроўку. Дзе ён жыве, Валя не ведала, наогул ён сказаў толькі імя і дзе працуе. Некалькі разоў яна хадзіла туды на прахадную, але так яго і не выгледзела.

— Ты хоць сказала яму? — спытала Паўліна.

— Не... не паспела.

— Тады сам усёк, што пара зматвацца. Відаць, прафесіянал. Такія хутчэй за саму цябе пранюхаюць.

Потым адной Тамары Паўліна казала:

— Я такіх не шкадую. Па-мойму, чаму ж не пераспаць, калі падабаецца. Але ж і думаць трэба!

## 3

Раней Тамара не раз чула, што ў радыётэхнічным адны хлопцы. Але калі паступіла туды на вячэрняе, то аказалася, што ў яе групе палавіна дзяўчат, у большасці незамужніх; хлопцы ж, наадварот, усе былі як адзін «жанацікі». «Усюды, відаць, гэтага баб'я навалам. Нідзе няма прадыху!» — падумала Тамара.

Расказвалі, праўда, што на трактарным мала дзяўчат, але цяпер у яе была спакойная, чыстая работа, у белым халаце, з мікраскопам. Ёй здавалася, што на трактарным усё, як у іх механічным цэху, — праходзіш міма, хоць ты вушы затыкай ад лязгату.

Вечарамі, калі Тамара вярталася з заняткаў, з ёй часам спрабавалі пазнаёміцца. Звычайна набіваліся выпіўшыя ці падазроныя на выгляд, у адказ яна высока ўзнімала галаву і пачынала ісці так, што было не ўгнацца. Але ў той вечар яна ішла па вуліцы з кветкамі. Адкуль ён з'явіўся, нават не заўважыла, проста пачула раптам:

— Скажыце, калі ласка, калі б я мог падарыць вам такія ж цудоўныя кветкі?

У яго былі чорныя, злёгку кучаравыя валасы, ён глядзеў весела, так, быццам яны былі калісь добра знаёмыя і вось цяпер зноў выпадкова сустрэліся. На ім была светлая плашчовая куртачка на замку, трошкі спушчаным, каб быў відаць гальштук. Паўліна, якая лічыла, што менавіта на вуліцы «выходзяць самыя цікавыя знаёмствы», казала: «Я перш за ўсё на туфлі гляджу. Зашмызганыя — для мяне ўсё ясна». Глянуўшы ўніз, Тамара адзначыла, што туфлі ў яго начышчаныя. І тады, нават нечакана для сябе, яна таксама ўсміхнулася і адказала ў тон яму:



— Толькі сягоння!

— Чаму?

— Настрой цудоўны. Такі ў мяне толькі раз у год бывае.

Крутнуўшы галавой, ён засмяяўся:

— Ведаеце, у мяне таксама цудоўны настрой. Толькі ў мяне ўжо цэлы тыдзень: вясна! А вось скажыце... Вы як лічыце, цудоўны настрой — гэтага дастаткова для знаёмства на вуліцы?

— Не ведаю, — зноў усміхнулася Тамара.

— А я думаю, што лепшай падставы і не знойдзеш... Саша.

З Сашам яна была шчаслівая. Ён заўсёды быў такі, як у той першы вечар, з ім было прыемна, бестурботна, радасна. «Я хачу прайсці па жыцці з усмешкай!» — любіў казаць ён. А Тамара любіла яго, яна тады была ўпэўнена ў гэтым. Праўда, дзяўчаты казалі, што якраз такім верыць нельга, бо ён надта ж «французісты», але яна бачыла, што ён ім самім падабаецца, і не сумнявалася, што яны ёй зайздросцяць.

Саша займаўся электронікай і шмат расказваў пра гэта. Тамара мала што разумела, але адчувала, што займаецца ён сапраўды справай — «важнай і вельмі перспектыўнай». Наогул, гаварыў ён прыгожа, ужываючы такія словы, як «экспромтам», «імправізацыя»... Казаў, што ўсяго год, як пасля інстытута, а ўжо старшы інжынер і збіраўся праз шэсць год стаць дырэктарам.

— А чаму менавіта праз шэсць? — спытала аднойчы Тамара.

— Лічу, што калі да трыццаці год сябе не праявіш — бяры мяцёлку і ў дворнікі!

— Дык ты і міністрам будзеш?

— Ну-у... год праз дваццаць.

У іх былі хвіліны, калі яны ляжалі разам, адпачываючы ад пяшчот і пацалункаў; у гэтыя хвіліны яны былі такія блізкія адзін аднаму і маглі гаварыць аб самым патаемным.

— Хочаш... хочаш, я табе дам адну параду? — нават не спытала, а задуменна прагаварыла аднойчы Тамара.

— Ну давай. Цікава.

— Жаніся на мне.

Ён ажно заварушыўся, потым доўга маўчаў, гледзячы на нізкую, з плямінай вільгаці ў вугле, шараватую столь інтэрнацкага пакоя.

— Вось ты кажаш... ты кажаш, я ў цябе першы, — загаварыў нарэшце нерашуча, але вельмі сур'ёзна. — Але мы ж з табой так хутка...

Яна бачыла яго недавер, адказвала ціхенька, амаль шэптам:

— З табой усё так звычайна. Быццам у гэтым няма нічога... няма нічога такога, разумееш? З табой усё так проста.

Пасля гэтай размовы яна неўзабаве запрасіла яго на выхадныя да сябе ў вёску пазнаёміць з бацькамі. «Не магу, дома трэба быць. Абавязкова, паабяцаў ужо», — адказаў ён. Адна дамоў яна не паехала, рашыла пачакаць наступных выхадных і паехаць усё ж з Сашам. А ў тую суботу пайшла ў парк. Дзень быў першы такі за вясну: сонечны, лагодны, з лёгкім, пяшчотным ветрыкам. Хацелася гуляць цэлы дзень, глядзець на святкуючых вясну людзей, хацелася марыць і радавацца... Нават снег, які дзе-нідзе ляжаў шараватымі плямінамі, на сонцы блішчэў так, быццам таксама радаваўся вясне. На раскідзістай верхавіне старой таполі ўжо бадзёра мітусіліся шпакі —

Тамара на хвілінку прыпынілася,назіраючы за імі. А калі зноў паглядзела ўперад, то адразу ўбачыла Сашу. Са сваёй звычайнай, такой знаёмай усмешкай, трошкі нахіліўшы галаву, ён нешта расказваў высокай, ростам амаль як ён, прыгожай дзяўчыне. Яна была чымсьці падобная на Паўліну, нават паліто ў яе было такое ж, як у Паўліны. Саша так захапіўся, што заўважыў Тамару толькі ў апошні момант: раптам замоўк на паўслове, два крокі ступіў павольна, замітусіўся, закруціў галавой, але потым, уздыхнуўшы, палажыў руку на патыліцу і заўсміхаўся зноў, толькі ўжо неяк дурашліва, аднымі губамі. Калі праходзіў міма, прывітаўся з лёгкім паклонам.

— Хто гэта? — пачула Тамара, як запыталася яго сяброўка.

— А-а... аднакласніца.

## 4

Непрыкметна прайшло шэсць год вучобы. Закончыўшы інстытут, Тамара пайшла працаваць інжынерам у канструктарскае бюро на сваім заводзе. Цяпер работа ў яе лёгкая: раз на тыдзень ёй прыносяць прыборчыкі з цэха, якія называюцца індыкатарамі. Яна робіць замер параметраў, запісвае лічбы ў сшытак роўненькай, прыгожай таблічкай і аддае начальніку. А потым можа спакойна займацца цікавай і важнай справай — пісаць пісьмы. Тамара адказвае на шлюбныя аб'явы.

Яна ўсур'ёз лічыць, што гэта самы надзейны спосаб завязаць добрае знаёмства. Што ёй больш за ўсё падабаецца, дык гэта яснасць намераў з самага пачатку: людзі ведаюць, што адзін ад аднаго хочуць. Цяпер, калі хто спрабуе загаварыць з ёй на вуліцы, чуе ў адказ такое: «Што нада?!» — умомант куды што толькі дзяецца. Хопіць усяго гэтага, яна цвёрда рашыла.

І неўзабаве ў адным з часопісаў з'явілася такая аб'ява:

«Маладая жанчына, 28 год, прыемнай знешнасці, пазнаёміцца з мужчынам, маючым сур'ёзныя намеры. Цудоўна, калі ён добры і шчыры. Ілгуноў, эгаістаў, асоб, захапляючыхся спіртным, аматараў пажыць на чужое прашу не турбаваць».

Прайшло нямала часу, але яе ніхто так і не «патурбаваў». Тады Тамара рашыла выбіраць сама — толькі высокіх і толькі з вышэйшай адукацыяй. У першы раз напісала ў Барысаў аднаму інжынеру. «Сімпатычны, стройны, рост 182 см, матэрыяльна забяспечаны, здароўе моцнае, характар спакойны», — паведамляў ён пра сябе. У сваё пісьмо Тамара ўклала фатаграфію, самую лепшую: летась у Крыме здымалася — на ёй агністае сонца, бліскучы аксаміт марской прасторы і яна ў купальніку. «Ты тут... як не ты. Супер!» — казалі дзяўчаты.

Адказ прыйшоў прыкладна праз месяц. «Тысячы самых шчырых пісем не заменяць адной асабістай сустрэчы», — пісаў ён і прапаноўваў сустрэцца: праз тыдзень, у панядзелак, ля кінатэатра «Цэнтральны». Ён будзе ў цёмным плашчы, у руках дыпламат і газета.

У пакоі цяпер Тамара жыла з Ліляй (Паўліна выйшла замуж за свайго Валянціна і з'ехала з інтэрната, а Валю забрала дамоў маці). Белабрысая, круглатварая Ліля, даведаўшыся пра спатканне, сама напрасілася ў кампанію, бо ёй таксама было ўжо пад трыццаць і яна таксама хацела напісаць, нават прыкмеціла сабе некалькі варыянтаў, але не магла асмеліцца і рашыла спачатку паглядзець, што атрымаецца з гэтага ў Тамары.

Прыйшлі яны раней, чым трэба, і яшчэ з паўгадзіны бадзяліся тудысюды па другому баку вуліцы. Было халаднавата, пахмурна, можна было лёгка разгледзець кожнага з нешматлікіх прахожых на процілеглым баку.







«Глянь, глянь, стаіць! Вунь, у газету ўтаропіўся, бачыш?» — зашаптала нарэшце Тамара. Зірнуўшы ў люстэрка, яна яшчэ раз папраўліла прычоску і, хвалюючыся, як ніколі, пайшла.

«Маладзец, Тамарка! Асмелілася... ідуць, быццам сто год знаёмыя. Мужчына — сапраўды мужчына, рост, плечы. Люкс-парачка! У рэстаран павёў, мабыць. Эх, рэстаран, музыка, шампанскае. Танцаваць будуць, знаёміцца. Шчаслівая!» — стоячы ля ўваходу ў магазін, назірала за імі Ліля.

І так ёй усё здалося проста, што ледзь прыйшла дамоў, схапіла лісток і давай сама пісаць. Адразу ўзялася за варыянт «са спартыўнай фігурай і ўмовамі для сумеснага пражывання». Але толькі-толькі пачала, як імклівым, дробным россыпам прагрымелі на калідоры крокі і ў пакой уляцела Тамара: чырвоная, у слязах, уся ажно калоціцца.

— Прапіска ёсць? — спытаў ён амаль адразу.

— Інтэрнацкая.

— А-а... Ясна. А кватэра як, свеціць?

— Праз пару годзікаў.

— Я-ясненька... А працуеце дзе?

— На заводзе.

— І зарплата?

Больш яна не вытрымала:

— Пер'е курам я скубу за восемдзесят рублёў, ясненька?! Што, мо не падыходзіць?.. Тады прывецік!

«Як толькі вось такіх зямля носіць?» — доўга яшчэ не магла супакоіцца Тамара. Але хіба ж варта было кідаць гэтую справу толькі таму, што адразу на такога натрапіла? Ён і знешне толькі здалёк мог яшчэ спадабацца, а зблізу быў жоўты, маршчыністы, вочы маленькія, бегаюць...

У другі раз яна напісала ў Кіеў навуковаму супрацоўніку, «высокаму, з мірным характарам». Ён жадаў пазнаёміцца са «сціплай, адзінокай жанчынай, якая б марыла аб сям'і, дзіцячым смеху і ўзаемапавазе».

На гэты раз Тамара напісала пра сябе ўсё, нават хто бацькі і дзе працуюць. Зноў паслала і фатаграфію. «Спадабаюся — адкажыце», — так закончыла сваё пісьмо.

У адказ ён таксама прыслаў фатаграфію. Ён быў хударлявы, лысаваты трошкі, і бакенбарды ў яго былі страшнаватыя, затое позірк быў разумны і перапісвацца з ім было прыемна, адчувалася, што чалавек ён сціплы і сур'ёзны. Ён пісаў, што навука — гэта ўсё, дзеля чаго ён жыве. Збіраўся неўзабаве абараняць кандыдацкую. Сапраўдных сяброў у яго не было, знаёмыя — толькі па рабоце, ён «страшна адзінокі чалавек, і ўсё цяжэй яму ў сваім адзіноцтве». З пісьмаў Тамара яшчэ зразумела, што ў яго свая аднапакаёвая кватэра.

Толькі пасля паўгода перапіскі ён нарэшце запрасіў яе ў Кіеў. «Ехаць?.. Трэба ехаць!» — рашыла спачатку Тамара, але потым засумнявалася: «А можа правярае? Прымчышся адразу, яшчэ падумае, што «такая». Не, лепш сама яго на Першамайскія запрашу. І Лілька дома будзе, як што, дык падтрымае».

Эх, каб ён тады атрымаў яе запрашэнне! Ён бы прыехаў, яму б спадабалася, і, магчыма, тады ж усё б і рашылася... Толькі каб не гэта нечаканае, выпадковае і таму такое крыўднае няшчасце.

Здарылася вось што. Вечарам Тамара неслася ў пакой з чайнікам у руках (па тэлевізару ішоў італьянскі фільм пра мафію), паслізнулася, выпусціла чайнік з рук, сама ўпала і абварыла кіпятком рукі. Потым атрымліва-

ла пісьмы, трымала іх у забінтаваных далонях і ледзь не плакала: хоць ты кідай усё, едзь, тлумач, што здарылася.

— Давай я за цябе напішу,— прапанавала нарэшце Ліля.— Ты ж яшчэ не скора... Дыктуй.

— Так усё і апісаць?

— Ай, не паверыць. Пішы, як звычайна.

— А почырк?

— У нас падобны. Мо не распазнае.

Ліля сапсавала цэлы стос паперы, вывела кожную літару, падрабіла кожную завітушку. Няўжо ўсё-такі ён нешта западозрыў? Звычайна тыдзень прайшоў, і пісьмо ўжо ляжыць у скрынцы. А цяпер няма так доўга. Ці можа і з ім што здарылася?

Затое цяпер Тамара ведае, што справа гэта перспектыўная. Не пашанцавала цяпер — калі-небудзь ды пашанцуе. Цяпер яна чакае адказу адразу з двух месц: з Гродна, ад настаўніка, і з Вязьмы, ад інжынера-чыгуначніка. Настаўнік, праўда, разваднік, але бяздзетны. Інжынер маладзейшы за яе на два гады, але ж яна молада выглядае, дваццаць пяць іншы раз даюць. У яе знаёмая замуж выйшла — на пяць год ён за яе маладзейшы, і нічога, жывуць так хораша.

Ёсць у яе яшчэ і трэці варыянт, але яму яна яшчэ не пісала. Рашыла спачатку паглядзець, што гэтыя адкажуць. Ужо з першых пісьмаў многае праясніцца...

# Бацька

## 1

Невысокі ён, хударлявы і ў акулярах. Прыбраць яго ў новы касцюм, модныя туфлі ды пафарбаваць твар інтэлігентнай бледнасцю — будзе вылітым дацэнт ці начальнік. Але твар у яго на колер трошкі недаспелай маліны, а замест касцюма і туфляў — шэры, абвіслы світэр, цвілыя штаны гармонікам і тупыя, расплюхлыя чаравікі, якія ён сам называе «танкамі». «Дзеці-і! Зноў вы... куды ўжо мае танкі пазацягвалі?» — часта крычыць раніцай сухім сіплаватым голасам.

Яна трошкі ніжэйшая за яго ростам, але амаль удвая шырэй, у яе круглявы, рэдкабровы твар. Вечарам, адчыніўшы дзверы і толькі глянуўшы на яго, яна адхіснецца, быццам гада ўбачыла, і пабяжыць назад у пакой, на кухню ці яшчэ куды. «Скакуха, жабка...» — мармытне ён хрыпла, цяжка прасунецца ў хату, чапляючыся тупымі, млявымі пальцамі, працягнецца па









калідору і глуха, у штанах і «танках» бухнецца на ложак. Ён прыйшоў з работы.

А ў суботу і нядзелю з самай раніцы ў яго «хлопцы»:

— Пад'ём, ачкарык! Хараш ты спаць, віно скісне!

— Пачакайце, даражэнькія... трошачкі пачакайце. Мне каб хоць вока прадраць...

— Ёсць што ў загашніку? Лепш прызнавайся!

— Калі... калі тут што было з раніцы? Што вы, хлопцы, як не свойскія?

— Тады выграбай траяк і ўперад.

— Траяк.... на шклянку не пакінула. Глянь лепш у вугол. Ёсць пушнінка?.. О, трошкі назбіралася! Кладзі хто ў сумку, а я зараз.

Прыхапіўшы пухлую, набітую бутэлькамі сумку, гамонячы, яны ўсёй грамадою вывальваюць на бязлюдную яшчэ вуліцу.

У апусцелай хаце адразу робіцца ціха, а потым нават суседзям за сцяной чуваць, як уздыхае і грыміць на кухні посудам «жабка». Толькі слоў яе ніхто не чуе: «Морда ачкастая! нарабіў дзяцей, а хоць бы раз, раз бы хоць пабыў... Бацька!»

Кінуўшы апошнюю міску, яна просценькім махрыстым ручніком выцірае расчырванелыя далоні і падыходзіць да вакна. Торапка ўзнімаючыся ўсё вышэй і вышэй, наводзіць іскрысты бляск на пакатыя стрэхі дамоў веснавое сонейка, у чаканні ласкавай цеплыні празрыста мігціць звонкае ранішняе паветра, а ў вачах скрозь туман — шэры, цяжкі, вільготны... І ён. Ён разводзіць рукамі, на яго губах хітраватая ўсмешка:

— А я казаў, што аднаго хопіць? Казаў. Перад фактам ставіла? Ставіла. Ну і круціся цяпер сама ў чатыры абароты. А я буду жыць нармальна.

## 2

У яго чацвёра дзяцей. Меншыя два хлапчукі яшчэ ў школу не ходзяць: аднаму пяць год, у яго нос з трошкі большай кірпацінай, другому — шэсць, ён трошкі большы ростам. Днямі яны носяцца па калідоры, калідор у хаце доўгі, прасторны, ён для іх і поле жорсткіх бітваў, і арэна для спаборніцтваў. Асабліва ж яны любяць паспаборнічаць у тым, хто больш «такіх» слоў ведае. Маці за парог — адразу і пачынаюць, здаецца, гэта ім у вялікую асалоду — пасылаць адзін аднаго звонкімі галаскамі. Нават Юру, брату свайму, тут не ўступяць, а ён ужо ў пятым вучыцца. Але як далёка ім усім яшчэ да бацькі! «Ах вы, пар-роды малыя!» — бывае, як грымне на ўсю хату, так што прыяцелі, хоць і самі майстры, а толькі галовамі zаківаюць: «З душы пайшло ў ачкарыка!»

Калі глядзіш на Юру, то ўяўляеш сабе ляніўца. Ён павольна ходзіць, павольна размаўляе і часта задумваецца перад тым, як слова вымавіць. Нават не верыцца, што ён, калі раззлуецца, лупіць малых нагамі, а на сястру Свету аднойчы з нажом кінуўся.

— Светка, Юру пакліч! — просяць хлопцы, заўважыўшы яе на балконе.

— Эй, псіхапат! — прасоўвае яна галаву ў хату. — Ідзі, цябе ўжо...

— Ты, сасіска... Скажы, што не магу, мацерылка не пускае... Пакуль табліцу множання не вывучу.

— Вучы, вучы! Дакуль дайшоў ужо?

— Да чацвёркі.

— Ого, маладзец! Да дзесятага класа мо і вывучыш. Цэлых пяць год яшчэ ў запасе!

Калі Юра нахапляе шмат двоек, класная звоніць бацьку на работу. Тады той прыязджае дамоў раней, чым звычайна, садзіць сына побач і пачынае «мужчынскую размову»:

— Ну, сынок, забыўся ўжо, пра што мы ў апошні раз гаварылі? Ты жэ мне абяцаў. Ты-жэ-мне-абяцаў! А я думаў, ты чэсны хлопец, умееш трымаць слова... Не, відаць, не вазьму я цябе больш з сабой на рыбалку. Ты так, і я так буду... Вось як, сынок!

Гаворыць ён павольна, выбіраючы словы, важка, быццам асілак — упэўнены, магутны. Гаворыць так доўга, пакуль Юра не пачынае ўсхліпваць.

— Хопіць табе ўжо, папа! — не вытрымлівае нават Света. — Як пачнеш з каго жылы цягнуць, хоць ты з хаты бяжы. Як з цябе самой цягнуць, адчуваеш так...

— Я зараз зраблю, што ты не та-ак, а натуральна адчуеш! Зашчытніца... Сама па вушы ў двойках! — грыміць ён у адказ. — Хопіць яшчэ... Што праўда, то праўда, хопіць з вамі вазіцца! Так, сынок, ану бяры ліст паперы і ручку. Давай-давай, хуценька. Гатова?.. Пішы! «Начальніку дурдома...» Пішы, пішы, што ты так на мяне глядзіш? Ты глядзі, каб дваякоў не было. Так: «Начальніку дурдома. Заява. Прашу ўзяць мяне, абманшчыка, адпетага двоечніка, у дурдом на выхаванне. Настаўніцу я не слухаю, слова сваё перад бацькам трымаць не ўмею, вучыцца не хачу. Вось пабуду ў вас ды пазнаю пачым фунт ліха — выдатнікам адразу стану». Напісаў?.. Цяпер падпісвай і давай сюды. Апошні шанц у цябе, разумееш? Хай толькі яшчэ адна двойка!

Такіх заяў Юра ўжо шмат напісаў. Света вымятае іх потым з-пад сталоў, з-пад ложка і, смеючыся, паказвае сяброўкам: «Во папашка мой сачыняе! Артыст!»







Сама яна больш за ўсё любіць размаўляць па тэлефоне. Паслухаеш — і шмат што пра яе будзеш ведаць. Напрыклад, што настаўніца ёй аднойчы сказала: «Ты, Святлана, у нас хоць і красавіца, але ў люстэрка дома трэба любавацца!» Што мноства «мальчыкаў» марыць з ёй пазнаёміцца, а адзін, каб спадабацца, нават піць, курыць і «балдзець» навучыўся. Як яны ўсе ёй надакучылі! Аднаго Алега яна любіць, бо ён высокі, бландзін і «цікава-цікава расказвае». Кожную суботу ў іх спатканне, яны падоўгу стаяць ля дзвярэй у калідоры; як сцямнее, праз кожныя дзесяць хвілін з дзвярэй выглядвае строгі матчын твар:

— Ці не пара табе ўжо? Барышня!

— Яшчэ трошачкі, мамачка! — адказвае дачка такім ветлівым галаском, што нават дзіўна робіцца.

— Што ты ўсё сунешся? Хвілінку не пагаварыць спакойна! — коса паглядваючы на маці сваімі сімпатычнымі вочкамі, бурчыць яна, развітаўшыся з каханым.

Света і бацьку можа вельмі проста асадзіць, калі таму раптам уздумаецца яе «выхоўваць». Рэдка ён рашаецца на гэта. Але калі ўжо рашаецца, то пачынае вельмі грозна:

— Па-ачэму ў хаце зноў бардак?! Прынцэса, я ў цябе пытаю! Зноў днямі ў трубку гэтую?

— І не чапала я яе нават.

— Кавалеры ў яе... У сёмым класе, а ўжо кавалеры! Што ж з цябе далей будзе?

— Нармальны чалавек будзе.

— Чалаве-ек... На-армальны... Двоечніца няшчасная! Калі вучыцца пачнеш, скажы?

— Калі ты дамоў пачнеш нармальны прыходзіць.

— Што?! Што ты сказала? — тоўстыя, жаўтаватыя шкельцы бацькоўскіх акуляраў умомант быццам ператвараюцца ў павелічальныя, а далоні сціскаюцца ў збялелыя, бугрыстыя, дрыготкія кулакі.

— Нічога... Нічога я не сказала.

— Ах ты... ах ты, паррода! Яна ж мяне яшчэ! Не, дачушка мая, рана ты пачынаеш. Ты яшчэ пакуль... Пакуль што я над табой! Э-эх, шчасце тваё. Другі бацька як узяў бы зараз...

— Давай-давай, што ты яшчэ можаш? Чаго яшчэ ад цябе дачакаешся? Другія дзяўчаты ў фірмé, а я... а я...

І Света пачынае са слязьмі і з адчаем у голасе выкрыкваць:

— Зусім мяне забі! Яшчэ лепш будзе! Лепш бы я зусім на гэты свет не радзілася!

Словы гэтыя: «Лепш бы я зусім на свет не радзілася!» — яна выкрыквае кожны раз, калі сварыцца з бацькам. Слухаеш — і нават не верыцца, што гэта яна мо з паўгадзінкі назад так залівіста са смешыкамі шчабятала ў трубку.

— Добра, дачушка, добра, — адразу сцішвае голас бацька, прыжмурваючы вока і ківаючы галавой. — Прыпомню я табе яшчэ твае словы. Ці раз яшчэ прыпомню...

— Гэта мы табе прыпомнім! Падрасці толькі дай. Мы табе ўсё прыпомнім!

— Ну-ну, родненькая мая... І што ж ты прыпомніш? Як хацеў, каб ты чалавекам вырасла? Гэта?

— Калі ласка! І што алкаш, і што мама плача, і дваццаты дом успомнім, — быццам дачакаўшыся нарэшце дазволу, хуценька пералічвае Света.

— Які дваццаты дом?! Які дваццаты дом?—зноў раптам барвова ўспыхвае бацька, быццам сапраўды не ведае, што гэта за дом такі. Але цяпер ужо, ківаючы чарнявай, стрыжанай галоўкай, жмурыць заплаканыя вочкі дачка:

— Ага-а, можна падумаць... Які дваццаты дом. Мо сказаць яшчэ, калі быў там? У той... у шчарбатай.

— З-замаўчы! Шмат ведаеш, ды... Што трэба, дык ты не глядзіш! Бог ты мой, даражэнькія мае, разумненькія... Ды калі на тое пайшло, скажу я вам: ды пайшлі вы ўсе к чорту! Раз так—успамінайце вы, што хочаце, жывіце, як хочаце... Жывіце. Абы толькі мяне не чапалі. Аддайце толькі пакойчык адзін, канурку вось гэту, каб пераспаць мог, а самі... Бог ты мой, успамінайце, што хочаце. Разумныя—жывіце...

Заканчвае ён ціхім, стомленым голасам, млява махаючы рукой пасля кожнай фразы. Здаецца: вось чалавек, якога толькі што страшна, несправядліва, смяротна пакрыўдзілі.

## 3

Колькі шуму было, калі Юра ў першы раз з дому ўцёк! То міліцыя ў хату, то настаўнікі, то суседзі. Знаёмыя звоняць, пытаюцца, спачуваюць. У першую ноч бацькі аблазілі ўсе падвалы і завуголлі ў наваколіцы, пабывалі і на рэчцы—нешырокай, але струменістай, цемнаводнай... Назаўтра з самай раніцы званок: «Ля могліц яго толькі бачылі»,—яны туды хуценька; вяртаюцца назад прыціхлыя, стомленыя—тут зноў званок, і зноў яны некуды нясуцца. Так тры дні прайшло.

«Дзіцятко маё... не пабачу я цябе, не пабачу цябе жывенькае»,—счарнелая, зняможаная, бязгучна, без слёз плачучы, усё шаптала і шаптала маці.

«Што ты ўжо так?.. Каб што, даўно б ужо прывезлі»,—ледзь чутна вымаўляў бацька. Усе гэтыя дні ён адпрошваўся з работы.

А тым часам за горадам у ляску, збудаваўшы шалаш з галля, саломы і яловых лапак, жылі ўцекачы (Юра ўцёк не адзін, з сябрам, што жыў па суседству). Яны даўно ўжо марылі пажыць так у шалашы, «як у кіно пра Рабінзона». Потым стала вядома, што загадзя рыхтаваліся, назбіралі торбу сухароў і накапілі дзесятку грошай.

У лесе ў кустах яны знайшлі бочку з брагай, пакаштавалі: «О, салодзенькая!»—і да самай раніцы, шалёна выкрыкваючы, трэсліся ля вогнішча. Курылі набітую сухім цёртым лісцем старую трубку, прыцягнутую з дому, палохалі, страляючы з самапала, насельніцтва невялічкай, у дзесяць хат, вёсачкі, што была паблізу. «Партызаны нейкія ў нас аб'явіліся!»—паведаміў нарэшце хтосьці ў міліцыю.

Але не паспелі бацькі яшчэ як след нарадавацца, як Света пачала дапазна загульваць. «З дзяўчатамі... на калыханках гойдаемся»,—адмахвалася яна на папрокі мацеры, пакуль аднойчы бацька не пайшоў за ёй і не прыгнаў, трасучы рамянём:

— Адна, адна, што сучка тая, ля пад'ездаў гойсае, а дванаццаць кабялёў следам! Ну, дачушка... больш ты мяне не загаворыш!

Высока, размашыста ўзлётваючы, бязлітасна і трапна замільгаў, заляскаў рэмень.

— Самі... самі ж гэтага захацелі... Я цяпер такое, т-такое вам зраблю,—задыхалася, кусала збялелыя губкі Света.

І на другі дзень яна знікла. Прайшла ноч, потым яшчэ адна, потым яшчэ і яшчэ, але... Яе ніхто не шукаў. Можа маці ведала, дзе яна ашываецца, можа сіл ужо не засталося на пошукі. Знікла Света—і быццам не было тут яе ніколі. Спакойна было ў хаце, толькі маўкліва незвычайна... Праз тыдзень яна сама вярнулася.

— Вось і я,—як увайшла, сказала з парога.—Пажыла трошкі ў Танькі.

І калі Юра неўзабаве ў «самагонную краіну» падаўся, яго таксама не шукалі. Прывычна нават было ўжо ў хаце: не ведаеш—не скажаш, што ўцёк нехта. Калі яго дамоў даставілі, бацька нічога не сказаў. Толькі ў Светы запытаўся:

— Ну што, цяпер твая чарга, дачушка?

Засмяялася ў адказ:

— Холадна яшчэ! Хай пацяплее...

## 4

Пажартавала яна тады? Хутка вясна, паглядзім. А пакуль што на вуліцы люты месяц, дні стаяць ціхія і марозныя. І ў хаце пакуль што зацішша. У бацькі нядаўна здарыўся сардэчны прыступ, яго павезла «хуткая», і ён з паўмесяца праляжаў у бальніцы. Цяпер выпісаўся і ўжо тыдзень, як дома. Глядзіць тэлевізар і гуляе сам з сабой у шашкі. Як заўсёды, шумнымі кампаніямі яго наведваюць «хлопцы»:

— Што, ачкарык, ужо адстраляўся?

— На чорта тады яно, жыццё такое?—ледзь не крычыць ён, хоць доктар строга забараніў яму хвалявацца.—Не, хлопцы, я свае апошнія сто грам яшчэ не выпіў!






*Вітаўт Чаропка*

ФАНТАСТЫЧНАЕ АПАВЯДАННЕ

# НЯХАЙ ЖЫВЕ ГОРАД ШЧАСЦЯ!

— Зноў сыходзіш. Штодня адна ды адна. Замураваў у гэтых мурах — голасу чалавечага не пачуеш, — яна кажа, а вусны яе дрыжаць, у яе вачах я бачу надзею, надзею, што я паслухаюся яе і хоць сёння нікуды не пайду.

Тое, што я адчуваю да матулі ў гэты момант, пэўна, раней называлася шкадоба. Цяпер гэта прынята называць слязлівым сентыменталізмам або перажыткам змрочных часоў.

Яна стаіць у вітальні. Наўмысна прытупала са свайго пакоя да дзвярэй, каб неяк спыніць мяне. Схудалай рукой абапіраецца на сцяну. Да ейных ног туліцца пярэсценькі каток і паглядае вялікімі шэрымі вачыма на мяне, нібы і ён не хоча, каб я адыходзіў. Не, відаць, і сапраўды гэтае пачуццё раней называлася шкадобай. Мне нялёгка адчыніць дзверы і выйсці з кватэры. Мне шкада матулю. Мілая мая, колькі горкіх хвілін прынёс я табе. Ведаю, што ты маркотна пазіраеш у шэрае акенца, згадваеш сваю маладосць і плачаш. Ведаю, што адзінае суцяшэнне ў тваёй адзіноце — пярэсценькі каток, якога я падабраў ля дому. Ты нязлосна пакрыкваеш на яго, калі ён разыдзецца і віхорам носіцца па пакоях. А калі скокне табе на калені і засне, накрыеш паедзенай моллю пуховай хустай і гладзіш яго і чакаеш, чакаеш мяне. І я не пайшоў бы зараз з дому, але...

— Застанься, — зноў нясмела просіць яна.

— Не магу, матуля, не магу, — я хачу падысці да яе, абняць і пацалаваць, супакоіць яе, але саромлюся. Я ніколі ў жыцці не рабіў гэтага. Няма нічога больш абразлівага для мужчыны, чым сентыменталізм да жанчыны, у тым ліку да маці. Мужчына павінен быць мужчынам — так сцвярджае дэпартамент маралі. І я стрымліваю сябе.

— Навошта табе гэта?

— Трэба, матуля, трэба, — адказваю я і паспешліва выходжу з кватэры.

Перад тым, як ступіць на вуліцу, яшчэ раз аглядаю засцежкі свае маскі, якая, як і належыць, азначае шчасце, маладосць, радасць, улюбёнасць у дэпартаменты. Крый божа, яна зваліцца з твару — парушэнне маралі! Адразу аславішся на ўвесь горад як амаральная постаць, якая не хоча жыць па га-

Мал. **А. Назаранкі.**

радскому статусу, а гэта значыць, што я не шчыры месціч горада Шчасця. Аглядаю жалезную бляшанку, што вісіць на грудзях, на ёй выбіты мой парадкавы нумар — 2181961. Яна да бляску начышчана і бачна здалёк. Так што агенты пільнасці не прычэпяцца: даглядаю нумар. Можна выходзіць, і я падаюся на вуліцу.

Я не азіраюся. Ведаю, што матуля абавязкова памахае мне ўслед рукой. Але гэта сантыменты, гэта амаральна, гэта выкліча падазрэнне ў ненадзейнасці і ў недастаткоавай любові да дэпартаментаў. Таму я і не азіраюся. Раней я гэта рабіў. І аднойчы выклікаў падазрэнне агентаў пільнасці. Яны выскачылі з падваротні, заламалі мне рукі.

— Чаго азіраешся? — закрычалі пагрозліва яны.

— Дарагія нашы, проста так, проста так, — заенчыў я.

— Ведаем, як гэта проста так. Проста так у нас не азіраюцца. Што нарабіў, прызнавайся?

— Нічога, нічога. Паверце, даражэнькія.

— Так мы табе і паверылі. Ану, давай з намі ў дэпартамент. — Мяне павялі за рог дома, дзе стаяў бранявік. Ля машыны туды-сюды ў самоце тупаў атлусцелы агент пільнасці з пагонамі старэйшага.

— Вось, ваша пільнасць, яшчэ адзін, — даклалі яму падначаленыя.

Старэйшы неахвотна павярнуў да мяне галаву. Твар яго закрывала маска важнасці і суровасці. Клапаны ў шчылінах вачэй падняліся, і два бліскучыя агеньчыкі ўтаропіліся ў мяне.

— Хм... Хм... — хмыкнуў старэйшы. — Лепшага не знайшлі? Нейкі чаматны, здыхліна, — незадаволена прамовіў ён.

— Што рабіў?

— Азіраўся, ваша пільнасць, — апярэдзіў мяне адзін з агентаў.

— Азіраўся? — старэйшы задумаўся. — Хм... Хм... А чаго ты азіраўся? Няўжо сумляваешся ў грамадскім парадку? А мо ты нашкодзіў?

— Кажы! — агент, што трымаў мяне, балюча пацягнуў за валасы на скронях.

Мне б ускрыкнуць ад болю, але я трываў і ліслівым голасам стаў апраўдвацца.

— Не, ваша пільнасць, я верны і шчыры грамадзянін нашага любага горада. Толькі вось выпадкова азірнуўся. Болей ніколі азірацца не буду. Няхай жыве доблесны дэпартамент пільнасці! — штомоцы закрычаў я. — Няхай жыве горад Шчасця!

— Што ж, пашукаем болей прадстаўнічага, — прамовіў сам сабе старэйшы, бы падумаў услых.

Я з анямелым сэрцам чакаў ягонага рашэння. Мяне адпусцілі. Я, кланяючыся агентам і кажучы словы ўдзячнасці старэйшаму, пасунуўся назад. Адышоўшы некалькі метраў, кінуўся бегчы, а ўслед свіст ды смех. Я ненавідзеў у гэтую хвіліну сябе, але што рабіць? Хто я? Постаць і ўсяго. А дэпартамент пільнасці — наша абарона, наш шчыт і меч.

Пасля гэтае сустрэчы з агентамі пільнасці я ўжо не азіраюся на вуліцы. Я, як і ўсялякая постаць, што снуе па вуліцах горада, нічым не выклікаю падазрэння, дзе трэба, аддаю гонар партрэтам правадыроў, дзе трэба, спыняюся, дзе трэба, пераходжу вуліцу, ля знакаў «Ухваляй», як належыць, крычу: «Няхай жыве горад Шчасця!», «Слава народным дэпартаментам!». Гэта раблю і зараз. А насустрач мне — постаці ў гэтакіх, як у мяне, масках. Што за гэтымі маскамі? Сум? Радасць? Абыякавасць? Разгубленасць? Надзея? Вось бы скінуць іх, зірнуць адзін аднаму ў вочы. Чаму мы носім маскі? Няўжо і сапраўды гэта разбэшчанасць — паказваць свой твар, як сцвярджае дэпартамент маралі. Маскі. Яны і на будынках. Адкрытае сэрца, працягнутая да сяброўства рука, адзінокі голуб, што даверліва апусціўся на далонь — гэта плакаты — маскі на фасадах дамоў, яны хаваюць ад вачэй шэрасць жыцця і зачыняюць вокны ад сонечнага святла.



— Няхай жыве горад Шчасця!

— Слава народным дэпартаментам!

І мой голас уліваецца ў агульны хор пажаданняў, калі я падыходжу да знакаў «Ухваляй».

Нейкая бабулька, адзінокая і забытая ўсімі, спужана туліцца да дамоў. Цяжкія клункі пражытых гадоў ёй не пад сілу. Мне хочацца падысці да яе, дапамагчы несці гэтыя клункі. Але я баюся, што мяне ў нечым западозраць агенты пільнасці. Бабулька без маскі — парушэнне маралі, — і кожны, хто праходзіць ля яе, паспешліва адварочвае галаву, каб не бачыць яе зморшчынаў, пабляклых вачэй, што з сумам і надзеяй паглядаюць на іх. Адкуль яна і куды? Мо з далёкай вёскі ў горад да дзяцей прыехала? Яе ж абавязкова спыняць агенты пільнасці, і пачнецца выпыт: «Чаму без маскі? Правакацыя супраць нашай маралі». Трэба было б неяк папярэдзіць бабульку, каб яна куды-небудзь схавалася, перачакала, калі апусцеюць вуліцы, і тады прабіралася, куды ёй трэба. Не, прайду бокам. Я павінен трапіць на могілкі, дзе на пахавальных помніках чытаю пра тых, хто жыў раней у нашым горадзе. Ні ўва аднае кнізе я не знайшоў ні радочка пра мінулае горада.

Дэпартамент праўды сцвярджае, што гісторыя горада пачалася з таго гістарычнага моманту, калі першы дэпартамент адчыніў у ім свае дзверы — дзверы ў светлае будучае, — а дагэтуль у горадзе панавала цемра жабрацтва. І вось зусім нечакана, прысутнічаючы на пахаванні чарговай праўды, я знайшоў помнік чалавеку, які жыў у часы «цемры і жабрацтва». «Любаму ад любай», — нягледзячы, што час амаль знішчыў надпіс, прачытаў я. І зацікавіўся, ці няма дзе яшчэ помнікаў тым, хто жыў у горадзе раней. І знайшоў іх, і высвятлілася дзіўнае, што людзі мінулага жылі ў горадзе зусім інакш, як мы, зусім інакш любілі, зусім інакш уяўлялі сабе свет. Што для нас любоў? «Любоў — гэта святое пачуццё ўдзячнасці і абагаўлення дэпартаментаў» — так тлумачыць дэпартамент маралі, пра іншую любоў мы і не здагадваемся. А яна была, мяркуючы па надпісах, у мінулым людзі любілі не дэпартаменты, а адзін аднаго: дзеці любілі бацькоў, бацькі дзяцей, мужчына любіў жанчыну, а жанчына — мужчыну, настаўнік вучняў, вучні — настаўніка... Што ж гэта за любоў такая? А што гэта за памяць? Гараджанам у мінулым была вядомая нейкая памяць. На помніках нябожчыку яны абавязкова пісалі «Памяць аб табе захаваем назаўжды». Як бы мне зазірнуць туды — у нябачны свет мінулага, каб зразумець, што такое любоў, памяць, шкадоба. Навошта гэта было патрэбна людзям? Быць можа, даведаўшыся аб гэтым, я мог бы чымсьці дапамагчы гораду Шчасця. А горад даўно хварэў на абыякавасць, і з горкай-горкай яндовы атрутай чэрствасці спойваў нашыя кволыя душы, і ў сваім механічным чэраве пераварваў нашыя лёсы. Штодня гараджане нацягвалі маскі шчаслівых, штодня ўсё болей верылі, што яны і сапраўды шчаслівыя, штодня ўсё гучней і гучней неслася над плацамі і праспектамі «Няхай жыве... Слава...», штодня на могілках хавалі праўду, штодня машына паскарэння набірала ход «Сёння працаваць лепш, чым учора, а заўтра лепш, чым сёння», штодня мы гублялі самі сябе, штодня мы слеплі ад зіхацення нашага светлага будучага і, як невідушчыя, цягнулі рукі, шукаючы павадыра. Дэпартаменты ахвотна падавалі нам руку. Пад кáраю смерці забаранілі Святое пісьмо. Як жа, яно вяшчала: «Калі невідушчы невідушчага павядзе — абодва ў бездань зваляцца».

На могілках пахаванне. Ля свежай магілы тоўпіліся постаці з маскамі жалобы на тварах. Трохі збоку, паклаўшы свае струменты на зямлю, музыкі цуглілі з бутэлек піва.

— Сёння мы хаваем праўду развітанняў. Яна заўсёды сцвярджала, што жыццё нашае складаецца з развітанняў. Цяпер яна пакінула нас. Не будзе цяпер развітанняў. Нас чакае сустрэча. Як самі вы ведаеце, сустрэча з нашай шчаслівай будучыняй, — далятае да мяне голас прамоўцы.

Я мінаю пахаванне, яшчэ колькі крочу па парадней алеі, на якой пахаваны старэйшыны дэпартаментаў, збочваю з яе і накіроўваюся далей. Вузкая сцяжына вядзе туды, дзе могілкі продкаў. Вось нарэшце і гэты глухі куток, парослы каржакаватымі старымі дрэвамі, глогам і шыпшынай, — тут ляжаць продкі. Я азіраюся па баках — нікога. Шумяць над галавою вершаліны дрэваў, устрывожана пераклікаюцца крумкачы, і водгуллем жалобы далятае пахавальная мелодыя трубаў, пэўна, праўду развітанняў апускаюць у зямлю. Адшукаўшы магілу, схаваную чарнобылем, апускаюся каля помніка. Мох пакрыў яго зялёнай каростай. Я адрываю мох і хутка пальцамі адчуваю выбоіны — літары. Цяпер з цяжкасцю, але магу прачытаць надпіс: «Тут спіць Праведнік. Чалавек, імя якога праклялі святары ўсіх храмаў. У нашым горадзе ён знайшоў сабе прытулак. Ён зведаў у жыцці ўсе ягоныя спакусы і ад усяго дзеля праведнасці адмовіўся. А хто з тых, хто лічыць сябе праведнікам, спазнаў гэта і знайшоў сілы, каб адмовіцца ад усяго дзеля праведнасці? Гэта лёгка — не жыць, не мучыць сябе, а гэтак без болю і страт прамою сцяжынаю ісці да праведнасці. У памяць тваю ад вучняў-грэшнікаў, якія абавязкова прыйдуць да праведнага жыцця».

Я дастаю з кішэні паперу і пяро і паспешліва запісваю. Мне яшчэ трэба зразумець, пра якую такую праведнасць сказалі вучні-грэшнікі, але я задаволены: вось яшчэ адна крупінка знойдзена — праведнасць. На другім помніку знайшоў такое: «Тут спіць той, хто нёс дабро божае люду паспалітаму. Перад богам за дзеі свае адкажам на нябёсах, а перад людзьмі трэба цяпер на зямлі». Я запісваю і гэта. І тут знобкі халадок працяў мяне. За спінай чуюцца нечыя галасы. Агенты пільнасці? Яшчаркай прыпадаю да зямлі і хуценька паўзу за бліжэйшыя дрэвы, хаваюся там. Па сцяжынцы крочаць дзве постаці.

— Якую заўтра праўду хаваць будзем? — пытаецца адна ў другой.

— Час ужо інтэрнацыянальную закапаць.

Постаці, не заўважыўшы мяне, праходзяць міма. Я вылажу з-за дрэў і зноў прымаюся за сваё. Ачышчаю з чарговага помніка мох, чытаю надпіс. «Я філосаф, — кажу табе, чалавек. — Няма філасофіі матэрыялізму або ідэалізму, ёсць проста філасофія як праява духоўнасці». Духоўнасць? І аб гэтым я нічога не ведаю. Духоўнасць, Дух, Душа — якая тут сувязь? Ці разбяруся я ва ўсім? У гэтым — выратаванне горада. Але трэба, трэба.

Пачынае змяркацца. Вечар дастае цёмную апону, каб накінуць яе на горад. Я схаваў запісы ў чаравікі. Думаю, агенты пільнасці, калі спыняць, не здагадаюцца зазірнуць туды.

Як і заўсёды, вечарам горад запальвае святло. Неонавая каляровая гама ліхтароў настройвае гараджан на аптымістычны лад і прапаноўвае забыцца, што ёсць у жыцці ледзяныя пацалункі лёсу, вакзалы развітанняў, чорны колер жалобы, абыякавыя вочы адзіноты, сумная арыфметыка стратаў. Я крочу па вечаровым горадзе. Мяне абганяюць постаці ў масках, насустрач мне — таксама постаці ў масках. «Няхай жыве... Слава...»

А калі падыходжу да знакаў «Ухваляй» — сам крычу: «Няхай жыве!.. Слава!..» З пацяшальных установаў далятаюць п'яныя галасы тых, хто ўмее скубці залатое пер'е хціваай птушкі спажывы, віскі навучэнак з калідораў акадэміі Эрота. А калі звярнуць з праспекта на глухія вулкі, дык сустрэнеш нашу маладосць з маскай сляпой бяздумнасці. Яна ў самоце швэндаецца ў цемры вулак, не ведаючы, куды падзець свае гады, пакуль агенты пільнасці не заганяць яе дадому, каб не паказвалася на вочы і не ганьбавала горад.



— Пачакай, — ад сцяны дома аддзяляецца нечая постаць і падыходзіць да мяне. — Купі кнігу, — прапанавала яна.

Старая зашмальцаваная маска, якая патрэскалася на лбе і шчоках, насцярожвае мяне. Такія маскі носяць тыя, хто не дбае пра іх, а гэта — парушэнне маралі.

— Вось, — постаць з-пад палы заношанага пінжака дастае кнігу. Старая скураная вокладка, на якой золатам выбіты назоў, адмысловы пераплёт сведчаць, што кніга дайшла да нас з далёкіх часоў.

— Чацвёртае вымярэнне, — чытаю я. — Законы перамяшчэння ў прасторы і часе.

— Аддаю за траячок, купі, га-а-а?

Законы перамяшчэння ў прасторы і часе. Купіць? А можа гэта агент пільнасці? Можа правакацыя?

— Табе яна патрэбна, — раптам кажа постаць, — ты ж хочаш зазірнуць у мінулае.

Адкуль ёй вядома? Раптам постаць паспешліва хавае кнігу пад палу і штомоцы крычыць:

— Няхай жыве горад Шчасця!

Я азіраюся. Па вуліцы валка і важна крочаць тры агенты пільнасці. Агенты ківаюць галовамі, чулі. Цяпер і я крычу:

— Няхай жыве горад Шчасця!

Агенты мінулі нас, і постаць зноў звяртаецца да мяне.

— Ты ходзіш на могілкі і чытаеш там надпісы на старых пахаваннях. Не, не палохайся, не выдам. Купі кнігу.

Гэта правакацыя. Ён хоча дакладна вызначыць мае задумы. Набуду зараз кнігу і выдам, што мару трапіць у мінулае.

— Нікуды я не хаджу. Аб якім мінулым вы кажаце? У нас няма мінулага, у нас ёсць шчаслівае сённяшняе і светлая будучыня. Няхай жыве горад Шчасця! — кажу я і паспешліва адыходжу ад постаці.

— Пачакай! — просіць яна.

Не, не. Я прыбаўляю хады, хутчэй пазбавіцца гэтай недарэчнай постаці. Хто яе ведае?

Я спяшаюся дадому. З галавы не выходзіць гэтая сустрэча. А мо і не правакацыя? Такая магчымасць была авалодаць законамі перамяшчэння ў прасторы і часе. На каго наракаць? Толькі на сябе. На сваю баязлівасць. Няўжо так усё жыццё? Свайго ценю палохацца, гучнага слова палохацца, смеху палохацца... Сейбіт-месяц рассыпаў зерне зорак, і тыя закаласіліся сузор'ямі. Выйшлі на вуліцу вартаўнікі начнога спакою, бразгаюць у бомы, крычаць: «Спаць! Спаць!»

Позна вечарам я дабраўся да свайго дому. Цьмяная, як згасаючы вугалёк, лямпачка асвятляла ў пад'ездзе роўныя шэрагі паштовых скрыняў, сцены, размаляваныя прызнаннямі: «Я самы шчыры гараджанін горада Шчасця», «Самы шчыры гараджанін я, № 135433», «Я люблю дэпартаменты» і традыцыйнае «Няхай жыве... Слава...», браніраваныя дзверы кватэраў з патаемнымі вачніцамі на лесвічную пляцоўку. Я ўвайшоў у пад'езд, і нечая рука лягла мне на плячо. Імгненна азірнуўся. І ці радавацца мне, ці трыво-

жыцца — перада мной стаяла ўсё тая постаць у старой зашмальцаванай масцы.

— Не пужайся, — лагодна прамовіла яна.

— А-а-а я і не спужаў-ся, — аднак па тым, як разгублена я адказаў, постаць, пэўна, здагадалася, што казаў я няпраўду; з-пад маскі данесліся гукі, падобныя на ўсмешку.

— Давай скінем маскі, — прапанавала постаць і ўзялася за засцежкі.

— Маскі? А навошта?

— А каб не хавацца адно ад аднаго, — яна скідае маску.

Немалады, выцягнуты, з буйнымі рысамі твар, адвіслыя шэрыя мяшкі пад вачыма, рэзкія зморшчыны на шчоках і лбе, такі, як і ў мяне, непрыгожы нос з вялікімі ноздрамі, бясколерныя вочы. Твар здаўся мне знаёмым.

— Ну, — падбадзёрыў мяне незнаёмец.

А, было не было. Я рашуча ўзяўся за засцежкі і азірнуўся на дзверы кватэр. Можа, хто з жыхароў, устрывожаны нашымі галасамі, прыпаў да вачніц, а там — і званок у дэпартамент пільнасці.

— Чаго ж ты?

Я расцягваю засцежкі і здымаю маску. Незнаёмец жмурыць на мяне свае бясколерныя вочы.

— Хто ты? — пытаюся я.

— Я — гэта ты, — адказаў ён і загадкава ўсміхнуўся.

— Як гэта?

— А так, ты — гэта я, а я — гэта ты. Толькі ты адсюль, а я адтуль — з горада будучага.

З яго тлумачэння я нічога не зразумеў, акрамя аднаго, што ён з будучыні.

— Ну як там, у светлай будучыні?

— Як? А вось занадта слепіць яна — светлая будучыня. Я зусім невідушчы, і ўсе там невідушчыя. «Калі невідушчы невідушчага павядзе, — ён задумаўся, сабраў зморшчыны на лбе, — абодва ў бездань зваляцца». Не забыўся, — абрадаваўся незнаёмец.

— Цішэй, цішэй, — зашаптаў я і азірнуўся па баках, кінуў позірк на маску.

Чалавек перахапіў мой позірк.

— Хоць раз забудзь аб баязлівасці, — папрасіў чалавек. — Вось гэтая кніга, якую ты не наважыўся набыць, — ён дастаў з-пад палы «Чацвёртае вымярэнне», грубыя каржакаватыя пальцы моцна трымалі кнігу. — Там, у будучыні, я паліў кнігі. Аднойчы, калі дымам пайшла чарговая партыя, у попеле я знайшоў кнігу, якая не згарэла, вось яна, — ён працягнуў мне кнігу.

Я нясмела ўзяў яе ў рукі. Госць з будучыні працягваў:

— Я не паведаміў нікому, што адна кніга не згарэла. Мяне зацікавіла яе назва «Чацвёртае вымярэнне. Законы перамяшчэння ў прасторы і часе». Мяне заўсёды цягнула мінулае. Здаецца, у маладосці хадзіў я на могілкі, дзе на старых надмагільнях чытаў пра людзей, што жылі ў мінулым. Я даведаўся, што жылі яны зусім не так, як мы, не так любілі, як мы...

«Дзіўна, ён займаўся тым, чым зараз я. Няўжо ён казаў праўду, што я — гэта ён, а ён — гэта я?», — падумаў я і перабіў чалавека:

— Што любілі яны не дэпартаменты, а адзін аднаго, бацькі дзяцей, дзеці бацькоў...

— Жанчына мужчыну, а мужчына — жанчыну, — працягнуў ён за мяне. — Даведаўся, што была ў людзей мінулага памяць, шкадоба.



— Праведнасць. Адказнасць перад Богам і Людзьмі...

— Духоўнасць.

— І што, што далей? Ці даведаўся ты пра ўсё? Што далей? — не сцярпеў я ў прадчуванні блізкай разгадкі тайны, што цікавіла мяне.

— Што далей? Не ведаю, не ведаю... Я ж кажу, здаецца мне, што хадзіў на могілкі, як ты зараз. Не ведаю... А можа я ўсё гэта прыдумаў. І вось пачаў я чытаць кнігу. Літары расплываліся перад вачыма. Зрок. З цяжкасцю я адолеў раздзел «Вяртанне ва ўчарашні дзень». І ўсё, ніводнай літары я не мог разлічыць. Тут вось і наляцелі агенты пільнасці... Я ўцёк сюды, у свой учарашні дзень, разам з гэтай кнігай. Купі яе, толькі табе і прадаю, купі — усяго траяк. Я новую маску сабе набуду. Купі, га-а-а... — ён умольна паглядаў на мяне.

— Куплю, — я не мог адмовіць, дастаў капшук, меўся выцягнуць зашмальцаваную ад вандровак па сотнях рук траячку, але раптам падумаў: «Што яму гэтыя рублі? Чаго я шкадую? Ён жа — я, а я — ён. Дык сам сабе шкадую?». — Трымай, — працягнуў яму капшук з усімі грашыма.

— Навошта? Навошта? Мне столькі не трэба. Мне траяк, новую маску набуду, мая ж знасілася, мне лішняга не трэба, — мармытаў ён пад нос, трымаючы капшук у руках.

— Згадзіцца, згадзіцца.

Я надзяю маску на твар, але мне не хочацца развітвацца з госцем з будучыні. Як добра было б запрасіць яго да сябе. Не магу, а калі агенты пільнасці? І ён зразумеў мяне.

— Табе нельга рызыкаваць. На цябе зараз усе нашы спадзяванні. — Ён таксама надзяе маску.

— Бывай.

— Бывай, — кажу яму ўслед.

Ён выходзіць з пад'езда. Знікае ў начной цемры. І толькі кніга ў руках нагадвае, што сустрэча з ім не была мрояй.

Паведамленне ў дэпартамент пільнасці.

«Даводжу да вашага ведама, паважаны старшыня дэпартамента пільнасці, што аб'ект назірання № 2181961 сёння выйшаў са сваёй кватэры і накіраваўся на пляц Волі, пасля спусціўся да гарадской рэчкі № 0000 і раптам на маіх вачах знік. Ніводная з апытаных мною постацей, што ў гэты час знаходзіліся паблізу, не бачыла, куды падзеўся адзначаны аб'ект назірання. Лічу неабходным пачаць датэрміновы пошук аб'екта назірання № 2181961»

Агент пільнасці 1 класса № 201937

Дырэктыва дэпартамента пільнасці.

«У мэтах хутчэйшых пошукаў аб'екта назірання № 2181961 стварыць камісію па пошуках названага аб'екта, спецнагляд над камісіяй, спецкантроль над спецнаглядам».

Старшыня дэпартамента пільнасці № 00 — 01

Ля маіх ног б'ецца празрыстая вада. Чароды рыб падымаюцца да самай паверхні і мільгаюць срэбнай луской у сонечных промнях. Вецярок ганіць па вадзе лёгкія хвалі. А вада празрыстая, як сляза, я бачу бурштынавы жвір на рачным дне. Некалькі жывых, а не механічных лебедзяў плаваюць ля берага. З гоманам і смехам купаецца ў рэчцы дзятва. Сонечная вясёлка пырскаў мігціць у маіх вачах. Блішчаць мокрыя загарэлыя тулавы. Дзеці без масак, дзеці смяюцца. І ніхто не забараняе ім смяяцца і купацца ў рэч-

цы, ніхто не прымушае іх насіць маскі. Дзіўна. Побач са мною стаіць на беразе дзяўчынка гадоў пяці. Блакітныя ўзрушаныя вочы з захапленнем глядзяць на гульні дзятвы, і ў дзяўчынкі вырываецца гучны шчаслівы смех. Пазіраючы на яе, і мне робіцца добра і весела. Вабяць яе радасны тварык, яе ўсмешка і вочы. І я люблю гэты дзень, люблю гэтую рэчку, дзятву, што купаецца ў ёй, дзяўчынку на беразе. Вось бы распрануцца і плюхацца разам з дзецьмі, брацца з імі за рукі і крычаць, як яны: «Баба сеяла гарох», даваць нырца, але нешта стрымлівае мяне. Баязлівасць? Азіраюся, ці няма паблізу агентаў пільнасці і халадзею сэрцам — да мяне крочаць дзве постаці, яны хаця і апранутыя ў вопратку, якую носяць у горадзе Шчасця, але на іх тварах няма масак. Яны падыходзяць да мяне.

— Вы нумар дваццаць адзін, восемдзесят адзін, дзевяцьсот шэсцьдзесят адзін? — пытаецца адна з іх.

Я згодна ківаю галавою.

— Просім прайсці з намі, — кажуць яны і прыхільна ўсміхаюцца мне.

Мы падымаемся на мост. Абапёршыся на парэнчы і гледзячы на раку, там стаяў высокі хударлявы чалавек. Ён, як і тыя двое, што прывялі мяне сюды, быў апрануты ў гарнітур майго часу. Чалавек павярнуўся... і я знямеў. Перада мною стаяў Прэзідэнт самай вялікай краіны. Знаёмая на ўвесь свет саладжавая штучная ўсмешка, якая павінна выказаць прэзідэнтавую абаяльнасць і шчырасць, сустрэла мяне.

— Ах, гэта вы, — ля ягоных старэчых стомленых вачэй разбегліся хітраватыя зморшчынкі. — Таксама падарожнічаеце па мінулым? Няма нічога ў сённяшнім, каб яно не пачалося ўчора. Таму, каб зразумець, што адбываецца ў горадзе Шчасця, сёння трэба вяртацца сюды — у горад Мінулага.

Прэзідэнт любіў казаць банальныя ісціны. Але я нагадаў, што гэтая, здавалася, простая ісціна ў горадзе Шчасця пад забаронай. Якое мінулае? — яго ў горадзе няма, ёсць шчаслівае сённяшняе і светлае будучае.

— Прызнайцеся, мой малады сябар, што не чакалі тут мяне сустрэць? — мяккім голасам спытаўся ў мяне Прэзідэнт.

— Так, не чакаў, — згадзіўся я.

— Вось, думаеце, навошта Прэзідэнт трапіў сюды? Я мог вам адказаць, што ўсё гэта мне не патрэбна. Людзі часта акружаюць сябе непатрэбнымі рэчамі, займаюцца непатрэбнымі справамі і лічаць, што без гэтага не пражывуць, што ўсё гэта ім неабходна. Вось так у пагоні за падманнымі каштоўнасцямі і марнуюць сябе па драбноце. Але тут зусім іншы выпадак... — ён змоўк. Ягонае маўчанне мяне ўразіла. Я прывычаіўся, што Прэзідэнт гадзінамі павучаў увесь свет, як трэба жыць, што ёсць дрэнна, а што — добра, павучаў з такім механічным майстэрствам валодання дыкцыяй і інтанацыяй, нат здавалася, што кажа загадзя складзеную і вывучаную прамову машына. А тут вось задумаўся. Значыць, і ён пакутуе на сумненні і яму не ўсё зразумела ў гэтым жыцці.

— Не думайце, што я займаюся не сваёй справай, хаця гэта зараз вельмі модна. Вось пісьменнікі болей разважаюць, як трэба пісаць раманы, а не пішуць іх, — зноў загаварыў Прэзідэнт. — Паэты складаюць не вершы, а кнігі па вершаскладанню. Святары не моляцца аб міры, а ўдзельнічаюць на імпрэзах. Мастакі забыліся пра пэндзлі і пнуцца ў палітычныя лідэры. Ну, а палітыкі болей паходзяць на актораў. Менавіта па іх майстэрству трымацца перад народам, міла ўсміхацца і зачароўваць натоўп акторам ёсць чаму павучыцца. Вось чаму важныя дзяржаўныя справы я выконваю сам. Я тут, каб азнаёміцца, што можна зрабіць для росквіту дэмакратыі і праваў чалавека ў гэтым горадзе. Дзіўна, як гэтыя людзі столькі гадоў жылі без дэмакратыі? Трэба ім дапамагчы, — ён зноў усміхнуўся мне сваёй тэлегенічнай усмешкай.

А я нагадаў, што Прэзідэнт рыхтуецца да выбараў і яму вельмі зараз патрэбны галасы, патрэбна дабрадзейнасць, каб гэтыя галасы забраць сабе. Можа, таму ён тут?

— Я кажу вам праўду.

— Я вам веру.

Дзіўна, калі я адкрываю душу, калі, як ніколі, шчыры перад людзьмі, усе лічаць, што я прыкідваюся, блазную. І наадварот, калі хаваю свае пачуцці, калі маню, усе лічаць мяне шчырым. Вось вам і дыялектыка, каб табе верылі, прыходзіцца маніць.

Прэзідэнт зірнуў на ручны гадзіннік.

— О-о, — працягнуў ён, — прабачце, я спазняюся. Мая вам парада, хутчэй пакідайце гэты горад, небяспечны для вас.

— Якая небяспека?

— Вы дрэнна ведаеце, што такое дэпартамент пільнасці. Вас ужо хапіліся і шукаюць. Гадзіна-другая, і агенты пільнасці дабяруцца сюды. Мой мілы сябар, паслухайце мяне, вяртайцеся назад. Дэпартамент не спіць.

У гэты момант да Прэзідэнта падкаціла запрэжаная чацвёркай бялюткіх жарабкоў карэта. Двое слуг саскочылі з запятак, ветла пахіліліся Прэзідэнту і адчынілі перад ім дзверцы.

— Да пабачэння. Прыемна было сустрэцца з вамі. Я абавязкова згадаю пра гэту сустрэчу ў сваёй кнізе «Роздумы з нагоды і без нагоды», — развітаўся са мною Прэзідэнт і сеў у карэту.

У далечыні вуліц заціх грукат карэтных колаў, я яшчэ доўга стаяў на мосце. Што мне рабіць? Збіраць такія патрэбныя ў горадзе Шчасця звесткі пра мінулае, ці вяртацца назад? А як жа горад Шчасця? Згадаліся шэрыя, падобныя адзін на адзін будынкі, пакорлівыя постаці ў чэргах за талонамі шчасця, абыякавасць да ўсяго ў вачах моладзі, самазадаволеная ўсмешка старшыні ўсіх дэпартаментаў, агенты пільнасці ля кожнага ліхтара, ля кожнага будынка, лес крыжоў, пад якімі была пахавана праўда, старэнькая матуля, шмат чаго мне згадалася, і я зрабіў выбар — застаюся. Зрэшты рэшт, Прэзідэнт мог памыліцца, як усялякі чалавек. І, відаць, яму сур'ёзна заманулася завесці ў горадзе дэмакратыю і правы чалавека, каб заваяваць яшчэ адзін бал у барацьбе за прэзідэнцкае крэсла, таму жадае спраўдзіць мяне адсюль, каб не замінаў яму. Я не паверыў у ягонае папярэджанне і застаўся ў горадзе Мінулага.

І вось я крочу па ім. Любуюся яго прыгажосцю.

А паўз мяне крочаць людзі, і ўсе без масак, размаўляюць і смяюцца. Ніколі не думаў, што могуць быць такімі прыгожымі людскія твары, асабліва жаночыя. У кожную жанчыну, што праходзіла паўз мяне, я ўлюбляўся. І трывожылі маё сэрца іх усмешкі і вочы. Як тут не зайздросціць мужчынам, што жылі ў горадзе?

— Падарожнік, не спяшайся, заходзь да мяне, — аклікнуў мяне з балкона аднаго з дамоў стары. Ягоныя вялікія добрыя вочы, адкрыты прыгожы твар выклікалі давер.

— Адкуль жа вы ведаеце, што я падарожнік?

— А я тут усіх ведаю, цябе ж бачу ўпершыню. І вопратка ў цябе не тутэйшая. Заходзь да мяне, спачні з дарогі.

У дзвярах яго дома мяне сустрэла маладая прыгожая дзяўчына. Я бяру з яе рук хлеб і соль, дзякую за сустрэчу. Дзяўчына запрашае мяне ў дом і цалуе ў вусны. У святліцы гаспадар запрашае мяне за стол паснедаць.

«Вось той мудрэц, які растлумачыць мне, што такое Любоў, Шкадоба, Памяць, Адказнасць перад Богам і Людзьмі, Духоўнасць», — думаў я, пагля-даючы на старога. Доўгія космы сівых валасоў, белая густая барада, цёмныя з сівізной бровы, якія навіслі над вачыма, вялікі пукаты лоб надавалі старому выгляд біблейскага мудраца з палотнаў старых майстроў, рэпрадукцый-паштовак, якія захаваліся ў матулі.

— Як жа цябе завуць, чалавек?

— Нумар дваццаць адзін, восемдзесят адзін, дзевяцьсот шэсцьдзесят адзін, — адказваю я і бачу, як вочы старога ад здзіўлення расшырыліся.

— Хіба можна так называць чалавека? — наіўна спытаўся ён.

— А як жа? — прыйшла чарга здзіўляцца і мне.

— Як? Любка, Міраслаў, Лесь, Лель, Прадслава, Бажэнка, Яна, Рагнедзь, Алеся. Услухайся, якая паэзія. Як жа так вы згубілі імёны? Адкуль ты прыйшоў?

Як мы згубілі свае імёны? Я і сам гатоў спытаць гэта, але ў каго? Што ж яму адказаць? Прамаўчаць? А што яму мовіць пра горад Шчасця? Адкрыць, што я прыйшоў з будучага, у якім наканавана жыць ягоным унукам? Не, я і тут прамаўчу. І я выдумляю пра нейкую далёкую краіну, у якой жыву, што пачуў аб іхнім слынным горадзе і вось выправіўся ў няблізкі шлях, каб на свае вочы пабачыць яго. Стары, як ні дзіўна, верыць мне, і вочы яго зіхацяць шчаслівай слязой. Даслухаўшы мяне, ён па-маладому падхопліваецца на ногі.

— О наш горад! Мы любім яго! Пайшлі, я пакажу ягоныя славутасці, — ён выводзіць мяне на балкон. — Вунь той храм, — паказвае ён на будынак з вежамі, што птушкамі рваліся ў неба, — будавалі мае дзяды. У ім хрысцілі майго бацьку і мяне. У ім я хрысціў сваіх сыноў і ўнукаў.

Ён казаў, а я маўчаў. Маўчаў пра тое, што храм гэты разбураны і паставілі на ягоным месцы помнік чарговаму старшыні дэпартаментаў, якому праз некалькі гадоў знеслі галаву, а замест яе прыладзілі галаву новага старшыні.

— А вунь у тым храме, — стары паказаў на другі будынак з высокімі вежамі, — пахаваны наш герой. Ён абараняў горад ад ворагаў. Мы пабудавалі ў памяць аб ім храм, дзе і пахавалі яго.

А я маўчаў, што храм гэты як гняздо цемрашальства таксама даўно знесены і на ягоным месцы загулы ў жлуктоўні «Ветерок» наталяюць сваю прагу да хмелю.

Стары распавядаў пра дом, дзе нарадзіўся паэт, які хаця і памёр юнаком, але пакінуў у спадчыну нізку чароўных вершаў. Ягоны дом таксама ўжо зруйнаваны.

— А вунь там тэатр. Там упершыню прагучала музыка нашага кампазітара, якога пасля ўвесь свет назаве вялікім.

А я нагадаў, як білі чыноўнікі дэпартамента культуры кулакамі ў грудзі і запэўнівалі ўсіх, што плячыма падапруць будынак тэатра, а ноччу разбурылі яго. Я маўчаў. І тут на плошчу выехаў бранявік. Цераз увесь браніраваны кузаў было выведзена чырвонай фарбай — «Дэпартамент Пільнасці». Гараджане здзіўлена глядзелі на браніраваную машыну. А я пра ўсё здагадаўся. Прэзідэнцкае прадказанне збылося. Дэпартамент не спаў. З браневіка выскачылі агенты. Яны ўбачылі мяне на балконе.

— Вось ён, вось ён! — раз'ятраныя галасы агентаў загучалі на пляцы. Агенты пабеглі да дома старога.

— Хто гэта такія? Яны што, звар'яцелі? — нічога не разумеў стары.



— Не, яны не звар'яцелі. Яны робяць сваю справу. Гэта я — вар'ят, — адказаў я.

Ён з трывогаю паглядзеў на мяне.

— Як гэта ты вар'ят?

— Вар'ят. Так-так, вар'ят. Я не хачу быць шчаслівым, жыць у самым шчаслівым месцы на свеце. Я не хачу радавацца свайму шчасцю. Вось за мною і паслалі, каб мяне, неразумнага, вярнуць да Шчасця.

— Ратуйся, уцякай, — падштурхнуў мяне стары. — Бяжы.

Я выбег са святліцы і пабег па доўгім-доўгім цёмным калідоры, які асвятляў адзіны ліхтар. А за спінаю ўжо чуўся грукат ботаў. Гэта быў бег зацкаванага звера, які не ведаў, куды бегчы, што там чакае наперадзе — мо пастка? — толькі бегчы, толькі б пазбавіцца пагоні. У канцы калідора былі выратавальныя дзверы. Я падбег да іх, схапіў колца, што звісала з жалезнай ашчаперанай пашчы, і пацягнуў дзверы на сябе.

У невялікім пакоі за дубовым сталом, на якім стаяла ў патэльнях і місах снеданне, сядзелі барадатыя, у белых плашчах мужчыны. Крайні ля дзвярэй паспешліва схаваў пад стол бутэльку, але я ўбачыў наклейку «Портвейн. Плодово-ягодное вино».

— Што здарылася, мой сябар? — звярнуўся да мяне мужчына, што сядзеў у сярэдзіне застолля. Ён вельмі быў падобны на Хрыста, якога я бачыў на матчынай паштоўцы «Дынарый кесара». Ягоныя добрыя і сумныя вочы з любоўю пазіралі на мяне.

— За мной гоняцца. І нідзе мне няма выратавання.

— Тут сярод нас ты знойдзеш выратаванне. Сядай за наш стол.

Я сеў за стол.

— І так, вучні мае, ведаеце, што трэба зрабіць, калі вам будзе цяжка? Адшукайце чалавека, якому яшчэ горш, чым табе, — казаў ціхім голасам падобны на Хрыста.

— І на ягоных пакутах суцешыць сябе, маўляў, не мне аднаму кепска, — адказаў чалавек, які хаваў бутэльку віна.

— Не, ты не так зразумеў. Дапамажы яму, і тады адчуеш боскае шчасце, бо, моўлена ў Святым пісьме, хм... — «Хрыстос» сумеўся, апусціў вінавата ўніз вочы, узяў са стала тоўстую кнігу і стаў паспешліва гартаць яе.

«Калі невідушчы невідушчага...» — нагадаў я. Калі сюды патрапяць агенты пільнасці, абавязкова знойдуць гэтую забароненую кнігу, і пачнецца следства: што за людзі, чаго сабраліся, адкуль у іх гэтая кніга.

— Давайце схаваем Святое пісьмо, — звярнуўся я да чалавека, падобнага на Хрыста. — Хай у нас будзе сяброўская пагулянка. Гэта не выкліча падазрэнняў у тых, хто гоніцца за мною.

— Хай будзе так, — згадзіўся са мной «Хрыстос»: — Баста, — рэзка ўскрыкнуў ён.

Той, хто хаваў віно, дастаў з-пад стала бутэльку, злосна зірнуў на мяне. Астатнія скідвалі з твараў маскі, выслабаняліся ад плашчоў. І ўбачыў я перад сабою людзей, апранутых у форму старшынь дэпартаментаў. «Хрыстос»: калматыя бровы над шклянымі нежывымі вачыма, друзлы маршчыністы твар кітайскага бажка, каўпак блазна на галаве. Увесь ягоны мундзір быў абвешаны медалямі і значкамі: «Выдатны выспявала», «Пераможца марафону», «Ударнік». Дык гэта ж старшыня дэпартамента. Адкуль ён тут? Я азірнуўся на чалавека, які хаваў віно, і аслупянеў... перада мною сядзеў Прэзідэнт. Ягоная тэлегенічная ўсмешка нібы казала: «Я ж папярэджваў цябе». Побач з ім запіхваў у рот гурок мажны барадаты мужчына, ягоны мясісты нос, як чырвоны ліхтар, палымнеў у паўзмроку; гарматным

ядром красавалася буйная лысая галава. За ім, разваліўшыся на лаве і склаўшы рукі на грудзях, з цікавасцю пазіраў на мяне праз пенснэ нейкі незнаёмец. За імі ў акружэнні двух чалавек незадаволена бухаў кулаком па стале, аж скакалі міскі і шкляніцы, і крычаў: «Я ім пакажу кузькіну маці» нехта хударлявы з маленькімі вусамі пад доўгім храшчаватым носам. «Відовішчаў і хлеба. А будзе хлеб — будуць і спевы», — казаў хударляваму той, хто сядзеў леваруч. «Ніякіх паслабленняў», — казаў той, хто сядзеў праваруч. За імі ўбачыў чалавека, які абыякава да ўсяго, што дзеялася побач, дыміў трубкай. Каля яго, абхапіўшы рукамі галаву, паставіўшы локці на стол, сядзеў нейкі стары. Ён не пазіраў на мяне, нібы палохаўся сустрэцца са мною позіркам. Ля дзвярэй, шырока расставіўшы ногі і заклаўшы рукі назад, стаялі з нерухомымі тварамі супрацоўнікі Прэзідэнта. Усё гэта было нечакана для мяне, што я так нічога не разумеў. Якім чынам гэтыя людзі сабраліся разам? Што яны тут робяць? Прэзідэнт па шкляніцах разліваў віно. Цурчэла чырвоная вадкасць. Калі віно было разліта, падняўся старшыня, трымаючы шкляніцу ў руках.

— Дарагія таварышы, — пачаў ён нетаропка, — сябры і паплечнікі, асабіста наш паважаны госць, у гэты гістарычны момант я, як вялікі міратворца і чалавекалюбца, падымаю свой тост за нябачаны росквіт...

Ён так і не закончыў. У гэты момант у пакой з крыкамі ўварваліся агенты пільнасці.

— Дзе ён? Дзе ён? — закрычалі яны. — Дзе ён?

Прэзідэнт пераможна ўсміхнуўся і паказаў пальцам на мяне. Старшыня паспешліва цугліў са шкляніцы віно — гэта было апошняе, што я ўбачыў тут. Агенты пільнасці схапілі мяне за рукі, заламалі іх за спіну і вывелі за дзверы. Следам выбег Прэзідэнт.

— Вось забыліся, — працягнуў ён агентам Святое пісьмо.

На вуліцы нас ужо чакаў бранявік. Ля яго тоўпіліся зацікаўленыя гараджане. Сярод іх і тая дзяўчынка з блакітнымі вачыма. Яна глядзела некуды ў бясконцую далеч, кудысьці туды, у будучыню. У руках дзяўчынка трымала паштоўку з рэпрадукцыяй «Дынарыя кесара».

— Ану, пакажы гэтым цемрашалам клас! — штурхнулі мяне ў спіну агенты, і я звыкла крыкнуў штомоцы:

— Няхай жыве горад Шчасця!



*Іна Зуб*

**АПОВЕСЦЬ** *

# СЦЭНАРЫЙ НЕ ДЛЯ КІНО

## 1

Трынаццатага лютага Галіна выходзіла замуж, вырашыўшы такім чынам выпрабаваць свой лёс. Надвор'е ў той дзень мянялася тры разы: зранку сыпаў снег, удзень выбліснула сонца, увечары рэзка пацяплела і пачалася адліга. Маці такая змена надвор'я чамусьці не спадабалася. Маці наогул была супраць гэтага шлюбу, і калі Галіна, вярнуўшыся з загса, са смехам расказала, як, падымаючыся па прыступках на высокіх шпільках, паслізнулася і ўпала на рукі незнаёмаму мужчыну, маці збялела, схапілася за сэрца і пайшла прымаць валідол.

Роўна праз тры гады Галіна сядзела ў рэдакцыі ў сваім кабінеце і думала, што паслізнулася яна не выпадкова. Ігар здымаў новы фільм ва Уладзівастоку і ўжо шосты месяц не падаваў пра сябе звестак. Напярэдадні яго ад'езду яны пасварыліся. І хоць зараз зачэпка для сваркі здавалася не вельмі сур'ёзнай, аднак тады, помніцца, яна цвёрда вырашыла, што развядзецца з ім. Урэшце, хто яна? Жонка ці камендант інтэрната, у які ён ператварыў іх аднапакаёвую кватэру?

Не паспелі пажаніцца, як да іх пераехаў аператар Паша Смірніцкі, якога жонка выгнала з дому. «Усяго на некалькі дзён», — запэўніў Паша, а пражыў як не тры месяцы. Потым аб'явіўся маскоўскі акцёр Глеб Шаталаў, у якога быў цудоўны нумар у гасцініцы. Але Глеб жыў у іх, а яна ў ягоным нумары пісала свае матэрыялы. Потым быў сябар з Таліна, потым з Тбілісі, у якога выявілася столькі сяброў, што на трэці дзень яго гасцявання галасіла ўжо не толькі яна, а і суседзі. А колькі іх было яшчэ?

Галіна ўспомніла, як у апошні раз вярнулася дамоў з камандзіроўкі позна ноччу. Асцярожна, каб не пабудзіць мужа, адамкнула дзверы і адразу ж зачапілася за раскладушку, якая стаяла ў калідоры. Двое мужчын спалі на

Мал. **М. Шматавай.**
* Часопісны варыянт.

тахце, чацвёра ўпокат на падлозе, на дыване. На кухні, пад сталом, красавалася батарэя пустых бутэлек з-пад гарэлкі. А аранжавая поўня, што прыветліва зазірала ў акно, асвятляла ракавіну з брудным посудам.

Спачатку ёй захацелася закрычаць, падпаліць усю кватэру, але, перасіліўшы сябе, яна ціха выйшла на вуліцу, у ясную вераснёўскую ноч, спыніла таксі і паехала да сяброўкі Алены Русаковіч. Крыўдна было да слёз. Лётала два дні, як ашалелая, каб вярнуцца на суткі раней і сабраць мужа ў дарогу. І вось... Вярнулася...

На наступны дзень ёй па чарзе званілі на працу ўсе яго сябры, тлумачылі, што ўсёй групай адзначалі першы здымачны дзень, што ўваліліся да Ігара без запрашэння, але яна не хацела нікога слухаць. І тое, што званіў не ён, злавала больш за ўсё. Уяўляла карціну. На канапе і ў крэслах усе члены здымачнай групы. На стале — бутэлькі з півам, у цэнтры — каструля з мутнаватаю вадою, у якой плаваюць развараныя пельмені. У кожнага ў руцэ келіх. Пахмяляюцца. Ігар па-панску разваліўся ў фатэлі, з цыгарэтай у зубах. З сонным выглядам кіруе перагаворамі. Упэўнены, што даруе. Пазлуе, пазлуе і даруе. Але ж калі позна ноччу ён, нарэшце, патэлефанаваў сам, Галіна была ў такім стане, што гаварыць з ім увогуле не магла. Толькі сказала, што падасць на развод.

— Рэжысёры — гэта не мужы, — пераконвала яе сяброўка. — Калі ў трыццаць пяць гадоў мазгоў няма, то і не будзе. Думаеш, чаму ад яго збегла першая жонка? Ён табе кажа — здрадзіла, а я кажу — не вытрымала. І няма чаго з ім насіцца! Бачыце, талент знайшоўся! За што толькі прэмію яму далі?! Разводзься і хутчэй! Дваццаць сем гадоў — гэта не жартачкі. Пакуль не позна, пачынай усё спачатку.

Лёгка сказаць: «пачынай спачатку». Як быццам можна закрэсліць усё мінулае. Вырваць, як пустазелле, тое, на што патрачаны сілы, нервы, здароўе?! Ці не яна ганарылася, што чалавек, паранены няўдалым шлюбам, душэўна надломлены жыццёвымі нягодамі, дзякуючы ёй распраміўся? Ці не яна падтрымлівала яго ў цяжкія мінуты, калі ён сядзеў без працы і фактычна жыў за яе кошт? І вось цяпер, калі быт уладкаваны, а сямейны бюджэт не трашчыць па швах, усё кінуць, прызнаць, што твае намаганні былі марныя?!

— Віншую! Свята кіно скончылася? — запытала маці, калі Галіна вярнулася з рэчамі дамоў. Зяця свайго маці цярпець не магла. — З гэтымі творчымі людзьмі добра толькі ў кампаніях, — звычайна казала яна.

Але на гэты раз маці не стала ганіць зяця. Усё ж развод ёсць развод, працэдура не самая прыемная. Уважліва паглядзела на дачку і цвёрда сказала:

— Раскісаць не трэба. Ты ў мяне дзяўчына прыгожая. Знайдзі нармальнага мужчыну, інжынера, і выходзь замуж.

Дарадчыкі, з прыкрасцю падумала Галіна. Што для іх чужое каханне? Ілюзія. Яна запаліла святло, бо ў кабінеце было холадна і змрочна. Другі дзень гуляла завея. Абледзянелыя шыбкі жаласна пазвоньвалі пры кожным удары ветру. Не было сілы, каб узяцца за работу. Ды і якая можа быць работа, калі не ведаеш, як жыць далей? Галіна ўзяла свежы нумар газеты, але прачытаць нічога не паспела. У кабінет заглянула сакратарка Ніначка.

— Цябе «мадам» выклікае, — сказала яна.

Калі галоўны рэдактар выклікала супрацоўнікаў праз сакратарку, гэта азначала толькі адно — чакай непрыемнасцей.

— Навошта? Не ведаеш? — спыталася Галіна.









— Не, але, здаецца, не дзеля таго, каб прапанаваць дармавую пуцёўку на Паўднёвы бераг Крыма,— паціснула плячыма Ніначка.

Галоўны рэдактар працавала ў іх газеце два гады, але за гэты час настроіла супраць сябе ўвесь калектыў. Атрымаўшы ў сорак пяць гадоў рэдактарскае крэсла, «мадам» больш усяго на свеце баялася яго згубіць. «Вы ведаеце, як цяжка размаўляць з Пятром Пятровічам»,— звычайна казала яна, калі не прымала той ці іншы крытычны артыкул. На планёрках яна заяўляла: «У нас не Азія, не Узбекістан, на нашу рэспубліку раўняецца ўся краіна, дык і пакажыце, як трэба жыць і працаваць».

Калі Галіна зайшла ў кабінет, «мадам» засяроджана чытала нейкі ліст. Выгляд у яе быў хмурны. Губы сціснуты, вадзяністыя вочы з-пад вялікіх акуляраў нядобра паблісквалі. На стале з недапітай шклянкі чаю падымалася лёгкая пара.

— Сядайце, Муравіна,— прамовіла рэдактар і працягнула некалькі машынапісных лістоў. Галіна пазнала свой матэрыял.— Што гэта такое?— металічным голасам спыталася яна.

— Мой водгук на артыкул,— спакойна адказала Галіна.

— Вы ведаеце, хто напісаў той артыкул?— спытала рэдактар.

— Так.

— Вы супраць беларускай мовы?

— Я супраць таго, каб у адну кучу валілі замежную і беларускую мову. Самы надзейны шлях — спачатку давесці ідэю да абсурду, а потым загубіць яе. Як можна сур'ёзна сцвярджаць, што дзеці, якія вывучаюць замежную мову з першага класа, з'яўляюцца праваднікамі буржуазнай маралі ў нашым грамадстве?! Я таксама вучылася ў спецшколе...

— А я не пытаюся, дзе вы вучыліся!— закрычала рэдактар.— І пра вашу думку ніхто не пытаецца! Не вам павучаць кандыдата навук, дачку вядомага пісьменніка!

— Ах, вось у чым справа,— паблажліва паківала галавою Галіна.— Ну што ж, калі вы лічыце, што мой артыкул перакрые дарогу ў Саюз пісьменнікаў вашаму мужу...

— Вон!— закрычала рэдактар і так стукнула кулаком па стале, што ледзь не перакуліла шклянку з чаем.

Ну вось і ўсё. Трохмесячнае перамір'е скончылася. «Мадам» гэтай выхадкі ёй не даруе. Можна падвесці вынік: у перспектыве — развод і звальненне. Поўны жыццёвы крах. Прыйдзецца пайсці ў які-небудзь кааператыў пячы піражкі. Хоць галава ні пра што не будзе балець. Галіна зноў разгарнула газету. Інтэрв'ю з урачом-алерголагам.

«Праяўленні алергіі носяць самы незвычайны характар,— прачытала яна.— Аднойчы да нас звярнулася дзяўчына, у якой пры сустрэчы з жаніхом адразу ж пачынаўся галаўны боль. Вяселле магло і не атрымацца. Аднак абследаванне паказала, што ў дзяўчыны алергія на французскі адэкалон, якім карыстаўся яе жаніх».

Добра жывём! Галіна адкінула газету. Алергія на французскі адэкалон! Анекдот з доктарскай практыкі. Можа, ёй таксама звярнуцца да дактароў? Можа, і ў яе алергія? Можа, ва ўсіх алергія? Можа, усе канфлікты тлумачацца простай алергіяй? Дарэчы, Ігар таксама цярпець не мог ні французскія духі, ні французскі адэкалон. «Самы лепшы пах — гэта пах чыстага цела»,— казаў ён.

Галіна ўспомніла, як упершыню, збіраючыся да яго на спатканне, надушылася «Мажы нуар», і як ён адразу ж прымусіў яе памыць шыю. А яна адчувала сябе так, быццам яе прымусілі адмыцца ад паху кароўніка. Але алергіі ў яго не было. Проста ён адразу ж падпарадкоўваў чалавека, прымушаючы пераймаць свой густ, звычкі, погляды. Ці ты ідзеш разам з ім, ці...

— Чаму ты такі узурпатар?— аднойчы спыталася яна.

Яны сядзелі на кухні, вячэралі, і Ігар з абурэннем распавядаў, як нейкі рэдактар прапанаваў яму замяніць аднаго з акцёраў. Маўляў, той не пацягне. І як ён трыма словамі адбіў у яго ахвоту лезці ў чужыя справы.

— А можа, гэта ты памыляешся?— уступілася Галіна за рэдактара.— Можа, ён табе раіў ад шчырага сэрца? Урэшце, кіно — калектыўная творчасць, і твая думка не ісціна ў апошняй інстанцыі.

— Па-першае,— Ігар спахмурнеў,— работа можа быць калектыўнай, а творчасць — ніколі. А ў нас чамусьці лічаць, што калі ў рабоце прымаюць удзел хоць бы тры чалавекі, дык гэта ўжо калектыў, дзе ўсе аднолькавыя творцы. І таму кожны чыноўнік, трапіўшы працаваць на кінастудыю, механічна прылічвае сябе да творцаў і сваімі ідыёцкімі парадамі пачынае перашкаджаць рабоце. Але за вынік пытаюцца з аднаго — з рэжысёра. І таму, калі я адзін нясу адказнасць, дык і тварыць я таксама хачу адзін. Хай будуць памылкі, але гэта мае памылкі, і за іх я таксама адказваю адзін. І, па-другое, я нікога не узурпірую. Я стаўлю задачы, якія ўсе павінны выконваць. Я дазваляю спрэчкі і абмеркаванні на падрыхтоўчым этапе, але ў час здымак — прабач. Ніякай балбатні. Усё павінна падпарадкоўвацца адной ідэі.

«Якой ідэі?» — падумала Галіна. Калі яго першыя фільмы і сапраўды прываблівалі сваімі ідэямі, дык апошні атрымаўся нейкай бязглуздай меладрамай. Яна яшчэ калі прачытала сцэнарый, здзівілася, навошта ён за яго бярэцца. Але яму, відаць, карцела правесці лета на Чорным моры. А зараз ва Уладзівасток пакаціў здымаць нейкія марскія пагоні.

Галіна пачала праглядаць газету далей, перагарнула старонку і пахаладзела. З фотаздымка на яе глядзеў Ігар.

«Ігар Сяргеевіч, вось ужо тыдзень, як вы вярнуліся з Уладзівастока»,— прачытала яна і застыла.

Тыдзень, як вярнуўся і дагэтуль не пазваніў! Ну што ж, маўчанне красамоўней за ўсякія словы. Далей так працягвацца не можа! Галіна рашуча зняла трубку і набрала яго нумар.

## 2

...Яны пазнаёміліся на кінафестывалі. У той дзень у Доме кіно паказвалі яго фільм. Конкурсны фільм быў спрэчны, пра яго шмат гаварылі яшчэ да выхаду на экран, і рэдактар, заўзяты паклоннік кіно, хацеў даць з праглядү падрабязную справаздачу. Яе меўся зрабіць загадчык аддзела навукі і культуры Стась Сянкевіч. Сярэдняга росту, бойкі, рухавы, ён здаваўся маладзей за свае трыццаць два гады, і гэта яго вельмі прыгнятала.

Галіна працавала ў яго аддзеле пасля інстытута другі год і была адзіным чалавекам у рэдакцыі, перад якім ён мог пахваляцца сваёй перавагай у гадах. Стась быў журналіст «ад бога», але, як гэта нярэдка здараецца са здольнымі людзьмі, нічога не ўмеў растлумачыць і адказных спраў Галіне не даручаў, усё рабіў сам. І таму, калі напярэдадні прагляду яе паклікаў рэдактар і сказаў, што справаздачу будзе рабіць яна, бо Стась вывіхнуў на-

гу, Галіна ледзь стрымалася, каб не заляскаць у далоні, але радавацца чужому няшчасцю было недарэчна. Праўда, радавацца ёй давялося нядоўга, бо праз гадзіну пазваніў Стась і паведаміў, што гэта ён перакана ў рэдактара паслаць на фестываль яе.

— Ох, і нялёгка ж мне гэта далося,— казаў Стась, яўна набіваючы сабе цану.— Я тлумачу, што змест фільмаў ты пераказваць ужо навучылася,— ён і слухаць не хоча. Я кажу, што шпаргалку-апытальнік сам табе зраблю,— не згаджаецца. І ведаеш, чым я яго ўзяў? Я спытаўся: «Вось у вас, Алесь Пятровіч, чырвоны дыплом ёсць? Правільна, няма. І ў мяне, і ў намесніка няма. А ў нашай Галачкі ў скуранай вокладцы пад шклом...»

Але дагаварыць ён не паспеў, бо Галіна кінула трубку. Праз колькі хвілін Стась пазваніў зноў і ўжо дзелавым тонам сказаў:

— Значыцца, так, слухай уважліва. Пачнеш з антуражу. Увядзеш чытача ў атмасферу. Потым сачы за рэакцыяй залы — хто колькі ўздыхае, смяецца, плача. Някепска было б ведаць думку і простага гледача. У прафесіяналаў можаш ні пра што не пытацца — праўду не скажуць, кожны перажывае за сваю кінастудыю. Да рэжысёра трымайся бліжэй, напачатку лепш інкогніта. І толькі калі ўсе пачнуць разыходзіцца, хапай яго за руку, цягні ў які-небудзь закутак і закідвай пытаннямі. Усё ясна?

— Усё,— буркнула Галіна.

— Вечарам чакаю званка. А заўтра ў дзевяць, не, а палове дзевятай прыедзеш да мяне і пакажаш,— закончыў Стась.

Прагляд пачынаўся зранку, аднак, калі Галіна пад'ехала да Дома кіно, людзей каля яго тоўпілася больш, чым перад рэстаранам у святочныя дні. Адно што не ціснуліся ў дзверы, паводзілі сябе спакойна, з зайздрасцю пазіралі на шчаслівуікаў з запрашальнымі білетамі.

Галіна ўвайшла ў залу і знайшла вольнае месца непадалёк ад праходу ў пятым радзе. Справа ад яе сядзеў немалады грузны мужчына і цяжка дыхаў, абмахваючыся праграмкай.

Мужчына паглядзеў на гадзіннік.

— Нешта спазняюцца,— прабурчаў ён.

Галіна мяльком зірнула на яго. Цікава, хто ён? Можа, варта задаць яму некалькі пытанняў? Але мужчына сам апярэдзіў яе:

— Кажуць, цяжкі фільм атрымаўся.

— А вы ведаеце, пра што?

— Чытаў калісьці сцэнарый. Задумана някепска было.

— Вы часам не на кінастудыі працуеце?

Мужчына кіўнуў галавою.

— Так, рэдактарам. А вы, я мяркую, студэнтка?

— Я па заданню. З газеты,— прызналася Галіна.

— О-о-о! — працягнуў мужчына.— Прыемна пазнаёміцца з такім маладым, сімпатычным прадстаўніком прэсы.

«І ён пра маладосць, і ён усур'ёз не прымае»,— засмуцілася Галіна.

— Ведаеце,— мужчына прыгнуўся бліжэй да яе,— я ж таксама да гэтага сцэнарыя дачыненне меў. Так сказаць, першы «дабро» даў, калі ўсе ад яго адмахваліся. Сцэнарыст малады, раней толькі зборнік апавяданняў надрукаваў. На студыі яго ніхто не ведае, займацца ім не хочуць. Прывыклі, ведаеце, да гучных імёнаў. А я, ведаеце, за моладзь, за новыя таленты.— Мужчына выцер насоўкай лоб.— Прачытаў і думаю: «У гэтым нешта ёсць!» Хаця выпадак, ведаеце, не тыповы. Гіпертрафіраваная любоў маці да свайго сына, якая прыводзіць яго да цяжкай нервовай хваробы. Давялося даказваць прапісныя ісціны, дыялектыку, так сказаць, агульнага і адзінкавага. Чаму, кажу, мы паказваем толькі тое, што і так ва ўсіх на вачах і даўно аскому набіла? І вы ведаеце, перакана ў-такі. Так што я — хросны бацька гэтага сцэнарыя.

Ён, пэўна, мог гаварыць яшчэ вельмі доўга, але ў гэты час святло ў зале патухла і на экране з'явіліся першыя тытры.

Дзеянне разгортвалася нетаропка, спакойна. Камера ўвесь час фіксавала дэталі, дакладна паказвала быт, атмасферу. Дзевяцігадовы хлопчык трапляе ў бальніцу з-за цяжкай нервовай хваробы. Урач-псіхіятр, каб зразумець, што прывяло яго да гэтага стану, пачынае неафіцыйнае даследаванне яго жыцця. Няма яркіх колераў, няма нічога павучальнага. Проста цячэ жыццё ў сям'і, дзе маці — кандыдат педагагічных навук. Гадоў пяць таму яна разышлася з мужам і з таго часу не дазваляе яму сустракацца з сынам. Ёй яшчэ няма сарака, у яе халодны твар, аргументаваная мова.

— Якую якасць вы лічыце галоўнай у педагога? — пытаецца ўрач.

— Вядома, добразычлівасць.

І наступны кадр. Хлопчык адзін у кватэры. Сядзіць на падлозе, нешта канструюе. Адчыняюцца дзверы, уваходзіць маці. Гэта ўжо не тая жанчына, якая, усміхаючыся, гутарыла з урачом. Твар ганарысты, халодны, выгляд вартавога. Ні слова не кажучы, яна спыняецца ля канапы, на якой ляжыць школьная вопратка. Камера паказвае на ўвесь экран разгублена-засмучаныя вочы хлопчыка.

Яны за сталом. Снедаюць. Худзенькая рука цягнецца да талеркі з каўбасой. Хлоп па руцэ! Хлопчык спалохана ўздрыгвае. Маці моўчкі дае яму відэлец.

Дробязі, дробязі, але ці не з іх складаецца жыццё?

Сонечны летні дзень. Хлопчык ідзе па вуліцы. На ім — чорныя штаны, дзявочая трыкатажная майка, чорныя чаравікі з чырвонымі шнуркамі. Цокцок, адстуквае ён імі па асфальту, нібы вязень.

Апошняя размова з маці. Збянтэжана і нерашуча ўваходзіць яна ў кабінет урача.

— Хвароба вашага дзіцяці,— кажа псіхіятр,— гэта яго ўнутраны пратэст супраць таго ладу жыцця, у якім вы жывяце. Вы пазбавілі яго свабоды рухацца, думаць, развівацца. Вы не давалі выйсця яго энергіі, пачуццям. Вы і толькі вы прывялі яго да нервовага зрыву. Ён яшчэ маленькі, у яго ўсё наперадзе. Шмат пра што ён забудзецца, але якім ён вырасце, залежыць толькі ад вас.

І заключны эпізод. Маці з сынам ідуць па сцежцы праз бальнічны парк. Аператар здымаў іх са спіны. Дзве фігуркі, якія паволі аддаляюцца, расплываюцца на сонечным фоне і зліваюцца ў адну цёмную кропку.

— Ну як? — павярнуўся да Галіны мужчына.

— Цудоўна! — толькі і здолела вымавіць яна.

— А хлопчык, які слаўны хлопчык! Як тонка і натуральна трымаецца! — захапляўся мужчына.

Раптам Галіне прыйшла ў галаву думка, што гэты мужчына і мог бы пазнаёміць яе з рэжысёрам.

— Скажыце, калі ласка, а вы рэжысёра добра ведаеце?

— Дзіва што, гэта ж мой сябар. У мяне на студыі ўсе сябры. Дарэчы, магу вас запэўніць: вельмі таленавіты хлопец.

«Хлопец,— падумала Галіна.— Нішто сабе, у трыццаць два гады ўсё яшчэ хлопец».

— А вы не маглі б мяне з ім пазнаёміць? — асмелілася яна.
— Што за пытанне! — Ён закруціў галавою. — Зараз усё і арганізуем. Вас як зваць?
— Галіна.
— А мяне Алесь Яўменавіч.
Яны ўсталі і падаліся да выхаду.
Рэжысёра яны ўбачылі ў бары. Ён сядзеў за столікам з двума мужчынамі, і па іх узбуджаных тварах Галіна зразумела, што яны пра нешта спрачаліся. Шырока ўсміхаючыся, Алесь Яўменавіч рушыў да століка.
— Віншую, Ігар, віншую! — Алесь Яўменавіч паціснуў рэжысёру руку. — Вось пабачыш, прыз забяспечаны. Павер майму слову. А ты ведаеш, мае словы і мая інтуіцыя... — Тут ён асекся, успомніўшы пра Галіну, што стаяла ў яго за спіной. — Але сёння маю для цябе нешта іншае, чым прыз. Паглядзі, якая дзяўчына! — Ён павярнуўся да Галіны, якая пачырванела ад абурэння і была гатова праваліцца скрозь зямлю. — Журналістка! Так што глядзі, — ён дурасліва паківаў пальцам, — не крыўдзі маю пратэжэ, спадзяйся як на духу. — І ён галантна раскланяўся.
Мужчыны таксама ўсталі, вызваляючы месца.
Галіна села ў крэсла, пачала гартаць блакнот. Яна ўсё яшчэ не магла апамятацца пасля дзівацкай рэкамендацыі і таму марудзіла, стараючыся сабрацца з думкамі. Ігар з сумам у вачах назіраў за ёю. У яго быў адкрыты твар, важкі, валявы падбародак, сумныя вочы.
— Павінен вас засмуціць, — раптам сказаў ён, — але ў мяне вельмі мала часу. Праз дваццаць хвілін трэба ехаць у Стайкі на закрыты прагляд французскага фільма. Потым — паездка па калгасах. Як бачыце, удзельнікам фестывалю сумаваць не даводзіцца.
— Але хоць на некалькі пытанняў вы адкажаце? — узмалілася Галіна.
— Добра, адкажу. — Ён усміхнуўся, і твар яго адразу расслабіўся, стаў больш лагодным.
Усмешка ў Ігара была вельмі прыемная, і ад усяго яго аблічча ішла такая ўпэўненасць, што Галіна раптам супакоілася, але спытаць нічога не паспела. Нечакана да іх падляцеў высокі хлопец з чорнай бародкай, у цёмных акулярах.
— Машына чакае! Давай хутчэй!
Да такога павароту Галіна не была гатова і ад разгубленасці ледзь не расплакалася. Ігар паглядзеў на яе і нахмурыўся.
— А заўтра?
— Заўтра матэрыял павінен быць на машынцы.
Ён на момант задумаўся.
— А ведаеце што? Паехалі з намі. А пагаворым па дарозе.
У машыне яе пасадзілі чацвёртай на задняе сядзенне, і пагаварыць ім ізноў не давялося. І толькі калі прыехалі ў Стайкі, Ігар за кароткі час, што заставаўся да прагляду, крыху расказаў пра сваю карціну.
Сказаў, што ў аснове сцэнарыя — сапраўдная гісторыя, хоць у жыцці, вядома, многае было інакш. Ён жа хацеў паказаць тып жанчыны-тырана, тырана ў сям'і. Але ўжо ў час здымак яны вырашылі пакінуць маці нейкую надзею. І тады фільм набыў іншую афарбоўку. Гераіня паказана ва ўсіх сваіх супярэчнасцях і павінна выклікаць складаныя пачуцці ў гледача. Ва ўсякім выпадку яны да гэтага імкнуліся. Па сутнасці, няшчасная жанчына, вельмі адзінокая. Яна, здавалася б, прызвычаілася да сваёй адзіноты і нават перастала яе заўважаць. Але ў душы яна ўвесь час пакутуе. Пакутуе больш, чым яе дзіця.







— Памятаеце, недзе ў сярэдзіне фільма ў псіхіятра ўзнікае пытанне: ці цалавала яна калі-небудзь свайго сына? Але ён не адважваецца спытаць, і пытанне застаецца адкрытым. Мы імкнуліся паказаць не проста прыватны выпадак, калі чалавек абмяжоўвае сябе рамкамі фармальнай маралі. Мы хацелі закрануць праблему выхавання. Выхавання дабра, душы чалавека. Памятаеце, ён пабіўся з хлопчыкамі і яму адарвалі ад кашулі ўсе гузікі. І ён поўзае па асфальце, шукае гэтыя гузікі, а потым ідзе да суседкі і просіць іх прышыць. Заўважце, не да маці, якая павінна пашкадаваць яго, а да суседкі. Сказаць вам шчыра? — ён моцна сціснуў яе руку. — Цяжка было здымаць гэты фільм. Самому цяжка.
Галіна з жалем выключыла дыктафон, бо пачаўся прагляд.
Калі фільм скончыўся, яны выйшлі на вуліцу.
— Зараз будзе аўтобус, — сказаў Ігар. — Паедзеш у горад. — Пасля фільма ён неяк непрыкметна перайшоў на «ты».
— А інтэрв'ю? Пра сябе? — спытала Галіна.
Ён паціснуў плячыма, насупіў лоб, нешта абдумваючы. Потым дастаў з кішэні ключы.
— Трымай. Гэта ад маёй кватэры. — Ён назваў адрас. — Запомніла? Прыйдзеш гадзін у дзевяць. Калі мяне яшчэ не будзе, пачакаеш. Але думаю, мы ўжо вернемся.
У дзевяць Ігара яшчэ не было. Галіна адамкнула ягоным ключом дзверы і прайшла ў пакой. Часам рэчы гавораць пра чалавека больш, чым ён сам. А ў гэтай кватэры яе ўразіла неўладкаванасць. Невялікі паліраваны гарнітур меў бы прыстойны выгляд, калі б з яго хоць раз у тыдзень сціралі пыл. Дзверы на балкон былі адчынены, і вецер ганяў па дыване тапалевы пух. Каля газетнага століка рассыпаны попел, каля тахты на падлозе — маянэзны слоік з недакуркамі. На сценах — выцвілыя, абшарпаныя шпалеры. Галіна прайшла на кухню. І там не лепей.
Здавалася, у такой кватэры мог жыць хіба што чалавек, якому ў жыцці ўсё абрыдла. Ігар жа не рабіў такога ўражання. Тады што гэта? Звычайная неахайнасць? Ці ён да сваёй кватэры ставіцца як да берлагу, куды часам заходзіць пераначаваць? Няўжо ў яго няма жанчыны? Але чаму? Ён жа прывабны мужчына, адзін з тых, хто захапляе сваёй унутранай сілай. Галіне раптам захацелася ўзяць венік, змесці пыл, прыбраць усю кватэру, каб ён, вярнуўшыся дадому, мог расслабіцца, адпачыць.
І тут раптам Галіна зразумела ўсю недарэчнасць свайго становішча. Што гэта з ёю? Аб чым яна марыць? Галіна з сілай страсянула галавой, нібы намагаючыся пазбыцца нейкага вельмі прыемнага, але недарэчнага сну. Марная спроба: адчуванне чагосьці новага, захапляючага асталявалася ў ёй міжволі. Чорныя стрэлкі на жоўтым цыферблаце насценнага гадзінніка зліліся ў адну на лічбе дзесяць. Прайшла амаль гадзіна, а Ігара ўсё няма. Галіна паглядзела ў акно. Неба было светлае-светлае, амаль празрыстае, надыходу вечара зусім не адчувалася. У канцы вясны, у пачатку лета дні заўсёды здаюцца доўгімі-доўгімі, а жыццё бясконцым, падумала яна. Падман прыроды, самападман людзей... Колькі яшчэ яго чакаць? Якая недарэчная сітуацыя!
Пэўна, Стась меў рацыю, калі казаў, што ёй нельга даручаць адказныя заданні.
Яна падышла да тэлефона і набрала нумар Стася.

— Ты не магла пазваніць раней? — адразу накінуўся той на яе, а калі даведаўся, што справаздача яшчэ не гатовая, ад абурэння нават не знайшоўся адразу, што сказаць. — Садзіся і пішы! — загадаў ён. — Што? Што хочаш. Дзе? Там, дзе сядзіш. Ну і работнічкі! Нічога даверыць нельга, — і ён кінуў трубку.

— І напішу, — сказала сама сабе Галіна. Але рэжысёра яна ўсё ж дачакаецца, тым больш што ён аддаў ёй ключы. І, зручна ўладкаваўшыся на тахце, яна пачала пісаць.

Прачнулася яна сярод ночы, знянацку, нібы нехта вырваў яе са сну. Плюскала вачамі, стараючыся зразумець, дзе яна, і ў цемры заўважыла нечы сілуэт, які нячутна рухаўся па пакоі.

«Які жах! — маланкай пранеслася ў галаве. — Заснуць у чужой кватэры, у незнаёмага мужчыны!» Яна рэзка села.

Ігар павярнуўся.

— Я вас разбудзіў? — Ён ізноў перайшоў на «вы».

— Якая зараз гадзіна? — ціха спытала Галіна, паціраючы рукой вочы.

— Нешта пасля трэцяй.

— Як?! — усклікнула яна і нахмурылася. — Прабачце, што так атрымалася. Я хацела пайсці, але не ведала, ці ёсць у вас запасныя ключы. І вось, — развяла рукамі, — заснула...

— Не турбуйцеся, гэта я павінен прасіць у вас прабачэння. Але ў мяне і ў думках не было, што мы так позна вернемся.

Абое замоўклі, адчуваючы няёмкасць.

— Я, відаць, пайду, — сказала Галіна і паднялася.

— Навошта, куды? Заставайцеся! — Ён разгублена і насуплена глядзеў на яе. Высокі, шыракаплечы, худы.

— Не. — Яна крутнула галавой.

— Заставайцеся, прашу вас, у мяне ёсць раскладушка, — настойліва вымавіў ён.

— Не, — паўтарыла Галіна і нахілілася, каб сабраць раскіданыя па ўсёй падлозе паперы.

— Застанься! — Ён ступіў да яе і схапіў за плечы.

Галіна інстынктыўна падалася назад, але на ягоным твары праступіла такая ўладарная мальба, што яна раптам застыла, не маючы сілы паварушыцца.

Колькі хвілін яны так стаялі? Тры, пяць, вечнасць?

Ён правёў рукой па яе валасах. Далонь у яго была шырокая і моцная. Гэтым жэстам ён нібы супакойваў і падпарадкоўваў яе сабе.

— Якія ў цябе мяккія, пушыстыя валасы, — ціха сказаў ён. — Цёмныя валасы і шэрыя вочы, матавая скура.

— А як вы ў цемры распазнаеце колер вачэй?

Ён рэзка выпрастаўся.

— Нічога я не распазнаю, але твае вочы... я проста іх запомніў. — І ён зноў моцна прытуліў яе да сябе...

Ціха шалясцеў фіранкамі вецер, блішчэлі за вокнамі зоркі, у начным спакоі растала штодзённая мітусня, боль, пакуты, расчараванні. Сон ператварыўся ў паўсон, пераплёўся з рэчаіснасцю, але не стаў ад гэтага менш цудоўным.

— Піць хочацца, — ціха прамовіла Галіна.

— Можа, кавы?



Галіна згодна кіўнула. Не запальваючы святла, ён узяў яе за руку і павёў за сабой на кухню. Прыхіліўшыся да сцяны, Галіна сачыла, як ён спрытна рухаецца ў цемры, уключае газ, ставіць на пліту чайнік, дастае кубачкі, насыпае ў іх растваральную каву. Ёй было спакойна і ўтульна, нібы нарэшце адбылося тое, чаго яна даўно чакала.

Ігар выцягнуў шуфлядку стала.

— Ніводнай чайнай лыжкі! — Вінавата зірнуў на яе. — І куды яны ўсе падзеліся? Купіў дзесяць шклянак па дванаццаць капеек, праз месяц — ніводнай. А цяпер лыжкі...

— Самі б'яце ці сябры? — пацікавілася Галіна.

— Сябры, вядома, — хмура адказаў Ігар.

Галіна падышла да ракавіны, знайшла паміж нямытых талерак дзве чайныя лыжкі, апаласнула іх гарачай вадой і падала Ігару. Чайнік тым часам ужо закіпеў, і Ігар заліў гарачай вадой каву. Галіна ўзяла кубачкі, паставіла іх на газетны столік, села ў фатэль. Ігар таксама сеў, выцягнуў ногі, запаліў цыгарэту.

— Што ж, інтэрв'ю напісана, — задумліва сказаў ён. — Пытанні пастаўлены, адказы атрыманы. Гэта зразумела, гэта ў кадры. А што па-за кадрам?

— Вы хочаце сказаць, што зараз ваша чарга браць у мяне інтэрв'ю?

— Ты замужам? — замест адказу спытаў ён.

— Не.

— Дзіўна.

— Чаму?

— Проста дзіўна. Хацелася б паглядзець, каго ты выбераш сабе за мужа.

— Я ўсё ж такі пайду. — Галіна рашуча паднялася.

— Сядай, калі ласка, — сказаў ён.

Галіне раптам захацелася шпурнуць у яго чым-небудзь цяжкім.

— Мне здаецца, я тут не дзеля таго, каб абмяркоўваць праблемы майго замужжа.

— Вось ты і пакрыўдзілася. Але табе гэта толькі пасуе. Так ты яшчэ больш прыгожая.

Галіна рушыла да дзвярэй. Ён ускочыў з фатэля і схапіў яе за руку.

— Прашу цябе, заставайся! — У яго голасе чуўся такі адчай, што Галіна міжвольна спынілася. І зноў іх вочы сустрэліся, і яго позірк здзівіў яе сваёй бездапаможнасцю.

Што за дзіўны чалавек, крыху супакойваючыся, падумала яна. Чаго ён хоча? Ад каго ці ад чаго абараняецца?

— Я сапраўды не хацеў цябе пакрыўдзіць. — Ён усміхнуўся, і Галіна зноў адчула сябе нібы ў палоне. — Я, відаць, стаміўся. Не зважай. Сядай, калі ласка. Так, што я хацеў сказаць?.. — Ён наморшчыў лоб. — Чорт, вылецела. Дарэчы, — ён здзіўлена паглядзеў на яе, — ты першая жанчына, якая наведала гэты забыты богам прытулак.

— Я гэта зразумела.

— Праўда? А ты, відаць, кемлівая. — І раптам яго твар зноў зрабіўся адчужаным. — Паўгода таму назад у мяне была іншая кватэра. Светлая, чыстая, вялікая. А тут... тут я толькі начую.

— Гэта я таксама зразумела.

Ён зірнуў на яе з цікаўнасцю:

— Ты і сапраўды кемлівая?

— Гэта ад прафесіі.

— Добрая ў цябе прафесія. Хадзем на балкон.

Яна ўстала і пайшла за ім. Абапёршыся на парэнчы, ён задумёна ўзіраўся ўдалечыню.

— Запомні гэтую ноч. Яна кароткая. Хутка світанак. Наступіць цвярозасць, як пасля выпітага шампанскага. Любіш шампанскае?

— Люблю.

— Усе жанчыны аднолькавыя. — І зноў ён быццам аддаліўся, замкнуўся. — Раніцай ты будзеш іншая. Чужая, незразумелая. Будзеш належаць усім. І я пра цябе, магчыма, забудуся. А можа, і не. Буду сядзець у гэтай хаціне і чакаць, калі надыдзе ноч, буду чакаць цябе. І ты прыйдзеш... І будзеш толькі мая... — Ён рэзка павярнуўся і абняў яе за плечы. — Але ўсё роўна мы ніколі не пажэнімся.

— Зноў усё спачатку? — Галіна гнеўна ўскінула на яго вочы і тут жа адчула востры жаль. Здалося, што яна размаўляе з хворым, цяжка траўміраваным чалавекам. Хацелася сказаць яму што-небудзь ласкавае, добрае, але патрэбных слоў не было. А можа, яно так і лепш? Бываюць сітуацыі, калі словы лішнія.

— Глядзіце, глядзіце! — усклікнула яна. — Світае.

Неба святлела на вачах. Шэрая імгла разлівалася ў паветры, запаўняючы сабой усю прастору. У прыродзе адбывалася найвялікшая, неверагодная таямніца. І такімі ж неверагоднымі здаліся ёй гэтая сустрэча, гэты чалавек, што зараз абдымаў яе, іх незвычайны настрой. Няўжо і праўда з надыходам ночы ўсё пераменіцца?

Яна палажыла галаву яму на плячо.

— Ну вось, світае, а мы ўсё тыя ж. Хіба час вінаваты ў тым, што залежыць толькі ад нас? Ці не мы самі распараджаемся сваім лёсам?

— Маўчы! — Ён правёў пальцамі па яе твары і пацалаваў яе. Яна не адхілілася. Ён цалаваў яе ласкава, асцярожна, як цалуюць дзіця, але ёй здавалася, што ён сам шукае ў яе падтрымкі. Яна пагладзіла яго па галаве, і ён яшчэ мацней прытуліў яе да сябе.

— Сёння я адкрыў нешта незвычайнае... Незвычайнае для сябе. Нібы ў гэты дом уварваўся водар дзяцінства ці... Не, не ведаю, не буду гаварыць. Сёння я вельмі стаміўся і, можа, заўтра ні пра што не ўспомню... Але я хачу, каб ты ведала: такога ў мяне не было з ніводнай жанчынай.

Яна слухала, не перапыняючы. У глыбіні душы ведала, што зараз ён кажа праўду. І баялася варухнуцца, парушыць гэтую зачараванасць. Ёй хацелася запомніць кожнае імгненне, кожны яго рух, кожнае слова. Раптам ён адхіліўся. Яго цёмныя вочы сталі на дзіва халоднымі, і ён сапраўды здаўся ёй зусім стомленым.

— Вам трэба паспаць, — сказала Галіна.

— Бадай што... — згадзіўся ён.

Яны вярнуліся ў пакой. Галіна завесіла шторы, пакінуўшы адчыненымі балконныя дзверы, узяла кубачкі і падалася на кухню, каб памыць іх. Калі яна вярнулася, Ігар ляжаў у вопратцы на тахце і спаў. Некалькі хвілін яна глядзела на яго. Зараз твар у яго быў ясны, спакойны. Уздыхнуўшы, Галіна лягла побач, заплюшчыла вочы...

Раніцай, калі яна прачнулася, Ігар яшчэ спаў. Густыя чорныя валасы збіліся ў яго на лбе.

«Колькі ў іх сівізны!» — здзівілася Галіна.

Яна асцярожна ўстала, сабрала паперы. Восем гадзін. За паўгадзіны



яна паспее дабрацца да Стася. Дзіўна, але пасля амаль бяссоннай ночы яна адчувала сябе зусім бадзёрай. Зірнуўшы ў апошні раз на Ігара, Галіна рушыла да дзвярэй. І ў гэты момант ён расплюшчыў вочы.

— Гэй, журналістка! — гукнуў ён. — Я паслязаўтра еду. Можа, на тыдзень, можа, на два. Вярнуся — пазваню. Цябе дзе шукаць?

Яго самаўпэўнены тон абурыў яе, і яна ўжо збіралася сказаць у адказ што-небудзь колкае, крыўднае, але штосьці ў ягоным позірку зноў спыніла яе.

— На рабоце, — суха адказала яна і плечуком зачыніла за сабою дзверы.

## 3

Ігар прачнуўся ў дрэнным настроі, з адчуваннем, што праспаў не болей дзвюх гадзін. Цела ламала, галава расколвалася. Ці ён учора занадта выпіў, ці пачынаўся грып. Прыслухаўся. За вокнамі скавытаў вецер. Здаецца, на вуліцы зноў завея. Расплюшчыў вочы. Так, завея. Цёмна, быццам ужо вечар. А можа, і сапраўды вечар? Ён прыпадняўся, паглядзеў на гадзіннік. Не, толькі палова першай. Зноў апусціў галаву на падушку і заплюшчыў вочы. Калі ён учора лёг? А трэцяй гадзіне, чацвёртай? Поўны правал. З рэстарана выйшлі а палове дванаццатай, потым паехалі да Пашкі, потым... Што было потым, ён не памятаў. Здаецца, ён быў з нейкай дзяўчынай, ці яна засталася ў рэстаране? Так, яна хацела ехаць разам з ім, а ён сказаў ёй нешта грубае. Што, ён не мог прыгадаць. Дзіўна, што яго так развезла. Раней мог выпіць бутэльку гарэлкі і яшчэ працаваць. Гэта ўсё Пашкава «фірмовае». Ігар навобмацак пашукаў цыгарэты на тумбачцы. Пачак быў пусты. Ён са злосцю скамячыў яго і шпурнуў на падлогу. Пацягнуўся за попельніцай. Ніводнага прыстойнага недакурка. Ледзьве падняўся, пайшоў на кухню, выпіў шклянку вады, знайшоў дзве цыгарэты і зноў лёг.

Што ж учора ўсё ж такі было? Атрымалі камандзіровачныя, вырашылі адзначыць прыезд і дзень нараджэння Пашкі. Гэта ён добра памятае. І што ў рэстаране было, здаецца, таксама прыгадвае. Але потым? Куды знікла гэтая грудастая бландзінка? У яе былі ярка-чырвоныя вусны, а на шчоках нейкія бліскаўкі. Яны яго раздражнялі. Урэшце ён узяў сурвэтку і выцер ёй памаду, а разам з тым і бліскаўкі. Усе рагаталі. Потым ён сказаў, што яна падобна на Мерылін Манро, падразумяваючы яе вялізныя грудзі, а яна сказала, што ўсё жыццё марыла здымацца. «Хіба цябе кожны дзень не здымаюць?» — пакпіў ён. Да яе яго каламбур дайшоў не адразу, але яна не пакрыўдзілася. «Я вельмі здольная», — выразна прамовіла яна. «Я ў гэтым не сумняваюся», — працадзіў ён праз зубы, ацэньваючы яе клубы. Потым яна захацела ехаць разам з ім, а ён спытаўся, ці ёсць у яе даведка, што яна не хворая на СНІД. Так, усё было так. Ну ды чорт з ёй! Ігар са злосцю расціснуў цыгарэту і адразу ж адчуў палёгку, нібы гэтым жэстам расправіўся з бландзінкай.

Не, піць трэба кідаць. Здароўе ўжо не тое — сэрца шчыміць, ды і працаваць потым цяжка. Няма натхнення, няма ўлюбёнасці. Не ў бабу, зразумела, а ў карціну сваю. Першыя фільмы здымаў — па чатыры гадзіны ў суткі спаў, ды і тое дзеля таго, каб у галаве патрэбны вобраз нарадзіўся. Вобразы, яны заўсёды прыходзяць ноччу. Удзень пакутуеш, нешта шукаеш, сам знервуешся, другіх дапячэш, ад бяссілля, здаецца, можна павесіцца, а ноч-

чу ва ўзбуджаным мозгу раптам такое, такое ўзнікае, што хоць будзі ўсіх і здымай. І да самай раніцы ўжо не спіш, баішся забыць, згубіць хоць адну дэталь. А зараз, спі не спі, нічога ў думках не нараджаецца. Адно што прафесіяналізм і выратоўвае. Сумотна, стымула няма, сцэнарыя, які б, як жанчына, уразіў, захапіў, — няма. Шлюзы талентам быццам бы адчынілі, думалі: хлынуць, радзімыя, затопяць усё наваколле, сусветная паводка пачнецца, а іх усё роўна няма. Ды і адкуль ім узяцца, калі культуру на працягу дзесяцігоддзяў знішчалі?! Па кім вучыцца? З кім сябе параўноўваць? Жыць за сямю замкамі ў каменнай крэпасці і ствараць шэдэўры?! Ды хоць не шэдэўры, проста добрыя фільмы, каб перад сабой не сорамна было! Але хіба на зямлі, што ніколі не ведала гною, можа вырасці здаровае дрэва?!

Яшчэ ніколі, як ва Уладзівастоку, ён не адчуваў такой агіды да сваёй працы і да сябе. Калісьці таксама лічыў сябе таленавітым, спадзяваўся, што шэрыя фільмы здымаць не будзе. І напачатку шанцавала. А потым... Успомнілася, як тры гады таму на мастацкім савеце крытыкавалі яго фільм пра калгас, патрабуючы выкінуць усе рэалістычныя сцэны. І калі адмовіўся, фільм паклалі на паліцу, грошы не заплацілі. Два гады без работы... Што тут казаць? Згодзішся не толькі на шэрае, але і на бура-малінавае. Не, не будзе ніколі ідэальнага грамадства. Утопія. Барацьба амбіцый — вось выснова высноў.

Днямі сустрэў Асмаловіча. Патаўсцеў, шчокі з-за вушэй тырчаць, жывот з джынсаў вывальваецца. Дрэнны рэжысёр, а цвіце. Убачыў Ігара, расплыўся ва ўсмешцы.

— О, спецыяліст па падводных здымках вярнуўся! Чуў, чуў, як ты там за русалкамі ганяўся. Кажуць, цікавы матэрыял прывёз?

— Хвасты, — здзекліва адказаў Ігар, — начальству на сувеніры.

— Зайздрошчу табе, — быццам не пачуўшы здзеку, сказаў Асмаловіч. — Адпачыў ад нашага звадлівага жыцця. А тут... — Ён панізіў голас, — пертурбацыі, інтрыгі. З ранку да вечара засядаем, горла дзяром, кожны нешта даказвае, патрабуе, а справа ні з месца. Галоўнага рэдактара знялі. За непрадбачлівасць у рабоце з кадрамі. Ён сцэнарый маладога Белавуса адхіліў, а той, ужо не ведаю, якімі шляхамі, яго ў Маскве прыстроіў. Крык, шум! Зноў малады беларускі талент праз Маскву прабіваецца!

— Даўно трэба было гэта зрабіць, — суха адказаў Ігар.

Асмаловіч узяў Ігара пад локаць, адвёў да акна і зашаптаў:

— А новы — мужык нішто сабе, амерыканскага тыпу, усё ўсміхаецца. Кабеты па ім млеюць. На маю думку, у нашай справе ён мала цяміць, але да парад прыслухоўваецца. Баюся толькі, што акружыць ён сябе не тымі дарадчыкамі. Нам зараз трэба трымацца адзін аднаго. Разам пачыналі, разам і працягваць.

Ігар выслабаніў руку, усміхнуўся.

— А ты прапануй яму сябе на пасаду галоўнага дарадчыка.

Вочы ў Асмаловіча сталі жорсткія.

— Ты ўсё яшчэ плаваеш, Ігарок. А на беразе жывуць па іншых законах. І ты гэта хутка, вельмі хутка адчуеш. Мне што, мне зараз прапанавалі разам з палякамі карціну здымаць, так што я сябе на два гады наперад работай забяспечыў. А ты глядзі, каб не затрапятаўся, як твае русалчыны хвасты.

— Клапаціўся б ты лепш пра сябе, — рэзка сказаў Ігар.

А на наступны дзень у мантажную завітаў галоўны рэдактар. Паглядзеў зняты матэрыял, пакурыў разам з усімі, пажартаваў і, ужо калі збіраўся пайсці, запрасіў Ігара да сябе.



Ігар зайшоў да яго перад самым канцом работы.

— Хачу даць вам пачытаць адзін сцэнарый, — сказаў галоўны рэдактар. — А потым пагаворым. Сцэнарыст наш, Мігуля. Здымаць думаем сумесна з палякамі.

Ігар здзіўлена ўзняў на яго вочы. Ледзь не вырвалася: «А Асмаловіч?» Але змоўчаў, не стаў пытацца. Можа, Асмаловіч хлусіць, а можа, у галоўнага такая тактыка — дражніць усіх адной цукеркай?

— Чаго насупіліся? — спытаўся галоўны рэдактар. — Ці ў вас іншыя планы?

— Няма ў мяне ніякіх планаў, — хмура адказаў Ігар і больш лагодна дадаў: — Стаміўся.

Ён узяў са стала папку са сцэнарыем, пагартаў. Галоўны добразычліва назіраў за ім.

— Вы толькі не марудзьце. Тыдні праз два мы плануем паслаць рэжысёра і сцэнарыста ў Польшчу.

Ігар падняўся.

— Зразумеў. Праз тры дні зайду.

Ён выйшаў на вуліцу, вырашыў прайсціся да дому пешшу. Павольна церушыліся з неба сняжынкі, ветру не было, і мароз амаль не адчуваўся. На прыпынку тоўпіліся людзі, жанчыны нароўні з мужчынамі штурмавалі транспарт.

Навошта, падумаў Ігар. Навошта давіцца ў такое цудоўнае надвор'е? Куды спяшацца? Да каго? Бедныя жанчыны, ды кіньце вы вашы цяжкія сумкі, спыніцеся на імгненне, павыпроствайце плечы, падыміце галовы, адчуйце, як растаюць на вашых стомленых тварах гэтыя сняжынкі, як змываюць вашу касметыку і вяртаюць вам натуральнасць і прыгажосць!

Але на яго маўклівы заклік ніхто не адгукнуўся, і ён рушыў далей, здзіўляючыся свайму настрою.

Сцэнарый Ігар прачытаў тым жа вечарам і быў ашаломлены. Так, гэта матэрыял! Жудасны матэрыял! Але які можа атрымацца фільм! Зараз ужо ён баяўся, што сцэнарый аддадуць Асмаловічу. Хацеў адразу ж ісці да галоўнага рэдактара і ставіць кропкі над «і», але, памеркаваўшы, вырашыў не спяшацца. Сказаў: праз тры дні, значыць, праз тры. Заўтра ён да яго і завітае. Заўтра... Што будзе заўтра?

Ігар закурыў апошнюю цыгарэту. А галава ўсё роўна баліць, трашчыць, нібы нераспелы кавун. Ён падняўся, падышоў да тэлефона, набраў нумар свайго памочніка Сярожы.

— Вось што, Сяргей, прывязеш цыгарэты і лякарства.

— Ігар Сяргеевіч, — заныў Сярожа, — у такое надвор'е ў чарзе стаяць...

— Тады заедзеш да Пашкі.

— У Пашкі скандал з жонкай, яна мяне на парог не пусціць.

— Добра, — уздыхнуў Ігар, — піва купі. І давай хутчэй.

Ён павесіў трубку. Прайшоўся па пакоі, паглядзеў у акно. Мяце і мяце. Якое сёння чысло? Трынаццатае?! Ігар адчуў нейкі ўнутраны штуршок, і ў галаве раптам праяснілася. Гадавіна іх з Галкай вяселля. Ён сеў на тахту. Рукі дрыжалі. Забыў! Пра ўсё забыў! Раней у гэты дзень ён заўсёды дарыў ёй ружы. Ружы ўзімку, у гэтым быў асаблівы шарм. А сёння нават званіць не хацелася. Занадта цяжкай павінна была атрымацца ў іх размова, і ён яе ўвесь час адкладаў. Разумеў, што апошні канфлікт зацягнуўся, перарос у нешта большае, стаў прынцыповым. У такіх абставінах Галіна можа пайсці і на развод. А ён разводзіцца не хацеў, але і ўгаворваць

яе таксама не збіраўся. Паўгода — дастатковы тэрмін, каб кожны абдумаў свае паводзіны. Колькі разоў казаў: не падабаецца што — скажы. Дык не, затоіцца, маўчыць. ці зачыніцца ў кухні і паўночы стукае на машынцы. Шклянку чаю выпіць няможна.

Ну, засталіся сябры ў яго начаваць! Ну і што?! Ці ў першы раз? Ёсць жа, нарэшце, традыцыі, і не яму іх адмяняць! Раней у такіх выпадках не скандаліла. Кемлівая была. А цяпер... Што ён, кожны дзень п'е?! Ну, завітаюць часам сябры, прынясуць сухача ці піва. Ну дык што?! Алкаголікам адразу ж абражаць?! І наогул, папярэджваць трэба, калі з камандзіровак вяртаешся. Хоць бы сустрэў, а то бадзяецца па начах адна. А калі здарыцца што, хто будзе вінаваты? Вядома, ён. Як жа, жонку не сустрэў.

Што за жыццё? Вар'яцкі дом. І быццам усе прагнуць шчасця. Што перашкаджае Галіне быць нармальнай жонкай? Прыгожая, зграбная, на арабку падобная. Валасы чорныя, як варанячае пер'е, вочы празрыстыя блакітныя, то гарэзлівыя, як у сіямскай кошкі, то даверлівыя, безабаронныя. Ідзеш разам з ёю па вуліцы — мужчыны азіраюцца. Здаецца, радуйся таму, што бог даў. Не, мала. Мэта жыцця — вялікай журналісткай стаць. І не разумее, што мужчын не спакушаюць подзвігамі на рабоце. І тыя мінуты, калі ён быў на ўсё гатовы дзеля яе, звязаны зусім з іншым.

...Яны ў Вільнюсе, у сябра Ігара па інстытуце кінематаграфіі Уладаса. Едуць у машыне на Тракайскія азёры. Моцна пячэ праз шыбы залацістavогненнае сонца. Сонечныя зайчыкі скачуць па валасах Галіны. Усім надзвычай весела. Уладас сядзіць за рулём, расказвае анекдоты з інстытуцкага жыцця. Ён гаворыць сур'ёзна, з акцэнтам, і ад гэтага ўсе яшчэ больш заходзяцца ад смеху.

— А ведаеш, Галачка, як нам твой Ігарок харч здабываў? — пытаецца Уладас.

— Не, раскажы, — смяецца Галіна.

— Ну, ты, напэўна, ведаеш, што такое галодны мужчына. Але ты не ведаеш, што такое пяць вечна галодных маладых ілбоў, асабліва перад стыпендыяй. Дык вось, ляжым мы неяк у нірване, пустымі жыватамі да жалезных ложкаў прыраслі, апошнюю лусту хлеба дзве гадзіны таму як з'елі, кішкі пахавальны марш іграюць. І тут вяртаецца з чарговага спаткання гэты аптыміст. Па паху вызначаем: у Тамарачкі ў «Арагві» пабываў, чахахбілі еў. Нам бы яго пустымі бутэлькамі закідаць, дык усе бутэлькі тры дні таму здалі. Адну пагарду выказаць і засталося. А ён весяліцца: «Хочаце, браткі, я вас усіх накармлю?» «Ну, — думаем, — зусім сумленне страціў, біфштэкс перасмажаны». А ён шась за дзверы. Прыходзіць да дзяўчат, а тыя аладкі пякуць. Ён пакруціўся крыху і кажа: «Хочаце, дзяўчаты, я вам карціну Пярова «Гракі прыляцелі» ў натуры пакажу?» — «Хочам!» — адказваюць. Тады ён зноў за дзверы. Прыбягае да нас, крычыць: «Хапайце, браткі, талеркі і лыжкі і строем за мной!» Мы толькі пераглянуліся і за ім. Каля пакоя дзяўчат пастроіў ён нас у шарэнгу, расчыніў шырока дзверы і ўрачыста аб'явіў: «Гракі прыляцелі!»

— Ну, Ігар, ну, малайчына! — пляскае ў далоні Галіна і весела смяецца, а яшчэ праз імгненне туліцца да яго і ціха шэпча: — Я так кахаю цябе, што ў мяне ад шчасця галава кругам ідзе.

І ў яго кругам ідзе галава, і ён адчувае сябе бязмежна шчаслівым. А потым яны гуляюць па беразе возера, ходзяць па старадаўняму замку. Галіна ў ботах на высокіх шпільках. Яна ўсё часцей спатыкаецца, спыняецца, потым садзіцца на каменныя прыступкі і жалабна кажа: «Я больш не магу». І ў гэты момант яна выглядае такой слабай, безабароннай, што ён бярэ яе на рукі і нясе да машыны, а Уладас здымае іх у гэты час на слайды.

Не, немагчыма зразумець жанчыну. Хіба ён самы горшы муж? І дапамагае, па магазінах ходзіць, і грошы ўсе аддае. Зрэшты, грошай ім ніколі не хапала. Занадта вялікімі былі перапынкі паміж карцінамі, занадта паглыналі камандзіроўкі. І на апошнюю карціну ён згадзіўся толькі дзеля таго, каб зарабіць. Цудоўна разумеў, што са сцэнарыя, які яму падсунулі, добрай карціны не атрымаецца. На гэтай падставе пасварыліся з Галінай. Яна вырашыла, што ён узяўся за карціну, каб паехаць ва Уладзівасток, а ён хацеў купіць ёй дублёнку. Але пра свае меркантыльныя інтарэсы лічыў за лепшае маўчаць. Бо для яе быў важны толькі яго поспех. І можа, таму ён даражыў ёю і разводзіцца да гэтага часу не збіраўся. Але цяпер... Мала ці што яна магла выкінуць за гэты час.

Успамін пра Галіну даканаў яго. Хацелася на каго-небудзь накрычаць, пабіцца, разбіць што-небудзь. І калі зазваніў тэлефон, ён насілу падняўся, зняў трубку і раўнуў:

— Гаварыце!

— Я табе ўсё скажу, толькі не зараз, — пачуў ён голас Галіны.

## 4

Кафэ толькі што адчынілася, і людзей у зале было няшмат. Галіна села за столік у невялікай нішы, якая была абабіта цёмна-карычневымі драўлянымі панелямі. Два круглыя ярка-жоўтыя бра на сцяне, нібы вочы нейкае птушкі, стоена пазіралі на залу. Ціха іграла музыка, мігацелі пад столлю каляровыя ліхтарыкі. Месца для закаханых, падумала яна. Але ці ёсць яны тут, закаханыя?

Галіна агледзелася. У другім кутку залы, каля акна, сядзела немаладая ўжо пара, відаць, муж і жонка. Дзве дзяўчыны-студэнткі ў аднолькавых вязаных шапачках засяроджана гарталі нейкі канспект. Высокі, шыракаплечы мужчына ў скураным пінжаку і дымчатых акулярах чытаў «Вячэрні Мінск». Яны чакалі мо хвілін пятнаццаць, але афіцыянткі, як заўсёды, не спяшаліся.

Галіна патрымала і адклала меню: Ігар спазняўся, а можа, ён і наогул не прыйдзе? З яго станецца. Яна адчула, што зноў пачынае нервавацца.

Колькі разоў за апошнія шэсць месяцаў яна спрабавала ўявіць сабе гэтую сустрэчу, колькі разоў у думках размаўляла з ім. Чула свае словы, простыя, дасціпныя, чула яго блытаныя адказы. І хоць кожны раз гэтыя сустрэчы праходзілі па-рознаму, канец быў заўсёды адзін: яны застаюцца разам.

Але ў апошнія дні ў шчаслівы канец яна больш не верыла. Была амаль упэўнена: шэсць месяцаў, што яны не бачыліся, паскорылі ў геаметрычнай прагрэсіі распад іх адносін.

Галіна ўжо шкадавала, што прызначыла гэтую сустрэчу. Яна паглядзела на немаладую пару, якая цярпліва чакала афіцыянтку. Сівая жанчына з хлапчуковай кароткай стрыжкай, у тонкім бежавым світэры з каўняром-стойкай. Мужчына гадоў на пяць старэйшы, такі ж сівы, таксама з кароткай стрыжкай, у шэрым твідавым пінжаку і блакітным пуловеры. Падобныя не толькі прычоскамі, але і манерамі, выразам твару, яны, здавалася,

 

былі ў зале адны. За іх жэстамі, стрыманымі, поўнымі годнасці і павагі, таілася такая ўзаемная пяшчота, што Галіна нават пазайздросціла. І, нібыта спрабуючы адкрыць для сябе таямніцу чужога шчасця, уважліва пачала сачыць за гэтай парай.

Цёмна-вішнёвыя шторы на вокнах паглыналі дзённае святло, стваралі ў кафэ атмасферу заспакаення, даверу. І калі б не снег на вуліцы, лёгка было б уявіць, што зараз летні вечар, ціха плёскае за вокнамі мора, а гэтыя двое на схіле дзён гартаюць ва ўспамінах старонкі свайго кахання.

Мужчына ў дымчатых акулярах таксама з цікавасцю назіраў за немаладой парай. І калі Галіна сустрэлася з ім позіркам, па-змоўніцку ёй падміргнуў. Выгляд у яго быў прыемны, хіба што крыху фанабэрысты, як у чалавека, які прывык да высокіх пасад.

— Цікава? — напаўголасу спытаўся ён і адклаў газету.

— Хутчэй зайздросна, — міжволі вырвалася ў Галіны.

— Вам і зайздросна?! Такая маладая, прыгожая... — Яму, відаць, карцела пазнаёміцца.

Але ў гэты час у дзвярах паказаўся Ігар. І Галіна раптам адчула нёадольнае жаданне кінуцца яму насустрач, прыпасці да ягоных грудзей і забыцца, пра ўсё забыцца — пра гэтыя шэсць месяцаў разлукі, пра бяссонныя ночы, пра слёзы ў падушку, пра ўсе свае крыўды і сваю рашучасць быць гордай і стрыманай да канца. Вялікім намаганнем волі ўзяла сябе ў рукі. І калі яна навучыцца валодаць сабой?!

Ігар агледзеўся, убачыў Галіну і хутка падышоў да яе століка. Сеў, нядбайна адкінуўся ў крэсле, прыжмурыўся, разглядаючы яе. На ім былі новыя штроксы і белы пушысты світэр з чорнай палоскай. Але ж, прыбраўся, калі ішоў да яе.

— Доўга чакаеш? — спытаўся, быццам яны толькі ўчора рассталіся.

— Не, не вельмі, — Галіна ўжо супакоілася.

Яго валасы былі мокрыя ад снегу, пад карымі вачыма — цёмныя мяшкі, твар расчырванеўся ад марозу. Ігар дастаў з кішэні насоўку, абцёр лоб, прыгладзіў рукой валасы.

— Мог бы і прычасацца, — сказала Галіна.

Ігар не адказаў, уважлівым позіркам абвёў напаўпустую залу, а Галіна сачыла, ці прывабіць яго ўвагу немаладая пара. Не, толькі зірнуў на іх, потым узяў меню, хутка прагледзеў першую старонку.

— Ты ўжо снедала?

— Снедала?! — абурылася Галіна. — Калі?

Поўная афіцыянтка ўзяла заказ у мужчыны ў дымчатых акулярах і нарэшце падышла да іх століка. Спынілася каля Ігара, дастала з кішэні блакнот, аловак і, як аўтамат, прамовіла:

— Біфштэкс з яйцом, шніцэль па-міністэрску...

— Біфштэкс з яйцом, шніцэль па-міністэрску...

— Кавы, — у тон яму сказала Галіна. — Каўнік.

Упершыню за гэты час ён, нарэшце, з цікаўнасцю паглядзеў на яе.

— Ты што, есці не будзеш?

— З табой, мой мілы, я магу і тыдзень каліва ў рот не браць. Вельмі зручна для сямейнага бюджэту.

Твар афіцыянткі перастаў здавацца акамянелым, яна з іранічнай усмешкай глядзела на іх.

— Прынясіце ёй што-небудзь, — папрасіў Ігар, — цукерак, піражнае.

Афіцыянтка моўчкі кіўнула і адышла.



Вось і ўсё сказана, падумала Галіна.

— Два тыдні, як вярнуўся, а кожную ноч бачу мора і параходы. І хістае, хістае, — задумліва сказаў Ігар. — Якія былі падводныя здымкі! — Яго вочы раптам загарэліся. Калісьці такімі ж вачыма ён глядзеў і на яе. — Апускаліся разам з вадалазамі...

Ну, але, пачалося... Галіна нахіліла галаву над сталом. Падводныя лодкі, караблі, пагранічнікі, засвечаная кінастужка... Толькі ён, усюды ён, яго жыццё, яго работа, і нідзе няма месца для яе. Нават шчыліначкі.

Яна не слухала, што ён гаворыць. Глядзела пільна на яго і адчувала, як сэрца разрываецца на кавалкі. Зблажэў, твар абветраны, стомлены. Паглыбелі зморшчынкі ля вачэй, рэзка выступілі скулы. Злева знізу не стае зуба. Але наогул выгляд незалежны, задаволены. Відаць, і праўда, яна яму больш не патрэбная.

Афіцыянтка прынесла піва, каўнік, цукеркі і два піражныя. Адкаркавала адну бутэльку, паставіла перад Ігарам.

— Табе наліць? — спытаўся Ігар.

— Паўбакала.

Ён асцярожна напоўніў яе бакал па самыя берагі пушыстай белай пенай, потым наліў сабе.

— За сустрэчу, — сказала Галіна.

— За сустрэчу, — задумліва паўтарыў ён.

Яны моўчкі пілі, не гледзячы адно на аднаго. Размова не клеілася.

— А зуб ты часам не ў сутычцы з кітом страціў? — нявесела пажартавала Галіна.

— Ды не, разбалеўся, лячыць не было калі...

Галіна адставіла пусты бакал, наліла ў кубачак кавы.

— Цудоўны нацюрморт: піва, кава, цукеркі, піражныя, — сказала яна, абы нешта сказаць, абы абарваць гэтае шчымлівае маўчанне.

Але ён прамаўчаў. Галіна паглядзела на немаладую пару: абое нетаропка пілі чай.

— Хочаш, падкажу тэму для невялікай навелы? Назавеш яе «Двухгалоссе». У ёй будзе зусім мала слоў, адны рухі, жэсты і міміка. І Каханне — з вялікай літары. Вялікае каханне.

— Не трэба. Каханне, жанчыны — усё гэта мінулася. Справай, справай займацца трэба.

— Як хочаш. А дарэмна, было б цікава.

Кафэ паволі запаўнялася. І пачуццё адарванасці ад свету таксама паволі знікала. Новыя людзі, афіцыянткі, якія ўжо снавалі сюды-туды, пахі ежы парушалі нядаўнюю атмасферу інтымнасці.

— Скажы, — Галіна ўся напружылася, — ты хоць зрэдку ўспамінаў пра мяне?

Ігар падліў сабе піва ў бакал.

— Не, не было калі. Працаваў шмат.

На вуліцы пачалася завіруха. І ад павеваў ветру цёмна-вішнёвыя шторы на вокнах надзімаліся і рабіліся падобнымі на ветразі. Пунсовыя ветразі. Але ўсё роўна за вокнамі было ўжо не мора.

Галіна кінула ў каву драбок цукру, маленькай лыжачкай пачала расціскаць яго, пакуль не адчула, як цукар мякчэе і растае.

— Праз дзесяць дзён ад'язджаю ў Польшчу. Будзем здымаць сумесны фільм. Мігуля натрапіў у архівах на такія дакументы аб вайне, пра якія наогул ніхто не ведае. Жудасныя...



 

Галіна прыўзняла галаву і заўважыла, што мужчына ў дымчатых акулярах уважліва глядзіць на яе. Яна не адвяла вачэй, і ён па-змоўніцку ўсміхнуўся. Зубы ў яго былі белыя і роўныя, нібы ўстаўныя. Галіне зрабілася смешна, і яна ўсміхнулася ў адказ. Ігар змоўк, здзіўлена назіраючы за ёй.

— З чаго ты смяешся?

— Я не смяюся, а ўсміхаюся.

Ёй раптам стала ўсё абыякава: і гэтая недарэчная сустрэча, і пустая размова, і Ігар, які сядзеў перад ёй, — муж па дакументах і невядома хто напраўдзе. Чалавек, праз якога яна сапсавала сабе столькі нерваў, што пра гэта было страшна ўспамінаць.

— Ігар, — стараючыся ўсё ж здавацца спакойнай, сказала яна, — я лічу, што нам трэба аформіць развод.

Рука, што трымала бакал, міжволі ўздрыгнула, і Ігар паставіў бакал на стол.

— А я табе краба прывёз. Маленечкага. — Ён палез у адну кішэню пінжака, потым у другую. — Чорт! Відаць, у куртцы пакінуў. І цыгарэты таксама.

— Тут усё роўна не кураць.

Але ён хапатліва працягваў корпацца ў кішэнях. Потым пачаў выкладаць з іх на стол усялякую драбязу. Галіна заўважыла валідол і заклапочана зірнула на Ігара. Раней ён ніколі не скардзіўся на сэрца, а прыняць таблетку для яго было немагчыма. Яна прыгадала, што некалькі месяцаў назад памёр ад сэрца адзін з яго лепшых сяброў, аператар-пастаноўшчык. Паехаў на здымкі і там... Колькі ж яму было? Гадоў сорак пяць. Жонка потым казала, што на сэрца ён ніколі не скардзіўся. А можа, утойваў хваробу? Гэта быў у яго трэці шлюб, і жонка стала ўдавою зусім маладзенькая. Напэўна, ён спадзяваўся жыць доўга. Доўга і шчасліва. А ці бывае шчасце доўгім?

Завіруха, што ўсё мацней усходжвалася за вокнамі, паглынула ўсё святло, і ў кафэ зрабілася зусім цёмна. Ігар, так і не знайшоўшы краба, пачаў распіхваць па кішэнях свае дакументы, блакноты, паперкі з нейкімі запісамі, нумарамі тэлефонаў. Твар яго быў задумлівы, засяроджаны — звычайны твар, з якім, бывала, ён браўся за работу. І калі б не гэтая хапатлівасць, яна б ніколі не здагадалася, што ён хвалюецца. Хвалюецца! Але, пэўна ж, не ад таго, што можа страціць яе, а ад нечаканасці. Ён настолькі звыкся з яе каханнем, з яе адданасцю...

Чаму ён, рэжысёр, думала Галіна, чалавек, які патрабаваў ад акцёраў дакладнай логікі ў паводзінах, чаму ён ніколі не імкнуўся зразумець яе? І што прываблівала яе да гэтага чалавека, якога цяжка назваць прыгожым, але ў якім столькі незалежнасці, упэўненасці, што часам карцела заплюшчыць вочы, адчуць сябе проста слабай жанчынай і пайсці за ім услед. Услед за сапраўдным мужчынам. Сапраўдным? Галіна нявесела ўсміхнулася. Хто, як не яна, ведаў, якім слабым мог быць гэты сапраўдны мужчына. Але нават гэтым ён толькі мацней прываблівае. І ўсё ж жыць, як раней, яна болей не магла.

Зноў яны маўчаць. Ён невялічкімі глыткамі п'е піва. Яна малюе пальцам на паліраванай паверхні стала нейкія ўзоры. Сэнс іх сустрэчы хоць і павольна, але даходзіць да яго.

— У цябе нехта ёсць? — нарэшце пытаецца ён.

«Нехта ёсць». Да чаго ж зручная формула! Варта толькі з ёю пагадзіцца, і ўсё — сутнасць канфлікту ўмомант мяняецца. Прычына знойдзена, прычына — не ён, прычына — трэцяя асоба.



Галіна адмоўна круціць галавою. Не, мой мілы, прычына — у нас саміх, толькі наўрад ці ты яе дашукаешся. Гэта ж не фільм, дзе ты не супакоішся, пакуль не раскрыеш збольшага душы сваіх герояў, гэта ж канкрэтная сітуацыя. Ты і я, як тыя двое, на якіх ты нават не зірнуў.

— Ну што ж, калі ты вырашыла... — сказаў ён.

Бач: яна вырашыла! А ён убаку, ён — чужы чалавек.

— Я не вырашыла, а падвяла рысу пад тым, што ў нас з табой адбываецца, — павольна прамовіла яна. — Мы нібы за падвойным шклом — і разам, і паасобку. У кожнага сваё жыццёвае поле, а тое, што адбываецца на суседнім, нікога не цікавіць, дакладней кажучы, не нікога, а цябе. Стукаешся, стукаешся, і ніякага адказу. Я не патрэбна табе. Лялька, якую трымаюць у кватэры дзеля інтэр'еру.

Ігар здзіўлена паціснуў плячыма.

— Зусім звар'яцела! Калі гэта я ставіўся да цябе як да лялькі? Праўду кажуць, бабы ўсе аднолькавыя. Абы валіць з хворай галавы на здаровую! — Ён стомлена адкінуўся на спінку крэсла. — Ды да цябе не ведаеш, як падступіцца. Усё на нерве, з ранку да вечара ў сваёй рэдакцыі, дадому прыйшла — адразу на тэлефон. Разагнала ўсіх маіх сяброў...

— Няўжо ўсіх? — пакпіла Галіна.

— Цяпер жа ў нас з Сярожам спакойна, а абед я і сам як-небудзь згатую.

— Дык Сярожа зноў жыве ў цябе? — не стрымалася Галіна.

— У яго з бацькамі новы канфлікт, — неахвотна адказаў Ігар.

— Ну ведаеш, ад тваёй дабрыні звар'яцець можна...

Дагаварыліся! А яна ж не хацела, каб іх размова ператварылася ў сямейную спрэчку.

Галіна паднесла да рота кубачак з астылай кавай і зноў сустрэлася позіркам з мужчынам у дымчатых акулярах. Той ужо даўно скончыў снедаць, але пайсці не спяшаўся, знарок марудзіў.

«Можа, пакакетнічаць? — падумала Галіна. — Папсаваць нервы мужу на развітанне?» І Галіна нібы неўпрыкмет кіўнула мужчыну галавой.

Ігар павярнуўся, запытальна паглядзеў на мужчыну, потым моцна сціснуў Галіне руку.

— Здаецца, мы з табою яшчэ не разышліся! А гэтаму тыпу я хутка паб'ю акуляры.

Галіна, іранічна пасміхаючыся, вызваліла руку. Як заўсёды! Толькі ў такія хвіліны яна адчувала, што ён не зусім раўнадушна ставіцца да яе. Але хіба рэўнасць доказ кахання? Зняважанае пачуццё ўласнай годнасці, толькі ўсяго.

— Ты так і не адказаў: згодзен ці не? — зноў спыталася яна.

— Ты ж усё вырашыла. Ты ж разумная. Гэта ў цябе ад прафесіі, — згадаў ён словы, якія яна сказала ў першы вечар іхняга знаёмства, і з іроніяй паглядзеў на яе.

— Не будзем пачынаць усё спачатку, — ціха прамовіла яна.

— Спачатку ўжо нічога не пачнеш. — Твар у яго зрабіўся сур'ёзным. — Толькі даруй, ні ў які загс ці суд я не пайду.

— Як сабе хочаш. Але мне патрэбна пасведчанне. А яно ў цябе.

— У мяне? — здзівіўся Ігар.

— У тваёй кватэры, — удакладніла Галіна.

— Я заўтра еду ў камандзіроўку.

— Тады дай мне ключы, я сама яго знайду.

Ігар дастаў з кішэні нізку ключоў, аддзяліў адзін з іх і кінуў на стол. Галіна міжволі ўсміхнулася.

— Як заўсёды, носіш запасны пры сабе?

Але ён не адказаў. Падышоў да афіцыянткі, разлічыўся і выйшаў, моцна штурхнуўшы плячом дзверы.

Вось і ўсё, з сумам падумала Галіна. Яна ўявіла, як ён ідзе зараз па вуліцы, пад снегам, без шапкі, адзінокі, спустошаны, і ёй да слёз стала шкада яго, сябе. І каб не расплакацца, яна абхапіла галаву рукамі, моцна сціснула далонямі скроні і зажмурылася. Усё добра, усё правільна, усё мінецца, забудзецца. Лепей перахварэць каханнем адзін раз, чым пакутаваць усё жыццё. Раптам адчула, як нехта крануў яе за плячо. Расплюшчыла вочы. На месцы Ігара сядзеў мужчына ў дымчатых акулярах, і гэта ёй зараз здалося ледзь не кашчунствам.

— Пасварыліся? — спачувальна спытаўся ён.

— Што вам трэба? — Яна ўжо забылася, як перамігвалася з ім.

— Я магу вам чым-небудзь памагчы?

— Ды адчапіцеся ад мяне! — выгукнула яна, схапіла сумку і пабегла да выхаду.

## 5

Да Ігара Галіна паехала праз некалькі дзён. Падняўшыся на ліфце на сёмы паверх, яна падышла да дзвярэй, прыслухалася. Музыка. Значыць, Ігар дома. Можа, і не адзін. Сустракацца з ім яшчэ раз не хацелася, але і адступаць было позна.

Дзверы адчыніў Сярожа. У свае дваццаць шэсць гадоў ён ужо адслужыў у арміі, змяніў тры інстытуты і нарэшце асталяваўся на кінастудыі. Ігару Сярожа чымсьці спадабаўся, і той пачаў браць яго з карціны ў карціну. На студыі Сярожу так і звалі: «З трыма вышэйшымі». На свае гады ён выглядаў занадта інфантыльным, часта бянтэжыўся і ўсім імкнуўся дагадзіць. Ці не за гэтае яго і цярпелі? Сярожавы бацькі сынавых бадзянняў не разумелі, а ягонае імкненне да мастацтва наогул лічылі блазенствам, і дома ў іх ішла бясконцая вайна.

Убачыўшы Галіну, Сярожа радасна заўсміхаўся, замітусіўся вакол яе, дапамог зняць паліто.

— Ігар Сяргеевіч казаў, што ты прыйдзеш.

— А што, ён не ў камандзіроўцы?

— Не, зараз жа агучванне. — Сярожа не разбіраўся ў тонкасцях іх адносін і пра ўсё гаварыў шчыра, як на споведзі.

— А ты, як заўсёды, на падсяленні?

— Ды не, — трохі збянтэжыўся Сярожа. — Ігар Сяргеевіч сам прапанаваў у яго пажыць.

Потым яны пілі чай, і ёй зноў прыйшлося выслухаць падрабязны расказ пра здымкі ва Уладзівастоку.

— Сёлета буду паступаць, — сказаў Сярожа.

— На рэжысёрскі? — пацікавілася Галіна, стараючыся схаваць іронію ў голасе. Ігар аднойчы сказаў, што рэжысёр з Сярожы наўрад ці атрымаецца — мала дапытлівасці.

— Не, на аператарскі. Ігар Сяргеевіч лічыць, што ў мяне атрымаецца.



— Ігар Сяргеевіч лічыць... — перадражніла Галіна. — А свая думка ў цябе ёсць?

— Вядома, — апусціў вочы Сярожа. — Цікавая работа.

— Цікавая, цяжкая, няўдзячная. Колькі эпітэтаў адразу, цябе гэта не здзіўляе?

Сярожа пацiснуў плячыма:

— Чаму няўдзячная?

— Таму што ў выніку ўсе лаўры пажынаюць рэжысёры.

— Ну ты і скажаш, — не згадзіўся Сярожа. — Добры аператар на вагу золата.

— Так, на вагу золата, пакуль здымаецца фільм. А як скончылі, дык пра яго і забыліся. Ніколі не забуду, як Паша Смірніцкі выцягнуў карціну Асмаловіча і як Асмаловіч тут во, за гэтым сталом, у вечнай любові да Пашы кляўся. А на прэм'еры? Асмаловіча ўсе віншуюць, рукі ціснуць, лезуць з пацалункамі, а Паша ў нейкім закуточку сядзіць, курыць, попел гэтак культурненька ў сметніцу страсае і сам сабе ўсміхаецца. Глядзець моташна! Быццам ніхто не ведае, што без Пашы ў Асмаловіча ўсе акцёры са здымачнай пляцоўкі паўцякалі б!

— Паша не прападзе, — сказаў Сярожа.

— Я не пра Пашу, я пра аператараў наогул і пра чалавечую падзяку ў прыватнасці.

Сярожа раптам рашуча выпрастаўся.

— Мне трэба ісці.

— Куды? — здзівілася Галіна. — Ты, мусіць, мяне спужаўся?

— Ды не, мне трэба. Праўда, трэба, — паўтарыў ён. — А ты б заставалася. — Сярожа ўпершыню адкрыта паглядзеў ёй у вочы, і Галіна зразумела, што ён усё ведае.

Калі дзверы за Сярожам зачыніліся, Галіна прайшлася па кватэры, зазірнула ва ўсе шуфлядкі. Як бы Ігар ні казырыўся, а ў халадзільніку пуста, пад ваннай — нямытая бялізна, у шафе — пакамечаныя кашулі. Галіна ўключыла прайгравальнік, паставіла пласцінку Джо Дасэна і падышла да акна.

Мокрыя шэрыя сняжынкі нячутна біліся аб шыбы і, павольна асядаючы на ліштвы, ператвараліся ў бясформенныя шэрыя камячкі. Да чаго ўсё шэра, маркотна, тужліва, падумала Галіна. Адны шэрыя будні. Прыйдзеш з работы, уключыш тэлевізар, адшчыкнеш кавалачак ад чужых радасцей ці гора і — спаць, не пакінуўшы ні кроплі эмоцый для сваіх блізкіх. І гэтак з дня ў дзень, год за годам, не агледзішся, як жыццё і праміне. Хоць бы ўспомніць што-небудзь прыемнае, але што?

Галіна падышла да пісьмовага стала, выцягнула верхнюю шуфлядку. Дзе ж пасведчанне? Раней яно заўсёды было тут. Дастала з-пад старой газеты, што закрывала дно шуфлядкі, вялікі белы канверт. Фотакарткі... Нешта напаўзабытае варухнулася ў памяці. Ігар каля гасцініцы, у якой яны жылі тым летам, калі яна ўпершыню прыехала да яго на здымкі. Калі ж тое было? Амаль чатыры гады таму. Галіна села ў фатэль, пачала разглядаць фотакарткі, успамінаючы сваё падарожжа.

## 6

...Дажджы, што няспынна лілі два тыдні, раптам аціхлі і змяніліся апракметнай спякотай. Супрацоўнікі рэдакцыі падзяліліся на два лагеры.

Тыя, што ішлі ў адпачынак, радаваліся жыццю. Тыя, што заставаліся, з нецярплівасцю чакалі выхадных, каб хутчэй вырвацца са змучанага сонцам горада. Хацелі браць па чарзе адгулы — за зіму іх назбіралася нямала, — але рэдактар адгулаў не даваў. І калі ён абвясціў, што ідзе ў адпачынак, Галіна падумала, што лёс злітаваўся над ёй.

Ігар быў у экспедыцыі і ўжо месяц зваў яе ў госці. Ён званіў з гасцініцы (за кошт карціны) кожны дзень у шэсць гадзін раніцы і роўна ў поўнач. Ігар здымаў тым летам сваю трэцюю карціну. Карціна была складаная, сцэнарый недароблены, і Ігар увесь час нерваваўся, лаяўся са сцэнарыстам, прымушаючы таго перапісваць сцэнарый.

— Кіно не тэатр, — казаў Ігар. — У кіно ўсё іграе: і зямля, і неба, і спіна героя. Навошта мне гэты набор слоў, калі тую ж думку я магу давесці да гледача іншым спосабам? — І ён тут жа пачынаў расказваць, як яму бачыцца тая ці іншая сцэна.

Яго апісанні былі такія вобразныя і так захаплялі, што Галіна толькі здзіўлялася, чаму гэты сцэнарыст упарціцца, калі і так усё ясна. Нарэшце, выматаўшы ўсім нервы, сцэнарыст здаўся і, праклінаючы той дзень, калі звязаўся з кінастудыяй, паехаў у санаторый загойваць душэўныя раны, а Ігар прыступіў да «латання ран» у сцэнарыі.

Апошнія дні званіў, праўда, не ён, а Сярожа, які сказаў, што Ігар Сяргеевіч на натуры, а на натуры няма тэлефона, і таму звоніць ён, Сярожа, каб Галіна не хвалявалася. А чаму яна павінна хвалявацца? Дык жа ўсе пахварэлі. Ад чаго? Ад кансерваў і мясцовай ежы... Ігар Сяргеевіч? О, ён адчувае сябе вельмі добра, бо галадае. Чаму галадае? Грошы скончыліся. Дажджы ж ішлі, а дажджлівага надвор'я ў сцэнарыі не было, вось два тыдні і чакалі, калі дажджы скончацца. А калі сядзіш без працы, сама ведаеш...

З гэтай блытанай размовы Галіна зразумела, што грошы прапілі, пакуль ішлі дажджы, а цяпер, вядома, галадаюць.

Прыйшоўшы ў чацвер з работы дамоў, Галіна дастала вялікую сумку, паклала туды дзве палкі сухой каўбасы, тры банкі тушонкі, якую прывезла Алена Русаковіч, каб беларускі кінематограф не аслабеў, запякла дзве курыцы і падалася на вакзал.

Начны вакзал быў як у ліхаманцы. Усе кудысьці спяшаліся, мітусіліся, сутыкаліся і толькі каля білетных стоек аддыхваліся, становячыся ў доўгую чаргу.

Галіна выбралася з натоўпу, моцна трымаючы ў руках білет. «Усю ноч трэсціся ў агульным вагоне, — з жахам думала яна. — Можа, вярнуцца, паехаць заўтра?» Яна нерашуча апусцілася на лаўку. Ад цяжкай сумкі шчымелі далоні. Галіна асцярожна падзьмула на іх. Якая ж яна бездапаможная! А ён чакае...

Галіна ляжала на багажнай лаўцы, паклаўшы пад галаву вятроўку. А за акном плыла цемра. І ў гэтай цемрадзі было нешта змоўніцкае, сяброўскае. І Галіне здавалася, што ў цемры таксама ёсць свая радасць, ёсць свой світанак. Яшчэ колькі гадзін — і яны сустрэнуцца, зліюцца на імгненне, зажывуць адным жыццём, а потым разбягуцца, каб сустрэцца зноў.

«Ён, пэўна, прышле па мяне машыну, з кветкамі», — марыла яна ў паўдрымоце і амаль не адчувала рэзкіх штуршкоў цягніка.

...7 гадзін раніцы. Вецер даўно развеяў ранішні паўзмрок і цяпер забаўляўся тым, што ганяў па пероне брудныя паперкі і недакуркі. На сметніцах радаваліся жыццю тлустыя мухі. Каля цыстэрны з півам сабралася невялікая чарга. Яе ніхто не сустракаў. Галіна стаяла каля масіўных вакзальных дзвярэй, азіраючыся па баках. Першае жаданне — вярнуцца. Назаўсёды. Але цягнікоў у той бок не было. Яна пакорпалася ў кашальку, дастала дзве капейкі і зачынілася ў тэлефоннай будцы.

— Раз, два, тры, чатыры, — лічыла яна гудкі. На пятым — сонны голас. Любімы чалавек прачнуўся. Ён быў узрушаны і шчаслівы. Ён так чакаў яе, ён так чакаў яе... Галіна, не даслухаўшы, бразнула трубкай.

## 7

Ігар Сяргеевіч Раданевіч, рэжысёр, на якога ўскладалі вялікія надзеі, быў шчаслівы і разам няшчасны. Любімая тут, побач з ім. Яна яго талісман. У ёй чэрпаў ён сваю сілу.

Ігар Сяргеевіч не мог жыць адзін. У адзіноце ён задыхаўся. Яму трэба было гаварыць, гаварыць, разважаць, думаць уголас, аддаваць камусьці свае эмоцыі. А такі напал магла вытрымаць толькі жанчына. Дужая і закаханая. У яго, вядома.

Няшчасце ўсё было ў тым, што з-за мінулых дажджоў зрываўся выхадны, які быў запланаваны па графіку. Зрывалася лазня, рыбалка і шмат усяго, чым хацеў уразіць Галіну Ігар Сяргеевіч. Вядома, яна магла пайсці кудынебудзь у горад, але ён сказаў, каб яна засталася ў гасцініцы, бо ўсё роўна ён хутка вернецца.

Ігар пайшоў, і Галіна засталася адна. Яна выйшла на балкон. Раніца была сонечная-сонечная і свежая. Хацелася жыць і радавацца. Яна паглядзела ўніз. Ля клумбаў, на якіх раслі чырвоныя ружы, стаялі два студыйныя аўтобусы. Кіношнікі павольна выходзілі з гасцініцы і, чакаючы астатніх, садзіліся на лаўкі альбо проста на тратуар.

Цікава, падумала Галіна, як яны ўсе мяняюцца ў час здымак: пацёртыя джынсы, кепачкі з доўгімі казыркамі, стракатыя майкі, на нагах — шлёпанцы ці красоўкі. Нейкі паўвячэрні, паўпляжны стыль. Арыстакраты ў лагеры хіпі.

Галіна пашукала вачыма Ігара. Ён стаяў з апаратам ля ўваходу ў гасцініцу і ўзбуджана жэстыкуляваў. Потым, нібы адчуўшы на сабе яе позірк, задраў галаву і паглядзеў угору. Галіна памахала яму рукой. Некалькі кабет сінхронна павярнулі галовы ўслед за рэжысёрам. Хоць Ігар і не хацеў афішыраваць яе прыезд, Галіна была задаволена, што яе заўважылі. Як ні кажы, а тое, што ён, рэжысёр, вылучыў яе з вялікай колькасці прыгожых жанчын, з якімі штодзённа сутыкаўся на кінастудыі, узвышала яе ва ўласных вачах.

І зараз, калі стаяла на балконе і махала яму рукой, Галіна была ўпэўнена, што варта перажываць, пакутаваць, чакаць дзеля таго, каб хоць на імгненне адчуць вось гэткае шчасце.

Аўтобусы павольна, адзін за другім рушылі з месца. «Вось і ўсё, — падумала Галіна. — Ігар пачаў працаваць і пра яе забыўся. Ён ніколі не мог раздвойвацца. Гэта не азначала, што ён быў чэрствы альбо эгаіст. Проста ён быў такі. Чалавек, у якога каханне і работа існавалі паралельна і ніколі не скрыжоўваліся».

Сонейка пачало прыпякаць, і Галіна вярнулася ў нумар. Ігар займаў двухпакаёвы люкс з ваннай, тэлефонам і вялікай пярэдняй. Нядрэнна жывуць у экспедыцыях рэжысёры, бадай, лепш, чым дома. Фінская мэбля, мяккія фатэлі, дываны. За шклом серванта — кубкі, талеркі, фужэры, чаркі.

Разлічана на велікасвецкі прыём, падумала Галіна. У такіх абставінах жыць хочацца вольна, а раніцу пачынаць з шампанскага. І ўсё ж адчуваецца, што мужчына жыве тут адзін. На крэслах — раскіданыя рэчы, пад канапай — газеты, на стале — завялыя кветкі. Яна наліла свежай вады ў вазу, падрэзала сцяблінкі, павесіла ў шафу вопратку, зварыла моцную каву, паставіла яе астываць, а сама села ў спальні за пісьмовы стол. Паперы, паперы, нататкі на каляндарных лістках. Зусім як у яе ў рэдакцыі. Узяла са стала адкрытую кнігу. Хемінгуэй. Любімы пісьменнік, які заўсёды пры ім. Калісьці, яшчэ на пачатку іхняга знаёмства, ён сказаў: «Я хачу навучыцца здымаць так, як пісаў Хемінгуэй. Няўлоўнае рабіць не толькі ўлоўным, але і будзённым. Толькі тады я маю права сказаць: «Так, я прафесіянал». А пакуль усё, што ты бачыш, — гэта рамесніцтва».

У ацэнках сябе і іншых Ігар быў бязлітасны, і Галіна ведала, што працаваць з ім цяжка. Аднак жа яго любілі і ахвотна ішлі ў яго групу.

— Чаму? — задумаўся ён, калі Галіна спыталася пра гэта. — Таму што ў мяне ўсе занятыя. Мне патрэбны адданыя людзі, зацікаўленыя ў сумеснай справе. А для гэтага важна, каб кожны — і цясляр, і грузчык, — адчуваў сябе патрэбным. Хай не мне, а карціне. Мне ўсё адно. Галоўнае, каб ніхто не сноўдаўся без справы. Няма работы — прыдумаю. Прымушу пераставіць святло, змайстраваць стол, а потым скажу, каб разабралі яго. Хай яны бачаць у гэтым творчы пошук, хай мой капрыз. Мая мэта — захаваць ва ўсіх рабочы настрой. А як? Гэта ўжо іншая рэч.

Галіна ўзяла кнігу і пайшла ў гасціную. На пісьмовым стале яна ні да чога не дакранулася. У гэтым яны былі салідарныя. Ні ён, ні яна не любілі, каб адзін корпаўся ў паперах другога. Села ў фатэль, прысунула да сябе газетны столік, маленькімі глыткамі пачала піць каву.

Аднойчы ён прызнаўся, што марыць зрабіць фільм паводле апавядання Хемінгуэя «Белыя сланы».

— Уяўляеш, як было б здорава! Фільм пра каханне, якому суджана пагібель, якому ніколі не рэалізавацца. Крык душы, а вакол вакуум, абсалютнае неразуменне, нямая, выпаленая спякотай прырода і ўзгоркі, падобныя на белых сланоў. — Ён уздыхнуў. — На жаль, гэта толькі мара. Як і белыя сланы.

— Чаму? — спыталася Галіна.

— Ёсць рэчы, якія не паддаюцца кінематографу, апроч таго не нарадзіўся пакуль другі Хемінгуэй, які здолеў бы напісаць адпаведны сцэнарый... І яшчэ па многіх прычынах.

— Але чаму ты хочаш зняць фільм пра каханне, якому суджана пагібель? — дапытвалася Галіна.

— Каханне — як раса на траве: — высахла і пагасла, — замест адказу працытаваў ён.

— Ты не верыш у каханне, — ціха сказала яна.

— Я не веру ў вечныя ісціны, — сур'ёзна запярэчыў ён і прыхінуў яе да сябе.

— Але ж я кахаю цябе.

— Ці надоўга? — Ён з усмешкай зірнуў ёй у вочы.

Калі яна пакахала яго? Успамінала Галіна. Спярша была зацікаўленасць. Ён мала расказваў пра сябе, больш задаваў пытанні і слухаў. Пра першую жонку сказаў, як адрэзаў: «Развяліся, і ўсё». Пра маці з бацькам: «Памерлі адно за другім». Але аднойчы...

Яна вярнулася з пахавання. Хавалі супрацоўніцу Алены Русаковіч Наташу Глушчанка, маладую дзяўчыну трыццаці гадоў, якая памерла ад белакроўя. Але людзі лічылі, што гэтую смерць паскорылі яе родныя: бацька і мачаха. Гэта было дзіўнае пахаванне, на якім людзі не падыходзілі ні да сястры, ні да бацькі, не выказвалі ім свайго спачування. Гэта было пахаванне, на якім наспявала сварка, і толькі бязмежная павага да нябожчыцы ды прысутнасць карэспандэнта — бо Галіна прыйшла знарок, каб напісаць артыкул, — папярэдзілі яе.



Наташына маці таксама памерла ад белакроўя, і бацька, які застаўся з дзвюма дочкамі, праз год ажаніўся. А яшчэ праз год мачаха выселіла васемнаццацігадовую Наташу ў сваю аднапакаёўку, мэблю з якой загадзя прадала. З бацькоўскага дома ёй нічога не далі, як не далі і грошай на рамонт.

Прыехаўшы ў морг, Галіна доўга не магла зразумець, дзе ж Наташына сястра. Па ўзросту падыходзіла толькі адна. У чорным аксамітавым паліто з пушыстай ламай, у шэрых італьянскіх ботах, у чорным пуховым касцюме, яна з абыякавым выглядам стаяла ля акна. Адна з супрацоўніц Наташы, ледзь стрымліваючы слёзы, выбегла з морга і загаласіла:

— Божухна, не магу глядзець! Стаіць, расфуфыраная, да труны не падыдзе... А Наташа... да замаразкаў без калготак хадзіла, пад самавязаным паліто шарсцяной хусткай абмотвалася, старыя бацькоўскія кашулі перашывала...

— Ляжала ў бальніцы, ужо не выходзіла, — дрыжачым ад хвалявання голасам пачала распавядаць Наташына сяброўка, — бацьку папрасіла, каб прыёмнік прывёз, а той кажа: «Як жа я яго табе прывязу? Ён дарагі, мы яго на кухні слухаем».

— Яшчэ адна прыгожая гісторыя пра норавы ў нашым грамадстве, — пакпіў Ігар, калі Галіна расказала пра тое, што адбывалася на пахаванні. — Разумееш, твая Наташа і яе родныя — гэта адзін бок праблемы. Маральны. Але ёсць і другі бок — сацыяльны. І на маю думку, ён галоўны. Бо існаванне такіх людзей, як яна, якія ў трыццаць гадоў не могуць пражыць на свой заробак, — гэта ненармальная з'ява. І пісаць трэба пра гэта. Што такое ў наш час пенсія шэсцьдзесят рублёў ці зарплата інтэлігента — сто дваццаць, ці зарплата той жа Наташы — дзевяноста? Што гэта? Дзяржаўная дапамога, каб чалавек не хадзіў з працягнутай рукой па вуліцах? Было б у тваёй Наташы дастаткова грошай, харчавалася б яна як след, можа, не ляжала б зараз у чарзе на крэмацыю.

— Можа, і не ляжала б, — згадзілася Галіна. — Але ўсё роўна ніколі я не зразумею, як можна паміраючай дзяўчыне, у якой кроў не спыняецца, замест падкладаў парэзаныя на кавалкі штроксы прысылаць?! І гэтае пахаванне... Нават бацька не даў волі нервам. Раней людзі хоць у бога верылі, зданяў баяліся! А зараз? А можа, ёсць яны, здані? Можа, будзе яна ім з'яўляцца па начах?

— Не ведаю, — ціха сказаў Ігар. — Я бацьку рэдка сню, а з маці ўсё гамонкі пра сваё жыццё вяду.

— А як яны памерлі, твае бацькі? — спыталася Галіна.

— Бацька хварэў доўгі час, рак у яго быў. У бальніцы, калі выпісвалі, урачы папярэдзілі: два месяцы засталося, а ён яшчэ два гады пражыў. Жудасная хвароба. Ведаеш, што канец, а сэрца да гэтай думкі ніяк не прывычаіцца. Ноччу ўстану, падыду да яго ложка, слухаю: дыхае ці не, а праз гадзіну якую мама да яго — туп-туп. Так і хадзілі па чарзе. Апошнія тры месяцы ён і не ўставаў ужо, ад болю ледзь прытомнасць не губляў, а ўколы тры разы на дзень. Сядзі, глядзі, як чалавек пакутуе, пакуль медсястра не прыедзе. Я тады з адным тыпам звязаўся, у лапу даў, надыбаў тых нарко-

тыкаў і, як мог, астатняе жыццё бацьку аблегчыў. А ў мамы нервы зусім сапсаваліся.— Ігар падышоў да акна. На вуліцы было цёмна. Сеяўся дробны, надакучлівы дождж.— Восень, час ураджаю,— сказаў Ігар.— Ва ўсім у прыродзе ёсць свой парадак, ва ўсім, акрамя смерці.— Ён крыху памаўчаў, углядаючыся ў цемру.— Калі памёр бацька, вядома, цяжка было, але я ўсё ж такі быў не адзін. Засталася мама, і я павінен быў яе падтрымліваць. Але калі праз тры гады мне пазванілі з бальніцы а першай гадзіне ночы і сказалі, што раптоўна сканала мама, якая ляжала там з запаленнем лёгкіх, мне хацелася біцца галавой аб сценку. Дома была гарэлка. Я выпіў шклянку, паехаў у бальніцу. Заходжу ў палату. Пусты ложак, перапалоханыя суседкі. Нешта кажа дзяжурны ўрач, я ківаю ў адказ, але нічога не разумею. Сядаю на мамін ложак, і мне здаецца, што я адчуваю яе пах, мамін пах, і мне хочацца, як у дзяцінстве, схаваць галаву ў яе падушку і забыцца, бо я яшчэ не веру, што яе больш няма. Потым прыходзіць нянечка, прыносіць сінюю маміну кофту, урач падае мне шклянку з вадой і таблеткі, я глытаю іх, выходжу з бальніцы. Чатыры гадзіны раніцы. Лета. Ужо днее. Блакітнае неба, зялёная трава, пустыя вуліцы. Я стаю адзін, у руках маміна кофта... Разумееш, кофта, якую больш некаму будзе апрануць, і я ўяўляю, як увайду ў кватэру, дзе ўсё яе: рэчы, вопратка, кнігі, а яе няма. Гэта страшна. Гэта так страшна... І самае крыўднае, што яна, якая так любіла дзяцей, не дачакалася ўнукаў. І таму, пэўна, я праз год ажаніўся.

Ігар змоўк. І па ягоным насупленым твары Галіна ўбачыла і зразумела, што ён зараз злуе на сябе за гэты ўсплёск шчырасці, і зрабіла адно, што лічыла правільным: дастала з бара бутэльку сухога віна і сказала:

— Давай памянём тваіх бацькоў.

Напэўна, у той вечар яна ўпершыню ўсвядоміла, што кахае яго. Нейкае мацярынскае пачуццё нарадзілася ў ёй, хацелася быць з ім лагоднай, пяшчотнай. І яшчэ яна паверыла ў яго, бо лічыла, што мужчына, які так любіў і шанаваў сваю маці, ніколі не пакрыўдзіць жанчыну.

Галіна дапіла каву і доўга глядзела на дно шклянкі, нібы спрабуючы прачытаць сваю будучыню.

## 8

Луг, з двух бакоў нібы ўзяты ў абдымкі яловым лесам, разразаў пасярод імклівы вузкі ручай. Пад кустамі арэшніку, на высокім узгорку, сядзелі вяскоўцы: загарэлыя дужыя хлопцы ў майках, жанчыны ў стракатых хустках, маладыя дзяўчаты ў паркалёвых выцвілых суkenках, некалькі дзядоў у цёмных кепках, з абветранымі, зарослымі сіваватым шчаціннем тварамі. Нават спякота не змусіла старых зняць прывычныя пінжакі. На траве — некалькі веласіпедаў. Каля ручая, на самым санцапёку, стаялі блакітныя студыйныя аўтобусы. Непадалёк ад іх загаралі акцёры, не занятыя цяпер на здымцы. Зусім блізка ад здымачнай пляцоўкі стаялі басанож хлапчукі і з захапленнемназіралі за апаратарам. Кожнаму карцела пагладзець у «вочка» камеры, памацаць яе рукамі, але рэжысёр катэгарычна забараніў ім набліжацца да апаратара, і яны з нецярпеннем чакалі, калі ў акцёраў будзе перапынак.

— Адкуль кот?! Адкуль узяўся гэты кот?! — раптам зароў апаратар і спыніў камеру.

Усе павярнуліся. І сапраўды: у цэнтры здымачнай пляцоўкі, выгнуўшы спіну і ашчаціўшыся, сядзеў чорны кот і нахабна варушыў вусамі.



— Псік! — закрычаў адзін з асвятляльнікаў і пранізліва свіснуў. Кот стрымгалоў кінуўся прэч.

— Так, — Ігар рушыў да хлапчукоў, якія былі спужаліся і адразу пачалі павольна падавацца назад. — Чый кот? — сурова спытаў ён.

Хлапчукі спадылба пазіралі адзін на аднаго.

— Я пытаю, чый кот? — яшчэ больш сурова сказаў Ігар.

— Мой, — шэптам адказаў ці не самы маленькі хлопчык гадоў шасці і на ўсякі выпадак адышоўся.

— Ты навошта яго прынёс?

— Здымацца, — яшчэ цішэй сказаў хлопчык.

— Паслухай, Іванка, — Ігар прысеў на кукішкі, — учора ты прынёс пеўня, сёння — ката, а заўтра што, карову прывядзеш?

Хлапчукі, адчуўшы, што небяспека мінула, захіхікалі.

— Не, — адмоўна крутнуў галавой Іванка, — карову мамка не дасць.

— Ну, дзякуй богу! — Ігар з палёгкай уздыхнуў, падняўся і, павярнуўшыся да акцёраў, гучна аб'явіў: — Таварышы, можаце не хвалявацца, кароны не будзе!

Навокал засмяяліся.

— Ану, марш адсюль, і каб духу вашага не было, а не то... — Апаратар, які падышоў ззаду, памахаў у паветры дубцом.

Хлапчукі кінуліся наўцёкі.

— Ігар Сяргеевіч, старшыня едзе! — падбегла адміністратар групы Ганна Гаўрылаўна.

Па дарозе, што вузкай палоскай цягнулася ўздоўж лесу, пылiў, нязграбна падскокваючы на выбоінах, белы «Масквіч». Ігар, не спяшаючыся, пайшоў яму насустрач.

Ля ўзгорка, на якім сядзелі калгаснікі, «Масквіч» рэзка затармазіў, і з машыны паказалася невысокая, круглая, нібы шарык, фігура старшыні. Шырока ўсміхаючыся, ён моцна паціснуў руку Ігару, па-змоўніцку падміргнуў яму і скорагаворкай паведаміў:

— Артыстак прывёз. Як дамаўляліся. Усе актыўныя, у самадзейнасці ўдзельнічаюць, галасістыя: запяюць — на другім канцы вёскі чутно. — І, павярнуўшыся да калгаснікаў, закрычаў: — А гэта што яшчэ за вячоркі? Ці работа скончылася? Савеліч, табе хто грошы плаціць? Я альбо кінастудыя? А ты, Касач, дзе свой трактар пакінуў? Я табе раніцай што загадаў?

— Ну што ты гэтак во адразу? — прымірэнча сказаў, узнімаючыся з травы, высокі, сутулаваты мужчына. — У мяне на ўчастку парадак, усіх шэфаў з інстытута работай ахапіў.

— Ну малайчына! — Ад абурэння ў старшыні пачырванеў твар і шыя. — Шэфы робяць, а ён адпачывае.

— Ты, Цімафей Піліпыч, няправільна сучасны момант разумееш, — уступіў у размову малады хлопец з вузкімі прыжмуранымі вачыма. — Мы тут дзеля чаго? Каб рэжысёра ў галіне сельскай гаспадаркі кансультаваць. Каб праўду жыцця на экране захаваць. А то глядзіш іншы фільм і морду таму, хто яго здымаў, набіць хочацца. Касіць, — хлопец павысіў голас, — не ўмеюць! Правільна я кажу, таварыш рэжысёр? — Ён хітравата падміргнуў Ігару.

Але адбіцца жартам яму не ўдалося. Круглы твар старшыні раптам выцягнуўся, жылы на шыі выразна запульсавалі, і па тым, як калгаснікі заварушыліся, як хлопцы пасунуліся да сваіх веласіпедаў, Ігар падумаў, што зараз старшыня нешта «выдасць». Але той толькі стомлена махнуў рукой.

— Бачылі? — звярнуўся ён да Ігара. — Крытыкі, кансультанты... Зусім распеup разаліся. Я вам такую праўду жыцця пакажу, — зноў закрычаў ён, — забудзеце, дзе жыццё, а дзе праўда!

Праз хвіліну ўсю моладзь з узгорка нібы ветрам здзьмула. Засталося толькі некалькі немаладых жанчын і дзядоў.

А старшыня, які ўжо супакоіўся, паглядзеў у бок сваёй машыны і здзіўлена працягнуў:

— А што ж гэта нашы прыгажуні на свет божы ніяк не вылезуць? Мо зусім ад сонца расталі? Гэй, дзяўчаты, выходзьце! — закамандаваў ён.

І тут адна за другой з машыны паказаліся тры рослыя, паўнагрудыя дзяўчыны ў яркіх шаўковых суконках, з аднолькавымі пышнымі прычосками і нафарбаванымі цёмна-бардовай памадай вуснамі.

Убачыўшы іх, Ігар сеў на траву, схапіўся за галаву рукамі і пакаціўся ад рогату. Дзяўчаты, якія менш за ўсё спадзяваліся на такі прыём, пачырванелі і, разгублена пераступаючы з нагі на нагу, камячылі свае сукенкі. Старшыня, нічога не разумеючы, здзіўлена паглядаў то на іх, то на Ігара. Заўважыўшы, што ля машыны адбываецца нешта незвычайнае, падышлі некалькі акцёраў і аператар-пастаноўшчык. Аператар, які адразу зразумеў, у чым справа, махнуў рукой, вылаяўся і пайшоў прэч. Акцёры, добразычліва ўсміхаючыся, разглядалі дзяўчат. Нарэшце адна з іх не вытрымала і, ледзь стрымліваючы слёзы, закрычала:

— Як вам не сорамна! Самі запрасілі здымацца, а цяпер здзекуюцца!

Ігар падняўся з травы і, усё яшчэ пасмейваючыся, сказаў:

— Даруйце, дзяўчаты! Непаразуменне атрымалася. — Ён падышоў да старшыні. — Цімафей Піліпыч, я вас каго прасіў прывезці? Даярак, проста з фермы. А вы мне іх з цырульні даставілі ды яшчэ ў святочных сукенках.

— Ды хто ж ведаў?.. — развёў рукамі старшыня. — Я ж хацеў як лепш.

— Ну добра, — рашуча сказаў Ігар. — Ганна Гаўрылаўна, зараз жа дзяўчат да грымёраў, хай прывядуць іх у парадак. А вы застанецеся? — спытаў ён старшыню.

— Дзе там! — замахаў той рукамі. — І так вунь колькі часу з вамі бавіўся. — Ён сеў у машыну. — Усяго добрага! Да сустрэчы! Калі што трэба — звяртайцеся!

Ігар задумліва абвёў позіркам здымачную пляцоўку, паглядзеў на сонца, што высока вісела над лугам.

— Ганна Гаўрылаўна, аб'явіце перапынак, — стомлена сказаў ён і рушыў да аўтобуса, ля якога сядзеў другі аператар Вадзім і раскладаў на траве бляшанкі са стужкай.

— Таварыш рэжысёр! — Ігар раптам пачуў за спіной тонкі голас. Ён павярнуўся і ўбачыў дзвюх хударлявых дзяўчынак гадоў дзевяці-адзінаццаці. Яны цягнулі вялікі жоўты бітон. — Гэта вам мама казала перадаць. Кіслае малако. Халоднае-халоднае!

— Ах вы, мае мілыя! Ах, прыгажунечкі! — Ігар абняў дзяўчынак за плечы і расцалаваў, ад чаго тыя адразу зачырванеліся. — Ну дзякуй! Ну дагадзілі! А як жа зваць вашу маму?

— Мама Каця, — у адзін голас адказалі дзяўчынкі.

— Ну дык вялікае-вялікае дзякуй вашай маме!

Дзяўчынкі згодна кіўнулі і пабеглі ў вёску, а Ігар узняў бітон над галавой і закрычаў:

— Гэй, грачы! Налятай, частуйся!



— Да нас нясі! — махнуў рукой аператар-пастаноўшчык. — Я выдаваць буду. Рубель за шклянку. За другую — два рублі.

— А чаму за другую — два рублі? — спыталася грымёр Наташа.

— Як чаму? — здзівіўся аператар. — Дэфіцыт!

Ігар сеў на траву, паставіў бітон між ног, зняў накрыўку і з асалодай удыхнуў свежы пах кіслага малака.

— Эх, смаката! Нажом рэзаць можна, — сказаў ён.

Пілі па чарзе, бо шклянак не хапала.

— Добра, што свет не без добрых людзей, — сказала Ганна Гаўрылаўна.

— Трэба з гэтай мамай бліжэй пазнаёміцца, — сказаў аператар-пастаноўшчык. — Увечары заедзем, падзякуем.

— Глядзі, каб цябе там тата дручком не сустрэў, — усміхнулася Ганна Гаўрылаўна.

— Тату бяру на сябе, — сказаў Вадзім, распростваючы плечы і напружваючы мускулы.

Ігар з шклянкай у руках адышоўся ўбок, сеў на траву, нетаропка пачаў піць кіслае малако. Ён паспрабаваў засяродзіцца на наступным эпізодзе, але думкі ці ад спякоты, ці ад стомы былі блытаныя, вялыя. Тады ён адставіў шклянку, лёг на траву і паспрабаваў расслабіцца.

Ляжаў, прыжмурыўшы вочы, слухаў. Яму здавалася, што паветра дрыжыць ад стракатання конікаў, якія хаваліся ў высокай траве, і дзумкання пчол. Сіняя прыгожая стракозка, даўжынёй з запалку, праплыла над ягоным тварам, рэзка хіснулася ўбок і замерла, выставіўшы ўгору свае бліскучыя празрыстыя крыльцы. Ігар з цікавасцю назіраў, як яна, нібы падвешаная на нітачцы, лунае ў паветры.

«Як добра адключыцца ад усяго, — нечакана падумаў ён. — Пасяліцца ў якой-небудзь глухмені, ляжаць на траве, глядзець на далёкае бясхмарнае неба і ні пра што не думаць!» Раптам здалося, што ён пачынае разумець імкненне свайго героя збегчы ад гарадской мітусні, і думкамі зноў вярнуўся да работы...

Галоўны герой развёўся з жонкай, кінуў горад, кватэру, пасяліўся ў вёсцы. І вось мінуў год. Цяжкі для яго год. Іншы лад жыцця, іншыя праблемы. Вайна са старшынёю, з калектывам, п'янствам, марнатраўствам, з уласнымі сумненнямі. І калі, нарэшце, лёд зрушыўся, калі большасць людзей усвядоміла, што не пра сябе, не пра сваю кар'еру клапоціцца ён, змагаючыся з безгаспадарчасцю, герой раптам адчуў, што стаміўся і ніколі тут не прыжывецца. Бо адзін ён не здолее перайначыць тое, што складалася дзесяцігоддзямі, перадавалася з пакалення ў пакаленне, усмоктвалася з малаком маці, — псіхалогію дробнага ўласніка.

Ён ідзе па лузе. Адзінокі чалавек, сам па сабе, які пацярпеў у жыцці яшчэ адно фіяска. Над ім — незвычайна яркае сіняе неба. Пад нагамі — маладая, сакавітая трава, што сцелецца па зямлі зялёнымі хвалямі. Але ён нічога гэтага не заўважае. Вера, надзея, любоў — усё гэта ў мінулым. А наперадзе што?

Раптам ён спыняецца — пад нагамі параненая ластаўка. Ён асцярожна бярэ яе, кладзе на далонь, азіраецца. Як апынулася яна тут? Маленькая, галодная, бездапаможная, з перабітай лапкай. Ён ласкава гладзіць яе, падыходзіць да ручая, дае ёй напіцца, сядае на адхон, глядзіць на празрыстую імклівую ваду. Побач, кульгаючы на адну лапку, скача птушка і весела шчабеча. Дзіўна, але ён адчувае, што нягледзячы ні на што ўсё ж любіць гэтае неба, і гэты ручай, і гэтую ластаўку. Ён узнімае галаву і зажмурваецца.

Застанецца ён у вёсцы ці вернецца ў горад? Справа не ў гэтым. Галоўнае — поле душэўнага напружання, што стварылася вакол яго, пэўны паварот у грамадскай свядомасці. Зламаны чалавек і жыццесцвярджальны матыў, які павінен гучаць у гэтай сцэне, як звон, як набат. Але ж як гэтага дамагчыся?

Можна, вядома, пайсці па правераным шляху: даць патрэбную музыку, эфектны пейзаж. Можна закрануць найбольш чуллівыя струны ў душы гледача. Можна ўсіх падмануць. Але падмануць сябе?! Ад сябе ж не схаваеш сваёй бездапаможнасці.

Ігар прыўзняўся на локцях і агледзеўся. Усе яшчэ адпачывалі. Узгорак, на якім сядзелі калгаснікі, апусцеў. Цішыня, што зараз панавала на здымачнай пляцоўцы, здавалася нязвыклай. Ігар зноў лёг на спіну і заплюшчыў вочы. Рашэнне не прыходзіла. Нешта разладзілася. А спачатку ўсё ішло як па масле. Працавалі на адной хвалі, і мізансцэны ўсе атрымліваліся ледзь не з першага разу. Нехта нават пажартаваў наконт прэміі за эканомію стужкі. А ён падумаў: «Усё вельмі проста: Галіна прыехала». І ўсё, нібы сурочыў. Палаяліся з апаратарам. А ў гэты час Алка, якая іграла былую жонку героя, спусцілася ў белых джынсах да ручая і вярнулася ў гразі па калені. Ён, не стрымаўшыся, сказаў некалькі рэзкіх слоў. Алка расплакалася. Дык што, здымаць яе ў кожным кадры ў новым адзенні? Потым яшчэ гэты кот, расфарбаваныя дзяўчаты. І ўсё. З-за нейкіх дробязей здымка спынілася, і тая прыўзнятасць, з якой працавалі зранку, у адзін момант знікла і наўрад ці цяпер узновіцца.

Можа, трэба кідаць усё і вяртацца? Тым больш, што Галіна чакае. Недарэчна ўсё атрымалася. Зранку праспаў — забыў завесці будзільнік. Напярэдадні працавалі дванаццаць гадзін, прыехалі зусім стомленыя. Каб не тыя дажджы, усё ішло б нармальна, а то сядзелі, марнаваліся, чакалі сонца. Ды яшчэ гэты ёлуп, Вадзім. Паслалі ў Мінск праявіць стужку, а ён замест Мінска ў Ленінград заехаў. Паязды пераблытаў. Знарок не прыдумаеш... А Галка адно пытае: «Навошта мяне зваў? Грошы мог і па пошце атрымаць».

Якія грошы? Пры чым тут грошы? Што яна, жартаў не разумее? Проста шукаў зачэпку, каб прыехала. Ён усміхнуўся, раптам успомніўшы, як у паўзмрочнай зале яна брала ў яго інтэрв'ю. А ён назіраў, як яна паварочвае галаву, як смяецца, як ззяюць ад захаплення яе вочы. Спачатку ён назіраў за ёю, як прафесіянал, але недзе на сярэдзіне фільма скоса зірнуў на яе і адчуў, як у душы нешта зрушылася, сэрца сціснула і адпусціла, а па целе прабеглі лёгкія дрыжыкі. І потым, калі ездзілі па калгасах, увесь час успамінаў пра яе, і пачуццё чагосьці прыемнага, нейкай прыўзнятасці не пакідала яго.

Замест двух саўгасаў яны наведалі чатыры. І ў кожным іх так бурна прымалі, з такой шчырасцю і захапленнем, што абысціся кароткімі выступленнямі, як спачатку планавалі, было проста няёмка. Дадому вярнуліся каля трох гадзін ночы. Ён адамкнуў дзверы сваім ключом і вельмі здзівіўся, убачыўшы ў кватэры святло. Увайшоў у пакой. На тахце, скруціўшыся, як дзіця, спала Галіна. На падлозе валялася ручка і спісаныя аркушы паперы. Ён падняў адзін з іх, паспрабаваў чытаць, але почырк быў неразборлівы — некаторыя словы даводзілася адгадваць.

«Гэтая бязлітасная да іншых жанчын, па сутнасці, вельмі няшчасная. Яе аўтарытарнасць агрэсіўная. Але гэтую агрэсіўнасць можна параўнаць з агрэсіўнасцю двухгадовага дзіцяці, якое не ўсведамляе яшчэ, што ёсць нехта, дужэйшы за яго, і таму бясстрашна, з шырока расплюшчанымі вачыма, ідзе на любога ворага».

Ігар падняў яшчэ адзін лісток і адразу наткнуўся на свой партрэт:

«Ён мала смяецца, але вочы ў яго добрыя. Позірк пранізлівы і засяроджаны, як у чалавека, які спасціг самую сутнасць і імкнецца данесці яе ў цэласці да сваёй свядомасці».

Ігар усміхнуўся: вось якім убачыла яго гэтая дзяўчына.

Ён пакінуў лісты на падлозе, патушыў святло і толькі хацеў быў пайсці на балкон пакурыць, як яна прачнулася. Нават зараз, успамінаючы тую ноч, ён не мог растлумачыць, што з ім тады адбылося. Узбуджэнне, у якім ён жыў некалькі дзён перад прэм'ерай, змянілася апатыяй, стомленасцю, і ў той жа час, убачыўшы Галіну, якая так мірна і даверліва спала ў яго кватэры, упершыню пасля смерці маці ён зведаў пачуццё спакою, нібы пасля доўгага бадзяння вярнуўся ў дом, дзе нехта чакаў яго. Упершыню ў гэтай кватэры, куды ён пераехаў пасля разводу і да якой ніяк не мог прывыкнуць, яго пакінула пачуццё адзіноты, цяжкага смутку, уласнай непатрэбнасці. Як гэта магло атрымацца вось так проста? Тое, ад чаго ён шукаў уратавання ў віне, у мімалётных раманах, у працы, схлынула ў адзін момант, нібы змытае марскім адлівам, і застаўся голы бераг — чысты, некрануты. Штосьці новае абудзілася ў ім. Не, гэта не было каханне. Гэта была боязь страціць яе, гэтую дзяўчыну. І гэтая боязь заглушыла ў ім у тую ноч усе іншыя пачуцці.

А ўранку яму прысніліся белыя матылі, і ён прачнуўся нібы нанова народжаны. Ляжаў і думаў, што Галіна прынясе яму шчасце. Ён меўся пайсці ў адпачынак, паехаць у горы, але пабаяўся, што, калі вернецца, яна пра яго ўжо забудзе.

## 9

Галіна паглядзела на гадзіннік. Як марудна цягнецца час! Вось так заўсёды: на рабоце марыш пра тое, каб адпачыць, а як знойдзецца вольная гадзіна, не ведаеш, чым і заняцца. Нават у горад не хочацца выходзіць. Ды што цікавага яна тут убачыць? Такія ж, як паўсюль, стандартныя дамы, заклапочаныя людзі, пустыя магазіны, доўгія чэргі ў кафэ, дзе, дарэчы, няма нічога смачнага, некалькі кінатэатраў, Дом культуры побач з аддзяленнем міліцыі, каб апошняй было зручней «перавыхоўваць» наведвальнікаў такіх культурна-масавых мерапрыемстваў, як танцы. І хто наогул прыдумаў гэтыя дамы культуры, гурткі мастацкай самадзейнасці для дарослых?! Чаму прафесарам не прапаноўваюць паспяваць пасля работы ў народным хоры, а рабочых і калгаснікаў усіх трэба ахапіць, арганізаваць?! І як абрыдла пісаць пра гэтыя мерапрыемствы! А што рабіць? Над ёй начальства, якое патрабуе асвятляць, як шырыцца ў рэспубліцы сетка дамоў культуры, як весела і як цікава там бавіць вольны час насельніцтва. І вось прыязджаеш у раённы цэнтр, дзе няма ніводнага сквера, ніводнай прыгожай лавачкі, ніводнага прыгожага будынка, але ёсць Дом культуры, селішся ў завэдзганай гасцініцы, у пакоі з рыпучай драўлянай падлогай, са сценамі, пафарбаванымі ў брудны зялёны колер, і абабітай тынкоўкай, глядзіш на павуцінне, што звісае са столі, на акно, якое калі і мыюць, дык адзін раз у год — на суботніку, і думаеш: «Вось дзе яна, культура!» А потым сустракаешся з дырэктарам ці галоўным метадыстам, для якіх прыезд сталічнага карэспандэн-

та раўназначны стыхійнаму бедству, глядзіш разам з імі планы, слухаеш, колькі мерапрыемстваў праведзена, колькі людзей ахоплена, як сучасная моладзь любіць народныя песні, а на танцах танцуе вальс і крыжачок, і адчуваеш сябе ўдзельнікам гуртка «Хто каго перахлусіць». І, з аднаго боку, шкада гэтых людзей, якія нічога не бачаць у сваім жыцці, жывуць у агідных умовах, а з другога боку, злосць бярэ — чаму ж да сябе вы такія неахайныя?! Чаму ў суседняй Прыбалтыцы кожны дворык, кожны гарадок мае сваё аблічча, захоўвае нацыянальныя рысы, уражвае самабытнасцю?! Чаму ў іх дарогі як дарогі, а ў нас — успаміны пра вайну?! Чаму ў іх паўсюль чыста, утульна, прыгожа?! Чаму яны шануюць свой родны край, а мы жывём так, што пасля нас і сапраўды трава расці не будзе?! І хіба гэта жыццё? Не, не пра мерапрыемствы трэба пісаць, а пра нацыянальную годнасць! Бо хто і за што нас паважаць будзе, калі мы самі сябе не паважаем! Яна неяк напісала артыкул «З чаго пачынаецца Радзіма і нацыянальная годнасць?», потым доўгую размову з рэдактарам мела, які амаль з гадзіну тлумачыў, што беларусаў ва ўсіх рэспубліках любяць за сціпласць, за добразычлівасць, за тое, што не высоўваюцца, а яна ў сваім артыкуле прапаведуе нацыяналізм. Потым уздыхнуў, выцер узмакрэлы лоб, сказаў:

— Ну што табе параіць? Артыкул не выкідай. Хай паляжыць. Некаторыя рэчы з гадамі цану набываюць.

Вось такую параду даў. Значыць, усё ж такі яна мае рацыю. І за гэта дзякуй. Не, не такой уяўляла сабе журналістыку, калі вучылася ў школе. Думала, што журналіст усё можа. Наіўная! Гэта толькі ў кіно журналіст — змагар за справядлівасць. А ў жыцці — паднявольны чалавек, як і ўсе. Праўда, зараз, пасля смерці Чарненкі, усе на перамены спадзяюцца, кажуць, не будзе «закрытых тэм». Ужо з'явіліся ў друку цікавыя публікацыі. Але многія з іх толькі здзекуюцца. Стась, напрыклад, самаўпэўнена заявіў: «Вось пабачыш, гэта як музыкальная шкатулка: паіграе, паіграе і зачыніцца з трэскам разам з тымі, хто першым павысоўваўся». А Ігар лічыць, што ў нашай краіне ўсё можа быць, нават галоснасць. Будзе, не будзе, а ўсё ж ці не з занядбання роднай зямлі пачынаюць ірвацца карані з радзімай, страчваецца пачуццё нацыянальнай свядомасці, прыходзіць у заняпад культура? Шукаюць недзе ў нетрах прычыны чалавечай бяздушнасці, бязлітаснасці, раўнадушша, а яны ж тут, на паверхні. Бо якую мараль прынёс у горад той, хто пакінуў родныя мясціны? Пра што дбаюць гэтыя людзі, акрамя ўласнай карысці? Пачытаеш біяграфію кіраўнікоў — амаль усе з вёсак. Вывучыліся, атрымалі кватэры, машыны, мэблю купілі, за мяжу ездзяць, чужой культурай захапляюцца, па вечарах паказваюць сябрам слайды: палацы, цэрквы, касцёлы, сучасныя будынкі, якія захоўваюць нацыянальныя асаблівасці, а ў сябе на радзіме будуюць аднолькава безаблічныя каменныя дамы. Няўжо дваццатае стагоддзе праславіцца ў гісторыі Беларусі тым, што народ па добрай волі забыўся пра свае карані?! Нават жахліва пра гэта думаць. Але пакуль ганарыцца няма чым. Дойлідства ў заняпадзе, кінематограф у заняпадзе. У той жа Прыбалтыцы ва ўсіх фільмах здымаюць сваіх акцёраў, а «Беларусьфільм» даўно ператварыўся ў масфільмаўскі філіял. І ніхто бяды ў тым не бачыць. Во, зараз Ігар набірае акцёраў: трое з Масквы, адзін з Ленінграда, а беларускія толькі для эпізодаў. Яна спытала:

— Паслухай, няўжо ў нас няма акцёраў?

— Такіх, як мне трэба, няма.

— А якія табе патрэбны?

— Такія, якіх я бачу ў гэтых ролях.





С. ДАМАНАВА. Прадчуванне (алей, 1988).



А. ПУШКІН. Эпітафія дзеду (тэмпера, 1988).

— А беларускіх ты не бачыш?

— Не бачу.

— Не хочаш бачыць.

Ён здзіўлена зірнуў на яе.

— Чаго ты да мяне прычапілася? Ці гэта не мая справа адбіраць акцёраў?

— Вядома, твая. Але няўжо ў тваім фільме такія звышскладаныя ролі, з такой звышзадачай, што нават вясковую кухарку павінна іграць акцёрка з Масквы? — здзекліва спытала яна.

— А што? — паціснуў плячыма Ігар. — Цудоўная жанчына, твар — просты, добры, у вачах — жыццёвая мудрасць, і потым у яе імя.

— Во-во, імя! — запляскала ў далоні Галіна. — Калі не маеш свайго, як можна вылучыцца? З дапамогай чужога. А інакш хто на твой фільм пойдзе? Рэжысёр невядомы, акцёры таксама. А ці не занадта спрашчаеш ты сабе жыццё?

— У нашых акцёраў няма школы, — лектарскім тонам сказаў Ігар.

— Няма школы! — раззлавалася Галіна. — А адкуль ёй узяцца? Школа ёсць там, дзе ёсць настаўнікі! А хто ў нас настаўнік? Ты ці твае прыяцелі? Хто з вас дбае пра беларускую школу? Прыбалтаў усе студыі запрашаюць, а беларусаў на роднай у вочы не ведаюць! Калі ты быў апошні раз у тэатры? Каго з акцёраў на сцэне бачыў? Яшчэ інтэлігентам сябе лічыш! Толькі і ведаеце, ты і твае сябры, што сядзець з чаркай перад тэлевізарам і ганьбіць усіх запар! Бо вы адны геніі!

Яна думала, што ён пачне спрачацца ці хоць пакрыўдзіцца, нічога падобнага! Паблажліва ўсміхнуўся:

— Вось не падазраваў, што маю справу з нацыяналісткай.

Яна — нацыяналістка! Звар'яцець можна! Нічога не зразумеў. І нібы на злосць ёй дамовіўся, што музыку да фільма напіша ленінградскі кампазітар.

Галіна зноў паглядзела на гадзіннік. Але дзе ж Ігар? Сказаў, што доўга не затрымаецца. Гаротнік! Працаваць у такую спякоту — не пазайздросціш. Ды яшчэ без выхадных, па дванаццаць гадзін у суткі. У кіно таксама свой план. Дзіва, што ён такі нервовы зрабіўся. Кажуць, самая высокая смяротнасць сярод авіятараў і кіношнікаў. І самыя няўстойлівыя шлюбы таксама сярод іх. Паша Смірніцкі з адной жонкай два разы ажаніўся. І ўсё роўна жывуць, як кошка з сабакам. То ён ад яе пойдзе, то яна ад яго. Галіну Пашава жонка не выносіць. Як жа, адукаваная, журналістка, а хто ў Мінску самая модная касметычка — не ведае, і Ігару піць не дазваляе. Усе п'юць, Пашава жонка нароўні з мужчынамі, а Ігар не п'е! Не піў, удакладніла Галіна. Спачатку, як пазнаёміліся, ён і сапраўды не піў. Галіна таксама думала, што ў гэтым яе заслуга, а потым зразумела, што не, Ігарам не пакіруеш. Не можа мужчына не піць, калі ўсе вакол п'юць. Два месяцы ні кроплі ў рот не бярэ, толькі пачынаеш думаць, што на зямлі рай настаў, а тут нехта грошы атрымаў ці сябар прыехаў, і ўсё... Адлічвай кругі пекла.

І не таму ж п'юць, што грошы з усіх кішэняў сыплюцца. У Ігара наогул грошай няма. За апошнюю карціну атрымаў — з даўгамі разлічыўся, бо, калі з жонкай разыходзіўся, паўтары тысячы пазычыў, каб кватэру размяняць. Зараз ізноў у доўг жыве. І «пашанцавала» ж яму з першай жонкай! Бацькоўскую хату праз яе страціў, з паўгода ў прыяцеля Касту-

ся Кудрэйкі жыў. Кастусёва жонка Леся казала, што Ігар тады адно што на леках трымаўся, не мог сабе даравадь, што як дурань папаўся ў лапы васемнаццацігадовай пачвары і зараз павінен з бацькоўскага дома з'язджаць. А на выгляд, кажуць, Ігарава жонка была прыгожая! Рускі сувенір. Шчокі румяныя, вочы вялізныя, сінія, валасы белыя, доўгія, ледзь не да пят. «Як мужчына ўбачыць, — па сакрэту расказвала Леся, — унутры нібы полымя загараецца. Вось Ігар і спакусіўся. Ды і не ён адзін. З кім яе толькі не бачылі, нават з арабамі. А Ігар, як любы мужчына, занадта ўпэўнены ў сабе, вядома, нічога не ведаў. Яшчэ і па магазінах хадзіў, ежу гатаваў, бо яна нічога рабіць не ўмела ці не хацела». Такім чынам Галіна даведалася, чаму Ігар ніколі не расказвае пра першую жонку.

Леся з Кастусём таксама былі дзіўнай парай. Кастусь — рэжысёр, аднагодак Ігара. Леся — былая акцёрка тэатра, на восем гадоў старэйшая за Кастуся. Маленькая, худзенькая, з кароткай стрыжкай, — жанчына без узросту. Дзяцей у іх не было, хоць жанаты яны былі даўно. Галіна ведала, што Кастусь здраджвае Лесі, а Леся Кастусю. Але на людзях яны ніколі не сварыліся і нават клапаціліся адно пра аднаго. Кастусь ужо два гады нічога не здымаў — быў не ў ладах з кіраўніцтвам студыі, Леся таксама не працавала, бо ў тэатр яе не бралі праз маленькі рост і, акрамя таго, яна часта хварэла. На якія сродкі яны жылі, ніхто не ведаў. У двухпакаёвай кватэры мэблі амаль не было: тахта, пісьмовы стол, фатэлі і некалькі крэслаў. Тыя, хто прыходзіў да іх, прыносілі ежу: пельмені, сасіскі, хлеб, каўбасу. Абое пілі, але ўпотай. Кастусь звычайна хаваў бутэльку з гарэлкай за кнігамі на паліцы, Леся — на кухні на антрэсолі. Але самае дзіўнае, што гасцей у іх заўсёды быў поўны дом. Ігар лічыў сябе ім вельмі абавязаным і першае, што зрабіў, калі пазнаёміўся з Галінай, павёў яе да Лесі ў госці. На агледзіны, як потым зразумела Галіна. Леся Ігараў выбар адобрыла і, калі развітваліся, шапнула Галіне: «Вось пабачыш, ён з табой ажэніцца». Але Лесіна прароцтва ўсё яшчэ не споўнілася. Ігар жаніцца не збіраўся.

Перад ад'ездам у экспедыцыю ў іх выпадкова адбылася непрыемная размова на гэтую тэму.

Ігар складаў свае рэчы ў вялізную сумку, яна прасавала яго кашулі. Настрой у яе быў панылы. Першы раз яны расставаліся на некалькі месяцаў, і ад думкі, што ўжо праз дзень яна не ўбачыць яго, шчымела сэрца, валілася ўсё з рук, хацелася, як у дзяцінстве, сесці на падлогу і ціха плакаць, плакаць, плакаць ад жалю да самой сябе. І, каб саўладаць са сваёй нервовасцю, Галіна з нейкай злосцю вадзіла прасам па кашулі. Але Ігар заўважыў яе слязлівы настрой. Падышоў ззаду, абняў за плечы.

— Ну чаго, чаго ты хвалюешся? Я ж не на ўсё жыццё еду. Прыедзеш да мяне.

— У якасці каго? — раптам спыталася Галіна.

— Любімай жанчыны, — адказаў ён.

Галіна адставіла прас, павярнулася.

— Ігар, мне абрыдла быць проста любімай жанчынай.

Ён зноў паклаў рукі ёй на плечы, паспрабаваў пажартаваць.

— Хочаш страціць любімую жанчыну — ажаніся з ёй. А я цябе страчваць не збіраюся.

— Так ты мяне хутчэй страціш, — хмура адказала Галіна. — Я ж вольная жанчына, без якіх-небудзь абавязкаў.



Ігар спахмурнеў, цёмныя вочы зрабіліся жорсткімі.

— Хіба пачуццё — гэта абавязак? Хіба з дапамогай шлюбу мужчына можа ўтрымаць жанчыну ці наадварот? Пра якія абавязкі ты гаворыш? Я кахаю цябе, ты — мяне. Што трэба яшчэ?

— Трываласць, будучае, — Галіна рэзка скінула з плячэй яго рукі, адвярнулася, каб ён не бачыў яе выразу твару. Яна адчувала сябе бездапаможнай і адзінокай. Пяць хвілін таму ёй здавалася, што ў яе жыцці ёсць апора, а зараз... зараз яна разумела, што мужчына ніколі не пераступіць праз свой эгаізм. Яна падышла да акна, колькі хвілін глядзела, як хлапчукі ганяюць у футбол, потым ціха загаварыла: — Я стамілася жыць у дзвюх кватэрах, разрывацца паміж табой і бацькамі. Ты хочаш, каб я ўвесь час была пры табе, а мама патрабуе, каб я была дома. І каб вас усіх задаволіць, я павінна лгаць, выкручвацца! Я стамілася! Стамілася! А ты не разумееш, не хочаш разумець, што значыць быць жанчынай! — Яна стомлена правяла рукой па твары, цяжка ўздыхнула.

Ігар уважліва назіраў за ёй.

— Колькі табе гадоў, Галіна? — Тон у яго быў міралюбны, але сухі. — Дарослая жанчына, а ўсё жывеш з аглядкай на маму.

— Ігар, мне дваццаць пяць гадоў, — упарта сказала яна. — Размова гэтая была ёй непрыемная, але, калі ўжо загаварылі, трэба ставіць кропкі над «і». — І я хачу мець нешта сваё. Свой дом, урэшце, у якім я — гаспадыня, дзе ўсе рэчы мае, нашы, дзе бегае наша дзіцё. Няўжо гэта так цяжка зразумець? Няўжо я патрабую нешта немагчымае? Я хачу мець будучае, а зараз у мяне яго няма. Зразумей мяне правільна, бо ты вымушаеш гаварыць пра такія рэчы, якія зневажаюць жаночую годнасць!

— Галіна, — запярэчыў Ігар, — я кахаю цябе і не хачу зневажаць. Але і ты зразумей мяне. І не крыўдуй. Ты гаворыш пра будучае. А якое будучае ў мяне? Што я ведаю пра сваё будучае?! Будзе фільм, не будзе? А калі мне, як Кастусю, прыйдзецца сядзець у прастоі? Нават зараз што я магу табе даць, калі ў мяне нічога няма, нават грошай? І я не ведаю, што будзе заўтра!

— Заўтра... Хто ведае, што будзе заўтра? — паціснула плячыма Галіна. — Можа, загінеш у авіякатастрофе, а можа, выйграеш у латарэю «Масквіч». Ніхто нічога не ведае. Але ўсё роўна людзі жэняцца, раджаюць дзяцей, спадзяюцца на лепшае. А ты, з аднаго боку, жывеш так, нібы заўтра канец свету — не разважаючы ні аб чым, а з другога — увесь час перастрахоўваешся.

— Я мала разважаю, калі справа датычыцца мяне аднаго, а дзіцё, жонка — гэта ўжо адказнасць. Я не гатовы зараз да шлюбу, — сказаў, нібы адрэзаў, рассёк вузел, што звязваў іх. — Маральна не гатовы. І зразумей гэта. У мяне іншыя планы. І, каб іх рэалізаваць, мне патрэбна свабода. Сёння я з табой, заўтра ў экспедыцыі, паслязаўтра яшчэ дзе-небудзь. Ды і ты таксама не сядзіш на месцы. Я не магу зараз браць адказнасць за твой лёс. І мне спакайней, калі ты жывеш з бацькамі.

— Смешна і сумна, — уздыхнула Галіна. — Ты просіш, каб я зразумела цябе, я прашу, каб ты зразумеў мяне. Размова двух глухіх ці эгаістаў. Прысутнічаюць два дзеясловы: хацець і магчы. І ніхто не сказаў: я павінен, і таму гаварыць далей на гэту тэму не мае сэнсу. Я застануся пры сваёй думцы, ты — пры сваёй. А далей што? Што?

— Пачакай да зімы. Зараз я нічога не ведаю, нічога не магу табе

адказаць. Я разумею, што не маю права цябе ўтрымліваць. І калі ты лічыш, што я ламаю тваё жыццё, калі ты і праўда так лічыш...— Ён запнуўся.— Ты вольная пайсці.

— І ты не пашкадуеш?

— Галіна, пра што мы гаворым?!— усклікнуў Ігар.

— Пра наша жыццё.— Галіна ўзняла на яго вочы, поўныя слёз.— Мне часам здаецца, што ў адносінах з мужчынам нельга быць шчырай. Трэба лгаць, ілгаць, ілгаць, каб ён адчуваў сябе нібы на лязе нажа, каб ён даражыў жанчынай. Але гэтае акцёрства немагчыма, калі кахаеш. Я стамілася, Ігар. Стамілася. І баюся, што калі-небудзь я цябе зненавіджу.

— Гэта не страшна,— усміхнуўся ён,— бо ад нянавісці да кахання таксама адзін крок.

— Не, Ігар,— Галіна сумна пакруціла галавой,— гэтага кроку ўжо не будзе.

Вось такая размова. Вядома, яна пачакае. Яна толькі і робіць, што чакае. А ці не здарыцца так, што калі ён, нарэшце, вырашыць ажаніцца, яна перагарыць ужо?

Галіна зноў выйшла на балкон, паглядзела ўніз. Ад спёкі ружы зусім паніклі, апусцілі свае чырвоныя галоўкі. Ні ветрыку, ні воблачка, нават дыхаць цяжка. Яна вярнулася ў пакой, завесіла шторы, уключыла тэлевізар і пачала глядзець з сярэдзіны нейкі дзіцячы фільм.

## 10

Хутка пачне ўжо брацца на вечар, а спякота і не думае спадаць. Нават у цяню паветра здаецца гарачым. Усе стаміліся, сварацца, варушацца, нібы сонныя мухі, а галоўны эпізод яшчэ не зняты. Аператар-пастаноўшчык паставіў побач з собой вядро халоднай вады і штохвіліны палівае галаву з конаўкі. Грым на тварах акцёраў зусім не трымаецца, цячэ, змешваецца з потам, і гэта якраз тады, калі ўвесь час патрэбен буйны план. Ганне Гаўрылаўне ад спякоты зрабілася млосна. Але што значыць старая гвардыя— ледзь угаварылі пайсці ў лес паляжаць. Маладым бы ў яе павучыцца, а то ледзь што— адразу ж у амбіцыю.

Ігар паглядзеў на светлавалосую, невысокую дзяўчыну ў вялікіх цёмных акулярах, што сядзела з безуважным выглядам ля ручая і грызла зялёны яблык. Яблык, відаць, быў вельмі кіслы, бо вусны ў дзяўчыны ўвесь час крывіліся.

«Страказа,— падумаў Ігар,— ну ці ж не страказа? Усю раніцу загарала, хіхікала, а выйшла на пляцоўку— нібы мяшкі з бульбай дагэтуль цягала. І гэта настаўніца, якая праводзіць закаханым позіркам галоўнага героя. Такім позіркам толькі мужчын на Плас Пігаль у Парыжы праводзіць. А сказаў слова— адразу ў слёзы. Адна аддушына— Яршоў, галоўны герой. Гэты хлопец далёка пойдзе. Сіла волі вялізная. У любых абставінах можа сканцэнтравацца. Хаця не просты, ох, які не просты! Але, відаць, ужо і ён выдыхаецца. Паходка вялая, выраз твару, як у асуджанага на галеру. Зрэшты, нічога дзіўнага. У каторы раз праганяюць адзін і той жа эпізод, а радасці ад зробленага няма».

«Так далей не пойдзе,— вырашыў Ігар. Акрамя расходу стужкі мы нічога не даб'ёмся. Трэба яшчэ раз усё добра абдумаць».



Ён угледзеўся ў апатычную фігуру Яршова, і раптам яму здалося, што ён пачынае разумець, чаму не атрымліваецца кульмінацыйны эпізод.

— Стоп, стоп!— пляснуў ён у далоні.

Усе недаўменна паглядзелі на яго, але ніхто нічога не сказаў, толькі два ці тры чалавекі вялай паходкай падаліся да ручая.

Ігар адклікаў убок аператара і Яршова. Як растлумачыць, чаго ён ад іх хоча, калі думка, што хвіліну назад нарадзілася ў яго, была яшчэ блытанай, невыразнай?

— Ты калі-небудзь жыў у вёсцы?— спытаўся ён у Яршова.

— Жыць не жыў, але ездзіў на бульбу з інстытутам колькі раз.

— Ты, мусіць, хочаш яго ў вёску перасяліць, вясковага жыцця адведаць?— са з'едлівай усмешкай спытаўся аператар.

— Я хачу, каб ён разумеў свайго героя. І ты таксама,— адказаў Ігар.— У кожнай сацыяльнай групы свае законы, свая псіхалогія. Праблема актуальная: гарадскі жыхар ірвецца ў вёску, а прыехаўшы, не можа там ужыцца. Чаму? Я пытаю: «Чаму?» Чаму мы цяпер, калі гаворым пра народ, неапраўдана звужваем гэтае ёмістае паняцце, зводзім яго да аднаго класа? Чаму ў нас лічаць, што «народ» жыве выключна ў вёсках, а да шматлікага насельніцтва гарадоў не мае ніякага дачынення? Чаму мы ў канцы дваццатага стагоддзя, вывучыўшы гістмат і дыямат, ва ўсіх гаворках, дыскусіях аб адлюстраванні сельскага жыцця ў кіно і ў літаратуры выглядаем падобнымі да народнікаў, бо ўбіваем у галовы тых, хто нас чытае і слухае, што толькі сярод вяскоўцаў захоўваюцца маральныя нормы, традыцыі, што пакінулі нам продкі? Адкуль гэты крэн? І хто, нарэшце, у нас носьбіт перадавой маралі? Мы ж гэтымі тэорыямі зневажаем інтэлігенцыю, наспее час, і будучыня нам адпомсціць.— Ён змоўк, потым рэзка павярнуўся да Яршова.— Вось ты, напрыклад, разумееш, чаму твой герой зламаўся?

— Слабак быў,— пацісну плячыма Яршоў.

— Баба памагла,— скрозь зубы прамовіў аператар, які ляжаў на зямлі і пакусваў травінку.

— Баба была ў горадзе,— хмура сказаў Ігар.— У вёсцы ў яго прыгод няма.

— Слабак усюды слабак,— паўтарыў Яршоў.

— Э не, ён не слабак,— задумліва пакруціў галавой Ігар.— Ён наогул не слабак. Адважыцца ўсё кінуць і паехаць у вёску— на гэта не кожны здольны. І зламаўся ён не ад самой барацьбы, а таму, што не быў да яе падрыхтаваны.— Ігар адчуваў, што ён на верным шляху, і, спрабуючы знайсці больш дакладныя словы, разважаў далей:— Ён, гарадскі жыхар, стварыў сабе ідэал вёскі, як вяскоўцы шукаюць сабе ідэал у горадзе. Толькі яны ўцякаюць ад неўладкаванага быту ў пошуках матэрыяльнага камфорту, а ён уцёк ад уладкаванага быту ў пошуках душэўнага камфорту. А цяпер уявіце, як ён выглядае ў вачах вяскоўцаў. Уяві сабе,— Ігар кіўнуў аператару,— што ты, чалавек мастацтва, сёння здымаеш фільм на вачах усёй вёскі, а назаўтра прыходзіш да старшыні і сур'ёзна заяўляеш, што табе ўсё абрыдла і ты хацеў бы тут застацца. Што табе скажа той жа старшыня?

— З глузду з'ехаў,— не задумваючыся, адказаў аператар, выплюнуў травінку і сеў.

— Во-во, з глузду з'ехаў. А ці не гэтак жа выглядае наш герой? Яго псіхалогіі, яго намаганняў ніхто не разумее. Яны ўсё жыццё пра-

цуюць без выхадных, без летніх адпачынкаў і мараць пра адно — як лепш уладкаваць сваіх дзяцей у горадзе. Яны гадуюць гэтых свіней, кароў, рачкуюць на сваіх сотках дзеля чаго? Каб даць дзецям грошы на кааператыў, каб дапамагчы ім звіць утульныя гняздзечкі ў горадзе. Яны жывуць гэтымі марамі! І раптам гэты чалавек, добраахвотны ізгой, які з пагардай глядзіць на ўсе іх імкненні. Ды яны яго не проста не разумеюць, ён для іх — чужаніца. Ён пасяляе ў іх душах сумненне. Ён, равеснік іхніх дарослых дзяцей, нібы насмешка над іх ідэаламі. Жывы прыклад няўдалага гарадскога лёсу. Чаму ён тут? Дзеля чаго? Але пра яго мінулае ім нічога не вядома...

— А як бы хацелася ведаць! — іранічна ўставіў аператар.

— Чакайце, чакайце! — усклікнуў Яршоў. — Гэткае чужароднае цела, невядома для чаго яно тут з'явілася.

— Так-так, — згадзіўся Ігар, — чужароднае цела. А калгас не з моцных. Парадку няма, дысцыпліны таксама. Бухгалтар дом на калгасныя сродкі пабудаваў — у АБКСМ ананімкі пасыпаліся.

— А можа, ён камісар Мегрэ? — хітравата прыжмурыў вочы аператар. — Во было б цікава! І як гэта мы раней да гэтага не дадумаліся?!

Але Ігар так зірнуў на яго, што той адразу асекся.

— І ўсё ж такі ён змагаўся, — разважаў далей Ігар. — Змагаўся, каб не страціць веру ў сябе. Толькі нашто яму гэтая барацьба, калі ён прыехаў у калгас у пошуках спакою?! Спакою! — спатыкнуўся на гэтым слове Ігар. — Вось у чым сакрэт! Герой наш — ідэаліст, які, выхоўваючы іншых, выхоўваецца сам.

З выглядам пераможцы Ігар паглядзеў на аператара. Ці зразумеў той яго думку, якую яму нарэшце ўдалося ясна аформіць?

— Ну-у-у! — з захапленнем працягнуў аператар. — Ды ты ў нас другі Феербах! Толькі да мяне твая філасофія, ты ўжо даруй, усё роўна не даходзіць.

— Ведаеш, якая самая сумніцельная прыкмета вялікага розуму? Вялікая галава, — нарэшце адыграўся Ігар, намякаючы на непрапарцыянальна вялікую галаву ў аператара. — Дык вось, — гаварыў ён далей, ужо звяртаючыся да Яршова, — няхай ён яшчэ жыве старымі ідэямі, няхай яшчэ ад іх не адмаўляецца, але безупынная барацьба ўжо адбілася на яго абліччы. Гэта ўжо не той, раскіслы ад сямейных непаладак чалавек, які прыехаў у вёску. Так, ён страціў на нейкі час адчуванне радасці, але твар яго суровы, рукі моцныя, паходка цвёрдая. Нягледзячы ні на што, яго не назавеш банкрутам. І таму жыццесцвярджальны матыў будзе цяпер сугучны яго абліччу.

— Слава разумнай галаве нашага рэжысёра! — ускочыўшы з зямлі, зароў аператар.

— Усё зразумеў, — па-сяброўску паляпаў Ігара па плячы Яршоў, і яны, не спяшаючыся, пайшлі да здымачнай пляцоўкі, на хаду ўдакладняючы некаторыя дэталі.

— Ігар Сяргеевіч! — падбегла да рэжысёра задыханая Наташа і ўмольна заглянула яму ў твар. — Калі хутка скончым, махнём на рэчку? Усе так змарыліся...

— Паглядзім. — Ігар не ведаў, што адказаць. Вячэрнее купанне не ўваходзіла ў яго планы. Аднак, зірнуўшы на сваіх людзей, якія сонна сноўдаліся па пляцоўцы і рабілі выгляд, быццам не слухаюць, што ён ад-







кажа Наташы, Ігар зразумеў: без вячэрняга купання не абысціся. — Добра, паедзем, — згадзіўся ён.

— Паедзем! — гучна пераказала згоду рэжысёра ўзрадаваная Наташа.

І адразу ўсе, нібы на другім дыханні, кінуліся па сваіх месцах. І зноў звыкла застракатала камера, разлілося па траве ліловае святло «юпітэраў».

Вось галоўны герой ідзе па густой сакавітай траве, гаспадар, пераможца, бо ён здолеў перамагчы самога сябе, сваю слабасць, не замкнуўся на сваіх нягодах. У яго душы няма болей крыўды ні на былую жонку, ні на людзей. Так, ён стаміўся, бо ўвесь год абараняў справядлівасць, спрабаваў разварушыць людзей, каб не спажыўцамі адчувалі сябе на сваёй зямлі, а стваральнікамі, гаспадарамі. І гэта прыемная стома. І ён разумее, што толькі такое жыццё, жыццё не для ўласнай карысці дазваляе ў любых абставінах высока трымаць галаву і смела рушыць наперад. Бо ўсё яшчэ будзе, усё наперадзе.

Нарэшце ўсе з палёгкай уздыхаюць: здымкі скончаны, цяжкі рабочы дзень — таксама. Ігар, задаволены, спускаецца да адхону, на якім толькі што сядзеў яго галоўны герой.

Пакуль ідуць зборы да ад'езду, можна, нарэшце, і адпачыць. Цікава, што зараз робіць Галіна? Нервуецца, відаць, страшэнна. А ён яшчэ згадзіўся паехаць на рэчку, але і адмовіцца было нельга. Наперадзе месяц работы. Сілу ў людзей трэба берагчы. А Галіне ён потым усё растлумачыць. Яна зразумее. Зразумее і паверыць, што інакш ён не мог зрабіць. Навошта было забараняць ёй выходзіць з нумара? Але ніхто ж не меркаваў, што так атрымаецца. Проста не хацеў, каб яна траплялa на вочы адміністрацыі. Потым тлумач, што да чаго. Хоць, вядома, да іх, кіношнікаў, ставяцца паблажліва. Але ўсё роўна прыкра. За Галіну. І што за парадкі? Абавязкова ўсім быць жанатымі? З яго, даруйце, хапіла і аднаго разу.

Ігар успомніў, як перад ад'ездам у экспедыцыю выпадкова сустрэў сваю першую жонку. Ля кінатэатра «Кастрычнік».

Яны не бачыліся амаль два гады. Ён з цікавасцю агледзеў яе. Апранута ва ўсё «фірмовае». Зграбная, яркая, прыкметная. Каб не гэтая пячатка самазадаволенасці на яе твары.

— Вось дык сустрэча! — Вочы яе акругліліся. — Не чакала.

Яна сказала гэта такім тонам, быццам ён знарок сцярог яе.

— Я таксама. — Ён гаварыў стрымана.

— Як маешся?

«Бяздарнае пытанне, — падумаў ён, — хоць інтарэс яе яўна не пусты».

— Як бачыш, нармальна.

— Ажаніўся?

— Пасля цябе?

Яна задаволена ўсміхнулася, прыняўшы яго рэпліку за камплімент.

— Пойдзем пасядзім?

«Гэтага яшчэ не хапала!» Яго ўразіла яе самаўпэўненасць, і ўсё ж такі ён спытаў:

— Куды?

Яна паказала рукой на бар.

«Яе прыроджанай здольнасці і нахабству перахопліваць усюды і ва ўсім ініцыятыву можна толькі пазайздросціць, — зазначыў ён, назіраючы, як натуральна яна трымаецца. — Сябры, якія і не сварыліся».

Яны і пажаніліся па яе ініцыятыве. Іх пазнаёміў яго прыяцель. Яна працавала прадаўшчыцай у абутковым магазіне, а Ігару тэрмінова спатрэбіліся чаравікі. Так, Ігар горка ўсміхнуўся, у тых чаравіках яму давялося прайсці доўгі шлях.

Праз некалькі месяцаў пасля вяселля яна звольнілася з магазіна і ўладкавалася адміністратарам у гасцініцу. Ігар жа хацеў, каб яна паступала ў інстытут, але яна катэгарычна адмовілася. Пакрыўджана сказала:

— Табе патрэбна жонка ці энцыклапедыя?

Ён не знайшоўся, што адказаць. Урэшце, вырашыў ён, ці так ужо трэба, каб у жанчыны была адукацыя.

Гэта быў цяжкі час у ягоным жыцці. На студыі да яго ўсё прыглядаліся, самастойна здымаць карціну не davучалі, і ён то працаваў другім рэжысёрам, то здымаў хроніку. Жылі на адну зарплату. Грошай не хапала, а жонка ўсё нешта купляла і купляла. З жахам ён даведаўся, што яны доўгі час жывуць у доўг.

— Але ж ты калі-небудзь атрымаеш карціну,— супакоіла яна мужа.— А жонка рэжысёра павінна добра апранацца.

«Жонка рэжысёра...» Ён быў абураны. Ці не занадта хутка яна забылася, адкуль родам?

Пра тое, што яна здраджвае, ён, як гэта звычайна бывае, даведаўся апошні. Вырваўся на некалькі дзён дамоў, але яе не застаў і зайшоў да сябра. Сядзелі, гутарылі, як раптам сябрава жонка сказала:

— Ігар, мы не хацелі б умешвацца, але твая жонка... яе паводзіны не месцяцца ні ў якія рамкі. Яна, відаць, думае, што жыве ў Галівудзе.

Ён усё зразумеў. І калі вярнуўся дамоў, пакідаў усе яе рэчы ў чамадан і сказаў: «Усё! Выбірайся!» Потым развод, размен кватэры, які цягнуўся так доўга, што калі яна сказала, што, каб добра размяняцца, патрабуецца даплата, ён адразу даў ёй грошы. І ўжо калі пераехаў, даведаўся, што палова даплаты дасталася ёй.

І вось ён сядзіць з ёю ў бары. Афіцыянт прынёс меню. Яна разгарнула яго на апошняй старонцы, пачала чытаць назвы він.

«Прафесійна»,— міжвольна ўсміхнуўся ён.

— Што будзем піць?— спыталася яна.

«Ну не, галубачка, піць я з табою не буду»,— падумаў ён, а ўголас сказаў:

— Чай ці каву.

— Ты што, наогул не п'еш?

— Наогул,— адрэзаў ён.

— Дзіўна.— Яна ўважліва паглядзела на яго.— Мне здавалася...

Ён перапыніў:

— Табе толькі здавалася.

— Ты змяніўся. Але павінна табе сказаць, не ў лепшы бок. Стаў нейкі грубы.

«Цікава,— ён ледзь стрымліваў сябе,— я перад ёю павінен на дыбачках выдыгаць?»

Падышоў афіцыянт.

— Два жульены і каву,— сказала яна.

«Ага, пачынае да мяне прыстасоўвацца». Ён, як урач за хворым, назіраў за ёю, аналізаваў кожнае яе слова і кожны рух.

Яна паклала на стол рукі — на пальцы брыльянтавы пярсцёнак.



«Відаць, нядрэнна мець багатага мужа»,— падумаў ён.

Яна заўважыла яго позірк.

— Прыгожы, праўда? Муж на вяселле падарыў...— Яна ўзняла руку і паварушыла пальцам.— Ведаеш, аб чым я часам шкадую?— памаўчаўшы, спытала яна.— Я шкадую, што ў нас не засталося дзіцяці.

— Не засталося дзіцяці?!— перапытаў ён.— Па-твойму, дзіця — гэта сувенір, што пакідаюць на ўспамін пра сябе?

— Які ж ты злапомны!— Яна пакрыўджана надзьмула губы.— Але я сапраўды аб гэтым шкадую.

«Шкадуеш аб страчаных аліментах»,— удакладніў ён.

— Бачыла твой фільм. Увогуле не спадабаўся. Надуманы, прэтэнцыёзны. Ты быццам задаўся мэтай расчуліць да слёз гледача. І аператар у цябе нейкі затармажаны.

Ігар зморшчыўся. Усё, што яна казала, было настолькі бязглузда, наіўна, што ён не мог уцяміць, як здолеў пражыць з гэтай жанчынай амаль тры гады.

Афіцыянт прынёс на падносе невялікія гаршчочкі з жульенам.

— І ведаеш, пра што я падумала? Гэтая жанчына ў фільме — твой ідэал.

Ад нечаканасці Ігар папярхнуўся.

— Так-так, менавіта такая жанчына патрэбна табе за жонку. Знешне ты яе адмаўляеш, але калі па Фрэйду прааналізаваць цябе, то выявіцца, што ў тваёй падсвядомасці жыве менавіта такі ідэал.

«О божа! Яна ўжо гаворыць пра Фрэйда!»

— Прызнайся,— не тоячы іроніі, спытаўся ён,— твой апошні палюбоўнік — псіхааналітык?

Яна перастала есці.

— Як ты можаш! Ты заўжды ставіўся да мяне з пагардай!

Ну ўсё. Ён і так занадта доўга стрымліваўся. Ігар выняў кашалёк, паклаў на стол пяць рублёў.

— Табе хопіць, каб разлічыцца?

На нейкае імгненне яна застыла, трымаючы відэлец у руцэ.

— Ігар, я не разумею...

— Пачытай Фрэйда, ён табе ўсё растлумачыць.

Ён устаў і хутка рушыў да выхаду.

...Ігар міжволі перасмыкнуў плячыма. Што і казаць, успамінаць пра першую жонку было не вельмі прыемна. Ён намацаў у кішэні цыгарэты, узяў адну, закурыў.

Пасля таго, як развёўся, вырашыў, што ніколі больш не ажэніцца. І раптам Галіна... Шчырая, упартая, прыгожая. У ёй быў нейкі ўнутраны стрыжань, тое, чаго не хапала яму самому. Але ўсё роўна жаніцца ён баяўся. Баяўся быту, абавязкаў, дробных клопатаў, што былі звязаны са шлюбам. Баяўся, што і яна не вытрывае перападаў у ягоным характары. Ён павінен належаць кіно, а яна — яму. Тады ўсё будзе ў парадку. Але яго вабіць да яе, таму што яна — гэта яна і растварыцца ў ім ніколі не зможа. І што рабіць? Калі ён з ёю не ажэніцца, наўрад ці яна застанецца з ім. Гэта ён добра разумее. Але што дарэмна ламаць галаву, час пакажа. Ігар кінуў цыгарэту ў ручай і падаўся да здымачнай групы.

## 11

Галіна ляжала на ложку і невідушчымі вачыма глядзела на столь. Вокны былі па-ранейшаму зашторзны, і ў пакоі было душнавата і змрочна. Па столі, па сценах слізгалі яркія сонечныя палоскі, адбіткі доўгага летняга дня, з сумятні якога яна гэтак недарэчна аказалася выкінутай.

І навошта было прыязджаць? Везці сумку ежы і грошы? Хіба ў яе няма спраў, хіба ў яе не творчая работа? І абяцаў жа, што доўга не затрымаецца! А сам... Нябось, загарае дзе-небудзь са сваімі акцёрамі! Не, усё можна зразумець, дараваць, калі ведаеш, што ў чалавека ёсць пачуццё адказнасці. А ў яго? Ні пра што не дбае, нічым не даражыць. І яна яму патрэбна толькі дзеля таго, каб загойваць яго душэўныя раны.

...Пасля ўдачы на фестывалі Ігар вырашыў, што цяпер сцэнарыі паплывуць да яго, як рыба — касяком. А ён будзе сядзець з вудаю на беразе, нядбайна закідваць яе ў ваду, вылоўліваць рыбку і крытычна ацэньваць — падыходзіць яна яму ці не. Але сцэнарыяў не было. Ніякіх. Спачатку, месяц-другі, ён не турбаваўся. На студыі бываў рэдка, потым пачаў хадзіць часцей і часцей, званіў камусьці па тэлефоне, падоўгу нешта высвятляў, над кімсьці смяяўся, камусьці спачуваў, кагосьці падбадзёрваў.

Ёй нічога не казаў. Але яна заўважыла, што ў яго не ўсё ў парадку, па яго тоне, раздражнёнасці, па яго доўгіх адлучках, дзелавых сустрэчах. Аднойчы вярнуўся ўсхваляваны і з парога абвясціў, што знайшоў надзвычайны сцэнарый. Расказаў яго змест, меркаваў, якога ўзяць апература, якіх запрасіць акцёраў. Яго прыўзнятага настрою хапіла на два тыдні. А потым пазваніў ёй днём у рэдакцыю і нейкім гулліва-бесклапотным тонам, ці быў п'яны, ці хаваў свой сапраўдны настрой, сказаў, што сцэнарый перахапілі і што сёння яны не сустрэнуцца, бо яму трэба кагосьці пабачыць. І ўсё. Знік, нібы скрозь зямлю праваліўся.

Ігара не было чатыры дні. На пяты Галіна абзваніла ўсіх яго сяброў і, не ведаючы, што рабіць далей, пайшла да Лесі.

Леся была дома адна, і яе выгляд Галіну ўразіў. Твар у Лесі быў блеклы, нездаровы, валасы прылізаны. Шэрая самавязаная сукенка ўвесь час расхіналася, і з-пад яе было відаць брудную кашулю. Але яшчэ больш уразіла Галіну кватэра. У вялікім пакоі з адной сцяны былі садраны амаль усе шпалеры.

— Вы што, збіраецеся рабіць рамонт? — спыталася Галіна.

— Рамонт! — хмыкнула Леся і даверліва сказала: — Гэта я сама паздзірала.

— Навошта? — здзівілася Галіна.

— Разумееш, вяртаюся неяк з камандзіроўкі...

— Ты ўжо працуеш?

— Ды не, часова ўладкавалася. Дык вось, вяртаюся дамоў, нікога няма, а на крэсле ляжыць вязаная кофтачка. Дык я гэтую кофтачку распусціла, потым шпалеры садрала і брыгаду выклікала.

Галіна адчула, як ад жаху па целе пабеглі мурашкі.

— Нічога, падлячылі, — вяла сказала Леся. — Месяц пракачалася. Зараз зноў не працую.

— А Кастусь? — спыталася Галіна.

— Што Кастусь?! У бальніцу кожны дзень бегаў, прабачэння прасіў. Зараз з адным тыпам сцэнарый піша. Слухай, рубель не пазычыш, а то хлеба няма на што купіць, — папрасіла Леся.

Галіна дастала кашалёк і пакорліва працягнула тры рублі.

— А я зараз зусім не п'ю, — сказала Леся. — Кастусь не дазваляе. Дарэчы, пайду пагляджу, можа, у яго што-небудзь ёсць.

— Не трэба, — сказала Галіна. — Лепей чаю.

Леся паставіла на пліту чайнік.

— Леся, ты не ведаеш, дзе Ігар? — спыталася Галіна.

— Учора быў тут, а ўранку пайшоў, быццам бы дамоў.

— Я званіла, ніхто не падыходзіць.

— Мусіць, адключыў. Гэтым мужыкам усім лячыцца трэба. Справы той, сцэнарый перахапілі. Асмаловіча работа. А ён, бач, ганарысты! Да начальства не пайшоў, з Асмаловічам пачаў адносіны высвятляць, ледзь разнялі. Сабе ж горш зрабіў. Ты яго зараз не чапай, — параіла Леся. — Супакоіцца, сам пазвоніць. Мужыкі, яны любяць быць на кані. А ён, нябось, ужо і павыхваляўся?

— Павыхваляўся, — уздыхнула Галіна.

— Ну вось, усе яны аднолькавыя, нібы тыя дзеці, — па-мацярынску сказала Леся. — А мой з усім кіраўніцтвам палаяўся. Нехта на яго ананімку напісаў, што ён у час здымак п'е, і яго з карціны знялі. Звяругі! Ён жа тады ні кроплі ў рот не браў, хварэў, з тэмпературай на работу хадзіў, радаваўся, што працаваць пачаў. Парторг зайшоў, паглядзеў на яго, а твар у Кастуся аж гарэў увесь, вядома, чалавек хворы. І што? Знялі. Нават разбірацца не сталі.

— Няўжо ніхто не заступіўся? — здзівілася Галіна.

— А каму трэба? Звяжашся — сам у няміласць трапіш.

— Што праўда, то праўда, — згадзілася Галіна.

— Пайду я ўсё ж гляну, мабыць, у майго што-небудзь засталося, — усхамянулася Леся.

— Не трэба, — Галіна паспрабавала яе ўтрымаць, але Леся пайшла ў пакой і праз колькі хвілін вярнулася з пачатай бутэлькай віна.

— Вось так, нальём па чарачцы, ён і не заўважыць, — прымаўляла яна, разліваючы віно.

— Не, Леся, я не буду, мне яшчэ працаваць трэба, — сказала Галіна і паднялася.

— Як сабе хочаш, — безуважна прамовіла Леся. — Заходзь часцей. А Ігара не шукай, сам паявіцца.

Але Галіна Лесі не паслухалася і ў той жа дзень паехала да Ігара. Ён быў дома, і калі яна ўбачыла яго апухлы, паліналы твар, у ёй закіпела такая злосць, што яна з усёй сілы дала яму поўху. А ён балюча схапіў яе за плечы і, як кацянё, шпурнуў на тахту.

— Зусім ашалела! — прашыпеў ён і паказаў на дзверы. — Усё, можаш ісці. Канец камедыі, канец каханню.

Галіна паволі паднялася. Яна глядзела на яго панылую фігуру, на злыя насцярожаныя вочы і калацілася ад ярасці. І гэтага чалавека, гэтага алкаголіка яна кахала! Праз яго не спала тры начы, шукала па ўсяму гораду, сапсавала сабе ўсе нервы! І ён яе яшчэ выганяе! Дрыжачымі рукамі намацала ў сумцы ключы, шпурнула яму ў твар і кінулася за дзверы.

Яна бегла па вуліцы і нічога не бачыла перад сабой. Ногі правальваліся ў раскіслы снег, ляцелі ва ўсе бакі пырскі, здзіўленыя прахожыя саступалі з дарогі. І толькі ля тэлефона-аўтамата затрымалася, адубелымі рукамі —

пальчаткі пакінула ў яго — набрала нумар Алены Русаковіч і, калі тая адказала, расплакалася.

Пазней, калі яна трохі супакоілася, яны сядзелі з Аленай на кухні, пілі чай і абмяркоўвалі гэтую гісторыю.

— Далі хлопчыку па галаве, — з'едліва казала Алена, — сцэнарый адабралі. І гэта цяпер мужчына называецца! Яго абышлі — і ён за бутэльку! Чаму мы з табой сваё гора віном не заліваем? Думаеш, у яго гэта першы зрыў? Пры табе — першы. І заўваж, так будзе і далей. Сёння — сцэнарый перахапілі, заўтра — творчы спад, паслязаўтра — не тую катэгорыю за фільм атрымаў. А акрамя няўдач. яшчэ і святы будуць. І ведаеш, дзе ён скончыць са сваёй чулай псіхікай? У горшым выпадку — пад плотам, а ў лепшым — у прывілеяванай лячэбніцы.

Галіна слухала, апусціўшы галаву, і маўчала.

— І не надумай яму даравацы! — суровым тонам казала Алена. — Ты і так занадта чуллівая. Паглядзі, на каго падобная стала! Твар жоўты, пад вачыма сінякі. І гэта ўсяго за паўгода!

— Зіма, сонейка мала, — няўпэўнена адказала Галіна.

— Зіма, — перадражніла Алена. — Ты калі свае матэрыялы пішаш? Па начах?

— Бывае, — кіўнула Галіна.

— Дык чаго ж ты хочаш? Разрывацца паміж ім, работай, домам і яшчэ добра выглядаць?! І заўваж, усё гэта дарэмна. Бо ён тваіх намаганняў не ацэніць, а сінякі пад вачыма заўважыць. І калі сустрэне прыгожанькую дзяўчынку, хай пустышку, але свежанькую ды з паўднёвым загарам, галаву дам на адсячэнне — пабяжыць за ёю. — Алена ўстала, прайшлася па кухні і пераканаўча сказала: — Мужчыны любяць жанчын у квецені і робяць усё, каб тыя хутчэй завялі.

— Але чаму, чаму? — спыталася Галіна.

— Акуль я ведаю? — Алена падліла ў шклянкі чаю і зноў села. — Таму што так усё жыццё ідзе, пачынаючы з матрыярхату. Жанчына нясе ў сабе станоўчы, устойлівы пачатак. Паглядзі, нават у мове ўсе асноўныя, фундаментальныя паняцці — жаночага роду. Зямля, радзіма, любоў, вернасць. А алкагалізм, дарэчы, мужчынскага. — Яна задумалася. — Вось ты жывеш толькі ім, забылася пра сябе. За некалькі месяцаў спазнала ўсю кіношную кухню. А ён? Ці многа ён ведае пра цябе? Цікавіцца тваёй работай?

— Часам ён мне вельмі дапамагае, — запярэчыла Галіна — Разумееш, ён можа зрабіць усяго адну заўвагу — і ўсё адразу праясняецца. Ён — мастак, і чуццё ў яго беспамылковае. І потым, з ім робішся багацейшай. Ён жа пра ўсё на свеце ведае, ва ўсім разбіраецца: у жывапісе, музыцы, літаратуры.

— Пра ўсё на свеце ведае! Мастак! — перадражніла Алена. — Варэння пакладзі сабе. Цукар для мазгоў карысны — прачышчае. Калі ён мастак, чаму ж цябе не адчувае?

— Можа, і адчувае, — нахмурылася Галіна. — Толькі ён слабы, а хоча здавацца моцным. І яшчэ самалюбства...

— Во-во, ты ўжо шукаеш яму апраўданні, — усміхнулася Алена. — Ну што ты яго ідэалізуеш? Паглядзі на яго збоку, паглядзі маімі вачыма! Самаўзвышэнне і эгаізм! Я разумею, табе зараз цяжка. Але ты яго не пераробіш. Гэта спецыфіка характару, якая ідзе ад спецыфікі работы. Вялізнай работы мозгу, вялізнага напружання. І хоць да такога стану яны прызвычайваюцца, але знаходзіцца ў ім пастаянна, дзень пры дні, з году ў год, немагчыма. Звар'яцееш. Патрэбна разрадка. І яны разраджаюцца. Хто як: п'юць, гуляюць. Але ізноў не як усе, а нібы падключаныя да высокага напружання. Максімалізм ва ўсім: у побыце, рабоце, каханні і нянавісці. Сярэдзіны не бывае. Гэта цікава... Да нейкага моманту. А далей што? Ці ёсць у цябе ўпэўненасць, што ўсё гэта вытрымаеш, што, выкупаўшыся ў гэтым бурным вадаёме, не апынешся аднойчы на беразе, спустошаная і нікому больш не патрэбная? Кінь яго, кінь цяпер! Інакш, паўтараю, напакутуешся.

Калі Галіна вярнулася дамоў, бацькі ўжо спалі. Яна запаліла ў пакоі святло і доўга разглядала сябе ў люстэрку. Так, Алена мае рацыю. Трэба заняцца сабою: пайсці ў цырульню, да касметолага. Спярша свае справы і толькі потым — яго. Яго? А ці будзе ён наогул пасля ўсяго, што здарылася? І няўжо яна яму даравала?

Назаўтра ён патэлефанаваў у рэдакцыю.

— Прабач, — сказаў ён, — я быў вінаваты.

Яна паклала трубку. Рука па-здрадніцку дрыжала. Ён патэлефанаваў зноў.

— Ты забыла ў мяне свае пальчаткі.

— Пакінь іх сабе на ўспамін. — І яна зноў паклала трубку.

Ён патэлефанаваў у трэці раз:

— Сустрэнемся пасля работы.

...Яны стаялі побач, блізкія і чужыя, і вельмі адзінокія. Маўчалі, чакалі, але першага кроку ніхто не рабіў. Уздыхнуўшы, ён дастае з кішэні яе пальчаткі.

«Які ўпарты твар! — кідаецца ёй у вочы. — Але ў вачах мальба».

Ён падае пальчаткі. Яна павольна нацягвае іх. Ну вось і ўсё. Бела-шэры ўзор стракаціць перад вачыма. Зараз ён пойдзе... Яна марудна паварочваецца, але раптоўны парыў кідае яе да яго.

— Галіна, Галіна, — узрадавана шэпча ён, тулячы яе да сябе, а з яе вачэй павольна, адна за адной, коцяцца слёзы.

Гэтая сварка ўскалыхнула яго, але апатыя не праходзіла. Цэлымі днямі ён ляжаў на тахце, шмат чытаў, амаль не выходзіў з дому, не падыходзіў да тэлефона. Яна бачыла, што ён пакутуе, пакутавала сама, але дапамагчы нічым не магла.

Яе аптымізм здаваўся яму няшчырым, ад пустых падбадзёрванняў ён толькі злаваў, ды і сама яна адчувала, што ўсе яе словы былі вымучаныя, легкаважныя.

— Пасля добрай карціны ад цябе чакаюць яшчэ лепшай, — з прыкрасцю казаў ён. — А я змогся. І ведаю, што ні на што ўжо больш не варты.

Гэта гучала як прысуд. Абвінавачаны і суддзя зліліся ў адной асобе. На яе вачах чалавек гінуў, а яна нічога не магла зрабіць і баялася аднаго, каб ён зноў не запіў. Бо колькі ўжо бачыла алкаголікаў сярод акцёраў, якіх ніхто не здымаў, колькі счарсцвелых душ сустрэла сярод рэжысёраў і аператараў, якія па некалькі гадоў сядзелі без працы, перабіваючыся выпадковымі заробкамі. І што за бязлітасны свет, дзе не кожны талент знаходзіць сабе выйсце, дзе ўсё звязана паміж сабою і нішто ні ад чаго не залежыць! Вытворчасць, дзе нельга запланаваць удачу і дзе ўсё вісіць на валаску. Цікавы сцэнарый, які можа загубіць дрэнны рэжысёр, таленавіты рэжысёр, які не можа праявіць сябе, маючы на руках дрэнны сцэнарый. Працаваць дзеля грошай ці дзеля таго, каб працаваць? І апускацца, наперад ведаючы, што з тваёй працы нічога добрага не атрымаецца?

Уласны вопыт і інтуіцыя ёй падказвалі, што, калі ў чалавека творчы спад ці дэпрэсія, яму неабходна змяніць абстаноўку. Нездарма ж мастакі мінулага столькі падарожнічалі. Але Ігар пра адпачынак і слухаць не хацеў. І тады яна патэлефанавала ў Вільню Уладасу. Уладас, разважлівы, спакойны, нібы выключэнне з усёй кіношнай брацціі, што-небудзь прыдумае, дапаможа.

І сапраўды, праз некалькі дзён Ігар сказаў, што званіў Уладас, відаць, нешта здарылася, бо той прасіў, каб ён прыехаў.

Ігар вярнуўся праз тыдзень, прывёз ёй падарунак — бурштынавыя завушніцы. Настрой у яго быў прыўзняты, бадзёры. Вочы па-добраму ззялі, а твар, здалося, пакруглеў.

— Але ж цябе там і адкармілі! — здзівілася Галіна.

— Калі ты навучышся гатаваць, як Уладасава жонка, дык я адразу з табою ажанюся.

— Калі ты будзеш паводзіць сябе, як Уладас, дык я магу кінуць работу і скончыць дзеля цябе кулінарны тэхнікум, — парыравала Галіна.

Пасля вячэры, калі яна прыбірала са стала, Ігар раптам сказаў:

— Але ты і хітруга.

Потым падышоў да яе, абняў і сур'ёзна прамовіў:

— Ведаеш, жыццё доўгае, усякае можа здарыцца. Але дзе б я ні быў, у якіх адносінах мы б ні былі, памятай: ты заўсёды можаш разлічваць на мяне.

«...Вось і разлічвай, — падумала Галіна. — Людзі ўжо вяртаюцца з работы, а яна ўсё чакае. Ведаў жа, што выхаднога не будзе, але знарок не сказаў! Эгаіст! Карыстаецца ёю, як мэбляй. Хоча — паставіць у адзін кут, хоча — перасуне ў другі. Не, трэба з гэтым канчаць! Грошы і ежу прывезла, сваю місію выканала! Бывай, любоў мая!»

## 12

Гэта ўжо не іронія лёсу, а нешта горшае, думаў Ігар, назіраючы, як два шафёры корпаюцца пад капотам. Засесці на дарозе за пяцьдзесят кіламетраў ад горада...

Зморaныя і галодныя акцёры наламалі сушняку, распалілі вогнішча і цяпер смажылі сала з хлебам. Ад зямлі ўзнімалася цёплая пара і шараватым мроівам слалася над скошаным лугам, змешвалася з дымам ад вогнішча. Ружавата-блакітнымі палосамі раскідаўся па небе захад. Узняўся свежы ветрык і прыгнаў з-за лесу невялічкія аблокі, якія то рассоўваліся, то зноў збіваліся разам, утвараючы вычварныя фігуры. І ад гэтага неба здавалася фантастычна размаляваным.

— Якое неба! Вы толькі паглядзіце, якое неба! Сапраўдная колерамузыка! — захаплялася Наташа. Яна першы раз працавала на карціне і ўсе непрыемнасці лічыла за цікавыя прыгоды.

— Ігар Сяргеевіч! Здыміце неба! Вось пабачыце, такога больш не будзе! — не сунімалася яна.

— Зусім ачмурэла дзяўчына! — абурыўся аператар-пастаноўшчык. — Засталося пяць цыгарэт, а ёй — неба здымай. Зараз пойдзеш на шашу цыгарэты страляць.

Наташа, пакрыўджаная, адышла ўбок.

У кожнага свае праблемы, падумаў Ігар.



— А ты чаго мардуешся? — накінуўся на яго аператар. — Лаві машыну, гані ў горад!

Але Ігар толькі пакруціў галавой. Вядома, частка групы магла паехаць і на адным аўтобусе, але, каб быць салідарнымі, усе вырашылі застацца. Ён адышоў ад аўтобуса і прысеў на броўку.

Што будзе з гэтым фільмам, калі яго ўбачыць кіраўніцтва студыі? Ці прымуць яго версію, ці будзе скандал? Тым больш, што канчатковы варыянт сцэнарыя ён не ўзгадніў з галоўным рэдактарам. Знарок утаіў, што ў чацвёрты раз перапісалі сцэнарый, бо адчуваў, што не атрымае падтрымкі і будзе вымушаны здымаць фільм пра кінакалгас. А ён хацеў паказаць тое, што засталося ад некалі здаровага сялянства — затузаных вяскоўцаў, якія нават да жывёл і да зямлі ставяцца як чужакі.

Гэтая задума зарадзілася ў яго некалькі гадоў таму, калі ён выпадкова стаў сведкам таго, як на ферме сапсаваўся даільны апарат, а механік валяўся недзе п'яны, і ўвесь статак нядоеных кароў роў ад болю, пакуль даяркі шукалі па ўсяму сялу якога мужыка, які б адрамантаваў гэты апарат. А Ігару тады хацелася раўці разам з тымі каровамі.

І зараз, калі пабыў тут, пакруціўся сярод вяскоўцаў, яшчэ больш упэўніўся ў слушнасці сваёй думкі. Неяк сядзелі са старшынёй на ганку сельсавета, палілі цыгарэту за цыгарэтай, размаўляючы пра цяжкасці вясковага жыцця. Высока ў небе ззяла праменнае сонейка, сляпіла вочы. Весела шчабяталі на дрэвах ластаўкі. Горда ўзняўшы галаву, прагульваўся па пыльнай дарозе карычневы певень. У траве, пад плотам, кудахталі куры. Мірнае, вальготнае сялянскае жыццё, а старшыня ўсё скардзіўся і скардзіўся.

— Няма ў людзей сумлення, — асуджальна казаў ён. — Толькі пра сябе, пра сваю скаціну і дбаюць. У мінулым годзе патравілі ўсе пасевы. І што я толькі не рабіў! І сам бычкоў тых лавіў, і штрафы браў, і на сходзе рашэнне прымалі. І што? Як кармілася тая жывёла з калгасных палёў, так і корміцца. Разбэсціўся народ. Працаваць няма з кім. Моладзь паўцякала, старыя яшчэ робяць, але колькі іх засталося, тых старых? Ды і на сучасную моладзь спадзявацца нельга — несумленна да працы ставіцца. Во, бачылі ў нас дзве фермы? Адна — на цэнтральнай сядзібе, новая, мадэрнізаваная, а другая — старая, на беразе возера.

— Так, бачыў, — сказаў Ігар, згадаўшы цудоўнае возера з гладкай ціхай вадой, у якую, нібы ў люстэрка, глядзеліся ніцыя вербы. Метрах у двухстах ад яго тулілася пачарнелая, абымшэлая ад даўнасці, спарахнелая ферма, да якой нават у пякучы летні дзень без гумавых ботаў немагчыма было падысці, бо двор быў забруджаны гноем. І ў дадатак да ўсяго — цяжкі, смярдзючы пах, які разносіўся па наваколлю. Успомніўшы гэты пах, Ігар міжволі скрывіў вусны і перасмыкнуў плячыма. Вар'яты! Такое возера загубіць! Ні сабе, ні людзям. І як душа не баліць?

Але старшыня зразумеў яго жэст па-свойму.

— Вы, пэўна, думаеце, што там каровы недагледжаныя, і памыляецеся. Бо там каровы здаравейшыя і малака ў паўтара раза больш даюць. А ведаеце чаму? — старшыня запытальна паглядзеў на Ігара. — Даяркі ўсе старыя, спрактыкаваныя, ведаюць, як з жывёлай абыходзіцца трэба. Карова, — ён павучальна паківаў пальцам, — гэта тая ж жанчына. І хваробы ў яе жаноцкія: то мастыт, то саскі трэскаюцца. І характар таксама жаночы — любіць, калі яе песцяць. З каровай і пагаварыць іншы раз трэба, і настрой яе зразумець. Можа, хварэць пачынае. А маладыя ўсё бягом, з крыкам, лаянкай, а то і пугаю кароў хвошчуць. Колькі разоў казаў: «Не псуйце ка-

ровам настрой! Вас бы гэтаю пугаю!» А яны смяюцца: «Які ў кароў настрой? Жывёла, нічога не разумее» .Нібы і не ў вёсцы выхоўваліся. Мая матка, тая інакш як з ласкальнай мянушкай да каровы не звярталася. Цяжка працаваць стала, цяжка.

— Гэта добра, што вы моладзь вучыце, пра настрой у кароў дбаеце,— з'едліва сказаў Ігар,— адно незразумела: чаму ж вы такое возера загубілі? Ужо добры адстойнік вы маглі б пабудаваць ці хоць апаражняць яго своечасова. Мы гэтую ферму з гадзіну здымалі, потым ніхто есці не мог. А як жа ў вас там старыя ўсё жыццё працуюць? Дзіва што моладзь будзе ўцякаць з вёскі. Жыць на беразе возера і не мець магчымасці ні пакупацца, ні рыбу павудзіць. Вы не крыўдуйце, але я лічу, што за такія справы судзіць трэба. Бо невядома яшчэ, што мае большую каштоўнасць: малако ці возера? Ды я на вашым месцы гэту ферму зруйнаваў бы, а замест яе пабудаваў невялічкі рыбзавод. Умомант разбагацеў бы.

— Так,— хмура згадзіўся старшыня,— з возерам і сапраўды бяда. І ферму зруйнаваць даўно трэба, і ўсіх старых з хутароў перасяліць, і ўсё трэба, трэба, трэба, а я тут з вамі языком малачу.— Ён зірнуў на гадзіннік, суха развітаўся і пайшоў да сябе ў кантору.

«Уцёк ад крытыкі»,— усміхнуўся Ігар.

Скардзіўся не толькі старшыня, скардзіліся і калгаснікі. Яны нібы знайшлі ў асобе Ігара вышэйшую ўладу і ішлі да яго са сваімі бедамі, і кожны раз прапаноўвалі што-небудзь зняць.

— А вы да нас завітайце, у нашу вёску,— зычным голасам казала рослая жанчына з агрубелымі, моцнымі рукамі,— на наша кармасховішча паглядзіце! Здыміце, як праз дах дождж лье, як кароў гніллю кормім!

— А вы б над кожнай каровай парасон паставілі б, і праблемы з дахам не было б,— пажартаваў Ігар.

— Вясной прыязджайце, калі шчупак ідзе,— апіраючыся на кій, прашамкаў бяззубым ротам маленькі дзядок.— Здыміце, як раённыя начальнікі па рыбах са стрэльбаў паляць.

— Гэта не да мяне трэба звяртацца,— развёў рукамі Ігар,— а да пракурора.

— Дык і пракурор з імі,— сумнымі вачыма паглядзеў на Ігара дзядок.

Скардзіліся калгаснікі і на побыт: магазін толькі на цэнтральнай сядзібе, бальніца — у раённым цэнтры, а калі захварэеш, асабліва восенню ці зімой, дык лепей адразу ж памерці, каб не мучыцца, бо з-за дарог у бальніцу тую ўсё роўна не трапіш. Вунь Яўхім тры дні гарэлкай ад страўніка лячыўся, і калі б у бальніцу яго не павезлі, дык жыў бы і жыў. А ў той час мароз на двары стаяў трыццаць градусаў, ён па дарозе запаленне лёгкіх атрымаў і памёр.

Ну а як магутны, нібы волат, ляснічы дзядзька Сымон сам сабе зуб ірваў, Ігар бачыў уласнымі вачыма. Узлез на табурэтку, прывязаў тоўстую нітку адным канцом да зуба, а другім да крука і саскочыў на падлогу. Потым выпіў шклянку гарэлкі і пайшоў працаваць.

Цікавы гэты дзядзька Сымон. У калгасе сапраўдны гаспадар ён, бо ў яго руках лес, а лес — гэта і будаўнічы матэрыял, і дровы. Хоча — дасць дазвол на высечку, а хоча — не дасць. Усё залежыць ад таго, у якіх ты з ім адносінах. Кажуць, і хабарам дзядзька Сымон не грэбуе. Але калі іншыя вяскоўцы разлічваюцца паміж сабой гарэлкай, дзядзька Сымон аддае перавагу грашам. У яго тры дачкі, і кожнай ён па машыне справіў. Зараз малодшай на кааператыў збірае. Гаспадарка ў дзядзькі Сымона добрая: і свіней, і карову, і каня трымае. Неяк частаваў вэнджаным салам. Смачнае! Але што самае смачнае ў дзядзькі Сымона, дык гэта гарэлка. П'ецца, нібы вада, і галава пасля не баліць.



— Вы, пэўна, дзядзька Сымон, сакрэт нейкі ведаеце? — спытаўся аднойчы Ігар.

Дзядзька Сымон задаволена зарагатаў.

— Я, братка, гарэлку нават у канцлагеры гнаў. І таксама была добрая.

У вайну трапіў дзядзька Сымон да немцаў у палон, два гады ў канцлагеры на мяжы з Францыяй сядзеў, потым на радзіму вярнуўся. Але як яго рэпрэсіі мінулі, пра гэта дзядзька Сымон ніколі не кажа. Мажа, таксама адкупіўся гарэлкай.

Багата цікавага тут у вёсцы і багата чаго, праз што душа баліць. Бо жыццё гэтых людзей у поўным сэнсе слова і жыццём нельга назваць. Рабы на ўласнай зямлі, што бачаць яны акрамя гарэлкі і знясільваючай працы? І ці іх у гэтым віна? Калі дзяржава забылася пра вёску, ці мае яна права хоць што-небудзь патрабаваць ад гэтых людзей?!

«Галіну б сюды,— думаў Ігар.— Хай напісала б некалькі нарысаў. Не пра культуру і ўраджаі, а пра лёсы людскія. Напісала б пра васьмідзесяцігадовую старую, у якой пасярод зімы скончыліся дровы, і яна паліла печ шпалерамі, пакуль суседзі не забралі яе да сябе. Ці пра дэбільных дзяцей — пладоў бацькоўскай любові ў п'яным запале. Хаця не, Галіне прапаноўваць пісаць пра гэта нельга. Напіша добра, па-жаночаму, так, што ў чытача з вушэй слёзы пацякуць, але потым чакай непрыемнасцей. Яшчэ хтонебудзь з высокіх кіраўнікоў на яе апалчыцца. Хай працуе ў сваім аддзеле культуры. Так і мне і ёй спакайней».

Ігар намацаў у кішэні апошнюю цыгарэту, закурыў. Шафёры ўсё яшчэ корпаліся ў маторы. Колькі ж яны будуць тут марнавацца? Ён устаў і падаўся да шафёраў.

## 13

Эгаістка, пакутніца! Подзвіг зрабіла — на багажнай лаўцы праехала! Ён працуе суткамі, а ты? Прамову рэпеціруеш. Калі любіш — цярпі. Любоў — гэта цярпенне. Цярпенне і спачуванне. Здольнасць адчуваць другога. Другога, а не сябе.

Галіна хадзіла з кута ў кут і пры кожным шолаху аўтамабіля кідалася на балкон. Галава расколвалася.

«Нешта здарылася, нешта здарылася,— без канца паўтарала яна.— Дванаццатая гадзіна, а іх усё няма. Але чаму я сяджу, чаму не званю ў міліцыю? Недзе падзеліся два аўтобусы. Два аўтобусы з людзьмі. Трэба ўсё кінуць, імчацца на дапамогу. Але куды? Куды?»

Галіна знясілена апусцілася ў крэсла, абхапіла галаву рукамі і заплакала.

Ігар сядзеў на пярэднім сядзенні побач з Наташай і сачыў, як за вокнамі праносіцца цемра. Нервовае напружанне, у якім ён знаходзіўся ўвесь дзень, адступіла, і ўсё цела нібы запаланіў бяздумны вакуум. Карцела толькі аднаго: хутчэй дабрацца да пасцелі, упасці і заснуць. І нікога не бачыць. Тым больш Галіну.

Ён заплюшчыў вочы, паспрабаваў адключыцца, але не змог. Мозг, як

нявыключаны магнітафон, працягваў працаваць, пракручваючы будучую сварку з Галінай.

— Гэй, ты спіш? — Ігар нахіліўся да Наташы, якая нарэшце стамілася і цяпер драмала. — Ведаеш, мяне ў гасцініцы жанчына чакае, — даверліва паведаміў ён.

— Ведаю, — кіўнула ў адказ галавой сонная Наташа. — Усе ведаюць. А што?

— Яна не дачакаецца, яна не даруе.

— Даруе. Усе жанчыны даруюць.

— Не, я вінаваты. Я больш вінаваты, чым ты сабе ўяўляеш. — Ён змоўк. — Наташа, я стаміўся. Я вельмі стаміўся. У мяне няма сіл яшчэ нешта тлумачыць... Я пайду да хлопцаў. А ты падыміся да яе і скажы: «Выбачайце, ён спіць. Ён вельмі стаміўся».

— Не, так няможна! — запярэчыла Наташа. — Тады яна вам сапраўды не даруе. Ніколі не даруе. Вы лепш вазьміце букет чырвоных ружаў... Не! Вы вазьміце ўсяго адну ружу, моўчкі працягніце ёй, а тады пагасіце святло... І вы будзеце стаяць сярод ночы, і яна будзе слухаць, што ёй шэпча чырвоная ружа.

— Прыгожа гаворыш, — задумаўся Ігар. — Можа, і сапраўды яно так і лепш. Але дзе я знайду ўначы чырвоную ружу?

— Як дзе? — шчыра здзівілася Наташа. — На клумбе перад гасцініцай. Іх там вельмі багата. Ды вы не хвалюйцеся, Ігар Сяргеевіч, — мякка сказала яна. — Мы вам усе паможам.

Галіна выцерла слёзы. Здаецца, нейкі шум? Яна выбегла на балкон. Слава богу! Прыехалі! Цэлыя і здаровыя! Але чаму ніхто не ідзе ў гасцініцу? Тоўпяцца... Зусім звар'яцелі! Ходзяць кругамі па клумбе... А гэта яшчэ што? Міліцыя пад'ехала... У яе перахапіла дыханне. Так і ведала, трапілі ў аварыю... Ігар з міліцыянерам стаіць на ганку гасцініцы. Нешта тлумачыць, размахвае рукамі. Усе ідуць у гасцініцу. Можа, спусціцца?

Галіна вярнулася ў пакой, нерашуча спынілася, прыслухоўваючыся да крокаў у калідоры. Раптам дзверы адчыніліся, Ігар з пахмурым выглядам наблізіўся да яе.

— У цябе грошы ёсць?

— Ёсць, — здзіўлена паглядзела на яго Галіна.

— Колькі?

— Пяцьдзесят рублёў.

— Давай сюды.

Нічога не разумеючы, Галіна дастала з сумкі пяцьдзесят рублёў, працягнула іх Ігару.

— А нашто? — спыталася, калі ён ужо быў у дзвярах.

— Штраф заплаціць, — злосна кінуў ён, — за ружу! — І, нядобра бліснуўшы вачыма, дадаў: — Я гэтую малую з яе рамантыкай заўтра ж у Мінск адпраўлю!

«Здаецца, усе звар'яцелі, — падумала Галіна. — Якая ружа? Які штраф? Якая малая?»

Яна разгублена паціснула плячыма і села ў крэсла чакаць Ігара.

...Тэлефонны званок раптам вярнуў Галіну да рэчаіснасці. Яна ашалела страсянула галавой, падышла да стала, зняла трубку.

— Слухаю.





Але ў трубцы было маўчанне, потым раздаліся кароткія гудкі. Галіна некалькі хвілін пастаяла ля тэлефона, чакаючы паўторнага званка, але ананімны абанент больш не званіў. Чаму? Ці памыліўся нумарам, ці не чакаў пачуць яе голас? А можа, гэта быў Ігар? Сярожа, напэўна, ужо паведаміў, што яна тут. Шкада, што з ёй не захацелі размаўляць. Мабыць, гэты званок што-небудзь праясніў бы. І чаму людзям не хапае шчырасці? Адзін нешта тоіць пра сябе, другі пра гэта і не здагадваецца. У выніку — канфлікт, сапсаваныя адносіны. Багата яна б зараз дала, каб даведацца, што ў Ігара на душы.

Галіна сумна паглядзела на тэлефон, потым узяла фотакарткі, пачала складаць іх у канверт. Думкі зноў вярнуліся да мужа.

...Пасля гэтых здымак у Ігара пачаліся непрыемнасці на кінастудыі. Галоўнага рэдактара ледзь удар не хапіў, калі ён убачыў кадр, дзе даяркі ў цяжкіх гумавых ботах прабіраліся пасля дажджу да кароўніка праз разлітую метраў на сто гнаявую жыжку.

— Дзе вы гэта здымалі? — зароў ён.

— На натуры, — агрызнуўся Ігар.

Потым на мастацкім савеце яго абвінавацілі ў тым, што ён вырашыў паказаць у адной карціне ўсе асобныя недахопы, якія яшчэ ёсць у некаторых калгасах, што ў калгаснікаў пустыя, забітыя твары, а дзеці падобны на сірот, якія ніколі не ведалі матчынай ласкі. Урэшце адзін з прысутных падвёў вынік і сказаў, што ў сцэнарыі была зусім іншая ідэя. І замест таго, каб прапагандаваць цяжкае, але высакароднае жыццё сялян, ён паказаў непрыглядную цемру, умовы працы, якія нельга назваць чалавечымі.

— Што і каму вы хочаце даказаць, калі паказваеце буйным планам распухлыя рукі даярак? — казаў прамоўца. — Ваш фільм — ідэалагічная дыверсія.

Потым паступіла прапанова ці перазняць некаторыя сцэны, ці «пакласці» фільм на паліцу, а рэжысёру аб'явіць вымову. Ігар перадумаць штонебудзь адмовіўся. У выніку фільм на экраны не выйшаў, а творчая група не атрымала пастановачныя.

Ігар спачатку трымаўся, хадзіў героем, казаў, што павязе фільм у Маскву, а потым запіў. І гэта быў кашмар, які доўжыўся некалькі месяцаў. І нічога няможна было зрабіць. Галіна разумела, што ён сам павінен выйсці з гэтага стану, і, як магла, падтрымлівала яго. Пасварыўшыся з-за Ігара з бацькамі, пераехала да яго. Яна не падлагоджвалася пад яго настрой, проста жыла разам з ім, жыла яго болем, гатавала, прыбірала. У яе хапіла вытрымкі і розуму не грызці яго ўвесь час, не дакучаць натацыямі. І ён ацаніў гэта. Самае дзіўнае, што ўсе гэтыя нягоды толькі зблізілі іх, і ўзімку яны пажаніліся. Жылі без грошай, на адну яе зарплату, і весела рагаталі, калі Ігар вырашыў зарабляць на жыццё набойкамі. І нават зараз той год здаецца ў іх жыцці самым шчаслівым. Вядома, гэта было не бязвоблачнае шчасце. Былі і крыўды, і сваркі. Але было і нешта іншае, нейкая ўнутраная патрэбнасць, якая надзейна звязвала іх.

І нечакана ўсё абарвалася. Ці, можа, не так ужо і нечакана? Ці разрыў наспяваў ужо даўно, а яна не хацела гэтага заўважаць? І калі ў яе душы нарадзілася стомленасць, што перарасла ў пачуццё палёгкі, з якім яна ў апошні раз бегла па лесвіцы, поўная нянавісці да таго, каго зусім нядаўна так кахала?

Што здарылася? З ім? З ёю? Цяпер? Даўно? І не гэтая ж п'янка выклікала ў ёй пачуццё непрымірымасці, паслужыла прычынай іх разрыву?

Хоць дзверы іх дома і не зачыняліся, але такія зборышчы бывалі вельмі рэдка. Не, справа не ў гэтым. Справа ў ёй самой. Чаго яна чакала і ў чым расчаравалася?

Галіна ўспомніла, як тлумачыла сяброўцы, чаму пайшла ад мужа.

— Разумееш, мне ўсё абрыдла! Чалавек, якому аддаеш сябе без астатку, увесь час плюе табе ў душу. Колькі можна жыць толькі ім, яго клопатамі, яго інтарэсамі, жыць і нічога не атрымліваць узамен?

Нічога не атрымліваць узамен... А што, уласна кажучы, яна хацела атрымаць? Каханне ж не рынак, дзе кожны можа патаргавацца, перш чым заключыць здзелку: пачуцці на пачуцці, пачуцці на грошы, пачуцці на ўдзячнасць. І ці не тут хаваюцца вытокі яе стомленасці, яе расчаравання? Спачатку растварыцца ў каханым чалавеку, прынесці сябе ў ахвяру, адчуваючы пры гэтым бязмежнае шчасце, а потым патрабаваць удзячнасці?! Але за што? За сваё каханне? За сваю бескарыслівасць? За тое, што несвядома ішло з глыбіні душы і што цяпер цвяроза пераацэньваецца? І вось у душы прачынаецца рынчачная гандлярка, і замест ахвярнага алтара з'яўляецца вага з гіркамі, і пачынаецца халодны падлік: туды-сюды, туды-сюды. Аргументы, аргументы... Хісткія спачатку, яны нябачна набіраюць вагу і сыплюцца самі па сабе, як камені з гары, завальваючы ўсё, што было добрага, жыццесцвярджальнага. І ўсё ж нішто не забываецца. Памяць падманлівая і наравістая. Яна, як мора ў час шторму, іграе, нібы каменьчыкамі, успамінамі. Усё раней ці пазней усплывае на паверхню. Часцей тады, калі папраўіць ужо нічога немагчыма. Вядома, мінулае не вяртаецца. Але ёсць сённяшні дзень і ёсць будучае. І нехта павінен паклікаць другога туды. Вось толькі хто?

Божа! Як змрочна ў гэтым пакоі! І калі нарэшце скончыцца гэтая жахлівая зіма?! Галіна шчоўкнула выключальнікам. Ружовае святло разлілося па пакоі. Ніколі яшчэ не адчувала такой раздвоенасці: кахаць чалавека і ўсё ж выкрэсліваць яго з свайго жыцця. А потым што? Бязрадаснае і бязмэтнае існаванне, якім яно было гэтыя шэсць месяцаў? А можа, усё было б інакш, калі б у іх нарадзілася дзіця?

Галіна задумалася, села ў фатэль, утаропілася ў столь.

Якія слушныя думкі прыходзяць у галаву, калі ты адна! Як усё цудоўна разумееш, аналізуеш, ацэньваеш! І якой бездапаможнай робішся пры сутыкненні з рэчаіснасцю. Думаеш адно, гаворыш другое, робіш трэцяе і ніяк не можаш прымірыцца сама з сабой, а яшчэ замахваешся на другога чалавека. Не, усё не так, усё няправільна!

Яна рашуча паднялася, прынесла з кладоўкі прасавальную дошку, уключыла прас. Трэба прывесці да ладу Ігаравы кашулі.

Можа, маці і мае рацыю, можа, з творчымі людзьмі добра толькі ў кампаніях. Можа, з кім іншым і яе жыццё склалася б інакш. Яна ўзяла ў шафе скамечаныя кашулі. Можа, ёсць сотні мужчын больш разумных, прыгожых, высакародных. Але ёй патрэбен ён, толькі ён, з яго няроўным характарам, з яго творчымі спадамі і ўздымамі, з яго дабратой, рэзкасцю, з яго неардынарнасцю. Галіна адпрасавала адну кашулю, павесіла яе на крэсла, узяла другую. І пакуль у яе ёсць хоць адзін толькі шанц, яна будзе змагацца. Трэцяя кашуля, чацвёртая, пятая... Можа, ён вернецца і ўсё зразумее, і яе маленькае паражэнне абернецца вялікай перамогай! Сёмая, восьмая... А калі не? Калі яна яму ўсё ж не патрэбна і ў яго душы даўно ўсё перагарэла? Дзевятая, дзесятая... Ну што ж, ва ўсякім выпадку яна развітаецца з ім з чыстым сумленнем.





Галіна выключыла прас, склала дошку, зноў паставіла пласцінку Джо Дасэна і, стаміўшыся, прылегла на тахту.

Яна ляжала, прыжмурыўшы вочы, прыслухоўвалася да прыемнага, пранікліваго голасу Дасэна і здзіўлена думала, што яшчэ нешта памятае з французскай мовы.

«Салют! Гэта зноў я. Салют! Ну як ты тут? — перакладала яна знаёмыя словы. — Звары мне кубачак добрай кавы, мне столькі ёсць пра што расказаць».

Яна слухала песню і добра ўяўляла сабе адзінокага, стомленага мужчыну, які пасля доўгіх вандраванняў па морах нарэшце вяртаецца да каханай жанчыны. Яна слухала яго споведзь, і ёй здавалася, што ён гаворыць менавіта тыя простыя словы, якія павінен быў сказаць ёй Ігар, але так і не сказаў.

І калі песня скончылася, яна паставіла яе зноў, узмацніла гук, каб лепей разбіраць словы, і не адразу зразумела, што нехта за яе спіной таксама папрасіў кавы.



*Васіль Жуковіч*

## МАЁ ПАКАЛЕННЕ

Я — з таго пакалення,
якому
цаліну узнімаць давяралі
і якому ў праграме вядомай
камунізм не на жарт абяцалі.

Помню я,
ў магазінах бязблатна
людзі бралі ікру з балыкамі,
хлеб з'явіўся ў сталоўках бясплатны —
на сталах узвышаўся стажкамі.

Потым леглі рэформачкі грузам,
і бясхлебіцы смак паспыталі.
Праслаўлялі тады кукурузу,
каралевай палёў называлі.

Ад зямлі адлучалі, ад мовы,
да кафэ прывучалі, да крамы
і, каб бога дабіць канчаткова,
разбуралі цудоўныя храмы.

Перагібы, прагляды, пралікі
шмат нашкодзілі нашым ідэям.
Толькі я пакланюся
вялікім
тых часоў незабыўным падзеям:

Каралёва дзіця — ракета
з мужным сынам Зямлі ўзляцела;
з Маўзалея
Краіна Саветаў
узурпатара вынесла цела.

■

Ветрык над нівай залётны,
лёгкі калосся ўскалых.
Жыта шумочак пяшчотны
лашчыць душы маёй слых.

Ў руху жыцця, ў шматгалоссі
шчасця танюткая ніць...
Бачыш, як ходзіць калоссе?
Чуеш, як жыта шуміць?

■

Бег я па доктара зімою.
Схавала Селішчы імгла,
яна падсвечана была
тваёю, бацька, сівізною.

Як снег, твае расталі сілы,
нявечны мой.
І зноў і зноў
з тваёй, здаецца, сівізной
плывуць аблокі над магілай.

## ЛЕТУЦЕННІ

Якая месячная ноч!
Шчыруе поўня над Зямлёю.
На свет, прасветлаваны ёю,
гляджу — і не адвесці воч.

І ў гэтай яснай харашбе
маёй душы нядрэмнай вочы

глядзяць з высокай светлай ночы
на незабыўную цябе.

Не, ты цяпер не спіш, не спіш —
ноч паэтычная якая!
Калі мяне і не чакаеш,
дык у прастор, як я, глядзіш.

Калі ж глядзіш, як я, ў прастор,
дык і душа твая ў прасторы,—
тады і ты са мной гаворыш —
не замінае нам нішто.

Якая месячная ноч!
І лёгкі лёт у летуценняў.
О валадар святла і ценяў,
майго ты шчасця не суроч!

■

Я выпадкова напаткаў,
як палявой дарогай крочыў,
пасля марознае ўжо ночы
агеньчык сіні
васілька.

Яго заўважыў я здалёк.
Чаму ён, сонцам ратаваны,
знячэўку мною напатканы
самотна-ясны
васілёк?

■

*Памяці Ігара Іваненкі*

Ты непрыкметна падрастаў і вырас.
Зара юнацтва толькі што ўзышла.
Твой дабрадушны помню твару выраз.
Ты не зрабіў нідзе нікому зла.

Не начытаўся ўдосталь і раманаў,
як узяла жалезная рука
і кінула ў вайну супроць душманаў,
дабрэннага ціхоню-хлапчука.

Што думаў ты, калі ў лістах лагодных
ласкавым словам маці суцяшаў?
Далёка ад лясоў, азёраў родных
чым поўнілася юная душа?

Вясна ўжо несла добрыя навіны,
іграла сонейка ў вачах вясны:
вярталіся байцы з чужой краіны,
з чужой вайны вярталіся сыны.

Як верылася ў блізкую удачу!
Як углядаўся я ў тэлеэкран:
здавалася, што я вось-вось убачу,
як пакідаеш ты Афганістан!

Пакінуў і дарогай невядомай
на ноч адну вярнуўся ў дом, дзе рос.
Але не радасць
ты прынёс дадому —
тугу-журбу бясконцую прынёс.

## ТВОЙ ВОБРАЗ

Усё ж не вонкавай красою
хвалюе вобраз твой жаночы.
Што мне твае казалі вусны,
адразу паўтаралі вочы.

Як я хачу, каб аніколі
тваёй красы не абакралі,
каб зноў усё, што скажуць вусны,
твае мне вочы паўтаралі.





# *Змітрок Марозаў*

■

І маладосць, як сон, прайшла,
І сталасць хутка прамінецца...
А сувязь цемры і святла,
Відаць, пазнаць не давядзецца.
Братэрства рушацца масты
І гінуць лепшыя надзеі,
Зло вырастае з дабраты,
А дабрата ад зла нямее.
З душой, стамлёнай ад ідэй,
Я веру ў розум пакаленняў,
Які ўратуе свет людзей
Перад пагрозаю знікнення.

## ЭПОХА

Рэвалюцыйныя дваццатыя,
Натхненнем ленінскім узнятыя.
Гады трыццатыя — астрожныя,
Саракавыя — пераможныя,
Пяцідзесятыя — праўдзівыя,
Шасцідзесятыя — імклівыя,
Сямідзесятыя — застольныя,
Васьмідзесятыя — загойныя...
На даляглядзе — дзевяностыя,
Рэвалюцыйныя, няпростыя...

## САЛАВЕЦКІ САЛАВЕЙ

Па мянушцы дзед Гардзей —
Салавецкі Салавей.
Колькі год маўчаў стары,
А цяпер загаварыў:

«Перамены на двары...
Хоць гектар зямлі бяры.
Ёсць у краме хлеб, алей.
І гамоніцца смялей.
Ёсць ахвота — крытыкуй.
Слова з перчыкам смакуй,
Ды начальства, як у сне,—
Нават вокам не міргне.
Я ж са слова (проста жах!)
Адсвістаў на Салаўках
Дзесяць год...»
Ажыў Гардзей —
Салавецкі Салавей!

## БРАТУ АЛЕСЮ

О, як цану губляюць словы...
А ты ім верыш, меншы брат!..
Вадой жывой мне стала мова,
Вадою мёртвай — звон цытат.
Я валуны не абмінаю,
Падобна коўзкаму вужу...
Вадою мёртвай боль здымаю,
Жывой — ізноў яго буджу.
Шчаслівы тым, што меў і маю,
Што больш патрэбна для жыцця!..
Вада не мёртвая — жывая
Мяне падыме з небыцця.

■

Ля хаты пах сена і хлеба,
Ранетавы град у садах,
Былінную біблію неба
Чытаюць буслы па складах.
Забыўшы пра дзённую стому,
Я слухаю сцішаны час,

Ды тое, што птахам вядома,
Таемным здаецца для нас.
Таму мітусімся без меры
У пошуках тых панацэй,
Што тайны міжзорных матэрый
Наблізяць да свету людзей.
І можа, калісьці зліецца
(Як знак на сусветны спакой)
Крылатасць буслінага сэрца
З жывой чалавечай душой.

■

Лягла на поле ціш густая,
Глядзіцца месяц у раку,
І вечар вёсачку люляе,
Як бацька сонную дачку.
А мне чамусьці зноў не спіцца,
І я, як цень, ля хат хаджу.
Чые маўклівыя вачніцы
Маю выстуджваюць душу.
На ўсім адбітак нейкай стомы...
Пры чым тут я з тугой сваёй?..
Тым больш, што вёсцы невядома,
Што нехта думае аб ёй.

■

*Уладзіміру Дуктаву*

Ну колькі можна пра змаганне?
Давай лепш пагамонім
Пра міласэрнасць і каханне,
Пра матчыны далоні.
Ну колькі можна сумнявацца
І бачыць толькі шкоду?..
Давай мазольнай, шчырай працай
Заплоцім доўг народу
За хлеб і соль, што сёння маем,
І за жывое слова,
За кожны дзень, што адкрываем
І пазнаём нанова.

## ПРАДЧУВАННЕ

Чую гул далёкай навальніцы,
Бачу сполах пудкіх бліскавіц...
Што рабіць? Куды мне прытуліцца?..
Да якіх сузор'яў і крыніц?
Мне да зор праз хмары не прабіцца,
А крыніцы раскай заплылі...
Дык пайду ж насустрач навальніцы,
Што абвесніць потны твар зямлі.

■

Нашчадкі генія не судзяць,
Які, не ведаючы сну,
Шчыруе сам і ў сэрцах будзіць
Сярод жыццёвых вей вясну.
Нішто яму не замінае —
Ні мітусня, ні тлум людскі,
Не трызніць ён занебным раем,
А чуйна слухае вякі.
Не чуе плётак ён заплечных,
Струной натхнёнаю звініць,
Пакуль агнём высокім вечнасць
Яго душу не спапяліць.





# *Мікола Федзюковіч*

■

Калі б попел
не напамінаў аб пажарах,
а цішыня —
аб выбуховым громе,
калі б я спакойна мог глядзець
на вечарова-велічнае неба,
не чакаючы небяспекі
ні з захаду, ні з усходу,—
о, як бы я цудоўна адпачыў!..

Пайшоў бы ў тэатр
ці ў чытальную залу,
слухаў бы сімфонію
ці гуляў бы ў шахматы...

Але —
што́ драматычнае прадстаўленне
перад спектаклямі на палітычнай сцэне?!

Але —
што сімфанічны канцэрт
перад гулам стратэгічных бамбавозаў?!

Але —
што ўсе бібліятэкі
прад штодзённаю кнігай чалавечых страт?!

■

О, як бы ні жыў ты цярпліва,—
стамляюцца розум з душой
ад плётак і зайздрасці хцівай,
абра́зы — сваёй і чужой...
Чаму ж, калі рвецца на часткі
ад спрэчак наш свет дарагі,
дабрэе адзін у няшчасці,
зласнее ў раскошы — другі?

■

Я — полымя, каханая — бы лёд.
Халодны лёд у полымі праменняў
чамусь не растае — наадварот,
ён камянее ад маіх маленняў...

І светач мой — над прорваю начэй —
не гасне ад завеі пры спатканні,
а толькі разгараецца ярчэй
і спараджае новыя жаданні.

О, што за цуд і што за чарадзей!
Чаму агонь бяссільны перад лёдам,
што раўнадушна да маіх грудзей
прыстаў і непакоіць год ад году?..
Такое права, мусіць, у кахання —
яно змяняе ўсё без пакаяння.

## ПАЭТ

*...Хай судны час настане —*
*Спакойна Музе ён*
*і проста ў вочы гляне...*
М. Багдановіч

Прыслухайся, Маці-Краіна,
як ціха — каторы ўжо год!..—
зямля прыняла свайго сына,
зямля благаславіла ў палёт.

Максімаву веліч мусова
нам словам азначыць якім?
Ды слоўнік бяссільны, бо слова
няма адпаведнага ў ім.

Ёсць сіняя бухта ў паэта,
прытулку ў паэта няма...
Нябесным агнём абагрэта
ягонае Музы імя.

■

Напэўна, небам ты была калісьці —
лагодным небам над маёй калыскай,
бо я і сёння ў позірку тваім
уздрыгваю і плачу кожнай рыскай;

затым заззяла сонцам залатым,
якое аддае праменне тым,
хто жыў і памыляўся бескарысна
ў краіне ўсемагутнай праваты!

Калі ж ты станеш, як і я, зямліцай,—
хай застанецца хоць адзіны друг,
што прыйдзе той зямліцы пакланіцца...

Як не сустрэне міласэрных рук,—
няхай не пабаіцца памыліцца,
ён — Чалавек, ягоны сын ці ўнук.

■

Якое нялёгкае права —
аддаць развітальны паклон
маўклівым выгоністым травам,
што ўпалі пад ссечаны клён!..

У цэнтры дзівоснай прыроды
прыціснуты ён да зямлі...
Якія былі тут народы?
Якія тут статкі былі?

Якога стагоддзя бураны,
маланкі эпохі якой
прайшліся няшчадна, старанна
па кроне яго маладой?..

Пад небам блакітна-чароўным,
скажыце, хто праў — хто не праў
прад гэтай лістотай чырвонай,
прад гэтым пажарышчам траў!





# Публіцыстыка







*Алесь Кажадуб*

# Рака вады жывой

**ЭСЭ**

**Заканчэнне. Пачатак у № 10.**

Далей Псеўда-Маўрыкій расказвае, што ваяваць славяне любяць у лясах, на стромах, умеюць вельмі добра пераправўляцца праз рэкі з дапамогай чароту. Кожны воін узброены двума невялікімі коп'ямі, шчытом, драўляным лукам і кароткімі стрэламі, намазанымі асаблівым ядам. Нападаць на славян трэба летам, калі спрыяе надвор'е.

А мне хочацца дадаць ад сябе, што тады, у шостым стагоддзі нашай эры, на сярэднім Дняпры было шмат лясоў. Інакш дзе б яны хаваліся, тыя дняпроўскія славяне?

І нарэшце, апошні гісторык шостага стагоддзя, Іаан Эфескі, сірыец па паходжанні, пакінуў нам такі запіс у сваёй «Царкоўнай гісторыі»: «У трэці год пасля смерці імператара Юстына, у цараванне імператара Ціверыя II, выйшаў пракляты народ славян і прайшоў усю Эладу, вобласці Фесалонікі і ўсю Фракію.

**Спракавечны дуб у вёсцы Вавулічы Драгічынскага раёна.**

Яны захапілі шмат гарадоў і крэпасцяў, зруйнавалі, спалілі, паланілі і пакарылі вобласць і паселішчы ў ёй лёгка, без страху, як сваю ўласную. Так было на працягу гадоў чатырох, пакуль імператар быў заняты вайной з персамі і ўсе свае войскі пасылаў на ўсход. Таму яны, размясціўшыся на гэтай зямлі, пасяліліся на ёй і шырока раскінуліся, пакуль бог ім папускаў. Яны нішчылі, палілі і бралі ў палон да самай знешняй сцяны і захапілі многа тысяч царскіх табуноў і ўсякіх іншых. І да гэтага часу (584 год нашай эры) яны размясціліся і жывуць спакойна ў рамейскіх вобласцях без клопату і страху. Яны бяруць у палон, забіваюць спальваюць; яны разбагацелі, маюць золата і срэбра, табуны коней і шмат зброі і абучаныя ваяваць больш, чым рамеі».

Што ж, і той жа Іардан з сумам адзначыў, што славяне, у часы Германарыха вельмі слабыя як воіны і моцныя толькі колькасцю, «цяпер па грахах нашых лютуюць паўсюль».

Аднак зробім некаторыя вывады. Прадстаўнікі класічнай гісторыі лічаць, што на пачатку нашай эры славяне сядзелі на Карпатах. З трэцяга стагоддзя з захаду на іх пачалі нападаць готы, а ў чацвёртым стагоддзі гоцкі цар Германарых з агнём і мячом прайшоў скрозь іхнія землі і стварыў моцную і вялікую дзяржаву, як пісалі многія вучоныя—першую на нашай зямлі.

Сучасная гістарычная навука (акадэмік Рыбакоў і іншыя) аспрэчвае гэтую састарэлую тэорыю аб «дунайскай прарадзіме». Самым галоўным яе мінусам, лічыць Б. Рыбакоў, з'яўляецца тое, што тэкст славутай «Повести временных лет» відавочна няправільны і заблытаны. Па-першае, гэты тэкст не аднойчы рэдагаваўся, пачынаючы з дванаццатага стагоддзя, а па-другое, сам Нестар не назваў ніводнага славянскага племені на Дунаі. Да сярэдзіны першага тысячагоддзя нашай эры, піша Б. Рыбакоў у кнізе «Язычніцтва старажытных славян», славяне не пераходзілі праз вялікі ланцуг еўрапейскіх гор: Судзетаў, Татраў, Бяскідаў і Карпат. «Прарадзіма славян у бронзавым веку малюецца ў наступным выглядзе: заходняя мяжа яе даходзіла да Одэра і Варты, г. зн. да Брандэнбурга-Бранібора, які этымалагізуецца як «абарончы, пагранічны бор». Паўночная мяжа ішла ад Варты на лукавіну Віслы і далей амаль проста на ўсход, пакідаючы к поўдню (унутры прарадзімы) увесь Заходні Буг і Прыпяць. Прыпяць магла быць важным магістральным шляхам з захаду на ўсход да Дняпра. Паўночна-ўсходнія рубяжы прарадзімы захаплівалі вусці такіх рэк, як Бярэзіна, Сож, Сейм; ніжняе цячэнне Дзясны аказвалася ўнутры прарадзімы. Уніз па Дняпры мяжа даходзіла да Росі... Паўднёвая група ішла ад Дняпра да Карпатаў, перасякаючы ў верхнім цячэнні Паўднёвы Буг, Днестр і Прут. Далей мяжа слізгае па паўночным схіле Карпатаў і ідзе да вярхоўяў Віслы і Одэра».

Дарэчы, на яго думку, дзяржава Германарыха была не дзяржавай, а толькі вялікім і ўдалым паходам цара готаў па землях эстаў, меры, мардвы і венетаў, ці венедаў,—славян.

Такім чынам, прарадзіму славян трэба шукаць між Одэрам і Дняпром, ні ў якім разе не на Дунаі.

Дык што ж першы наш летапіс, «Повесть временных лет»? Адкінуць і не браць пад увагу?

Я ўсё ж не думаю, што летапіс гэты як хто хацеў, так і перапісваў. Нават больш таго—наш першы летапісец Нестар грунтаваўся ўсё ж на тых падзеях, якія засталіся ў народнай памяці, можа, не на самыя падзеі, а на іх водгулле. І тое, што да яго дайшло, занатоўваў. Расказаў пра рассяленне славян. Пра Кія, Шчэка і Харыва. «І былі тры браты: адзін па імені Кій, другі—Шчэк і трэці—Харыў, а сястра іх была Лыбедзь. Сядзеў Кій на гары, дзе цяпер пад'ём Барычаў, а Шчэк сядзеў на гары, якая цяпер завецца Шчэкавіца, а Харыў на трэцяй гары, якая празвалася па ім Харывіцай. І пабудавалі гарадок у імя старэйшага свайго брата і назвалі яго Кіеў. Быў кругом горада лес і бор вялікі, і лавілі там звяроў, а былі тыя мужы мудрыя і кемлівыя, і называліся яны палянамі, ад іх паляне і да гэтага часу ў Кіеве.

Некаторыя ж, не ведаючы, гавораць, што Кій быў перавозчыкам; быццам быў тады ў Кіеве перавоз з таго боку Дняпра, адсюль і гаварылі: «На перавоз на Кіеў». Калі б Кій быў перавозчыкам, дык не хадзіў бы да Царграда; а між тым Кій гэты княжыў у родзе сваім, і хадзіў ён да цара, і з вялікім гонарам ушанаваў яго, кажуць, той цар, пры якім ён прыходзіў. Калі ж вяртаўся, прыйшоў ён на Дунай, і ўпадабаў месца, і зрубіў гарадок невялікі, і хацеў сесці ў ім са сваім родам, ды не далі яму тыя, што жылі побліз; так і дагэтуль называюць прыдунайскія жыхары гарадзішча тое—Кіявец. Кій жа, вярнуўшыся ў свой горад Кіеў, тут і памёр; і браты яго Шчэк і Харыў і сястра іх Лыбедзь тут жа сканалі».

Дайшлі да Нестара і трагічныя ўспаміны пра обраў-авараў, якія «примучивали» славян. «У тыя ж часы існавалі і обры, якія ваявалі супраць цара Іраклія і ледзь яго не захапілі. Гэтыя обры ваявалі і супраць славян і прымучылі дулебаў—таксама славян, і тварылі гвалт над жонкамі дулебскімі; калі паедзе куды обрын, дык не дазваляў запрэгчы каня ці вала, але загадваў запрэгчы ў калёсы трох, чатырох ці пяць жонак і везці яго—обрына,—і так мучылі дулебаў. Былі ж гэтыя обры вялікія целам, а розумам ганарлівыя, і бог знішчыў іх, памерлі ўсе, і не засталося ніводнага обрына. І ёсць прымаўка на Русі і дасюль: «Пагінулі як обры»,—іх жа няма ні племені, ні нашчадкаў. Услед за гэтымі обрамі прыйшлі печанегі, а затым ішлі чорныя вугры паўз Кіеў, але было гэта пасля ўжо—пры Алегу».

Можна верыць ці не верыць гэтым сведчанням нашага Пачатковага летапісу, аднак зараз ужо мала хто сумняваецца ў аўтахтоннасці старажытнарускай культуры. Рассяляцца славяне, безумоўна, рассяляліся, аднак на Вісле, на Дняпры, на Прыпяці яны заўсёды былі.

Ясна, што адной нейкай крыніцы—пісьмовай, археалагічнай альбо міфалагічнай—цалкам давяраць нельга. Але тым не менш бясспрэчна, што да шостага стагоддзя новай эры на мяжы славянскага свету і Візантыйскай імперыі ўтварылася наступная сітуацыя. Адзін за адным збіраліся і рассыпаліся шматлікія і шматлюдныя племянныя і міжплемянныя воінскія саюзы, у якія ўваходзілі не толькі ўласна славяне, але і тыя народы, што вылучыліся са скіфска-сармацкага адзінства—геты, язygi, раксаланы, аланы, бастарны, дакі. Саюзы ўзнікалі і распадаліся, пад іхнімі ўдарамі трашчаў абарончы ланцуг крэпасцяў Рымскай імперыі—але ўсё яшчэ не разрываўся. Вось-вось павінен быў прагучаць нячутны і незразумелы асобнаму чалавеку сігнал, па якім усе гэтыя орды, атрады, войскі і гурты рушаць у наступ, спыніць які бяссільныя самыя моцныя засловы. Так, рыхтавалася вялікае перасяленне народаў, і важная роля ў ім адводзілася славянам. Балканы ў тым этнічным складзе, які мы зараз бачым,—вось вынік гэтага перасялення. А чаму народы зрушваюць з месцаў, падымаюцца з усім сваім нажыткам і ідуць, забыўшыся на магілы продкаў,—гэтага не ведае ніхто. Незлічоныя курганы маўкліва стаяць у стэпах, нагадваючы пра невядомыя нам народы, якія некуды пайшлі. Пад час вялікага перасялення многія народы зніклі—але гэта не значыць, што яны зніклі бясследна. Мова, мова кожнага з народаў, якія зараз існуюць, некалі падкажа чалавеку, з кім гэты народ суседзіў, з кім ішоў у невядомую зямлю, з кім парадніўся і праз каго прайшоў, як скрозь дым развітальнага вогнішча. Мова аказалася самым трывалым элементам чалавечага свету, нават знікаючы, народы пакідалі сябе ў мове сваякоў, суседзяў, заваёўнікаў.

І ў шостым стагоддзі нашай эры, як запісаў Пракопій Кесарыйскі, «нерымляне, гэта значыць усе «варвары», аб'ядналіся супраць агульнага ворага і з грукатам абрынуліся на Рым». Гэта быў пачатак канца другога Рыма.

А на дняпроўскіх стромах, на возеры Ільмень, у прыпяцкіх пушчах і балотах, на пагорках Валыні і азёрна-лясістай зямлі крывічоў ужо ўзрастала Кіеўская Русь.

Я ўсё ж схільны думаць, што на Балканы рынула тая частка славянскіх вайсковых саюзаў, якая брадзіла, як хмяльное варыва, на самым памежжы імперыі і краіны варвараў. Але і гэтай часткі было дастаткова, каб назваць тую плынь магутнай. Асноўная ж частка славян засталася на сваіх «дзедзічных» землях. Не, яна не сядзела на адным месцы, таксама безупынна рухалася на захад, поўнач і ўсход, аднак гэта быў спакойны рух, мірны, славяне ішлі як аратаі, як паляўні-

чыя, як гандляры-нарыхтоўшчыкі,—адным словам, як добрыя людзі ў госці да такіх жа добрых людзей.

I вось яна—Кіеўская Русь. Колькі спрэчак вялося і вядзецца вакол гэтага слова—Русь. Сапраўды, скіфы ў Герадота, анты і склавіны ў візантыйскіх гісторыкаў, нарэшце, венеды ў Іардана, і раптам—Русь, рускія землі, рускія князі, руская дзяржава. Акадэмік Б. Рыбакоў лічыць, што нічога дзіўнага няма, была і ёсць рэчка Рось, самы цэнтр славянскай айкумены, на яе берагах жылі росы, ну, а ад росаў да русаў нават і паўкроку няма. «Адна і тая ж вобласць—лесастэпавае Сярэдняе Падняпроўе... зрабілася ядром Кіеўскай Русі з гарадамі Кіевам, Чарнігавам, Пераяслаўлем. У сярэднія вякі менавіта гэты рэгіён насіў назву «Рускай зямлі» ў вузкім разуменні тэрміна, які ўзнік, відаць, не без сувязі з раёнам ракі Рось, дзе ва ўсе часы знаходзіліся найбольш яркія археалагічныя помнікі дняпроўскіх аратаяў»,—піша Б. Рыбакоў у кнізе «Язычніцтва старажытнай Русі».

Але чаму тады ў нашых першых летапісах ёсць паляне, славены, драўляне, крывічы, радзімічы, вяцічы, дрыгавічы, палачане, север, бужане, валыняне; вельмі старанна пералічаны тыя, хто даваў дань Русі—чудзь, мера, весь, мурама, чарамісь, мардва, перм, пячэра, ям, літва, зімігола, корсь, нерама, ліб; расказваецца пра балгар і вуграў, пра тое, што дулебы жылі па Бугу, улічы і ціверцы сядзелі на Днястры і суседзілі з Дунаем,—а пра росаў ні слова? Нават больш таго. «У год 6370 (862). Выгналі варагаў за мора, і не далі ім даніны, і пачалі самі сабой валодаць, і не было сярод іх праўды, і паўстаў род на род, і была ў іх усобіца, і пачалі ваяваць адзін з адным. I сказалі сабе: «Пашукаем сабе князя, які б валодаў намі і судзіў па праву». I пайшлі за мора да варагаў, да русі. Тыя варагі называліся руссю, як іншыя называліся шведы, а іншыя нарманы і англы, а яшчэ іншыя гатландцы (готы),—вось так і гэтыя празываліся. Сказалі русі чудзь, славяне, крывічы і весь: «Зямля нашая вялікая і шчодрая, а парадку ў ёй няма. Прыходзьце княжыць і валодаць намі». I выбраліся тры браты са сваімі родамі, і ўзялі з сабой усю русь, і прыйшлі; і сеў старэйшы, Рурык, у Ноўгарадзе, а другі, Сінеўс (Сінявус), на Белавозеры, а трэці, Трувар, у Ізборску. I ад тых варагаў празвалася Руская зямля. Ноўгарадцы ж—тыя людзі ад варажскага роду, а раней былі славяне. Праз два ж гады памерлі Сінеўс і брат яго Трувар. I завалодаў усёй зямлёй адзін Рурык і пачаў раздаваць мужам сваім гарады—таму Полацк, гэтаму Растоў, другому Белавозера. Варагі ў гэтых гарадах—находнікі, а карэннае насельніцтва ў Ноўгарадзе—славяне, у Полацку—крывічы, у Растове—мера, у Белавозеры—весь, у Мураме—мурама, і над тымі ўсімі ўладарыў Рурык. I былі ў яго два мужы, не сваякі ягоныя, але баяры, і адпрасіліся яны ў Царград са сваім родам. I адправіліся па Дняпры, і калі праплывалі, дык убачылі на гары невялікі горад. I спыталіся: «Чый гэта гарадок?» Мясцовыя ж жыхары адказалі: «Былі тры браты, Кій, Шчэк і Харыў, якія пабудавалі гарадок гэты і згінулі, а мы тут сядзім, іхнія нашчадкі, і плацім даніну хазарам». Аскольд жа і Дзір засталіся ў гэтым горадзе, сабралі да сябе шмат варагаў і пачалі валодаць зямлёй палянаў. Рурык жа княжыў у Ноўгарадзе».

Вось на гэтым запісе «Повести временных лет» і заснавалася сумна вядомая нарманская тэорыя Шлёцэра, якую ў мінулым стагоддзі падтрымлівалі Карамзін, Пагодзін, Салаўёў, ды і цяпер у яе нямала прыхільнікаў. Згодна гэтай тэорыі, піша Ключэўскі, «да паловы IX ст., г. зн. да прыходу варагаў, на вялікай прасторы нашай раўніны, ад Ноўгарада да Кіева па Дняпры направа і налева, усё было дзіка і пуста, пакрыта моракам, і жылі тут людзі, але без праўлення, падобна звярам і птушкам... Такім чынам, нашу гісторыю трэба пачынаць не раней паловы IX ст. ...Другі погляд на пачатак нашай гісторыі прама супрацьлеглы першаму... Найбольш поўнае выкладанне яго можна знайсці ў працах прафесара Маскоўскага універсітэта Бяляева і п. Забеліна ў I томе яго «Гісторыі рускага жыцця са старажытных часоў». Вось асноўныя рысы яго погляду. «Усходнія славяне заўсёды жылі там, дзе ведае іх наш Пачатковы летапіс. Тут, у межах рускай раўніны, яны пасяліліся, можа быць, яшчэ за некалькі стагоддзяў да р. х.».







Здавалася б, якая розніца, хто быў Рурык і адкуль ён прыйшоў. Аднак не. На захадзе, ды і не толькі там, паслядоўна і мэтанакіравана праводзіцца думка: славяне нават на самым пачатку не здольны былі стварыць сваю дзяржаву, якая ўжо там перабудова!.. I як сцяг уздымаюць імя нармана Рурыка. Тут жа ўспамінаецца цэлы сонм нямецкіх прозвішчаў на рускім прастоле, маўляў, Кацярына II да смерці гаварыла са спецыфічным акцэнтам...

Аднак і тады, і цяпер было і ёсць шмат гісторыкаў, якія вельмі спакойна ставіліся да нарманскага паходжання Рурыка. Зусім нядаўна Б. Лісін у сваім артыкуле ў «Литературной России» «Адкуль родам Рурык» правёў цікавае даследаванне. Аказалася, што яшчэ М. В. Ламаносаў выводзіў паходжанне Рурыка з палабскіх славян. Затым У. Чывіліхін у сваім рамане «Памяць» пераканаўча даказваў гэта. На поўначы ГДР, на тэрыторыі былога герцагства Мекленбург, піша Б. Лісін, «на мяжы X стагоддзя жылі шматлікія славянскія плямёны абадрытаў, вендаў, ругаў і іншыя. Адно з тых плямён называлася варыны ці вэрынгі, у рускай мове гэта гучала як варагі. Блізкае ім славянскае племя па мове і культуры было ругі, руяне ці русы, якія пражывалі на востраве Руген. Прычым гэты востраў займаў зусім асаблівае месца ў свеце славян. Многія аўтары, у прыватнасці Самсон Граматык, падкрэслівалі, што храм, які знаходзіўся на гэтым востраве, шанавала «ўся славянская зямля».

Цікава, што ў пісьме да ругенскіх князёў у 1304 годзе папа Бенедыкт IX звяртаецца як да «ўлюбёных сыноў, славутых мужоў, князёў рускіх». Нават горад Любек па дакументах 1373 і 1388 гадоў памяшчаецца ў Расіі. А хіба выпадкова, што апошняя жыхарка вострава Руген, якая гаварыла па-славянску і якая памерла ў 1402 годзе, насіла прозвішча Галіцына?»

I далей ён, грунтуючыся на ўласных пошуках і даследаваннях А. Кузьміна, выводзіць, што Рурык, Трувар і Сінеўс былі сынамі караля Годлайба (Годлава, Гадаслава), які загінуў у 808 годзе ў вайне з датчанамі. Пазбаўленыя прастола, браты вымушаны былі шукаць шчасця на чужыне—і знайшлі яго аж у Ноўгарадзе.

Што ж—вялікая краіна Славянія! I няма нічога дзіўнага ў тым, што славяне з-пад Лабы ці з-пад Віслы ішлі да сваёй радні на Ільмені. Паслухайце, як гучаць назвы паселішчаў там, на поўначы ГДР: Бялоў, Бураў, Воўкаў, Глазаў, Грыбаў, Карпаў, Лісаў, Лукаў, Русаў, Мядоў, Старгарад. Людзі даволі часта пераходзяць са старога горада ў новы. Ды і не нашмат большая адлегласць паміж ругамі-русамі, чым паміж росамі-русамі. Зрэшты, пра першых і ў летапісе напісана, «сице бо ся зваху тьи варязи русь». Каб летапісец нешта блытаў ці чагосьці не ведаў, ён не растлумачыў бы так дакладна, што іншыя народы ў тых землях завуцца свеямі, англянамі, готамі.

А. Кузьмін у артыкуле «Хрышчэнне Русі: канцэпцыі і праблемы» адзначае, што «даследчыкі не лічацца з фактам адначасовага існавання мноства «Русій». Толькі на тэрыторыі Усходняй Еўропы «Русь» вядома па крайняй меры ў чатырох месцах: Сярэдняе Падняпроўе, Прыкарпацце, Прычарнамор'е, узбярэжжа Каспія. У XIII стагоддзі нейкая «Русь» упамінаецца ў Мардовіі. У чатырох месцах вядомая «Русь» у Прыбалтыцы: востраў Руген з прыбярэжнай палосай (уключаючы Шлезвіг), вусце Нёмана, вусце Заходняй Дзвіны, Заходняя Эстонія (вобласці Раталія і Вік). Упамінаецца «Русь» таксама ў розных частках Балканскага паўвострава і некаторых іншых месцах».

Але далей А. Кузьмін усё ж адзначае, што найбольш крыніц вядома якраз па Русі Дунайскай, а французскія крыніцы назву «Русь» (Дунайскую) упамінаюць часцей, чым Германію. Адначасова тыя крыніцы згадваюць і Русь Кіеўскую.

Асэнсоўваючы ўсё вышэй сказанае, ужо быццам і няма патрэбы адмаўляць прыход у Ноўгарад Рурыка з братамі, маўляў, і Рурыка не было, і летапіс рэдагаваўся, і дапісвалася туды ўсякая непатрэбшчына. Безумоўна, гэтае пытанне яшчэ чакае сваіх даследчыкаў, мы ж засяродзімся на этнагенезе ўсходнеславянскіх плямёнаў.

Кіеўская Русь пачала аб'ядноўваць усходнеславянскія плямёны, відаць, з V стагоддзя. Ва ўсякім выпадку, Б. Рыбакоў лічыць, што легендарны Кій заснаваў саюз з візантыйскім імператарам Анастасіем у канцы V—першай трэці VI стагоддзя. Да гэтага ж часу належаць знаходкі візантыйскіх манет на Старакіеўскай гары і на Падоле ў Кіеве. Значыць, горад ужо тады стаяў на дняпроўскіх берагах, ужо з горада-крэпасці плылі лодзіі вояў і гандляроў да Царграда.

Але Кіеў — не проста горад. Гэта ўжо вялікая зямля, вялікая дзяржава. З каго яна складалася? Чытайма летапіс.

«Паляне ж, якія жылі самі па сабе, як мы ўжо гаварылі, былі з славянскага роду і толькі пасля назваліся палянамі, і драўляне пайшлі ад тых жа славян і таксама не адразу назваліся драўляне; радзімічы ж і вяцічы—ад роду ляхаў. Былі два браты ў ляхаў—Радзім, а другі—Вятка, і прыйшлі і селі: Радзім на Сожы, і ад яго празваліся радзімічы, а Вятка сеў з родам сваім па Ацэ, ад яго атрымалі сваю назву вяцічы. І жылі паміж сабою ў міры паляне, драўляне, северане, радзімічы, вяцічы і харваты. Дулебы ж жылі па Бугу, дзе зараз валыняне, а улічы і ціверцы сядзелі па Днястры і суседзілі з Дунаем. Было іх многа: сядзелі яны і раней па Днястры да самага мора, і захаваліся гарады іхнія і дасюль; вось чаму грэкі называлі іх «Вялікая Скіф».

Так, вось мы і дайшлі да самага галоўнага: зараз нас найбольш будуць цікавіць крывічы, радзімічы і дрыгавічы, плямёны, якія далі пачатак цяперашнім беларусам. Але, перш чым уважліва ўгледзецца ў запрыпяцкія землі Кіеўскай Русі, неабходна сказаць колькі слоў пра ранейшых славянскіх багоў. Без гэтага не абысціся, бо разам з утварэннем Кіеўскай дзяржавы адбылася замена шматлікага паганскага пантэона на аднаго бога, бога-айца, бога-сына і святога духа. Не проста распяты і ўваскрэслы бог ад маці чалавечай змяніў драўляныя і каменныя балваны, а перайначыў духоўны свет нашых продкаў. Вочы, якія бачылі адно лясы, рэкі і горы, якія бачылі толькі сябе і сабе падобных, на гэты раз спыніліся на нечым іншым. Ідэя бессмяротнасці душы, а разам чалавека, заснавалася на ідэі духоўнай прыгажосці. Бог як духоўны сімвал асвяціў зямное жыццё чалавека.

Іларыён у «Слове аб Законе і Благадаці» пісаў: «І мы ўжо не ідаласлужыцелі называемся, але хрысціяне, і жывем ужо не без надзеі, але спадзяемся на жыццё вечнае. І ўжо не капішчы сатанінскія будуем, але Хрыстовыя цэрквы ствараем, ужо не прыносім бесам у ахвяру адзін аднаго, але ведаем, што Хрыста за нас заклалі і прыбілі да крыжа ў ахвяру богу і айцу. І ўжо не гінем, зазнаўшы ахвярную кроў, а ратуемся, зазнаўшы прачыстую кроў Хрыста. Усе краіны бог наш памілаваў і пра нас паклапаціўся: пажадаў і выратаваў нас, прывёў да пазнання ісціны.

...У адзін час уся зямля нашая ўславіла Хрыста з айцом і са святым духам. Тады пачаў морак паганскі ад нас аддаляцца, і заняўся заранак благавер'я; тады цемра служэння бясоўскага знікла, і сонца Евангелля нашую зямлю асвяціла; цяпер капішчы разбураюцца і цэрквы ўзводзяцца, ідалы звяргаюцца, і абразы святых паяўляюцца, бесы ўцякаюць, і крыжы гарады асвячаюць...»

А вось Кірыл Тураўскі, самы паэтычны са старажытнарускіх прапаведнікаў: «Цяпер зіма грахоўная пакаяннямі скончылася і лёд нявер'я ўведаннем бога растаў. Гэта зіма язычніцкага куміраслужэння апостальскім вучэннем і Хрыстовою вераю скончылася, лёд жа Фаміна нявер'я паказаннем Хрыстовых рэбраў растаў. Зараз вясна красуецца, ажыўляючы зямную існасць, і бурныя вятры, ціха павяваючы, плады памнажаюць, і зямля, насенне жывячы, зялёную траву нараджае. Вясна красная ёсць вера Хрыстовая, якая хрышчэннем адраджае чалавечую сутнасць, а бурныя вятры—грахоўныя думкі, якія пакаяннем ператварыліся ў дабрадзейныя, узгадоўваюць душакарысныя плады. Зямля ж сутнасці нашай, як семя, слова божае прыняўшы і страхам яго вельмі напоўніўшыся, дух уратавання нараджае».

Прамовы Кірыла Тураўскага здзіўляюць нас не толькі хрысціянскім пафасам, але і надзвычай моцным язычніцкім духам. Так, прапаведнік сапраўднай веры епіскап Тураўскі ў сваіх «Словах» абапіраўся на паэтычную традыцыю славянязычнікаў. Вясна красная, халмы высокія, вятры бурныя, дрэвы дуброўныя—хіба не з вяснянак гэта? А фальклорны паралелізм, які аб'ядноўваў візантыйскую і народна-паэтычную традыцыі? Творчасць пачынальніка беларускага прыгожага пісьменства—гэта вяршыня эпохі дваяверства, калі хрысціянства яшчэ не падолела язычніцтва. Зрэшты, нездарма было сказана: старыя багі паміралі, а новых так і не прыняў беларускі народ...



Дык што ж за багі ўладарылі ў душах радзімічаў, дрыгавічоў, крывічоў? Зніклі яны бясследна ці ўсё ж падаюць яшчэ голас з лесу, з поля або з ракі? Замена адных багоў на другіх не абыходзіцца без непазбежных страт. А поўнае адмаўленне ад багоў?...

«Повесть временных лет» няшмат гаворыць пра паганскіх багоў, называе толькі некаторых з іх: «І пачаў Уладзімір княжыць у Кіеве адзін і паставіў куміры на ўзгорку за церамным дваром: драўлянага Перуна са срэбранай галавой і залатымі вусамі, затым Хорса, Дажбога, Стрыбога, Сямаргла і Макош. І прыносілі ім ахвяры, называючы іх багамі, і прыводзілі да іх сваіх сыноў і дачок, а ахвяры гэтыя ішлі бесам, і апаганьвалі зямлю ахвярападнашэннямі сваімі».

Аднак нядоўга давялося стаяць гэтым ідалам на высокім дняпроўскім беразе, зусім кароткае жыццё было наканавана новаўтворанаму пантэону. Уладзімір Яснае Сонейка, «калі прыйшоў (у Кіеў), загадаў скінуць ідалаў—адных пасекчы, а другіх спаліць. Перуна ж загадаў прывязаць да хваста каня і цягнуць яго з гары па Барычаву ўзвозу да Ручая і прыставіў дванаццаць мужоў біць яго жэзламі». Рабілася гэта не таму, што дрэва што-небудзь адчувае, але для ганьбавання беса, які спакушаў людзей у гэтым абліччы,—каб прыняў ён пакаранне ад чалавека. «Великий еси, господи, чюдна дела твоя!» Учора яшчэ быў ушанаваны людзьмі, а сёння знеслаўлены. «Калі цягнулі Перуна па Ручаю да Дняпра, аплаквалі яго няверныя, таму што не прынялі яшчэ яны святога хрышчэння. І калі прыцягнулі, кінулі яго ў Дняпро».

Але ёсць яшчэ адно сведчанне з тых часоў—«Слова нейкага хрысталюбца, раўніцеля правай веры»: «Як Ілля Фезвіцянін прынёс у ахвяру іерэяў і жрацоў ідальскіх колькасцю 300 і сказаў: «Старанна паклапаціўся я пра госпада ўсеўладнага!»—так і гэты не змог цярпець хрысціян, якія жывуць дваяверна і веруюць і ў Перуна, і ў Хорса, і ў Макош, і ў Сіма, і ў Рэгла, і ў Вілы (русалкі)—іх жа колькасцю 39 сясцёр. Так гавораць невукі і лічаць іх багінямі, і таму прыносяць ім ахвяры, і курэй ім рэжуць, і агню яны моляцца, называючы яго Сварожычам, і часнок абагаўляюць, і калі ў каго пір, дык кладуць яго ў вёдры і ў чашы і п'юць, праслаўляючы ідалаў сваіх». І далей: «Таму не да твару хрысціянам гуляць у бясоўскія гульні, якія ёсць скаканне, гудзенне, песні мірскія і ўсе ідальскія ахвяры тых, хто моліцца агню пад асеццю, і Вілам, і Макошы, і Сіму, і Рэглу, і Перуну, і Роду і Рожаніцам...»

Гэтае «Слова» для нас каштоўнае па дзвюх прычынах. Першая—тут пералічаны паганскія багі, якім пакланяюцца «ілжэхрысціяне». Другая—яны даюць нам магчымасць убачыць сапраўдную карціну тагачаснага духоўнага жыцця. Дваяверства—вось што было характэрна для XI—XII стагоддзяў. Зрэшты, летапісная Літва была ахрышчана ў праваслаўе тураўскім епіскапам толькі ў 1405 годзе. Значыць, апошнюю мяжу можна аднесці намнога далей.

Старажытны аўтар пералічыў для нас частку паганскага пантэона багоў, пра якіх яшчэ памяталі ў тыя часы. Пярун—бог вайны, дажджу і грому. Хорс (а таксама Ярыла, Дажбог, Сварог)—бог сонца, жыватворнай сілы прыроды. Макош—багіня ўрадлівасці, заступніца ўсіх жанчын. Сім і Рэгл, ці Сямаргл,—бажаство, якое ахоўвае насенне і ўсходы, малявалі яго як крылатага сабаку. Вілы, яны ж русалкі—багіні ранішніх туманаў, расы на палях, выглядалі чароўнымі дзяўчынамі з распушчанымі валасамі. Апошнія разам з ваўкалакамі чамусьці найлепей захаваліся ў памяці беларусаў. Вось што было запісана ў адной з лінгвістычных экспедыцый на Беларускае Палессе зусім нядаўна: «Русаўка такая бы баба з распушчанай касянкаю, яны сядзяць, калышуць дзяцей на тых месцах, дзе пушчы былі. Да Купальнага Івана не купаліся, бо русаўкі былі ў вадзе, а пасля Купальнага Івана ішлі яны ў жыта. Гаварылі, што русаўкі некалі былі дзеўкамі, вось

якая-небудзь з іх ужо запілася, заручылася, а замуж не пайшла. І дзіця, якое нехрышчонае памрэ,—таксама русаўка».

Род—паганскае бажаство прыроды, сусвету і ўрадлівасці. Рожаніцы—заступніцы жанчын-парадзіх, багіні ўсяго жывога. Ну а Сварожычы—сыны Сварога.

Канечне, зараз мы добра ведаем, што гэта далёка не поўны пералік паганскіх багоў. Але трэба ўлічыць, што, па-першае, для аўтара «Слова» тыя багі былі ўсяго толькі «бясоўскім параджэннем», якое трэба вынішчыць і выкараніць, а па-другое, яму было абсалютна ўсё роўна, хто з тых багоў галоўны, а хто падручны. Пярун стаіць дзесьці за Сімам і Рэглам. Магчыма, гэта наўмысная памылка—маўляў, самае яму там месца, паганцу, што раскідваецца маланкамі.

Русь была ахрышчаная грэкам мітрапалітам Міхаілам у канцы дзесятага стагоддзя пры князю Уладзіміру, сыне Святаслава. Значыць, гісторыя хрысціянства на той момант адлічвала ўжо без малога тысячу гадоў. А паганства, з якіх глыбіняў часу выходзіла яно?

Пісьмовыя крыніцы, тыя ж летапісы, сведчанні грэчаскіх, візантыйскіх і арабскіх гісторыкаў даюць не гэтак ужо шмат. Вядома толькі, што ў канцы дзесятага стагоддзя, калі ідэя хрышчэння Русі вось-вось павінна была ажыццявіцца—а за гэтую ідэю паслядоўна змагаліся княгіня Вольга і некаторыя іншыя падзвіжнікі,—на зыходзе першага тысячагоддзя волхвы Кіеўскай Русі стварылі новы пантэон паганскіх багоў, крыху адрозны ад былога. Пра гэта гаворыць многа фактаў. Б. Рыбакоў лічыць, што новы пантэон быў, па-першае, антытэзай хрысціянскаму трыадзінству, а па-другое, вешчуны ўваскрасілі і перанеслі ў Кіеў некалькі архаічных мясцовых багоў, якія паходзілі ад часоў сколацкіх. Такім чынам, вярхоўным бажаством зрабіўся Пярун, хаця спрадвеку гэтае месца належала іншаму богу. Род—вось сапраўдны вярхоўны бог старажытных славян, менавіта ён заўсёды быў і—апасродкавана—застаецца галоўным у славянскім светапоглядзе нават да гэтага часу.

Пярун спатрэбіўся волхвам як бог вайны, як сімвал княскай улады, а Род—гэта Род. Род, народ, радзіма, прырода, радзіць... Нездарма і радуніца (раданіца)—дзень памінання продкаў.

У Канстанціна Багранароднага пад 948 годам н. э. ёсць такі запіс: «Прайшоўшы гэта месца, яны (славяне) даходзяць да вострава, які называецца святым Рыгорам, і на гэтым востраве робяць свае ахвярападнашэнні, таму што там расце вялізны дуб. Яны прыносяць у ахвяру жывых пеўняў, наўкол утыкаюць стрэлы, а некаторыя прыносяць кавалкі хлеба, мяса і што мае кожны, як патрабуе іх звычай. Наконт пеўняў яны кідаюць жэрабя—ці зарэзаць іх, ці з'есці, ці адпусціць жывымі».

Дык якому ж богу прыносіліся гэтыя ахвяры? Перуну? Дрэву-богу? Ці ўсё ж Роду?

Дуб быў галоўным дрэвам не толькі славян і балтаў, Зеўс таксама сядзеў на дубе, і нічога дзіўнага ў гэтым няма. Самае прыгожае, моцнае і даўгавечнае дрэва на гэтых землях, яно проста павінна было ўяўляцца нашым продкам боскім. Сапраўды, успамінаеш розныя мясціны Беларусі—і перш за ўсё бачыш дубы. На высокім беразе Дняпра паміж вусцямі Бярэзіны і Сожа дубовыя гаі цягнуцца на многія кіламетры. Дубы тут стаяць вольна, цвёрда, нікога не пускаюць сабе пад ногі; танкаствольныя бярэзнічкі ціснуцца да лагчынак, асіннікі зягнаныя ў вярховыя балоты, гонкія сосны, дзе аблітыя меддзю, дзе ўбранзавелыя, пазіраюць на шырокую рачную абалону з далёкага бору,—а дубы як зубры сярод дробненькіх статкаў сарнаў ды ланей. А наднёманская Мікалаеўшчына, дзе нарадзіўся Якуб Колас? Таўшчэзныя дубы таксама стаяць далёка адзін ад аднаго, з густа-зялёнага дзірвана выпіраюць карані, падобныя да падземных цмокаў, і ніхто не ведае, куды гэтыя дубы крочаць. У Налібоцкую пушчу? Да сваіх братоў на Дняпры?

Прысвіцязскія дубы больш задумлівыя. Відаць, яны закахаліся ў пяшчотна-сарамлівую, засмужаную ранішнім туманком і падсвечаную вечаровым сонцам прыгажуню-Свіцязь і не могуць ужо сысці з месца. А ўжо як расплюшчыць яна сінеглыбокія вочы—волаты зусім губляюць галаву і заходзяць у яе празрыста-халодную ваду, нізка схіліўшы магутнае голле. Плюскоча ў карэннях гуллівая хваля, смяецца, жартуе з анямелымі кавалерамі, якія растапырылі няўклюдныя рукі-каткі—і не ведаюць, што рабіць далей. Чарот і той смяецца з гэтых залётаў, аж кладзецца на ваду. Харошыя яны хлопцы, гэтыя дубы, высокія, дужыя, хмару за хвост зловіць могуць—а ніяк не ўлагодзяць наравістую дзяўчыну, самую з самых сярод гэтых пагоркаў. Зрэшты, Свіцязь адна, а дубоў вунь колькі, не можа выбраць, бедная. То засмяецца, то аціхне ў тужлівым одуме...

У Налібоцкай пушчы таксама дубы, але там больш самотнікаў, якім недаспадобы гурты і рады. Гуляюць яны на волі самі па сабе, знойдуць прыдатную палянку ў лясной гушчыні—і цешацца на ёй, клічуць, вабяць да сябе звера і птушку, падкармліваюць галодных, лечаць хворых. Праўда, прыцягваюць яны і ўдары маланак, асабліва ў вераб'іныя ночы, але такі ўжо лёс самотнікаў. Трашчаць, дымяцца налібоцкія асілкі пад перунамі—і ўсё роўна нікога і нічога не баяцца.

Ну а цар-дуб жыве дзесьці на Палессі, па-над Прыпяццю. Тураўцы кажуць, што пад Туравам, гарадчукі—пад Давыд-Гарадком, пінчукі з мазыранамі таксама нешта свае ведаюць, але ніхто і не спрачаецца з імі, што цар-дуб на Палессі. Дзе ж яму быць? У прыпяцкую ваду глядзіцца, пад палескім сонцам грэецца, з тутэйшымі чаплямі і бусламі—чорнымі!—знаецца. Кожны паляшук пра яго ведае, а вось убачыць—не, не ўсякаму наканавана. Да бога высока, да цара далёка...

Дуб займаў сваё законнае месца ў пантэоне паганскіх багоў, гэта мала ў каго выклікае сумненне, але ўладарыў над усімі багамі Род. Старажытнарускія пісьменнікі дванаццатага стагоддзя параўноўвалі Рода з вавілонскім Ваалам-Гадам, егіпецкім Азірысам, біблейскім Саваофам. Бог-творца, бог-дэміург, ён знаходзіўся на небе і ўдыхаў жыццё ва ўсё жывое.

На жаль, да таго часу, як з'явіліся павучанні супраць паганства, культ Рода ўжо быў амаль забыты, таму і запісы пра яго рэдкія і невыразныя. Аднак галоўнае ўсё ж засталося—Род сядзіць на небе і апладняе зямлю. Калі звярнуцца да індаеўрапейскай міфалогіі, да першапачатковага дуалізму, з якога і складаліся асноўныя міфы—дзень—ноч, вада—суша, зямля—неба, агонь—вада і гэтак далей, дык ясна, што Роду павінна адпавядаць і багіня-маці, тая самая зямля, якую апладняе неба. Акадэмік Рыбакоў лічыць, што на ролю такой ва ўсходніх славян можа прэтэндаваць хіба што Макош. Аднак пры вызначэнні гэтай загадкавай багіні мне хацелася б пайсці крыху іншым шляхам. Род, народ, радзіма, прырода, радзіць, продкі—аб гэтым семантычным радзе ўжо гаварылася. Я прапаную яшчэ адзін—жыццё, жывы, жывёла, жыта, жыллё... Каталікі-місіянеры сярэднявечча адзначалі ў заходніх славян іншых багоў і багінь, сярод якіх—Жыва. Каталіцкі прэсвітэр Гельмальд пад 1170 годам запісаў: «...ва ўсёй славянскай зямлі пануе стараннае пакланенне ідалам і памылкі розных забабонаў. Таму што акрамя гаеў (свяшчэнных) і бажкоў, якіх мноства ў палях і паселішчах, першымі і галоўнымі былі Прова, бог Альдэнбургскай зямлі (Старагародскай), Жыва, багіня палабаў, і Радагаст, бог зямлі бадрычаў...»

Хочацца падкрэсліць, што запісана гэта ў дванаццатым стагоддзі, калі культ паганскіх багоў паўсюдна ўжо сыходзіў. Зрэшты, і Макош у гэтыя ж часы называецца ў ліку апошніх, другарадных багоў. Прова ў заходніх славян—бог-дрэва, часцей за ўсё яго ўвасабляў дуб. А Жыва—яна Жыва. Мы ведаем, што розніца паміж заходнімі і ўсходнімі славянамі не такая ўжо вялікая, каб зусім аддзяляць і іх, і іхніх багоў. Жыва магла быць праславянскай багіняй, той самай паплечніцай Рода, пра якую мы мала што ведаем.

У польскай хронікі Прокаша (XVI стагоддзе) гаворыцца: «Бажаству Жыве было зроблена капішча на гары, названай па яе імені Жывец, дзе ў першыя дні месяца мая сыходзіцца народ прасіць у той, якую шанаваў як крыніцу жыцця, доўгачасовага і добрага здароўя. Асабліва ж прыносіліся ёй ахвяры тымі, хто чуў першае кукаванне зязюлі, якая прадказвае ім столькі гадоў жыцця, колькі разоў яна пракукавала. Думалі, што вышэйшы ўладар Сусвету, абарочваючыся ў зязюлю, сам прадказваў працягласць жыцця».

Мне здаецца, што якраз Жыва і Род былі першай і найстарэйшай парай славянскіх багоў, якія выйшлі непасрэдна з індаеўрапейскіх багоў, творцаў Сусвету.

У «Слове пра ідалаў» дванаццатага стагоддзя мы чытаем: «Оттуда же начаша елини ставити трапезу Роду и рожаницам, таже египтяне, таже римляне. Даже и до словен дойде; се же словене начали трапезу ставити Роду и рожаницам переже Перуна, бога их...»

Азірыс—Саваоф—Ваал—Род... Акадэмік А. Ф. Лосеў адзначыў, што антычны Зеўс—«дажджавы», «імя, якое азначае разам і агонь і жыццё»; Зеўс—творца жыцця для людзей.

У заходніх славян быў яшчэ адзін галоўны бог—Святавіт (Свентавід), яго называлі «богам багоў». Гільфердынг у «Гісторыі балтыйскіх славян» напісаў: «Паміж разнастайнымі бажаствамі, якім належаць лясы, палі, смутак і радасць, яны прызнаюць адзінага бога ў нябёсах, які кіруе астатнімі багамі, і вераць, што ён, усемагутны, клапоціцца толькі аб нябесным...»

Святавіт—таксама Род.

У 1848 годзе на руска-аўстрыйскай мяжы ў рацэ Збруч быў знойдзены славуты Збручанскі ідал, чатыры твары і тры зоны Сусвету якога ўвасобілі ўвесь касмаганічны светапогляд старажытнага славяніна. У верхняй зоне (нябеснай) на чатырох гранях ідала дзве жаночыя і дзве мужчынскія выявы вярхоўных багоў. Сярэдняя зона—зямная—карагод з мужчынскіх і жаночых фігур. Ніжэйшая зона, ці падземны свет, заключае ў сабе бога, які трымае на руках зямлю з людзьмі. Акадэмік Б. Рыбакоў лічыць, што вярхоўнымі багінямі тут з'яўляюцца Макош і Лада, багі—Пярун і адзін з трох «сонечных» багоў: Хорс, Дажбог ці Стрыбог. Найбольш слабая пазіцыя тут у Макошы. Многія даследчыкі лічаць, што Макош належыць да пазнейшага пантэона кіеўскіх багоў, таго самага пантэона, які разбурыў князь Уладзімір. І адводзілася ёй там не самае пачэснае месца—яна прыяла справам, звязаным з чыста жаночымі заняткамі, асабліва з прадзівам.

А ўся гэтая трохступенная сістэма ідала аб'яднаная ў адзін фалічны элемент чырвонага колеру, імя якому—Род.

Значыць, у верхняй частцы Збручанскага ідала сядзяць багі, сярэднюю частку засяляюць людзі, якія злучаны ў магічным карагодзе, унізе трымае людзей на руках вусаты Велес-Волас, бог жывёлы і багацця. Зрэшты, узброены Пярун можа быць і Святавітам-Свентавідам. Жанчына з рогам дастатку, хутчэй за ўсё, Жыва. Другая жанчына з кальцом у руцэ, па Б. Рыбакову, Лада, багіня росту жывога і пакравіцелька вяселляў. Аднак можна ўспомніць прапанаваны ўжо дуалізм, адзінства процілегласцей па схеме дзень—ноч, сонца—месяц і гэтак далей. Тады другой багіняй, якая процістаіць Жыве, будзе Нава, альбо Марэна, увасабленне смерці. Наконт чацвёртага бога можна толькі здагадвацца. Хто часцей за ўсё процістаіць Перуну-Святавіту? Велес. Тады дольны бог—Чарнавус, альбо Чарнабог, той, хто ўладарыць у падзямельным царстве, тут лёгка правесці аналогію з Аідам.

Адным словам, пра Збручанскага ідала гэтак падрабязна я расказаў толькі дзеля таго, каб напомніць, якія складаныя, цікавыя і шматзначныя былі вераванні нашых продкаў напярэдадні хрысціянізацыі. Не ў піку апошняй, а толькі ў падтрымку ісціны.

Да таго ж, у дапісьменную эпоху існавала так званае пісьмо «рэзамі» і «чартамі»—таксама своеасаблівая знакавая сістэма, пры дапамозе якой чалавек асэнсоўваў сябе ў гэтым свеце. Але гэта ўжо асобная гаворка, вартая, відаць, спецыяльнага навуковага даследавання. Прыгадаем толькі наступны запіс чарнарызца Храбра, які адносіцца да дзесятага стагоддзя: «Прежде убо словене не имеху кънигъ, но чьртами и резами чьтяху и гатаху (гадааху) погани суще».

Я назваў далёка не ўсіх паганскіх багоў і багінь. Відаць, ніхто і не возьмецца апісаць поўны пантэон праславян. Акрамя асноўных багоў існавала вялікая колькасць багоў рэгіянальных—радавых, племянных, сямейных. Мы ўжо ведаем, у якіх катаклізмах, з якога варыва паўставала кожная з цяперашніх славянскіх нацый. На гэтым шляху страты непазбежныя, і славянская міфалогія, як гэта ні сумна, пацярпела найболей. Што тычыцца ўсходніх славян, дык асноўнымі прычынамі гэтага можна назваць наступныя: адносна позняе ўтварэнне дзяржаўнасці; вялікі абсяг усходнеславянскіх земляў; страта пісьма «чартамі» і «рэзамі», у помніках якога і захоўвалася асноўная інфармацыя; выключны радыкалізм хрысціянізацыі на нашых землях, ды і не толькі на нашых.



Кожная новая культура нараджалася на рэштках папярэдняй, і не заўсёды што-небудзь з тых рэштках заставалася.

Фальклор жа, як мы можам пераканацца, данёс да нас многае, але далёка не ўсё. Прадметны бок, рэаліі свету, у якім жыў чалавек, захаваліся больш-менш поўна, а вось эўфемістычны характар язычніцкай рэлігіі спрыяў яе хуткаму знікненню.

Успомніце, што ў «Словах» дванаццатага стагоддзя не было ўпамінання аб Велесе, адным з найгалоўнейшых багоў паганства, ды і Род быў пастаўлены дзесьці ў канцы. Як лічаць лінгвісты Іваноў і Тапароў, бойка Перуна і Велеса ўзыходзіць да індаеўрапейскага міфу аб барацьбе Бога Маланак са Змеем. У далейшым Велес зрабіўся богам хатняй жывёлы і багацця ў шырокім сэнсе, з надыходам жа хрысціянства ён аб'яднаўся ў народных вераваннях са святым Міколам, як Пярун пераўвасобіўся ў святога Рыгора і Іллю-прарока.

Нездарма ўсё ж узнікла праславутая «Велесава кніга», у якой невядомы аўтар паспрабаваў рэканструяваць вераванні дахрысціянскай Русі. Хоць і лічыцца гэтая кніга падробкай, але знаёмства з ёй у нечым можа быць карысным.

Пра тое ж, наколькі багатая была фантазія нашых продкаў, гаворыць наступны пералік нячысцікаў: Люцыпар, пякельнікі, шэшкі, касны, шатаны, цмокі, паралікі, паветрыкі, прахі, кадукі, дамавікі, ці домнікі, хлеўнікі, гуменнікі, пуннікі, лазнікі, палуночнікі, ярэтнікі, мары, кікімары (вешчаніцы), палевікі, лешукі, лесавікі, пушчавікі, кладнікі, ці кладовікі, вадзянікі (вірнікі і ціхоні), балотнікі, багнікі, аржавенікі, лознікі, русалкі, ведзьмакі і ведзьмы, калдуны, пярэваратні, ваўкалакі... Таму, хто захоча даведацца пра нячысцікаў больш падрабязна, раю звярнуцца да кніг фалькларыста мінулага стагоддзя Нікіфароўскага.

Дарэчы В. В. Ключэўскі выказваў думку, што, паколькі нашы продкі любілі свае рэкі, якія вялі іх у далёкія краіны, пастолькі яны не давяралі лесу, баяліся яго, ваявалі, нішчылі, церабілі і палілі. Згодна з яго разважаннямі, славяне былі больш сынамі стэпаў, чым лясоў. Што на гэта можна сказаць? Канечне, стэп быў больш прыдатны для жыцця, і поле на ім засееш хутчэй, чым у лесе, і дарогу не трэба церабіць ці шукаць, сеў і паехаў, куды вочы глядзяць. І тым не менш штосьці тут выклікае пярэчанне. Увогуле, ёсць сведчанні візантыйскіх гісторыкаў, якія гавораць, што славяне любяць жыць у лясах і вiаюць сярод іх намнога лепей, чым на адкрытых прасторах. А другое—прыказкі і прымаўкі, у якіх усё ж аб'ектыўны погляд чалавека на прыроду. Лес чуе, а поле бачыць. Не было нас—быў лес, і не будзе нас—будзе лес. Жыўшы ў лесе, дроў не купляць. Калі ідзеш лясом, дзяржы тапор за паясом, як выйдзеш у сенажаць, не забудзь дубец зламаць. Плюнь на лес, каб язык аблез. Як у лесе гукнеш, так адзавецца. Граза ў лес не йдзець. Лесавое ў лес глядзіць...

Ну і апошняе—небяспека часцей за ўсё прыходзіла да славян са стэпаў, і тады лес рабіўся хатай-схованкай.

І хоць гаварылі нашы продкі, што ў людзях людзі людняюць, а ў лесе дзічаюць, аднак лесу яны ўсё ж не баяліся. Чалавек не толькі адваёўваў у яго ляды, аднак браў там паташ, смалу-жывіцу, дзёгаць, выпальваў з дрэў вугаль для кузняў і рудняў, ужо не кажучы пра ягаду, грыб, арэх, гаючыя карані ды зёлкі. Дзівосная папараць-кветка, валоданне якой давала чалавеку незлічоныя багацці, таксама хавалася ў лесе, у самым яго сэрцы. А звер, якога добра ведалі нашы дзяды? Да семнаццатага стагоддзя ў беларускіх лясах жылі туры; да васемнаццатага—шэра-гнедыя з чорным пасам уздоўж спіны лясныя коні тарпаны, на іх ваявала конніца Вялікага княства Літоўскага; у дзевятнаццатым стагоддзі быў забіты апошні высакародны алень. Калісь былі собаль, мядзведзь-мурашкаед, расамаха, чорны заяц, крохва... Ну і зубр, з такімі цяжкасцямі ўратаваны ўжо ў нашым стагоддзі. Можна сказаць, ён паўстаў з нябыту, уваскрэс, як спаленая птушка-фенікс.

Пра тое, чым быў для чалавека лес, гаворыць ужо «Руская праўда», звод законаў адзінаццатага стагоддзя, першы наш звод. За псаванне паляўнічых прылад, за крадзеж птушак з чужых перавесаў і баброў на чужых гонах вызначалася вы-

сокая мера адказнасці. Дзевяты раздзел Статута Вялікага княства Літоўскага ад тысяча пяцьсот дваццаць дзевятага года называўся «О ловы, о пушчы, о бортное дерево, о бобровые гоны, о хмелица, о сокольи гнезда». I адказнасць за паляванне ў чужых уладаннях, разбурэнне сакаліных і лебядзіных гнёздаў, забойства звяроў і псаванне прыладаў была ад грашовага штрафу да пакарання смерцю. Незаконна ўпаляваны зубр тады каштаваў дванаццаць рублёў штрафу, лось— шэсць, алень, лань, мядзведзь, конь—тры, дзік і рысь—адзін рубель, сарна—паўкапы грошаў. Касіць, араць, церабіць лазу вакол зярэмя—бабровай калоніі— можна было толькі на адлегласці кінутай палкі, штрафу злачынцы плацілі дванаццаць рублёў. Незаконна ўпаляваны руды бабёр каштаваў капу грошаў, чорны—дзве капы. «Устава на валокі» Жыгімонта II Аўгуста ад тысяча пяцьсот пяцьдзесят сёмага года дазваляла сялянам паляваць толькі на сваіх валоках «на волка, лисицу, рысь, росомаху, зайца, белку и инъшый зверъ малый, также птахи всякие... але серны и инъшого болшого зверу не бити и на своих волоках, а особливо въ пущахъ и подь пущами нашими ручницъ ховати и жадного зверу ловити не маютъ, подь горламъ». «Подь горламъ»—гэта значыць пад страхам смерці. Ручніцамі называліся стрэльбы, якія зараджаліся з дула, а порах у іх падпальваўся губой, валакністай, як вата, масай; грыбы-губы раслі на дрэвах, іх збіралі і варылі, потым высушвалі. Шляхце забаранялася паляваць з сабакамі, бо гэта шкодзіла азіміне і ярыне, сялянам жа нельга было: сячы лес «на будаванье» (бяры, калі хочаш, «лежачое дерево»), збіраць грыбы, ягады, хмель і губу... Адно малыя дзеці ды дзяўчаты маглі хадзіць у лес па ўсё гэта. Загадам Жыгімонта II Аўгуста Мсціслаўскі староста Рыгор Валовіч апісаў трыццаць дзевяць (!) пушчаў Вялікага княства Літоўскага. А мы якія зараз пушчы ведаем? Белавежскую, Налібоцкую—і ўсё?..

У адным з тагачасных загадаў, напрыклад, было запісана, што ў Белавежскай пушчы «рабіць новыя дарогі... асабліва праз оступы (забараняецца), а тыя, што шкодзяць пушчы і перашкаджаюць, знішчыць».

Можа, такія суровыя загады пісаліся таму, што звяроў у былых пушчах вялі-ся адзінкі, ратаваць іх трэба было? Ды відаць, звяроў усё ж хапала. На каранацыю Вялікага князя Літоўскага Вітаўта было забіта сто зуброў і столькі ж ласёў. Напярэдадні Грунвальда ў восень і зіму тысяча чатырыста дзевятага года для войскаў Вітаўта і яго стрыечнага брата Ягайлы было нарыхтавана некалькі соцень бочак зубровага і ласінага мяса. Можа, узброеныя да зубоў, закаваныя ў браню войскі крыжакоў былі разбітыя яшчэ і таму, што яны не карміліся зубрацінай?..

А як палявала заможная і парцяная шляхта, якой і каралеўскі ўказ не ўказ? Каб добра ўведаць гэта, трэба прачытаць «Песню пра зубра» Міколы Гусоўскага і «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча. А мы дададзім толькі, што адны любілі імчаць на ловах з хортамі і выжламі, другія пускалі наперад сябе лягавых, а трэція тупалі вакол нор ды шамацелі ў кустах з сабакамі-ямнікамі. Князі ж палявалі з белазорамі ды балабанамі, кожны з такіх сокалаў каштаваў, як два вайсковыя кані. Паветраны бой птушак быў самы вытанчаны з паляванняў.

Але я заскочыў далёка наперад. Да таго, як было ўтворана Вялікае княства Літоўскае, павінна было прайсці яшчэ шмат часу. Мы ж спынімся на той нябачнай, але вельмі важнай мяжы, якая аддзяляла Русь паганскую ад Русі дзяржаўнай, Русі, што прыняла хрысціянства. Кіеўская Русь сабрала пад сваёй уладай землі ўсходніх славян—і вызначыла іх гістарычны лёс на тысячы гадоў наперад. Будзем спадзявацца, што на тысячы, а не на адну тысячу, якую мы ўжо можам агледзець.

Канечне, Русь язычніцкая з яе наіўнымі багамі не знікла бясследна, яна жывая хоць бы ў тым, што мы вельмі часта гаворым словы накшталт гэтых двух— Жыва і Род. Жыводная сутнасць язычніцтва будзе з чалавекам ад яго пачатку да яго канца, хочам мы гэтага ці не. Яшчэ раз скажам: новая культура ўзнікае на рэштках яе папярэдніцы, былая культура ўваходзіць у яе плоць і кроў—і выйдзе з яе толькі разам з жыццём. Жыва і Род глядзяць на нас са свайго далёка, і мы гэта павінны памятаць.

Усё плыве, усё знікае ў рацэ часу, аднак сама рака не мае ні канца, ні пачатку. Нябачныя рыбіны глядзяць з гэтай ракі на тых, хто стаіць на яе берагах. На зямлі рака—і на небе рака, яна ж Вялікі Воз, яна ж Млечны Шлях. Зямная Рыбіна адбіваецца ў нябеснай, і там жа Вялікая і Малая Мядзведзіцы, Леў, Овен, Вагі, Стралец, Дзева... Усё мае адну прарадзіму. Нам яе шукаць.



## Русь і Літва



«Повести временных лет» мы ўжо ведаем, хто ад каго пайшоў— радзімічы ад Радзіма, вяцічы ад Вяткі, ляшскіх братоў; паляне назваліся палянамі, таму што селі на палях па Дняпры; драўляне выбралі сабе лясы; дрыгавічы ж упадабалі дрыгву паміж Прыпяццю і Дзвіною. Але ці не самым вялікім на той час племенем былі крывічы, «иже седять на вьрх Вългы на вьрх Двины и на вьрх Дънепра, их же градесть Смольньск». Адкуль іхняя назва? Акадэмік Б. Рыбакоў лічыць, што ад старажытнага балцкага бога Крыва-Крывейты. Вільня, цяперашні Вільнюс, колісь таксама называлася Крывым горадам—горадам крывічоў. Палачане, якія сядзелі на рэчцы Палаце, былі, відаць, адной з галін гэтага вялікага племені.

Мяне якраз і будуць цікавіць плямёны, якія бралі ўдзел у фарміраванні беларускай народнасці—крывічы, радзімічы, дрыгавічы, палачане, а таксама Літва. Летапісная Літва, як мы ўбачым пазней, мела непасрэднае дачыненне да этнагенезу беларусаў.

Яшчэ раз звернемся да «Повести временных лет»: «Усе гэтыя плямёны мелі свае звычаі і законы сваіх бацькоў, і паданні, і кожнае племя—свой нораў. Паляне маюць звычай бацькоў сваіх лагодны і ціхі, сарамлівыя перад нявесткамі сваімі і сёстрамі, мацеркамі і бацькамі; перад свякрухамі і дзеверамі вялікую сарамлівасць маюць; ёсць у іх і шлюбны звычай: не ідзе зяць па нявесту, але прыводзяць яе напярэдадні, а на наступны дзень прыносяць за яе—хто што дасць. А драўляне жылі звярыным звычаем, жылі па-свінску: забівалі адзін аднаго, елі ўсё нячыстае, і шлюбаў у іх не бывала, але выкрадалі дзевак ля вады. А радзімічы, вяцічы і северане мелі агульны звычай: жылі ў лесе, як звяры, елі ўсё нячыстае і брыдкасловілі пры бацьках і пры нявестках, і шлюбаў у іх не бывала, але наладжваліся гульбішчы паміж сёламі, і сыходзіліся на гэтыя гульбішчы, на скокі і на ўсякія бясоўскія песні і тут выкрадалі сабе жонак па змове з імі; мелі ж па дзве і па тры жонкі. I калі хто паміраў, наладжвалі па ім трызну, а затым рабілі вялікую калоду і ўскладалі на гэтую калоду мерцвяка і спальвалі, а потым, сабраўшы косткі, укладвалі іх у невялікі посуд і ставілі на слупах пры дарогах, як робяць і цяпер яшчэ вяцічы. Гэтага ж звычаю трымаліся і крывічы і іншыя язычнікі, якія не ведаюць закона божыя, але якія самі сабе ўстанаўліваюць закон».

У гэтым запісе, падобным да павучанняў хрысціянскіх місіянераў, ужо выразна выявіліся негатыўныя адносіны кіеўскай улады да паганскіх звычаяў. Так, тут у першую чаргу адмаўляецца паганства як былая рэлігія, а ўзамен ёй прапануецца закон божы. Ну і другое—гэта яскравы прыклад адносін метраполіі да сваіх правінцый. Толькі адзінаўладдзе можа забяспечыць парадак у дзяржаве, і ідзе яно з Кіева. Можна меркаваць, што ў той час, калі пісаўся летапіс, яшчэ адчувалася моцнае супраціўленне хрысціянізацыі, яшчэ «тварыліся трэбы» ў глыбінях лясоў, цягнуў угору дымок ахвярных вогнішчаў на выспах, кружыліся карагоды вакол свяшчэнных дубоў у гаях. Аднак палітычны статус дзяржавы ўжо аформіўся—вярхоўны князь у Кіеве, удзельныя князі на месцах. Вечавыя

званы Ноўгарада хоць і клікалі людзей да бунту, але змяніць што-небудзь яны не маглі. На працягу IX—XII стагоддзяў утварылася моцная ўсходнееўрапейская дзяржава, з якой падтрымлівалі дыпламатычныя зносіны цэзары Візантыі, каралі Германіі, Францыі, Польшчы, Чэхіі, скандынаўскіх краін, ехалі ў Кіеў паслы папы рымскага. Але паступова ўзрастала палітычная незалежнасць удзельных князёў, узмацнілася эканамічная незалежнасць асобных княстваў, бясконцай чарадой пайшлі ўсобіцы—і да трыццатых гадоў трынаццатага стагоддзя ўжо была падрыхтавана добрая глеба для татара-мангольскага нашэсця, таго самага, якое не толькі зруйнавала Кіеўскую Русь, пазбавіла яе палітычнай незалежнасці, але—і гэта вельмі важна—надоўга раздзяліла ўсходніх славян, павяло іх па розных гістарычных шляхах.

Аднак, перш чым гаварыць пра гэта, скажам колькі слоў пра заходнія, калі глядзець з Кіева—запрыпяцкія землі Старажытнай Русі, якія мы цяпер называем Беларуссю. Большую іх частку аб'ядноўвалі два княствы—Полацкае і Турава-Пінскае. Найбольш буйнымі гарадамі былі: Полацк (862 г.), Тураў (980 г.), Бярэсце (1019 г.), Віцебск (1021 г.), Браслаў (1065 г.), Орша (1067 г.), Мінск (1067 г.), Лагойск, Друцк і Лукомль (усе—1078 г.), Пінск (1097 г.). У дужках пазначана першае летапіснае ўпамінанне пра гэтыя гарады. Акрамя названых ёсць гарады, упамянутыя ў крыніцах XII—XIII стагоддзяў, у якіх пры раскопках знойдзены культурны слой XI стагоддзя,—Гародня, Навагрудак, Ваўкавыск. І, урэшце, гарады XII—XIII стагоддзяў без гэтага культурнага слоя—Барысаў, Брагін, Гомель, Давыд-Гарадок, Заслаўе, Клецк, Крычаў, Рагачоў, Слонім, Слуцк.

Трэба адзначыць, што да XIII стагоддзя многія з гэтых гарадоў выдзеліліся ў цэнтры ўдзельных княстваў—Друцк, Мінск, Бярэсце, Віцебск, Гродна, магчыма—Навагрудак і Ваўкавыск.

Вось тут мне хочацца зрабіць адну заўвагу наконт раскопак. У археалагічным атласе «Старажытная Русь. Горад, замак, сяло» змешчана некалькі карт археалагічных крыніц. Найбольш густа на гэтых картах пазначаны сярэдняе Падняпроўе, цэнтральная частка Расіі (так званае «Залатое кальцо»), Прыкарпацце. І ці не самыя вялікія белыя плямы, гэта значыць недаследаваныя пункты, на тэрыторыі цяперашняй Беларусі? Сяк-так пазначаны беларускі Дняпро, Наднямонне, крышку Прыпяць. Рэдкія значкі гэтых вывучаных і даследаваных паселішчаў Беларусі проста засмучаюць. Што гэта—выпадковасць ці вынік адпаведнай тэндэнцыі? Калі ж яшчэ дадаць, што такія значныя цэнтры, як старажытны Навагрудак, даследавалі не беларускія, а ленінградскія вучоныя, дык зусім ахоплівае пачуццё разгубленасці. Думаю, што пры адпаведнай змястоўнасці і грунтоўнасці раскопак нашых гарадоў і гарадкоў намнога б «пастарэў» іх культурны слой.

Узяць хоць бы Гародню (яна ж Городно, Городен, цяпер Гродна). Прыгадваю словы вядомага нашага археолага Міхася Аляксандравіча Ткачова: «Мы тут адкрылі чатыры Барысаглебскія царквы дванаццатага стагоддзя».

Стаялі мы тады на старым замчышчы. Унізе дыхалі імклівыя воды Нёмана, у глыбокіх шурфах корпаліся студэнты, трэба было асцерагацца, каб не скінуць ім на галовы каменьчык, у шырокіх паплавах блішчалі шкельцы пойменных азерцаў, і Міхась Аляксандравіч расказваў, што ў хуткім часе зноў устане над ракой магутны замак—сэрца Гародні.

— Вось якраз тут,—паказваў Міхась Аляксандравіч,—Вітаўт наладзіў праз раку пад'ёмнік. Ён сядзеў у аблозе, дык яму з-за ракі на трасах дастаўлялі харч. Не верыце? Працягнулі з замка за раку трасы—і калі ласка, канатная дарога чатырнаццатага стагоддзя. Ягайла, які загнаў Вітаўта ў замак, палявыя дарогі перакрыў, а гэтую канатную ніяк не можа. Глядзеў, глядзеў ён на канаты—і таксама прыдумаў. Што ні кажыце, яны абодва былі хітрыя, Вітаўт з Ягайлам. Браты! Вышэй замка Ягайла наладзіў вялізны плыт, наваліў на яго ўсякіх дрэў, ламачча, карчоў—і пусціў па рацэ. Ноччу. Гэтую дарогу як карова языком злізала.

Я глядзеў на шырокі Нёман, на замкавую сцяну з вялікіх валуноў, на палац Стэфана Баторыя—і верыў у канатную дарогу над ракой. Калі быў велічны за-



мак над Нёманам, самы стары з мураваных замкаў на Беларусі,—дык была і канатная дарога.

— А цэркваў знайшлі аж чатыры,—расказваў далей Міхась Аляксандравіч.—Раней ведалі толькі пра Каложу, ну, яшчэ пра ніжнюю царкву—а тут адразу чатыры! Дасюль не верацца.

І праўда, неблагі дадатак да Каложы. Шэсць сясцёр аднаго ўзросту—гэта ўжо род. Разам з храмам на Нерлі Каложа, бадай, самая славутая са старажытных цэркваў. Чым здзіўляюць нас тагачасныя цэрквы, вось тая ж белая лебедзь на Нерлі? Зграбнасцю абрысаў, дасканаласцю форм, узнёсласцю над паплавамі, боскасцю самога камення—ну і выбарам месца, дзе храму стаяць у вяках. Сапраўды, чаму дойлід вынес царкву далёка ў паплавы, у зеляніну панадрэчных кустоў і траваў? І вада, шмат вады наўкола, яе прытокі і рукавы—няўжо майстра не баяўся, што гэты белакаменны цуд не захлісне паводка? Але ж не баяўся, ведаў тое, што можа быць вядома толькі аднаму чалавеку. І стаіць белая царква ў ліпеньскім зяленіве, да яе ідуць людзі кожны сваёю сцежкаю. Я выдраўся да храма з панадрэчных кустоў. Ці то мне няправільна расказалі дарогу, ці то я нешта не зразумеў і заблудзіў, але я досыць доўга лазіў па густых лазняках, чвякаў па гразі, ужо і крыху раззлаваўся на сябе і яшчэ некага. Ды тут кусты разышліся—і яна паўстала, сапраўды белая, сапраўды лагодная, сапраўды незямная ў сваёй узнёсласці. Адзінае толькі такім і бывае—ні да чаго не падобным.

Гародзенская Каложа іншая. Месца для яе майстар выбраў звычайнае. Выдатнае, цудоўнае месца, але звычайнае—на высокім нёманскім беразе, побач з Замкавай гарой. Усе ведаюць, што нашы продкі цэрквы стаўлялі на самых-самых месцах—высокіх, адкрытых, паглядных. І не хочаш, а ўбачыш тую царкву з усіх чатырох бакоў. Так што ў гэтым плане Каложа стаяла звычайна—адусюль відаць, і старыя дрэвы не захінаюць яе, а ахоўваюць. Аднак падыходзіш бліжэй—і міжволі ахаеш. На сценах царквы, якія захаваліся з таго самага дванаццатага стагоддзя, кідаюцца ў вочы адпаліраваныя каляровыя камяні сярод чырванаватай цэглы—а над імі маёлікавыя крыжы, светла-зялёныя, бірузовыя, карычневыя, жоўтыя. Пра што думаў майстра, паліруючы гэтыя валуны, выкладаючы маёлікавую плітку? Відаць, пра тое ж, пра што і ўладзімірскі майстар, калі ўзводзіў храм між лугоў. А ў Каложскай царкве з маёлікавых плітак была зроблена і падлога, і сцены былі аздобленыя фрэскавым жывапісам, які, на жаль, не захаваўся.

Дык вось, і на царкву з Нерлі, і на Каложу можна глядзець доўга. Усё жыццё можа глядзець на іх чалавек—і не стоміцца, не занудзіцца, не адмахнецца. Толькі праз такія пабудовы ён зразумее сваіх продкаў, іхнімі вачыма ўбачыць сваю зямлю—і сябе на ёй. Стаяць пад высокімі нябёсамі храм на Нерлі з Каложаю, песцяць дабрыню ў чалавечых душах, вядуць людзей да прыгажосці. З-за гэтага столькі ў іх ворагаў, у нашых храмаў. Зло ніколі не можа дараваць Дабру, яно нішчыць, руйнуе, паліць, глуміцца,—і зараз гэта відаць найлепей. Ужо некалькі пакаленняў людзей узрастаюць на пераканаманнях, што для заўтрашняга дня трэба як след знішчыць мінулае, «сплюндровать», як пісалі нашы летапісы. Як у паганстве хрысціянскія пастары бачылі адно бясоўскія гульбішчы і «скотьскы» звычаі, так і ў хрысціянстве зараз выкрываюць ілжэгуманізм і цемрашальства. Мы даўно ўжо не пазнаём сваю зямлю, даўно ўжо не ведаем, што расце на нашых палях, засыпаных нітратамі, разумеем, што рэкі ператварыліся ў сцёкавыя канавы—і тым не менш гуляем словамі, саміх сябе пасылаем туды, не ведаю куды, загадваем прынесці тое, не ведаю што. Светлае заўтра ўсё спіша.

Няма сродкаў, каб рэстаўраваць поўнасцю Каложу? І рыбу з ракі нельга есці? На гародзенскіх вуліцах не гавораць па-беларуску? Нічога, заўтра ўсё будзе добра. Сёння яшчэ трэба сёе-тое зруйнаваць і знішчыць, а заўтра ўсё выправім. І ні ў якім разе не азірацца ў мінулае!

Але яшчэ раз вернемся да цэркваў. Акрамя шасці гародзенскіх у дванаццатым стагоддзі былі пастаўлены Вялікі сабор Бельчыцкага манастыра, Спаса-Ефрасіннеўская царква ў Полацку, царква Благавешчання ў Віцебску, Барыса-



**Ідал са стаянкі ля в. Асавец Бешанковіцкага р-на. Першая палова II тыс. да н. э. Знаходка археолага М. М. Чарняўскага.**

глебская царква ў Навагрудку. Прычым навагрудская царква пабудаваная не ў традыцыях гарodзенскага манументальнага дойлідства, а ў традыцыях полацкай школы.

Але пачаць усё ж трэба з таго, што ў Полацку знаходзіўся самы старажытны сабор на тэрыторыі Беларусі — Сафійскі (сярэдзіна адзінаццатага стагоддзя).

Бадай, з трох Сафій — Кіеўскай, Ноўгарадскай, Полацкай — і распачалася гісторыя старажытнарускага дойлідства. І не толькі яна. З гэтых трох гарадоў пачалася гісторыя Кіеўскай Русі.

Вось мы і падышлі да старажытнага Полацка, горада-кіта, на якім усталявалася і высока ўзнеслася Русь. Чым вызначаецца ўзлёт сярэднявечнага горада? Часцей за ўсё выключным геаграфічным становішчам, калі і рака, якая выносіць да мораў-акіянаў, і моцныя суседзі — толькі сярод моцных можна зрабіцца моцным, — і ўласная культурна-эканамічная «асобінка», непадобнасць да іншых. У Полацку ўсё сышлося лёгка і натуральна. Полацкі люд без вялікіх цяжкасцей выходзіў на заходнееўрапейскія шляхі — успомніце, куды завяла дарога Францыска Скарыну, і канечне, ён не быў на гэтых дарогах першым палачанінам. Так, як ён, ішлі многія, ды не ўсім пароўну адмерана ўдачы і таленту. Людзей шмат, а Скарына адзін. Дык вось, полацкія купцы былі сваімі людзьмі і ў Ноўгарадзе, і ў Кіеве, і ў Любеку з Кракавам. Хадзілі яны ў варагі і ў грэкі, а там трэба было не толькі іншых глядзець, але і сябе паказваць.

Другое — да адзінаццатага стагоддзя ўжо набралі моц Кіеў з Ноўгарадам, хоць і вызначаліся яны рознымі формамі палітычнай улады — праўленнем вярхоўнага князя і нарадапраўствам, — аднак асноўныя рысы былі ўсё ж адзіныя. Полацк падглядзеў у сваіх суседзяў тое і гэтае, у залежнасці ад сітуацыі то склікаў веча, то шукаў моцнага князя. Культурным, эканамічным і вайсковым цэнтрам адразу зрабіўся Кіеў, тут і візантыйскія паходы, і вайна са Стэпам, Святаслаў імкнуўся перанесці сталіцу на Дунай. Прынацце хрысціянства таксама было актам выключнага культурна-палітычнага значэння. Загаварылі званы кіеўскай Сафіі — за імі ноўгарадскай і полацкай. Адзіная воля выразна адчувалася на ўсёй рускай зямлі, вазьміце тыя ж шматлікія Барысаглебскія цэрквы. Першыя рускія святыя якраз і зрабіліся сімваламі гэтай волі, ад Гародні да Корсуня, ад Галіча да Мурама.

І трэцяе — адрозненне ад сваіх суседзяў. Па меры таго, як павялічваліся моц і аўтарытэт удзельных княстваў, мянялася іх становішча, узрастала іх роля ў культурна-эканамічным жыцці дзяржавы. Вядома, кожны такі цэнтр рашаў нейкія свае рэгіянальныя задачы. Паўднёва-ўсходнія княствы былі шчытом паміж Кіевам і Стэпам,





**Сучасны лёс палескіх дубоў — ніжні склад Жыткавіцкага леспрамгаса ў вусці Ствігі.**

паўночна-заходнія стрымлівалі ніяк не сціхаючыя хвалі крыжацкай экспансіі, а тыя хвалі пакацілі ва ўсе бакі яшчэ з часоў Германарыха, цэнтральныя ж княствы выконвалі ролю ядра, куды сыходзілася, сцякалася і прыцягвалася, як да магніту, усё самае лепшае. Полацк знаходзіўся на балта-славянскім памежжы. Да гэтага часу ўжо закончыўся працэс дробнаплямянных міграцый, утвараліся вялікія дзяржавы, у чэраве якіх назаўсёды знікалі невялічкія народы. Цень ад каталіцкага крыжа насунуўся на землі прусаў і яцвягаў, у Полацку той цень добра бачылі. Літва, куршы, жмудзь, латгалы з усяе моцы змагаліся з агрэсіяй крыжакоў, аднак ясна было, што без моцнай дзяржавы ім не ўстаяць. Такім чынам, у пачатку трынаццатага стагоддзя заходнерускія землі, якія сабраліся пад уладай Полацка, і найбольш моцныя балцкія плямёны апынуліся перад неабходнасцю кансалідацыі. Умовы для стварэння новай усходнееўрапейскай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага — ужо саспелі, але аб гэтым крыху пазней.

Адзін з трох наймагутнейшых гарадоў эпохі Кіеўскай Русі Полацк быў у цэнтры барацьбы за вярхоўную ўладу. Усяслаў Брачыславіч, як вядома, адзін год сядзеў на кіеўскім прастоле. Варта назваць імёны самых вядомых полацкіх князёў. Найдаўнейшы з іх, імя якога данеслі да нас летапісы, Рагвалод, бацька Рагнеды. Самога Рагвалода забіў Уладзімір Святаславіч, узяў гвалтам у жонкі Рагнеду, ад іх нарадзіўся Ізяслаў Уладзіміравіч, пачынальнік новай полацкай

дынастыі. Уладзімір пабудаваў яму горад Ізяслаў, цяпер Заслаўе. З 1003 года княжыў Брачыслаў Ізяслававіч, з яго пачалося змаганне Полацка з Кіевам. Але найбольшага росквіту Полацк дасягнуў пры Усяславе Брачыслававічу—1044—1101 гады.

Вось што піша «Повесть временных лет»: «У год 6575 (1067). Падняў рацъ у Полацку Усяслаў, сын Брачыслава, і заняў Ноўгарад. Тры ж Яраславічы, Ізяслаў, Святаслаў, Усевалад, сабраўшы воінаў, пайшлі на Усяслава ў вялікі мароз. І падышлі да Мінску, і мінчане зачыніліся ў горадзе. Браты ж гэтыя ўзялі Мінск і перабілі ўсіх мужоў, а жонак і дзяцей захапілі ў палон і пайшлі да Нямігі, і Усяслаў пайшоў супраць іх. І сустрэліся праціўнікі на Нямізе месяца сакавіка ў 3-і дзень, і быў снег вялікі, і пайшлі адзін на аднаго. І была сеча жорсткая, і многія загінулі ў ёй, і падолелі Ізяслаў, Святаслаў, Усевалад, Усяслаў жа ўцёк. Затым месяца ліпеня ў 10-ы дзень Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад, пацалаваўшы крыж святы Усяславу, сказалі яму: «Прыйдзі да нас, не зробім табе зла». Ён жа, паспадзяваўшыся на іхняе крыжацалаванне, пераехаў да іх у лодзіі цераз Дняпро. Калі ж Ізяслаў увайшоў першы ў шацёр, тут схапілі Усяслава, на Ршы каля Смаленска, пераступіўшы крыжацалаванне. Ізяслаў жа, прывёўшы Усяслава ў Кіеў, пасадзіў яго ў цямніцу і двух сыноў яго».

І пра тое ж самае ў «Слове пра паход Ігаравы»: «На Нямізе снапы сцелюць галовамі, малоцяць цапамі харалужнымі (булатнымі), на таку жывот (жыццё) кладуць, веюць душу ад цела. Нямігі крывавыя берагі не болагам (быллём) пасеяныя, пасеяныя касцямі рускіх сыноў. Усяслаў-князь людзей судзіў, князям гарады дзяліў, а сам уначы воўкам рыскаў, з Кіева дабягаў да сцен (?) Тмутаракані, вялікаму Хорсу (сонцу) воўкам шлях перабягаючы. У Полацку званілі ютрань (ранішнюю малітву) у званы святой Сафіі, а ён у Кіеве звон чуў. Хоць і вешчая душа ў ягоным магутным целе, але часта і яна пакутавала».

Пра таго ж Усяслава «Повесть временных лет» паведамляе: «У той жа год (1044) памёр Брачыслаў, сын Ізяслава, унук Уладзіміра, бацька Усяслава, і Усяслаў, сын ягоны, сеў на стале яго, маці ж нарадзіла яго ад валхвавання (варажбы). Калі маці нарадзіла яго, на галаве яго аказалася сарочка, і сказалі вешчуны маці ягонай: «Гэтую сарочку навяжы на яго, няхай носіць яе да смерці». І носіць яе на сабе Усяслаў і да гэтага дня; таму і няміласцівы на кровапраліцце».

Як жа трэба дацца ў знакі Кіеву, каб летапісец напісаў, што гэты князь нарадзіўся ў сарочцы. А аўтар «Слова пра паход Ігаравы» быў перакананы, што ён—ваўкалак. Ды і то сказаць: пяцьдзесят сем гадоў княжыў Усяслаў, «заложи» святую Сафію, не раз і не два заваёўваў Ноўгарад, адзначыўся ў Кіеве і нават «дорискаше» да Тмутаракані. Пярэварацень. Чарадзей. Адна з самых каларытных асоб Старажытнай Русі.

Але памёр Усяслаў—гэты факт не без палёгкі адзначыў летапісец («преставися Всеславъ, полоцкий князь, месяца априля въ 14 день, въ 9 часъ дне, въ среду»)—і сыны яго, Рагвалод з Барысам, ужо не маглі спыніць раздраблення княства, яно падзялілася на ўдзелы. У 1127 годзе кіеўскі князь Мсціслаў Уладзіміравіч захапіў Полацк з яго князямі—і выслаў іх у Візантыю, факт таксама неардынарны для Кіеўскай Русі. Забойстваў—колькі хочаш, цалаванняў крыжа—таксама, нараджалі дзяцей ад забойцаў бацькі, уцякалі да ляхаў, наводзілі на родную зямлю ворагаў,—а вось у Візантыю князёў высылалі толькі аднойчы і толькі князёў полацкіх.

Пасля смерці князя Усяслава Васількавіча полацкія людзі князёў болей не захацелі і ўтварылі рэспубліку—з 1181 па 1190 гады. Да трынаццатага стагоддзя сваё незалежнае жыццё, праўда, не дацягнулі, выбралі спачатку князя Мінгайлу, за ім Гінгвілу (Юрыя). Пазней князь Барыс сыну Васільку аддаў Кукейноскія землі, Вячаславу (Вячку)—Юр'еў, цяперашні Тарту.

Апошнім з дому Ізяславічаў быў Брачыслаў.

Трынаццатае ж стагоддзе пачалося з шалёнага наступу крыжакоў. Дружыны полацкага князя Уладзіміра хадзілі на нямецкіх рыцараў у 1203, 1206 і 1216 гадах. На заходнярускіх землях пачынаўся працэс актыўнай кансалідацыі. І гаворка тут ідзе не пра заваёву адных другімі—пра аб'яднанне. Літоўскім князям патрэбны былі багатыя, эканамічна і палітычна моцныя суседнія гарады. Тыя ж, у сваю чаргу, не супраць былі запрасіць на стол ваяўнічых князёў-суседзяў, а разам з гэтым замацаваць і прэтэнзіі на іхнія землі. Прыходзіў у якоенебудзь з удзельных княстваў жмудзінскі, аўкштайцкі ці нальшчанскі князь, і адразу ж у перспектыве з'яўляліся правы на літоўскую зямлю. У залежнасці ад сітуацыі князі-«варагі» досыць лёгка мянялі веравызнанне, з язычнікаў пераходзілі ў хрысціянства (грэчаскае альбо рымскае) і наадварот. Дзе лепш, туды і хіліліся.

Далёка ж на ўсходзе, у заіцільскіх стэпах, ужо выспела вялізная, дасюль яшчэ нябачаная навальнічная хмара, якая вось-вось з грукатам і агнём абрынецца на Русь—і запалае зямля, заплача...

Так, былі ўжо Аціла з ордамі гунаў, Германарых з войскамі готаў—што ні кажыце, першае нямецкае нашэсце!—аднак з татара-мангольскай навалай нічога параўнаць не можа. Да саракавых гадоў трынаццатага стагоддзя Кіеўская Русь, падзеленая на мноства княстваў, у кожнага з якіх свае амбіцыі, свае памкненні, свая, зрэшты, палітычная арыентацыя, тым не менш была моцнай усходнееўрапейскай дзяржавай, з наймацнейшых у тагачасным гроне. Каб падсячы яе і скарыць, патрэбна была велізарная сіла, такая, што нараджаецца ў выключныя моманты гісторыі. І сіла выспела, не за год, не за два, за некалькі дзесяцігоддзяў, у якія нястомна і няўхільна ладзілася ідэальная на той час вайсковая машына. Абсалютная ўлада военачальніка, абсалютнае паслушэнства падначаленых. Манеўр хуткага атрада качэўнікаў, з якім пакуль што не сустракаліся, а значыць, і не ведалі, як яму процістаяць. Жорсткасць дысцыпліны, жорсткасць бойкі, жорсткасць пакарання. Разлік, пастроены на фанатызме. Выдатны вайсковы вопыт, набыты ў азіяцкіх паходах. Арміі, падобныя татара-мангольскай, з'яўляюцца на гістарычнай арэне надзвычай рэдка, можна ўспомніць хіба што фалангі Аляксандра Македонскага, легіён Юлія Цэзара—і тумены Чынгісхана і Батыя. Закаваная ў браню крыжацкая «свіння» разляцелася пад ударам «бязбожных маавіцян» (так у летапісе), як пусты арэх. А трэба сказаць, што крывая шабля вузкавокага нукера высекла іскру аб меч-абяручнік страхалюднага рыцара ў той момант, калі страла татарскага нашэсця ўжо была пры канцы лёту. І тым не менш, прабіўшы навылёт грудзі рускага воя, яна ўсё ж раскалола рагаты шлем еўрапейскага рыцарства. Русі ж вой падняўся на ногі і зноў выняў меч з похваў толькі праз два стагоддзі.

Відаць, з татара-мангольскага нашэсця і пачаўся апошні падзел славянства, на гэты раз—падзел ўсходнеславянскага адзінства. Некалькімі стагоддзямі раней адасобіліся заходнія і паўднёвыя славяне, цяпер пайшла ў адрosты самая буйная галіна славянскага дрэва—усходняя.

Чорны цень акрыў амаль усю Кіеўскую Русь, у руінах і попеле ляжаў сам Кіеў, паміж ацалелымі гарадамі гойсалі атрады заваёўнікаў, збіралі ясак. Да ноўгарадскіх, полацкіх, турава-пінскіх і часткова галіцка-валынскіх земляў нашэсце не дапяла, аднак тым не менш яно карэнным чынам паўплывала на іхні лёс. Якраз на сярэдзіну трынаццатага стагоддзя і прыпадае перамяшчэнне арганізуючага цэнтра земляў будучай Беларусі. На гістарычную арэну выходзіла Вялікае княства Літоўскае.

Пад 1228 годам Іпацьеўскі летапіс разам з незалежнымі гарадамі Туравам і Пінскам называў Новагародак. Да татара-мангольскага нашэсця горад быў пад уладай галіцка-валынскіх князёў, з 1246 года, калі мясцовай шляхтай у князі быў узяты Міндоўг, Новагародак паўстаў ужо ў ролі галоўнага цэнтра дрыгавіцка-крывіцкіх земляў. У гэты час для Новагародка склалася выключна спрыяльная палітыка-эканамічная сітуацыя. З поўдня ад татара-мангольскай навалы, з захаду ад націску крыжакоў сюды пачалі сцякацца шматлікія бежанцы—майстры, воіны, сяляне. Горад з добра развітым земляробствам, з добра наладжанай вытворчасцю металічных і шкляных вырабаў, з пасадамі ювеліраў, ганчароў і кастарэзаў, Новагародак узвысіўся над суседнімі гарадамі, таксама багатымі. У ліку іх летапісы падаюць Слонім, Ваўкавыск, Гродна, Здзітаў, Зэльву, Свіслач і іншыя. Пра неверагодную раскошу гарадской вярхушкі гаворыць дом новагарод-

скага баярына, раскапаны Ф. Гурэвіч. Маёліка, кафля, мазаічныя фрэскі, залатыя і сярэбраныя рэчы, шкляныя кубкі з Усходу і Венецыі, нават шкло ў вокнах, а гэтага амаль не было і ў Кіеве. Без добра развітых рамёстваў і вялікага гандлю нічога падобнага з'явіцца не магло. А замак, руіны якога ўражваюць нават цяпер?.. Будаўніцтва яго пачалося ў адзінаццатым стагоддзі, а ў трынаццатым на Замкавай гары ўжо стаялі магутныя мураваныя вежы з вялікіх часаных камянёў, якіх ляжала шмат на тутэйшых палях. У XIII—XIV стагоддзях захапіць гэты замак нікому не ўдалося, ні разу. А хто пад ім тоўкся? У 1274 годзе валынскія і татарскія войскі, у 1314 годзе магістр Тэўтонскага ордэна Генрых фон Плоцке, у 1391 і 1394 гадах магістр Конрад Валенрод. На пачатку XVI стагоддзя замак вытрымаў аблогі загонаў перакопскіх татараў на чале з султанам Біці-Гірэем. І толькі войскі князя Трубяцкога пад час руска-польскай вайны 1654—1663 гадоў здолелі разбурыць яго, а сам горад зруйнаваць.

Зрэшты, замкі Беларусі—гэта асобная вялікая гаворка. Яшчэ і зараз мы дзівімся на Камянецкую вежу, на рэшткі Навагрудскага, Гродзенскага, Лідскага і Крэўскага замкаў, на замак-цацку ў Міры і замак-палац у Нясвіжы. За кожным з іх столькі падзей і чалавечых лёсаў—на дзесяткі кніг хопіць.

Але вернемся да трынаццатага стагоддзя. Удзельныя князі Чорнай Русі—да гэтай назвы мы яшчэ вернемся—шчыльна згуртаваліся вакол Новагародка, моцнага, багатага, незалежнага. Дарэчы, гісторык М. Ермаловіч выказаў думку, што дынастыя новагародскіх князёў, магчыма, была з роду полацкіх (гэта, вядома, да прыходу Міндоўга). Такім чынам, мы ўжо ведаем, што Новагародак удала скарыстаў аслабленне пасля татара-мангольскага нашэсця галіцка-валынскага княства, былой метраполіі, і такое ж аслабленне, але з другой прычыны, Полацка. Полацкая шляхта не здолела стварыць моцную дзяржаўную арганізацыю, якая б паспяхова змяніла княскую ўладу. У выніку свая ўласная княская дынастыя загінула, а веча палохала залішняй дэмакратычнасцю. Полацк вымушаны быў запрасіць на княства літоўскіх князёў, як, зрэшты, і Новагародак, але пасаг, які яны набылі з гэтага, аказаўся дужа розны.

Галіцка-Валынскі летапіс ахоплівае цэлае стагоддзе ў момант найвялікшага росквіту Галіцка-Валынскага княства, натуральна, што ён расказвае ў першую чаргу пра вялікага князя Данілу Галіцкага, яго сыноў і ўнукаў. Аднак вось што вельмі паказальна: калі на першых старонках летапісу Літва і Новагародак прысутнічаюць эпізадычна, то на апошніх яны робяцца ледзь не галоўнымі. Цэнтр палітычнага і эканамічнага жыцця паступова перамяшчаецца з Чырвонай Русі на Чорную. Ужо ў сярэдзіне трынаццатага стагоддзя татарскія орды гулялі па галіцка-валынскіх землях, як па сваіх уласных. Пасля Кіева былі зруйнаваны Галіч, Уладзімір, Камянец-Падольскі, Пераяслаў і многія іншыя гарады, сам Данілa-князь хаваўся спачатку ў зямлі вуграў, потым у Вышагорадзе, што ў зямлі ляшскай. Пагінула руская зямля, плач і стогн стаялі на ўсіх вялізных яе абшарах.

Чорная ж Русь ацалела. Што яе ўратавала? Ёсць некалькі меркаванняў. Пасля зруйнавання цэнтральна-рускіх земляў мангола-татары памкнуліся да багатых задунайскіх гарадоў. Пацярпеўшы вялікія страты ў жывой сіле, яны вымушаны былі выбіраць накірунак галоўнага ўдару—і адмовіцца ад удараў прэвентыўных. Як і ў кожнага заваёўніка, «ідэяй фікс» Батыя было пакарэнне свету, знішчэнне самых багатых і самых велічных гарадоў. А яны ляжалі на захадзе. Такім чынам, мангола-татарская навала зачапіла толькі акрайчык беларускіх земляў, з гарадоў спаленае было толькі Бярэсце, гэта адзначаецца ва ўсіх летапісах. Астатнія ж (Новагародак, Гарадзень, Ваўкавыйск і іншыя) памылкова аднесены да «сплюндраваных» Батыгам, як гэта мы знаходзім у Хроніцы Літоўскай і Жмойцкай. Гісторык М. Улашчык у сваіх «Уводзінах у вывучэнне беларуска-літоўскага летапісання» піша, што татары сумесна з галіцка-валынскімі войскамі наўрад ці даходзілі да Нальшчанскай зямлі і ніколі не даходзілі да ўласна Літвы. Што тычыцца Навагрудка (Новагародка), дык ён у трынаццатым стагоддзі быў самым моцным эканамічным і культурным цэнтрам як заходняй Беларусі, так і Літвы з Жамайціяй. Якраз вакол яго ўтварылася буйная дзяржава—Вялікае княства Літоўскае, Жамойцкае і Рускае Новагародскае. Безумоўна, на Новагародак, як на сталіцу, былі накіраваны ўдары татарскіх і галіцка-



валынскіх войскаў. Аднак дакладных звестак, што горад быў імі захоплены, няма. Наадварот, у беларуска-літоўскіх летапісах няўдалыя паходы татараў і валынян падаюцца выключна як вялікія перамогі беларускіх і літоўскіх князёў. Як кажуць, дыму без полымя не бывае. Ды і на самой справе нашы продкі, хай сабе і з літоўцамі, білі тых татараў не ў Кіеве, дык пад Койданавам, не ў Галічы, дык пад Давыд-Гарадком. У дарэвалюцыйным гістарыязнаўстве гэтыя факты не надта апісваліся і тлумачыліся, ды прычыны такой глухаты і немаветы таксама не вялікая таямніца. Цэлыя стагоддзі працавала пэўная тэндэнцыя—адчуваем мы яе і зараз.

Некаму такая пастаноўка пытання можа падацца дзіўнай і недарэчнай, але надта ўжо шмат фактаў, якія пераконваюць—гісторыя Беларусі, дакладней, сярэднявечнай Беларусі, сказалася і скажаецца дасюль, да нашага часу. Адкуль усё пачалося? А вось якраз з утварэння беларуска-літоўскай дзяржавы—Вялікага княства Літоўскага. На той час, як гэтая дзяржава стваралася, суседняя Маскоўская Русь яшчэ не існавала як самастойная палітычная адзінка. Былі асобныя васальныя княствы, якія—адны больш, другія менш—падпарадкоўваліся Залатой Ардзе. У Сарай ехалі самі князі, ехалі паслы князёў, ехалі абозы з данінай. Незалежны быў адзін Вялікі Ноўгарад, аднак жа і ён не браў пад сваю руку цвярскія, разанскія ці кіеўскія землі. Не ставала моцы, жадання, амбіцый, ды і проста не спрыяла палітычная сітуацыя. Але з цягам часу ўсходняя Русь, цяпер ужо Маскоўская, пакрысе пачала выбівацца з-пад татарскага ярма. Не так гэта было лёгка і хутка, як на паперы, але Кулікоўская бітва ўрэшце расставіла ўсё па сваіх месцах, і як апошняя кропка аб'яднання ўсходнярускіх земляў—тэорыя «трэцяга Рыма», тэарэтычнае абгрунтаванне прыярытэту Масквы, якая, маўляў, была і ёсць адзіным арганізуючым цэнтрам Русі (у тым ліку і Русі Белай, Чырвонай, Чорнай).

А суседняе Вялікае княства Літоўскае ўвесь гэты час не проста суседзіла з Масквой, але актыўна ўмешвалася ў жыццё цэнтральнай і ўсходняй Еўропы. Не жарты—дзяржава ад Балтыйскага да Чорнага мораў. Як ні дзіўна, на той час самымі небяспечнымі ворагамі Вялікага княства былі крымчакі з іхняй псіхалогіяй стэпавых ваўкоў—наскочыў, схапіў, уцёк. Дык вось, для Маскоўскай Русі, якая ўздымалася выключна хутка, ідэалагічнае абгрунтаванне свайго першынства зрабілася найгалоўнейшай мэтай. А трэба дадаць, што не раз і не два рабіліся захады аб аб'яднанні дзвюх усходнеславянскіх дзяржаў у адну—і ўсе яны заканчваліся фіяска, бо зноў жа паўставала пытанне аб прыярытэтах. Пад чыёй рукой аб'яднанне? І які статус князёў маскоўскіх і літоўскіх? І як вынік гэтых супярэчнасцей—Маскоўская Русь і Вялікае княства Літоўскае зрабіліся лютымі ворагамі.

З нашага далёкага сёння мы ўжо ведаем, чым усё скончылася. Маскоўская Русь ператварылася ў Расійскую імперыю, якая ўз'яднала не толькі землі ўсходніх славян, але і лёгка праглынула паволжскія і заволжскія ханствы, царствы, эміраты. Аднак упамінак аб галоўным ворагу Масквы—Вялікім княстве Літоўскім—трывала гняздзіўся ў галовах дзяржаўных мужоў. Расійская гістарычная навука, якая ці не з першых сваіх крокаў зрабілася ідэалагічным прыдаткам царскай волі, неаб'ектыўна і сфальсіфікавана тлумачыла як узнікненне самога Вялікага княства, так і гісторыю яго існавання на працягу вякоў. Нарадзіўся міф аб занядбаласці «паўночна-заходняй ускраіны» імперыі, аб другаснасці культуры народа, які спрадвеку жыў на гэтых землях, аб тым, што нават мова беларусаў, былых літвінаў,—усяго толькі дыялект расійскай мовы. Ці не праўда, гучыць гэта як бы з даклада нашых сённяшніх «айцоў» культуры і ідэалогіі? Можа, яны і не ведаюць, што запазычылі свае доказы ў афіцыйнай навукі часоў мінулых і пазамінулых, але гэта так. Выказванні аб гістарычна-аб'ектыўных умовах развіцця беларускага народа, які ўжо амаль нічым не адрозніваецца ад рускага, ну, хіба што спецыфічным вымаўленнем некаторых слоў, пацвярджаюць вышэй сказанае. А падобных выказванняў у цяперашнім рэспубліканскім друку болей, чым трэба. І справа тут не толькі ў выключнай непісьменнасці тых, хто гэта гаворыць. Гісторыі як навуцы па-ранейшаму адводзіцца роля абслугі, якая забяспечвае «вялікую палітыку».

Больш падрабязна гаворка пра ўзаемаадносіны Вялікага княства Літоўскага і Маскоўскай Русі пойдзе ў другой частцы эсэ. Мы ж вернемся да пачаткаў, да часоў, калі Вялікае княства ўзнікала.

Першае, што кідаецца ў вочы пры знаёмстве з беларуска-літоўскімі летапісамі, гэта вялікая блытаніна ў так званай легендарнай частцы. Галіцка-Валынскі летапіс у гэтым сэнсе больш дакладны. Пад 1215 годам у ім расказваецца пра першае замірэнне галіцкіх і літоўскіх князёў: «У год 6723 (1215). Па волі божай прыслалі князі літоўскія да вялікай княгіні Раманавай і да Данілы з Васількам, прапаноўваючы мір. Вось імёны літоўскіх князёў: старэйшы Жывінбуд, Даўят, Даўспрунк і брат ягоны Міндоўг, брат Даўялаў Вілікіил. А жмудскія князі—Едзівіл, Выкінт, Рушкавічы—Кінцібуд, Ванібуд, Бутавіт, Віжаік і ягоны сын Вішлій, Кіценій, Плікасова; а вось Булевічы—Вішымут, якога забіў Міндоўг, і ўзяў жонку яго, і перабіў братоў яго, Едзівіла і Спрудзейка; а вось князі з Дзяволты—Юдзькі, Пукеік, Бікшы, Лікііk. Усе яны заключылі мір з князямі Данілам і Васількам, і ўсталяваўся мір у іхняй зямлі. Аднак ляхі не пакідалі шкодзіць—і Даніла навёў на іх літву; тыя паваявалі ляхаў і многіх сярод іх перабілі».

Дарэчы, у летапісах мне вельмі падабаюцца запісы накшталт гэтага: «Въ лето 6726. Тишина бысть». Або: «Въ лето 6728. Не бысть ничто же». Гэтыя «нічогія» гады былі, канечне, з лепшых гадоў. Так, на войны ў 1218 і 1220 гадах не шанцавала, Леў не забіваў Войшалка, аднак якраз у гэтыя гады будаваліся гарады, узносіліся над імі замкавыя вежы, надзімаліся ветразі над лодзіямі купцоў—і ападалі на ажыўленых, гаманлівых прыстанях. Відаць, і ўраджаі ў гэтыя гады былі добрыя. А як жа? Не цягнуліся праз сялянскія палі войскі, не гойсалі па пушчах атрады нарыхтоўшчыкаў. Вялікая вайна вымагала вялікіх прызапашванняў мяса і хлеба. Пра нарыхтоўкі напярэдадні Грунвальда я ўжо гаварыў, і калі Грунвальд—гэта ўсё ж Грунвальд, падобнай бітве можна прынесці любыя ахвяры, дык што казаць пра наезды, калі сусед ішоў на суседа? А таксама ж цягнулі за сабою вазы з хлебам, з вяндлінаю, з гарэлкаю. Праўда, не толькі войны вымагалі доўгатэрміновых, на цэлую зіму і болей, ловаў і гонаў. На каранацыю таго ж славутага Вялікага князя Літоўскага Вітаўта было забіта сто зуброў і столькі ж ласёў. Але ж гэты год і быў запісаны ў летапісе як год каранацыі.

І хату чалавек сабе стаўляў часцей за ўсё ў год, калі «не было нічога».

Але вернемся да феномена Навагародка і літоўскіх князёў на яго пасадзе. Сапраўды, мяркуючы па летапісах, Навагародак і Навагародская зямля дужа хутка падняліся да стану цэнтральнага ядра вялікай і моцнай дзяржавы. Галіцка-Валынскі летапіс больш-менш падрабязна расказаў пра адасабленне Навагародка ад Чырвонай Русі. Магчыма, тады ж, у першай палове трынаццатага стагоддзя, і ўзніклі гэтыя назвы—Чорная і Чырвоная Русь. Дык вось, залежнасць Навагародка ад Галіча і Уладзіміра Валынскага ўжо тады ўяўлялася фармальнай. І ўвогуле Навагародак з моманту свайго заснавання, гэта значыць з адзінаццатага стагоддзя, стаяў як бы «на аддзеле». У складзе Полацкага княства ён амаль не зафіксаваны. Полацкія летапісы, якія загінулі, здолелі б разагнаць смугу, што захінае тыя часы ад нашых вачэй. Цяпер жа мы вымушаны задавальняцца толькі звесткамі пра тое, што Барысаглебская царква дванаццатага стагоддзя ў Навагрудку мае адметныя рысы школы полацкага дойлідства. Знаходзячыся як бы ўбаку ад бурлівага палітычнага жыцця самога Полацка, Навагародак назапашваў сілы. Узводзіліся вежы і сцены славутага навагародскага замка. Будавалася полацкімі майстрамі царква. Разрасталіся пасады рамеснікаў—ганчароў, ювеліраў, шкляроў, гарбароў. Праз дубовыя лясы па тутэйшых узгорках цягнулі шляхі купцоў—на ўсход, на поўдзень, на захад.

Чаму мне здаецца, што Навагародак быў адносна незалежны і ад Полацка, і ад караля Данілы з сынамі? Геаграфічнае становішча. Летапісы сведчаць, што вакол Навагародскай зямлі былі вялікія пушчы, у якіх сядзелі ваяўнічыя плямёны літоўцаў і ятвягаў. На захадзе ж ляхі. У 1246 годзе Даніла і Васілька ваявалі з літоўцамі, у 1247 з ятвягамі, адбіваліся ад іх, гналі назад у лясы—і даходзілі толькі да Пінскай зямлі. Здаецца, што якраз паміж Пінскам і Навагародкам сядзелі тыя заклятыя ворагі Данілы, паганцы ў звярыных шкурах—літоўцы і ятвягі. Навагародак прызнаваў уладу караля Данілы Галіцкага—як і раней Полацка,—аднак адчувалася, што гэта ненадоўга. Нялёгка было дайсці да Навагародка нават і добра забяспечанаму войску, а там ужо стаяў высозны замак, на гары. Навагародак як бы назіраў, сачыў за падзеямі ў Чырвонай Русі, за Полацкам, якога тады найбольш турбавала суседства з магутным Ноўгарадам.

Сітуацыя рэзка абвастрылася, калі на навагародскі стол сеў Міндоўг. М. Ермаловіч лічыць, што навагародская шляхта запрасіла на стол Міндоўга якраз тады, калі Навагародак ужо адчуў сваю моц. Аддзяленне, і не проста аддзяленне—збіранне суседніх земляў пад моцнай рукой, вось што кіравала яе памкненнямі. А землі збіраліся не толькі беларускія—літоўскія, нальшчанскія, ятвяжскія таксама. Літоўскі князь таму і быў запрошаны на ўзначаленне Чорнай Русі, каб у далейшым тая магла прэтэндаваць на валоданне ўсімі літоўскімі землямі. Парадаксальная думка? Ды не, трапная.

У 1246 годзе Міндоўг прыняў хрысціянства «ад усходу»—і распачаў заваёву Літвы. Вось што гаворыць Галіцкі-Валынскі летапіс: «У той жа год (1252) Міндоўг выгнаў сваіх пляменнікаў Цеўцівіла і Едзівіда, ён паслаў іх на вайну разам з іхнім дзядзькам Выкінтам, на Русь ваяваць, да Смаленска, і сказаў: «Хто што захопіць, няхай тым і валодае». Сам жа ён вераломствам з-за варожасці заваладаў Літвой, захапіў усю зямлю Літоўскую і незлічоныя іхнія маёнткі і прыбраў да рук іхняе багацце. Міндоўг паслаў услед сваіх воінаў з намерам забіць іх. Яны ж, даведаўшыся пра гэта, уцяклі да князя Данілы і Васількі і прыехалі ва Уладзімір. Міндоўг жа прыслаў паслоў сваіх, кажучы: «Не рабі ім міласці». Але Даніла і Васілька яго не паслухалі, бо іхняя сястра была замужам за Данілам».

Канечне, галіцка-валынскія князі былі не зацікаўлены ва ўзмацненні Навагародка, на барацьбу з ім Даніла заклікаў спачатку палякаў, затым немцаў і татараў. «Потым Даніла дамовіўся з братам сваім і паслаў у Ляшскую зямлю да князёў ляшскіх, кажучы: «Час ісці хрысціянам на паганых, бо ў іх вайна паміж сабою». Ляхі абяцалі, аднак не стрымалі слова. Даніла і Васілька паслалі Выкінта да ятвягаў і жмудзі і да немцаў у Рыгу, і Выкінт падкупіў срэбрам і многімі дарункамі ятвягаў і палову жмудзі. А немцы адказалі Данілу: «Дзеля цябе мы заключым мір з Выкінтам, хаця ён многа нашых братоў пагубіў». Нямецкія рыцары абяцалі ісці на дапамогу Цеўцівілу. А Даніла і Васілька пайшлі да Навагародка. Даніла параіўся з Васількам, братам сваім, і з сынам і паслаў брата свайго на Ваўкавыйск, а сына на Услонім, сам жа пайшоў да Здзітава. Яны захапілі шмат гарадоў і вярнуліся дахаты».

Вакол Чорнай Русі ўтварылася даволі моцнае кола, разарваць якое было няпроста. Міндоўг нават пагадзіўся прыняць хрысціянства ад папы рымскага Інакенція, той яму і каралеўскую карону прыслаў,—як, дарэчы, і Данілу Галіцкаму. «Міндоўг паслаў да папы і прыняў хрышчэнне, але хрышчэнне яго было лжывае, ён прыносіў употай ахвяры сваім багам: першаму Нанадзею, і Целявелю, і Дзівярыкзу, заечаму богу, і Мідзяіну,—калі выязджаў у поле і выбягаў перад ім заяц, ён не ўваходзіў у лес і не смеў нават дубца зламіць. Ён прыносіў ахвяры сваім багам, спальваў целы мёртвых і адкрыта трымаўся паганскіх звычаяў».

І ўсё ж галіцка-валынскія князі на той час былі яшчэ мацнейшыя. Тройчы хадзіў Даніла на Міндоўга—з братам Васількам, з сынам Львом, са сватам палавецкім князем Цягакам. Вайна 1248—1254 гадоў закончылася пагадненнем, па ўмовах якога Міндоўг застаўся князем уласна Літвы, Навагародак жа ўзяў за князя яго старэйшага сына Войшалка (у Хроніцы Літоўскай і Жмойцкай—Войселка).

Менавіта Войшалк, па перакананню М. Ермаловіча, аб'яднаў Навагародак і Літву ў адзіную магутную дзяржаву.

А што ж Міндоўг? Безумоўна, гэта была моцная палітычная фігура, адна з мацнейшых у тыя часы. Аднак Міндоўгу ўсё ж бракавала палітычнага разліку, вытрымкі і паслядоўнасці. Свае правы на навагародскі стол ён страціў ужо ў 1251 годзе, калі прыняў хрышчэнне ад папы рымскага. Што ні кажы, а Чорная

Русь была Руссю, праваслаўнай зямлёй, на якой тады яшчэ не стаялі касцёлы. Міндоўг у душы мог заставацца паганцам, мог баяцца заечага бога Дзівярыкса, аднак заляцанні з Рымам—гэта ўжо дыпламатычны і палітычны ход, на той момант ён здаваўся моцным, а на самой справе аказаўся слабы. Вось Войшалк даказаў новагародскай шляхце, што ён праваслаўны фанатык. Тры гады жыў у манастыры, хацеў схадзіць на Афон, каб там ахрысціць Літву, заснаваў вялікі манастыр пад Новагародкам (ці не ў Любчы?). А самае галоўнае—ён удала замірыўся з Данілам і яго сынамі. Без волі Міндоўга аддаў яго дачку, а сваю сястру за сына Данілы Галіцкага Шварна. Па добрай волі прызнаў сваё падначаленне сталу галіцка-валынскаму, князем новагародскім у той час зрабіўся другі Данілаў сын—Раман. І толькі ў 1258 годзе ўбачыліся сапраўдныя планы Войшалка, калі ён вярнуўся з Палонінскага манастыра ў Літву і схапіў Рамана. Умела лавіруючы, ён не дапусціў нападу на Новагародак ні самога Данілы, ні татарскага хана Бурундая. На той час спадкаемцамі Літвы акрамя самога Войшалка і Міндоўга заставаліся Таўцівіл, што княжыў у Полацку, жамойцкі князь Транята і нальшчанскі князь Даўмонт. Даўмонт забіў Міндоўга з двума ягонымі сынамі. Транята забіў Таўцівіла. Самому ж Траняту адпомсцілі былыя конюхі Міндоўга—забілі яго. Войшалк застаўся адзіным прэтэндэнтам на стол новагародскі, літоўскі і жамойцкі. Утварэнне Вялікага княства Новагародскага і Літоўскага (а ў Хроніцы: Літоўскага, Жамойцкага, Новагародскага, Полацкага і Курляндскага) адбылося.

Хроніка Літоўская і Жмойцкая гаворыць: «... паны, ад якіх залежаў парадак і захаванне рэчы паспалітай... загасіўшы паміж сабой нязгоды ўсе, вызначыўшы час, з'ехаліся да Тарнова і ра́дзілі аб выбранні пана і князя сабе. А так радзілі паднесці на панства чарняца Войселка, сына Міндоўга, які на той час жыў у Пінску ў манастыры, а некаторыя многіх іншых хацелі, а палачане, наўградчане, гарадняне, падляшане і мазыране аднастайнымі галасамі згаджаліся прасіць на панства Літоўскае якога-небудзь з сыноў Данілы, караля рускага, альбо Льва, альбо таксама Рамана, іншыя ж хацелі Сварна... Літоўскія ўсе паны на тое і слова не далі сказаць, бароначы сябе і перасцерагаючыся, што згубяць вольнасць сваю і ўсяго народа свайго літоўскага, і гаварылі, што лепей Войселка, сына Міндоўга, дзедзіча з манастыра Пінскага, узяць на княжанне, а калі б не захацеў, дык і гвалтам узяць яго, і на Вялікае княства Літоўскае айчыннае паднесці. А так зараз паны літоўскія выправілі да Войселка паслоў высакародных і вялікіх паноў, ад імені ўсяго народу і шляхты просячы яго на айчыннае панства, якое ўласна яму належыць... І так ён, будучы змякчоны вялікімі просьбамі ад падданых, выехаў з манастыра Пінскага да Ноўгарадка, а потым з наўградчанамі ў княскім атрадзе да Кернава, дзе яго ўсе паны, баяры і ўвесь народ з вялікім вяселлем і радасцю, «лада», «лада» ўзываючы, удзячна яго прынялі і на сталіцы Вялікага княства Літоўскага, Жамойцкага, Ноўгарадскага, Полацкага і Курляндскага пасадзілі звыклымі цырымоніямі, і з мячом, у адзенні і шапцы княжай, паднеслі, віншуючы і зычачы яму шчаслівага панавання на доўгія векі».

І далей: «А так Войселк, атрымаўшы грунтоўна панства айчыннае, працягваў жыць набожна ў законе чарняцом, бо заўсёды на княскіх сукнях светладарагіх, на галаве зверху клабук чорны насіў. Аднак жа на пачатку панавання свайго многа паноў літоўскіх, жамойцкіх і ятвяжскіх пазабіваў, помсцячы за смерць бацькі свайго Міндоўга, другія ж, як перад Неронам, уцякалі, а ён маёнткі іхнія сваім раздаваў дваранам, і тым праследаваннем непрыяцеляў унутраных і абдзіраннем падданых, вялікія скарбы сабраў, і гэтымі скарбамі войскі сцягнуў супраць Льва Данілавіча, каралевіча рускага, князя ўладзімірскага аб граніцы літоўскія ваяваў і паражаў яго. З Сварнам, князем друцкім, мужам сястры Данілы, вялікую меў прыязнасць, і сумеснаю вайсковаю сілаю на Польшчу наязджалі і вельмі плюндравалі (рабавалі)».

А вось што запісана пра тое ж самае ў галіцка-валынскім летапісе: «У год 6771 (1263). Міндоўг усё войска сваё паслаў за Дняпро супраць Рамана, князя Бранскага. Даўмонт пайшоў разам з імі на вайну, але, выбраўшы зручны час, вярнуўся назад, кажучы: «Гаданне не дазваляе мне ісці разам з вамі». Вярнуўшыся назад, ён хутка паскакаў, дагнаў Міндоўга і забіў яго і двух яго сыноў разам з ім забіў, Рукля і Рэпек'я. Так адбылося забойства Міндоўга.

Пасля забойства Міндоўга Войшалк пабаяўся таго ж і ўцёк у Пінск, а Транята пачаў княжыць на ўсёй зямлі Літоўскай і ў Жмудскай зямлі. І паслаў у Полацк па брата свайго Цеўцівіла, сказаўшы так: «Брат, прыходзь сюды, раздзелім зямлю і маёмасць Міндоўга». Калі Цеўцівіл прыехаў да яго, дык пачаў думаць, як бы забіць Траняту, а Транята пачаў думаць, як бы забіць Цеўцівіла. Задуму Цеўцівіла выкрыў яго баярын Пракоп Палачанін. Транята апярэдзіў Цеўцівіла, і забіў яго, і пачаў княжыць адзін. Тады канюшыя Міндоўга, чацвёра слуг, пачалі думаць, як бы ім забіць Траняту. Калі Транята пайшоў мыцца ў лазню, яны падгадалі зручны момант і забілі Траняту. Так адбылося забойства Траняты.

Пачуўшы пра гэта, Войшалк пайшоў з пінянамі да Новагародка і адтуль, узяўшы з сабой новагародцаў, пайшоў у Літву княжыць. Літоўцы прынялі яго з радасцю, як свайго пана.

У год 6772 (1264). Войшалк пачаў княжыць ва ўсёй зямлі Літоўскай, і пачаў забіваць сваіх ворагаў, і перабіў іх незлічонае мноства, а іншыя разбегліся куды вочы глядзяць...»

Некага можа здзівіць, што той і гэты летапіс напісаны як бы рознымі мовамі. Але нічога дзіўнага няма. Па-першае, напісаны яны ў розныя часы, галіцка-валынскі дайшоў да нас у спіску Іпацьеўскага летапісу XV стагоддзя, а Хроніка Літоўская і Жмойцкая ў чатырох спісках, складзеных у 30—50-я гады XVIII стагоддзя. Зрэшты, каб была гэта адзіная мова, дык наўрад ці яна настолькі змянілася за тры сотні гадоў. Свае асноўныя асаблівасці мова захоўвае тысячагоддзямі. Так, беларуска-літоўскія летапісы напісаны «рускай» моваю, але гэтая «руская» ўжо далёка адышла ад старажытнарускай. Хутчэй за ўсё ў Хроніцы мы маем справу з старабеларускай мовай.

Але гаворка пра гэта больш падрабязна пойдзе ў другой частцы кнігі, зараз жа я хачу сказаць толькі наступнае. Яшчэ польскі храніст Мацей Стрыйкоўскі ў шаснаццатым стагоддзі адзначыў—усе выкарыстаныя ім літоўскія хронікі напісаныя на «рускай мове, але з дадаткам літоўскага акцэнту». Даследчык дзевятнаццатага стагоддзя І. Даніловіч таксама сцвярджаў: «Усе літоўскія летапісы напісаныя па-руску, якія Літва ў старажытнасці ўжывала як хронікі». І далей: літоўцы хоць і падначалілі сабе рускія вобласці, але тым не менш яны прынялі «мову рускую за мову двара, навукі, судавытворчасці, права, дыпламатыі і толькі з яе дапамогай разумелі адзін аднаго і пісалі летапісы». Ён жа выказаў думку аб тым, што існавала «руска-літоўская гаворка», або «літоўскі дыялект», якім рускія (з Маскоўскай Русі) ніколі не пісалі. Абапіраючыся на гэтыя і многія іншыя звесткі, М. Улашчык у сваіх «Уводзінах у вывучэнне беларуска-літоўскага летапісання» лічыць, што Даніловіч тут мае на ўвазе старабеларускую мову—дзяржаўную мову Вялікага княства Літоўскага.

Вернемся зноў да Ноўгарадка, Новагародка, Навагрудка—у апошняй назве многія даследчыкі небеспадстаўна бачаць уплыў польскай моўнай стыхіі—і дзівяцца, што яна замацавалася ў сучасным беларускім правапісанні. Якім жа ён упершыню паўстае ў нашых летапісах, гэты галоўны горад Чорнай Русі? І чаму гэтак імкліва ўзрасла ягоная магутнасць? Яшчэ ў 1240 годзе літоўскія князі знайшлі яго разбураным «праз Батыя» (гістарычныя крыніцы такога факта не ведаюць), а ўжо ў сямідзесятыя гады гэтага ж стагоддзя Войшалку Новагародскаму падпарадкоўваліся ўсё Беларускае Палессе, Падляшша, частка Украіны, Літва і Жамайцця.

Хроніка Літоўская і Жмойцкая: «У год 1258. Потым Монтвіл, ведаючы, што старана Руская зараз спустошаная, а князі рускія разагнаныя Батыем, сабраўшыся з Жывінбудам Даспронгавічам, жмойцкім князем, і літвою сваёю, таксама з курляндцамі альбо корсамі, накіраваў туды войска, над якім гетманам паставіў свайго старэйшага сына Ердзівіла, або Радзівіла. І так Радзівіл упарадкаваў войска літоўскае, жмойцкае, корсаўскае, падняў таксама харугвы ваенныя, і трубачоў з доўгімі жмойцкімі драўлянымі трубамі, асобна таксама абоз з калёсаў ры-

пучых паставіў убаку без зброі і панцыраў (бо яны яшчэ гэтага не знали), толькі зубровыя, ласіныя, мядзведжыя, ваўчыныя нявырабленыя скуры насілі, а зброя—лук просты, загнуты з дубіны або ляшчыны, супаротак (прашча?), поўная торба з каменнем для кідання з супаротка, рагаціна, кій, засмалены з канца, шабля ледзьве ў гетмана была, муштук з лык на каня, а на ім самім на вайне заместа леапарда рагожа на плячах, лыкі і пастромкі за поясам для вязання нявольнікаў. Калі ж прыйшлі на раку Вілію, зараз з калод вялікіх парабілі плыты, на якія калёсы і ўсе свае вайсковыя рыштункі (прыналежнасці) паклаўшы, паравезліся і, самі ў спраўных палках на рускі бок перайшоўшы, падрыхтаваліся. Сам Ердзівіл з вальным палком ішоў ззаду ўсяго абоза, а двух гетманаў на чало з войскам паслаў, а трэцяга гетмана паслаў з літвою ў загоны. А калі перайшлі Нёман, знайшлі ў чатырох мілях гару красную (прыгожую) вынеслую, на якой перш быў замак сталічны Ноўгарадок князя рускага, праз Батыя разбураны. Там зараз Радзівіл збудаваў замак і асеў без кровапраліцця (бо не было каму бараніць), апанаваў вялікую частку Рускай зямлі і пачаў пісацца вялікім князем ноўгарадскім».

Летапіс Красінскага: «А ў той час даведаўся князь вялікі Монтвіл жамойцкі, што руская зямля спусцела і князі рускія разагнаныя, і ён, даўшы войска сыну свайму Скірмонту, і паслаў з ім паноў сваіх радных, найперш па імені Кгрумпа з герба Калоны, а другога па імені Екшыс з герба Мядзведзя, а трэцяга па імені Кгроўжыс з герба Руж. І зайшлі за раку Велю (Вілію), і потым перайшлі Нёман і знайшлі ў чатырох мілях ад ракі Нёмана гару красную, і спадабалася ім, і ўчынілі на ёй горад і назвалі яго Ноўгарадок. І ўчыніў сабе князь вялікі ў ім сталец, і назваўся князем вялікім ноўгарадскім».

Летапіс Рачынскага: «І ў час панавання Монтвіла паўстаў цар Батый і пайшоў на Рускую зямлю, і ўсю Рускую зямлю зваяваў, і князёў рускіх пазабіваў, а іншых у палон павёў, і сталец усяе Рускае зямлі горад Кіеў спаліў і пуст учыніў (спустошыў). А князь вялікі кіеўскі Дзмітр, баючыся вялікае сілы і моцы яго, збег з Кіева да горада Чарнігава і потым даведаўся, што горад Кіеў спалены і ўся зямля Руская спустошаная. І чуў, што мужыкі жывуць без гаспадара і завуцца дручане. І ён, сабраўшыся з людзьмі сваімі, і пайшоў да Друцка, і ў зямлі Друцкай сеў, і горад Дручаск зарубіў, і назваўся вялікім князем друцкім. І ў той час даведаўся вялікі князь Монтвіл жамойцкі, што Руская зямля спустошаная і князі рускія разагнаныя, і ён, даўшы войска сыну свайму Ердзівілу, і паслаў з ім паноў сваіх радных, найперш з герба Калоны Трумпя, а другога з герба Мядзведзя па імені Эікшыс, а трэцяга з герба Руж па імені Кгроўжыс. І зайшлі за раку Вілію, і потым перайшлі раку Нёман і знайшлі ў чатырох мілях ад ракі Нёман гару красную, і спадабалася ім, і ўчынілі на ёй горад і назвалі яго Ноўгарадок. І ўчыніў сабе князь вялікі ў ім сталец, і назваўся вялікім князем ноўгарадскім. І пайшоў з Новагарадка і зарубіў горад Гародню, і потым пайшоў да Бярэсця і знайшоў Бярэсце і Дарагічын, і Мельнік ад Батыя спустошаныя і знішчаныя, і ён тыя гарады зарубіў і пачаў на іх княжыць. А потым памёр князь вялікі Монтвіл жамойцкі».

Нягледзячы на некаторую блытаніну ў імёнах, з гэтых запісаў відаць, што гістарычная крыніца ў іх адна—Ердзівіл, ці Радзівіл, зайшоў за Нёман, знайшоў там «гару красну» і зарубіў на ёй Ноўгарадок, ці Новагарадак. Але не трэба забывацца, што гэта толькі так званая «легендарная» частка летапісаў, якая, як мяркуе М. Улашчык, аформілася ў шаснаццатым стагоддзі дынастыяй Гаштальдаў. Тагачасныя намеснікі і ваяводы Новагарадка былі зацікаўлены якраз у такой легендзе. Мы не ведаем тых летапісаў, з якіх перапісвалася легенда аб перасяленні пяцісот сямействаў рымскай шляхты на чале з Палямонам у Літву. Відаць, гэта цалкам прыдуманая легенда, як і тое, што Скірмонт ці Ердзівіл-Радзівіл знаходзілі за Нёманам спалены ад Батыя Новагарадак. Больш-менш дакладным з'яўляецца толькі тое, што правяраецца іншымі пісьмовымі крыніцамі: Іпацьеўскім летапісам, тагачаснымі творамі прыгожага пісьменства.

Археалагічныя ж крыніцы сведчаць, што Новагародская зямля была густа заселена яшчэ ў дзесятым стагоддзі, сам горад узнік у канцы дзесятага стагоддзя, і ўжо тады ён быў абнесены валам. У другой палове адзінаццатага стагоддзя гэта ўжо буйны рамесніцкі горад з моцнымі абарончымі збудаваннямі, у другой жа палове трынаццатага стагоддзя ў замку паўстала першая вежа-камяніца (М. Ткачоў).







Супастаўляючы «сема і авама», мы можам згадзіцца з вывадамі М. Ермаловіча: Новагародак набыў эканамічную і палітычную моц перш за ўсё дзякуючы выгоднаму на той час геаграфічнаму становішчу, а па-другое—з-за прыходу на ягоны стол ваяўнічых літоўскіх князёў.

І ўсё ж нешта ў гэтых развaжаннях спыняе, нешта прымушае яшчэ і яшчэ раз вяртацца да летапісаў, нешта выклікае нязгоду. Вядома, чалавеку хочацца поўнай веды, а ці прыйдзе яна, калі зазіраеш у часы легендарныя? Сапраўды, чаму менавіта Чорная Русь узяла на сябе місію па аб'яднанню заходнерускіх земляў разам з літоўскімі і жамойцкімі ў адзіную дзяржаву? Чаму не Чырвоная Русь? Не ўласна Літва? Не той жа Полацк, у рэшце рэшт? Так, Полацк страціў сваё эканамічнае і палітычнае значэнне, страціў уласную княскую дынастыю, запрасіў на стол літоўскіх князёў. Але ж ён усё роўна заставаўся Полацкам, горадам, праз які цягнулі гандлёвыя шляхі з варагаў у грэкі, і звон з ягонай Сафіі быў чутны ў Кіеве і ў Ноўгарадзе. Дык чаму ж Полацк сышоў, а Новагародак узнёсся?

Дарэчы, я не аднойчы ўпамінаў пра выключнае геаграфічнае становішча Новагародка, а гэтае пытанне патрабуе ўдакладненняў. Сапраўды, геаграфічнае становішча Новагародка хутчэй можна назваць спецыфічным. Той жа Полацк ляжыць куды больш выгодна, чым Новагародак. Усе буйныя сярэднявечныя гарады так ці інакш звязаны з буйнымі рэкамі, гэта і самыя лепшыя гандлёвыя пуцявіны, і дыпламатычныя зносіны са светам. Рака цячэ ў паўднёвае ці ў паўночнае мора, а там адкрываюцца куды большыя абсягі, чым у палях і лясах. Дык вось, Новагародак стаяў не на рацэ, а на гары. Да Нёмана ад яго каля дваццаці кіламетраў, чатыры сярэднявечныя мілі. Добра гэта ці блага? Відаць, менавіта ў сярэдзіне трынаццатага стагоддзя гэта аказалася дужа прыдатна. Горад разам з моцным замкам узвышаўся настолькі непадступна, што ворагі да яго і падыходзілі зрэдку. А падышоўшы—адступалі. Замкавая гара палохала. Дзесьці высока маляваліся зубчастыя вежы, за сценамі не было відаць шырокага дзяцінца. Глыбокі роў з вадой. Бразгаценне ланцугоў пад'ёмнага моста. Гарачае дыханне кузняў і ганчарняў рамесніцкіх кварталаў. Новагародская шляхта здолела сабраць вялікія багацці, археолагі і гісторыкі дасюль не перастаюць здзіўляцца раскошы раскапаных дамоў. Багацце ж вылучаецца той асаблівасцю, што нязменна трансфармуецца ва ўладу. Дзе золата, там і ўлада, гэта нават цяпер актуальна.

Горад-замак, склепы якога былі запоўнены заморскімі кубкамі, золатам, футрам і каштоўнымі каменнямі, вабіў да сябе, як пекная прыгажуня рыцараў. І яны прыйшлі, не маглі не прыйсці. З 1240 па 1270 гады, як зазначае М. Улашчык, Новагародскае княства вельмі пашырылася і займала тэрыторыю ад Віліі да Магільна, адтуль да Чарнігава, Старадуба і Карачава, там жа Мазыр, Тураў, Пінск, усё Падляшша з гарадамі Бярэсце, Дарагічын, Бельск, Мельнік, Бранск, Сураж, на захадзе Гародня. Рынгольт быў апошнім князем незалежнай Новагародскай дзяржавы. Далей жа ў часы Міндоўга пачалося заснаванне Вялікага княства Літоўскага, пры князю Войшалку яно завяршылася.

Як гаворыць паданне, толькі князь Нарымонт, старэйшы сын Рамунта, перанёс сталіцу з Новагародка ў Кернова. Але гэта будзе пазней.

Чырвоная Русь. Яна таксама магла зрабіцца кансалідуючым цэнтрам, магла сабраць пад сваёй рукой усе суседнія землі. Нават, здаецца, для гэтага ў яе было больш магчымасцяў, як у каго. Глядзіце самі. Даніла Галіцкі быў вялікім князем дастаткова моцнай дзяржавы. Васіль Тацішчаў у сваім «Лексіконе Расійскім гістарычным, геаграфічным, палітычным і грамадзянскім» піша: «Великий князь, в России титул государей от Рюрика до царя Иоанна I, которой во всей России до отделения Белой Руссии был единственно киевскому даван, а тогда стало быть два великия князи, протчие же все были местные и удельные князи, и сей титул так высоко содержали, хотя греческие императоры в грамотах титул

базилеус писали, однако сами, предпочитая древней, онаго королевского принять никогда не хотели, токмо един галицкий князь Роман, по нем Мстислав тот королевский титул приняли. И сему многие иностранные последуя, титул великих князей приняли, первое литовской в 13 ст. по нем финляндской, австрийский и напоследок тосканский. Однако ж все сии были или суть подвластные другим государем. У нас же от великого князя Иоанна III, которой начался писаться император или повелитель всея Руссии, сей титул дается наследником, как оный Иоанн Великий перво большаго сына, а потом внука нарекши великим князем, при себе точно по чину греческих императоров короновал, которое в его гистории обстоятельно описано».

Значыць, князь Даніла Раманавіч, які, дарэчы, атрымаў яшчэ і карону ад папы рымскага, быў адным з магутнейшых рускіх князёў. Галіцка-валынская Русь мела дыпламатычныя зносіны з многімі заходнееўрапейскімі краінамі. І не толькі зносіны—яна ўплывала на агульную палітычную сітуацыю ў цэнтральнай Еўропе. «Кароль угорскі пачаў шукаць дапамогі, жадаючы захапіць нямецкую зямлю. Ён паслаў сказаць Данілу: «Пашлі мне сына свайго Рамана, і я аддам за яго сястру герцага, і перадам яму Нямецкую зямлю». І паехаў да немцаў з Раманам, і выдаў за Рамана герцагаву сястру, і выканаў абяцанне...

Потым паслаў ён да Данілы сказаць: «Ты мне сваяк і сват, дапамажы мне супраць чэхаў». І пераканаў яго пайсці. І пайшоў у Акаву сваім шляхам, і сам спустошыў Мараўскую зямлю, разбурыў многія гарады, усё спаліў і страшную разню зрабіў у той зямлі».

Вельмі цесныя сувязі былі ў валынян з ляхамі: «У год 6759 (1251). Памёр вялікі князь ляшскі Кандрат, які быў слаўны і вельмі добры. Гаравалі аб ім Даніла і Васілька...

У той жа год Самавіт сеў у Мазовіі. Паслалі да яго Даніла і Васілька, кажучы яму: «Ты бачыў ад нас дабро, дык пойдзем з намі на ятвягаў». І ў Баляслава яны атрымалі дапамогу—ваяводаў Суда і Сігнева, і сабраліся яны ў Дарагічыне, і пайшлі, і перайшлі балоты, і прыйшлі ў краіну іхнюю».

Як і любыя суседзі, яны шмат ваявалі, мірыліся, дапамагалі адзін аднаму ў войнах з тымі ж ятвягамі, літвой, вуграмі, чэхамі. А вось з немцамі ў Данілы Галіцкага былі добрыя і прыязныя адносіны, ці не лепшыя з усіх рускіх князёў. Я прыводзіў ужо цытату з галіцка-валынскага летапісу аб тым, як Міндоўг выгнаў сваіх пляменнікаў Таўцівіла і Едзівіда, а тыя ўцяклі да Данілы і Васількі. Даніла вырашыў скарыстаць момант і пачаў збіраць кааліцыю з намерам напасці на паганцаў. Ляхі паабяцалі дапамогу, аднак не стрымалі слова. Тады Даніла паслаў Выкінта да немцаў у Рыгу: «Время есть христьяномь на поганее, яко сами имеють рать межи собою». І хоць многіх немцаў «погуби» Выкінт, яны далі яму войска—«тебе деля миръ створимъ с Выкинтомь».

Такім чынам, Данілу Галіцкага і яго брата Васільку ведалі і паважалі ва ўсіх землях, папа рымскі прысылаў золата і карону, немцы давалі войска яму і ягоным саюзнікам, угорскія каралі і ляшскія князі былі з ім у сваяцтве, нават сам Батый прыняў яго ў Сараі і напаіў кумысам, аддаўшы яму ў валоданне ягоную ж зямлю,—аднак Галіч, Холм ці Уладзімір так і не зрабіліся сталіцай новай заходнерускай дзяржавы. Магчыма, Даніла Галіцкі не здолеў падняцца на гэта якраз з-за таго, што ездзіў на паклон да Батыя? А перад тым хаваўся ад татараў у вуграў і ляхаў? Зрэшты, не ён адзін скарыўся татарскай сіле, Кіеў быў спалены, і з усёй рускай зямлі ацалела толькі яе паўночна-заходняя частка. І Аляксандр Неўскі быў, ні многа ні мала, прыёмным сынам Батыя...

Але яшчэ раз вернемся да папскай кароны. Вось што паведамляе летапіс: «У год 6763 (1255). Прыслаў папа пачэсных паслоў, што прынеслі вянец, скіпетр і карону, якімі выказваецца каралеўская годнасць, з прамовай: «Сын, прымі ад нас каралеўскі вянец». Ён яшчэ да гэтага прысылаў да яго біскупа бярэньскага і камянецкага, кажучы: «Прымі вянец каралеўскі». Але ў той час Даніла іх не прыняў, сказаўшы: «Татарскае войска не перастае жыць з намі ў варожасці, як жа магу я прыняць ад цябе вянец, не маючы ад цябе дапамогі?» Апіза прыйшоў і прынёс вянец, абяцаючы: «Будзе табе дапамога ад папы». Ён, аднак, не хацеў, і пераканалі яго маці ягоная, Баляслаў, Семавіт, ляшскія баяры, каб ён прыняў вянец, кажучы яму: «А мы будзем табе дапамагаць супраць паганых».



Ён жа вянец ад бога прыняў у царкве святых Апосталаў, ад прастола святога Пятра, ад айца свайго папы Інакенція і ад усіх біскупаў сваіх. Інакенцій праклінаў тых, хто ганіў праваслаўную грэчаскую веру, і хацеў сабраць сабор аб сапраўднай веры, аб уз'яднанні цэркваў. Даніла прыняў вянец ад бога ў горадзе Дарагічыне».

З гэтага запісу вынікае, што папа, дакляраваўшы Данілу дапамогу ў барацьбе з паганцамі татарамі і літвой, схіляе яго, у сваю чаргу, да прыняцця кароны «ад стала святага Пятра». Здавалася б, Данілу трэба толькі радавацца—яго прымаюць у грон еўрапейскіх каралёў, ён цяпер «сын папскі». Але не так усё проста. Ці мяняў Даніла пры гэтым сваё веравызнанне? Адна справа, калі перакідаецца з веры ў веру нядаўні язычнік Міндоўг, зусім іншая—рускі князь Даніла Галіцкі. І хоць праклінаў папа Інакенцій тых, хто «хуліў» праваслаўную грэчаскую веру, хоць заклікаў да сабора аб сапраўднай веры і аб'яднанні цэркваў—аднак пытанне аб веравызнанні Данілы гэта ніяк не праясняе. Папу рымскаму важна было залучыць да сябе наймагутнейшага рускага князя, Данілу Галіцкаму—заручыцца папскай падтрымкай, а ў выніку галіцка-валынскае княства ўсё ж не захавала непадлегласці. Ва ўсякім выпадку, можна сказаць пэўна, што ў 1255 годзе адбылася першая спроба уніі на рускай зямлі.

Сучасная гістарычная навука паказвае нам дынастыю галіцкіх князёў як выдатных воінаў і дыпламатаў, найлепшым з якіх быў Даніла Галіцкі. Аднак жа, калі браць пад увагу факты, той жа Даніла быў цалкам пад татарскай уладаю. Прыходзілі «акаянныя» Бурундай, Цягак ці Нагай да валынян і казалі: «Пайшлі на Навагародак, на Літву, на ляхаў»—і тыя паслухмяна ішлі.

Цяпер мне хочацца пераключыць увагу якраз на татарскія паходы пад Навагародак і на Літоўскія землі. Так, напрамак галоўнага ўдару хана Батыя абмінуў іх, мы пра гэта ўжо гаварылі. Аднак летапісы сведчаць, што і пасля заваёвы рускай зямлі ішлі і ішлі татарскія орды на захад і на поўнач. Даніла Галіцкі з сынамі зрабіўся іхнім саюзнікам, татары, аднойчы спаліўшы валынскія гарады, больш іх не чапалі, а вось Навагародская зямля, узяўшы на стол літоўскіх князёў (пасля Ізяслава, упамянутага ў Іпацьеўскім летапісе пад 1235 годам, беларускіх князёў больш на гэтым стале не было), ваявала з «бязбожнымі маавіцянамі». Няхай беларуска-літоўскія летапісы перабольшваюць кошт перамог Навагародка над татарамі—аднак гэтыя перамогі былі. На працягу вельмі доўгага часу татара-манголы імкнуліся заваяваць Навагародскае, а затым і Вялікае княства Літоўскае, раз і назаўсёды абкласці яго ясаком, пасадзіць у сталіцы і падуладных гарадах баскакаў, каб кантраляваць сітуацыю, і зрабіць гэта ім не ўдалося.

Хроніка Літоўская і Жмойцкая. «Аб першых паслах татарскіх да Літвы. У год 1263. Кадан, цар татараў заволскіх, унук Батыеў, зняволіў князёў рускіх у іхняй нязгодзе і да трыбуту альбо даніны іх прымусіў, і баскакаў, альбо старастаў, і паборцаў сваіх у рускіх княствах хаваў, так і ў той час скора пачуў, што новы князь Радзівіл Жмойцкага панства Ноўгарадскае, Берасцейскае, Падляшскае і іншыя, аж да Мазыра, княствы рускія апанаваў, паслаў да яго баскакаў і паборцаў сваіх, упамінаючыся даніны, даходаў і паслушэнства, каб той усё адразу заплаціў як галдоўнік (даннік). Выслухаўшы такое пасольства, Радзівіл узяў сабе на роздум (пачаў раздумваць), аднак потым боязь спрасную для несмяротнай славы і вольнасці мілай адклаўшы ўбок, паслоў затрымаў у сябе, абяцаючы ім даніну павінную падрыхтаваць і адаслаць цару. А тым часам ціха войскі рускія, абяцаючы ім першую вольнасць супраць татараў, у дапамогу збіраў. Абаслаў таксама князёў брата Выкінта жамойцкага і Жывінбуда літоўскага, просячы аб ратунак братэрскай супольнай і павіннай суседскай міласці. А калі ўжо рускае войска немалое да яго з усіх бакоў сабралася і дапамога з Жамойды і Літвы прыбыла, зараз тым паслам даніну выказаў, Кадану цару пару стрэл заместа залатых кляйнотаў (каштоўнасцей) паслаў, а адправіўшы іх, сам за імі да Мазыра над Прыпяццю пацягнуў з войскам, дзе меў вестку пра цара Кадана, што ў той старане праз Дняпро меў з ардою перапраўляцца на заваяванне і плюнд-

раванне рускіх краёў. А калі паслы цара Кадану тую зухвалую (дзёрзкую) водпаведзь Радзівілаву і ўпамінак—пару стрэл—аддалі, адразу з лёгкасцю разгневаўшыся, войска арды Заволскай праз Дняпро пераправіў і, прыцягнуўшы пад Мазыр, загоны на разбурэнне Рускай зямлі распусціўшы, сам кошам (станам) размясціўся над Дняпром на вусці Прыпяці. А ў тым часе Радзівіл з руссю, ноўгараджанамі, сланімчанамі, пінчанамі, жмондамі і літвою, пушчаю незнаёмаю прыцягнуўшы, ударыў на світанку з вялікім крыкам на кош, дзе сам Кадан ляжаў. А татары, якія мужна бараніліся і ўставалі мужна за царскае здароўе, аднак жа не гатовыя і бесклапотныя будучы, ад рукі Радзівіла і войска ягонага пераможаныя былі так, што ў розныя бакі па лясах, і балотах, і палях разбегліся, і на пляцы таксама іё вельмі многа палегла, і сам цар заледве (ледзь) уцёк, і то ў малой вельмі дружыне, а іншыя ў Дняпры і Прыпяці патанулі; другіх па розных загонах лавілі, і абозы ўсе адграміўшы і вязняў вызваліўшы, з вялікаю здабычаю да Ноўгарадка Радзівіл са сваімі вярнуўся».

Гэта быў першы разгром «татараў заволскіх» на чале з царом Каданам у бітве з беларускімі і літоўскімі войскамі, адбыўся ён, як паведаміў летапісец, «над Днепром на устю Припети». Тут мы сутыкаемся прынамсі з дзвюма неадпаведнасцямі. Першая—дата бітвы. Ноўгарадскія I і IV летапісы гавораць, што татары нападалі на заходнерускія і літоўскія землі ў 1258 годзе. Іпацьеўскі ж летапіс адносіць першы ўдар татараў да 1260 года. Гісторык Р. Батура лічыць, што гэты першы напад мог адбыцца ўжо ў 1238—1242 гадах, калі Батый вяртаўся з цэнтральнай Еўропы; якраз тады атрады татараў на чале з Каданам (альбо Кайду), Балам і іншымі палкаводцамі «зпустошылі ўскраіны Літоўскай дзяржавы». Пытанне, як бачым, дастаткова складанае і заблытанае. А другая недарэчнасць—мястэчка Койданава, некалі Крутагор'е, пад якім, па народнаму паданню, было знішчана татарскае войска, якое вёў хан Койдан. Койданава, цяпер Дзяржынск у Мінскай вобласці, і адтуль да вусця Прыпяці вельмі і вельмі далёка.

Яшчэ адзін запіс. «У год 1272. Балаклай, вялікі цар татар заволскіх, якія былі ў той час наймацнейшыя паміж іншымі татарамі, зняволіўшы за нязгодаю ўнутранаю рускіх князёў, а панства гэтых татар было ад мора Каспійскага, або Перскага, якое яшчэ завуць Фалімскім, аж да мора Чорнага, Турэцкага, там сваю расцягнуўшы паганую ўладу, дзе і замак залажыў ад свайго імя, Балаклій, Чапчакла, Аслам гарадок. А калі князі літоўскія, Радзівіл наперад, а па ім Мікгайла, Скірмонт і Гінвіл, паселі на многіх княствах рускіх і на іх панавалі, а даніны ардзе Заволскай, як іншыя князі рускія, не давалі, выправіў паслоў сваіх да Скірмонта Мікгайлавіча ноўгарадскага, тураўскага, пінскага, мазырскага князя, Літвы Павілскай дзедзіча, упамінаючыся ў яго паслушэнства, даніны і грошай... Скірмонт, уважыўшы сваю вольнасць, не хацеў паддацца яму ў тое іга, але ваяваць за вольнасць умысліў (задумаў) і зараз разаслаў лісты па панствах сваіх рускіх і літоўскіх, абы (каб) гатовыя былі супраць татараў... Потым паслоў татарскіх прасіў на гонар, а калі прыйшлі так самі паслы, як і слугі іхнія, казаў ім самім і слугам іхнім губы, насы, вухі паадрэзваць і адаслаў іх да Балаклая з водпаведдзю, мовячы: «Такая даніна і цябе ад мяне самога напаткае». Потым Балаклай салтан... з вялікаю сілаю татараў ішоў у зямлю Рускую, а зайшоўшы, вялікія шкоды шабляю і агнём нарабіў. Скірмонт таксама, князь ноўгарадскі і літоўскі, войскі рускія, якія меў гатовыя, падрыхтаваўшы, сустрэў Балаклая на граніцы сваёй у Койданаве, а калі абодва войскі мужна і рыцарскі сутыкнуліся, зараз пачалі шванкаваці (нішчыць) татараў, і, змяшаўшыся, тыя пачалі ўцякаць. Сам потым цар Балаклай з вялікаю мурз і ўланаў, хочучы затрымаць ад уцечкі татараў сваіх, скочыў і застаўся на пляцы забіты, пасля чаго рэшткі арды русь і літва ўшчэнт паразілі, вязняў, здабычу з вялікаю карысцю адабралі».

Акрамя Хронікі Літоўскай і Жмойцкай пра бітву з ханам Балаклаем паведамляюць летапіс Археалагічнага таварыства, летапіс Красінскага, летапіс Рачынскага, Альшэўскі, Румянцаўскі і Яўрэінаўскі летапісы.

Цытуем Хроніку Літоўскую і Жмойцкую: «У год 1276. Курдан салтан, цар заволскі, помсцячы за смерць бацькі свайго цара Балаклая, ад літоўскіх і рускіх







князёў (забітага) пад Койданавам, сабраў усе орды свае Заволскія, Нагайскія, Казанскую, Крымскую і цягнуў на рускія княствы, агнём і шабляю плюндруючы. Тое бачачы, Трайнята Скірмонтавіч ноўгарадскі, падляшскі і Літвы Павілскай князь, абаслаў зараз двух братоў сваіх, Любарта карачаўскага і чарнігаўскага, Пісімонта тураўскага і старадубскага, паслаў таксама да Святаслава, вялікага князя Кіеўскага, і да Сімяона Міхайлавіча друцкага і да Давіда Мсціславіча луцкага, просячы іх аб ратунак... Князі з усімі войскамі асобамі сваімі прыбылі ім на дапамогу, паважаючы супольную ад татараў небяспечнасць, злучыўшыся разам, тым ахвотней да абозу цягнулі, дзе сам цар ляжаў за Мазыром над ракою Акунёўкаю. Там жа бітву, сышоўшыся, жорсткую распачалі з абодвух бакоў, якая ад паранку аж да вечара працягвалася; пад канец татары ўцякаць пачалі, а літва і русь тым смялей разагнаных і ўцякаючых татараў білі, грамілі, секлі, калолі, у рэках тапілі, і нашчэнт тыя вялікія войскі нагайскія, крымскія, над ракою Акунёўкаю паразілі. Сам цар Курдан у малой дружыне ледзь уцёк да сваёй зямлі, а літва і русь палоны і здабычу разам усё забралі і з вялікім і слаўным звіцязствам (перамогаю) да сваіх краёў вярнуліся. Аднак жа князёў і баяраў рускіх і літоўскіх многа палегла на пляцы, ад татараў забітых, менавіта: Любарт карачаўскі князь, Пісімонт тураўскі князь, браты Трайняты, Сімяон Міхайлавіч друцкі, Андрэй Давыдавіч, князёў і іншых паноў нямала».

Пра гэтую бітву таксама ўпамінаюць амаль усе беларуска-літоўскія летапісы. Трэба адзначыць, што бітва на рацэ Акунёўцы з'яўляецца адзінай, калі супраць татараў выступаюць войскі новагародскія і літоўскія ў саюзе з князямі валынскімі, чарнігаўскім, друцкім і кіеўскім. На думку такога аўтарытэта, як М. Улашчык, гэта бітва адбылася значна пазней, і «наўрад ці ў ёй удзельнічалі ўсе антытатарскія сілы, якія ўказаны ў нашых крыніцах».

І нарэшце: «У год 1284. Рынголт Алгімунтавіч, унук Траняты, па смерці бацькі свайго Алгімунта, пачаў вялікім князем літоўскім, жмойцкім і рускім пісацца, і пазайздросцілі таму князі рускія, менавіта Святаслаў, кіеўскі манарха... Бачачы, што літоўскія князі, паганцы (язычнікі), моц сваю ў панствах рускіх пашырылі і з голду (даніны), якую здаўна да Кіева плацілі, выбіліся, пачаў радзіцца з другімі князямі, асабліва Львом уладзімірскім, Дзмітрам Друцкім, каб зноў Літву пад ярмо першае маглі прывесці. Змовіліся ўсе тры сумесна і аднолькава сабе памагаць і ваяваць супраць Рынголта Алгімунтавіча, хочучы яго са старадаўняй айчыны сваёй выгнаць, з княстваў рускіх і літоўскіх, якія заўсёды да Кіеўскай манархіі належалі. Зацягнулі таксама на дапамогу некалькі тысяч татараў ад Курдана, цара заволскага, які меў гнеў на Літву за перамогу над ім. А так усе тры князі з татарамі цягнулі з вялікім войскам рускім у Ноўгарадскую дзяржаву, над Нёманам ляжачую, пустошачы і палячы ўсюды. Рынголт таксама, вялікі князь літоўскі, жамойцкі і ноўгарадскі, сабраўшы літву і жамойт, таксама і русь сваю, заступіў тым князям (дарогу) над Нёманам каля Магільна, напомніўшы баярам сваім і панам таксама і войску словамі кароткімі да бітвы, і парадкам іх пастроіў і ўдарыў на рускія і татарскія войскі з вялікім крыкам, а яны таксама смела наперлі, спадзеючыся на сваё вялікае войска. А так жорсткая і вялікая вайна праз дзень цэлы працягвалася, аж пад канец бог памог Рынголту, што тое вялікае войска рускае і татарскае тыл паказала. А так на тым пляцы рускага і татарскага войска згінула 40000, татараў уцекла з дзесяці тысяч пяцьсот, а русі са Святаславам кіеўскім, Дзмітрыем Друцкім, Львом уладзімірскім палтараста жалнераў (салдатаў) рускіх уцекла да Луцка. А з Рынголтава забіта войска 7 соцень, а параненых дзвесце было; і так Рынголт з вялікім трыумфам і здабычаю неацэннаю, маючы пры сабе тысячу татараў, а русі дзвесце нявольнікаў, павярнуў да Ноўгарадка, і быў усім потым Рынголт страшны».

Такімі паўстаюць перад намі бітвы паміж татара-валынскімі і руска-літоўскімі войскамі ў беларуска-літоўскім летапісанні. Мусіць, да многага тут трэба ставіцца крытычна, хоць і адмаўляць гэтыя войны, няхай і не з такімі ашаламляльнымі вынікамі (сорак тысяч забітых толькі пад Магільнам!), няма падстаў. Ды і любога чалавека, які спрабуе асэнсаваць падзеі таго часу, усё ж гняце апакаліпсічная карціна Батыевага смерча, у параўнанні з якім любыя іншыя бітвы мізар-

неюць. А ўсё трынаццатае стагоддзе—гэта суцэльныя бітвы, і не толькі на зямлі рускай...

Але ёсць яшчэ адзін погляд на паходы татараў на Літву і Новагародак (Ноўгарадок), так бы сказаць—процілеглы погляд. Нам вядома, што ў трынаццатым стагоддзі татарскія войскі выступалі толькі ў суполцы з галіцка-валынскімі князямі і Новагародская зямля была для іх адным з самых злых ворагаў.

Галіцка-валынскі летапіс: «У год 6768 (1260). ...Праз нейкі час прыйшоў Бурундай, бязбожны, злы, з мноствам палкоў татарскіх, добра ўзброеных, і спыніўся на тых месцах, дзе стаяў Курэмса. Даніла ваяваў з Курэмсай і ніколі не баяўся Курэмсы, таму што Курэмса ніколі не мог зрабіць яму зла, пакуль не прыйшоў Бурундай з вялікім войскам. Паслаў ён паслоў да Данілы, кажучы: «Я іду супраць літвы. Калі ты мой саюзнік, ідзі са мной».

Даніла з братам і з сынам пачалі думаць у вялікім смутку: ведалі яны, што, калі Даніла пойдзе, не будзе дабра. Параіліся яны, і паехаў Васілька заместа брата...

Калі Васілька ехаў адзін за Бурундаем па Літоўскай зямлі, ён у адным месцы сустрэў літоўцаў, пабіў іх і прывёў саігат (палон) да Бурундая. Пахваліў Бурундай Васілька, «хоць брат твой і не паехаў». Васілька ездзіў і ваяваў разам з Бурундаем. Шукаў ён свайго пляменніка Рамана і пустошыў зямлю Літоўскую і Нальшчанскую».

Далей летапіс падрабязна расказвае пра тое, як па загаду Бурундая Васілька разбураў умацаванні гарадоў Данілаў, Стожак, Львоў, Крамянец і Луцк, спаліў умацаванні Уладзіміра, а на наступны дзень зраўняў з зямлёй гарадскі абарончы вал. Даніла ж спачатку ўцёк у зямлю ляшскую, адтуль да вуграў. Адзін Холм не паддаўся татарам і ўцалеў.

Тут мне хочацца зрабіць невялічкае адступленне аб асобе летапісца. Здаецца, гэта павінен быць чалавек выключна аб'ектыўны, роўны, разважлівы, адным словам—манах, якому не да твару мірскія клопаты і мітусня. Але што мы бачым, напрыклад, у галіцка-валынскім летапісе? Па-першае, летапісец тут мае яўную прыхільнасць да Васількі, брата Данілы. Гэты князь ледзь не галоўная фігура ўсяго летапісу, хоць па сваёй палітычнай вазе ён далёка не «першая скрыпка». А па-другое—адносіны летапісца вось да таго ж Бурундая, татарскага хана. Нянавісць летапісца да заваёўніка настолькі вялікая, настолькі неўтаймаваная, што ён пераносіць яе і на сухія запісы. Нават імя Бурундая летапісец перайначвае, каб не сказаць—скажае, з асаблівай злараднасцю. Толькі на адной-дзвюх старонках мы чытаем: «Буранда безбожный злый», «Буронда идеть ока(я)нный проклятый», «Бурундай», «Бурандай», «Бурондай». Выпадковасць? Мне здаецца—адносіны летапісца да тых, каго ён апісвае. Не магу выйсці супраць цябе з мячом, дык хоць выкажу сваю пагарду ў запісах...

Наступны запіс галіцка-валынскага летапісу: «У год 6782 (1274). ...Затым Трайдэн, забыўшы згоду з Львом, паслаў гараднян, загадаў захапіць Дарагічын. З ім быў Трыд, ён ведаў пра горад, як яго можна ўзяць. Ён выступіў у паход уначы, і так яны захапілі горад у самы Вялікдзень і перабілі ўсіх ад мала да вяліка.

Даведаўшыся пра гэта, Леў вельмі засмуціўся і пачаў рыхтавацца да вайны; паслаў ён да татараў, да вялікага цара Меньгу-Цяміра, просячы сабе дапамогі ў яго супраць літвы. Меньгу-Цямір даў яму войска і з ім ваяводу Ягурчына і даў яму ў дапамогу задняпроўскіх князёў: Рамана Бранскага з сынам Алегам, і Глеба, князя Смаленскага, і іншых князёў многа. Былі тады ўсе князі ў падначаленні ў татараў.

Калі прыйшла зіма, пачалі збірацца рускія князі—Леў, Мсціслаў і Уладзімір. Пайшлі з імі і князі пінскія і тураўскія. Калі яны пайшлі паўз Тураў да Слуцка, то каля Слуцка злучыліся з татарамі. І так усе разам хутка пайшлі да Новагародка...

І так яны прыйшлі да горада і спыніліся каля яго. Мсціслаў не прыйшоў, бо ён пайшоў ад Капыля, ваюючы па Палессі, а таксама не прыйшлі ні Раман, ні Глеб, князі задняпроўскія, адзін толькі Алег, сын Рамана, прыйшоў...



А Леў падмануў сваіх братоў—таемна ад Мсціслава і Уладзіміра ён разам з татарамі ўзяў знешнія ўмацаванні, а дзяцінец (крэпасць) застаўся... Прагневаліся ўсе князі на Льва... што ён не палічыў іх за людзей, роўных сабе, а сам узяў горад з татарамі. Яны задумалі так, каб усім разам узяць Новагародак, а потым ісці ў зямлю Літоўскую. Але, разглаваўшыся на Льва, яны не пайшлі і вярнуліся да сябе».

І яшчэ адно сведчанне: «У год 6785 (1277). Прыслаў акаянны і беззаконны Нагай паслоў сваіх Цегічага, Кутлубугу і Ешымута з граматамі да Льва, Мсціслава і Уладзіміра, так кажучы: «Вы заўсёды мне скардзіцеся на літву. Дык вось, я даў вам войска і ваяводу з ім Мамшэя, ідзіце з ім на сваіх ворагаў».

Калі наступіла зіма, пайшлі рускія князі на літву: Мсціслаў і Уладзімір, а Леў не пайшоў, а паслаў сына свайго Юрыя. І так пайшлі яны да Новагародка».

Такім чынам, валынскія і татарскія войскі тройчы (гэта самае малое) хадзілі на Новагародак, але ўзяць яго не здолелі. Ноўгарадскі І летапіс, праўда, гаворыць, што ў 1258 годзе «взяша татарове всю землю Литовьскую, а самих избиша». У Ніканаўскім летапісе гаворыцца, што татары прайшлі па ўсёй Літоўскай зямлі, «со многим полоном и богатством идоша во свояси».

Зрэшты, каб гэтыя татарскія наезды на самой справе былі такія пераможныя і страшныя, Новагародская зямля наўрад ці здолела гэтак узвысіцца за нейкія трыццаць гадоў. М. Улашчык зусім не беспадстаўна лічыць, што паходы на Новагародак і Літву ніколі не заканчваліся буйнымі вайсковымі поспехамі атрадаў валынцаў і татараў, наадварот, саюзнікі неаднойчы былі бітыя, што і знайшло адлюстраванне ў летапісах.

Вывучаючы феномен узнікнення Вялікага княства Літоўскага, угледаючыся ў гэтую беспрэцэдэнтную «заваёву» вялізных тэрыторый за адносна кароткі перыяд—вайсковая акупацыя наўрад ці дала б такі прыбытак, ды і яе заўсёды суправаджае вызваленчая барацьба, замоўчаць якую дужа цяжка нават у летапісах,—нельга не засяродзіцца на ролі асобы ў дадзенай гістарычнай сітуацыі. Можа, сапраўды трэба пагадзіцца з тым, што Рынгольт, Міндоўг ці Войшалк здолелі зрабіць тое, на што не падняліся Раман, Даніла ці Мсціслаў? Аднак жа мы ведаем выказванне Ф. Энгельса: «...Гісторыя робіцца такім чынам, што канчатковы вынік заўсёды атрымліваецца ад сутыкнення мноства асобных воляў... Маецца бясконцая колькасць сіл, якія перакрыжоўваюцца... і з гэтага перакрыжавання атрымліваецца адзін агульны вынік... Гэты гістарычны вынік можна зноў-такі разглядаць як прадукт адной сілы, якая дзейнічае як цэлае». Тая ці іншая гістарычная асоба з'яўляецца тады, калі гэтага патрабуе гістарычная сітуацыя. Не было б Войшалка—з'явіўся б нехта іншы. Вялікае княства Літоўскае павінна было з'явіцца на гістарычнай карце Еўропы—і яно ўзнікла. Гэтая дзяржава аб'яднала ўласна літоўскія, беларускія, рускія, украінскія землі (у сучасным разуменні), мы больш падрабязна разгледзім пытанне аб яе этнічным складзе і аб суадносінах з другой рускай дзяржавай, Маскоўскай Руссю.

Зараз жа хочацца сказаць колькі слоў пра ўласна Літву. Складанасць выклікае ўжо пытанне аб тым, дзе знаходзілася летапісная Літва. М. Улашчык адзначае, што летапісы вельмі дакладна паказваюць мяжу паміж Літвой і Руссю—гэта рака Вілія. А галоўнае адрозненне паміж літоўцамі і рускімі, як ні дзіўна, на той час было не ў мове, а ў веравызнанні. Русь была хрысціянская, а літва і жамойць—язычніцкія.

М. Ермаловіч лічыць, што летапісная Літва ўрэзвалася клінам паміж Полацка-Менскай, Турава-Пінскай і Новагародскай землямі. Сапраўды, калі чытаеш у летапісах пра паходы галіцка-валынскіх князёў на Літву і Новагародак, дык заўважаеш, што перш тыя войскі «плюндравалі» Літву—і толькі потым падыходзілі да Новагародка.

Асноўная ж частка даследчыкаў шукае летапісную Літву ў Літве цяперашняй—дзе Літве быць, як не ў Літве? І нічога дзіўнага ва ўсіх гэтых супярэчнасцях няма, падставы для такой блытаніны даюць самі ж беларуска-літоўскія летапісы. Так, пачынальнікам новагародскай княскай дынастыі па летапісах Яўрэінаўскім і Красінскага быў Скірмонт, па ўсіх астатніх—Ердзівіл-Радзівіл. Горад Каў-

нас (Кунас) летапісы змяшчаюць пры вусці Нявяжы, хоць на самой справе ён знаходзіцца ў вусці Віліі. Пераблытаны многія даты. Самі ж Літва і суседняя Русь падаюцца ў самым агульным выглядзе як па геаграфічным становішчы, так і па этнічным складзе. Адным словам, шырокае поле дзейнасці для даследчыкаў, мы ж толькі канстатуем, што Літва і Русь спачатку суседзілі—а потым аб'ядналіся ў адну дзяржаву.

Чаму ўсё-такі цэнтрам дзяржавы зрабіўся Новагародак, а не які-небудзь літоўскі горад? Вышэй я ўжо гаварыў пра гэта, зараз жа толькі адзначу, што хоць і былі ў літоўскай зямлі гарады Юрбарк, Кунас і Спера, але вялікага значэння яны не мелі. «Аднак жа той народ літоўскі праз час доўгі ад пачатку свайго панавання нязначны быў. Русь мела над ім зверхнасць і даніну ад іх адбірала, а менавіта: усе пануючыя князі кіеўскія зямлі Рускай манархіі адбіралі ад іх у даніну венікі і лыкі на вяроўкі, а тое з-за нястачы і няплоднасці зямлі, якая яшчэ не была ўраблена...»

Трэба сказаць, што Хроніка Літоўская і Жмойцкая ў многім пераказвае «Кроніку» Мацея Стрыйкоўскага, адсюль, відаць, і пачуццё некаторай перавагі ў абмалёўцы «паганцаў». Вось як хроніка падае літоўцаў у часы панавання Жывінбуда: «Кернас, калі памёр, цела яго спалілі паводле звычаю паганскага, а порах (прах), сабраўшы, схавалі ў труне, пад лесам, а па смерці яго Жывінбуд у Дзявялтаве, Вылкаміры і Кернаве асеў, па смерці цесця свайго, а з Монтвілам, князем жмойцкім, у прыязні вялікай жылі на сваіх панствах, рускім князям на непрыяцеля памагалі, на воласці мазавецкія наязджалі, здабычу і палон выводзілі і з таго жывіліся. А калі ў Русі бачылі нязгоду і для выбіцця з іх моцы мелі ахвоту, часта наязджалі на іхнія панствы і лупы (здабычу) бралі, і да лясоў густых, як да замку, уцякалі, і калі іх русь, гонячы, у полі не даганяла, то ўжо ў лясах і балотах гнацца за імі надарэмна, бо яны на астравах і азёрах і ў лясных нетрах хаваліся, як у найлепшых схованках. А строі іхнія—усе звярыныя шкуры, і маёмасць—на сабе што маглі насіць; дамы іхнія былі—кучка плеценая, дзёрнам (?) простым накрытая, боты іхнія з лыкаў, а звярыны лоб аблуплены—заместа шапкі на галаву клалі, а калі ў Рускіх землях даставалі лемяшы з плугоў, то на доўгія кіі, валочні (наканечнікі) нарабіўшы, насаджалі і на стрэлы таксама жалеза або шыла набівалі; пра смерць мала дбалі. Перавозы таксама фарсіфікацыйныя мелі: лодзіі і чаўны са скураў зубровых дзіўна зшытыя, а швы тыя для вады, каб не працякала ў чаўны, націралі лоем, а калі трэба было з войскам цягнуць, дык і лодзіі тыя з сабою везлі і цягнулі, і калі на воды глыбокія прыходзілі, у тых лодзіях перавозіліся, а коней уплаў вялі. Так Жывінбуд, пануючы ў Літве на Кернаве, стараўся, каб унукі ягоныя маглі жыць у айчыне літоўскай спакойна, і для таго ўсе іхнія справы рыхтаваў да вайны, бо праз добрую вайну пакой (мір) бывае».

Аднак нездарма гавораць, што гісторыя не ведае ўмоўнага ладу. Маўляў, што было б, каб не было таго, што было... Далей нібыта адбылася «заваёва» суседніх беларускіх земляў, і легенда гэтая, на жаль, пасяхова жыве і дасюль.

«Аж потым Міндоўг і Віцен з Гедымінам, найслаўнейшыя і найважнейшыя тых панстваў князі, паказалі прыроджаную сваю рашучасць і тое рамясло рыцарскае, порахам прапахлае, з зямлі паднялі, пачалі з ярма рускага, якое было з антыцэсараў іх, выбівацца. І такія моцныя былі, што не толькі ярмо іхняе з сябе скінула Літва, але і тых самых князёў рускіх да таго ж прывялі, што ім мусілі трыбут, або даніну, праз час доўгі даваць, і асабліва ў тыя часы, калі, самі паміж сабою ваюючы, князі рускія гінулі, і да таго дайшлі, што ад татараў аж дашчэнту былі знішчаныя і вытрачаныя».

Спіскі Хронікі Літоўскай і Жмойцкай, якія мы зараз чытаем, па часе знаходзяцца вельмі далёка ад падзей трынаццатага стагоддзя, гэта неабходна ўлічваць. У іх ужо выразна адчуваюцца тэндэнцыі гістарыязнаўчай навукі першай паловы васемнаццатага стагоддзя. Аднак і ў самых тэндэнцыйных тэкстах можна знайсці зерне ісціны, не заглушыць яго ніякае пустазелле.

Даволі цяжка пісаць пра часы мінулыя, не звязваючы іх з часамі цяперашнімі. Як бы ні ўнікаў гэтага, але Новагародак, сучасны Навагрудак, беларускі горад, у якім я жыў некалькі гадоў, стаіць перад маімі вачыма, не засціць старажытнага Новагародка, але стаіць побач з ім. Няшмат засталося Новагародка ў Навагрудку—рэшткі замкавых муроў на гары Замкавай, гара Міндоўга, удзірванелы роў вакол замчышча. Усё, здаецца? Ды не, не ўсё. Яшчэ высокае неба над «гарой краснай», моцны вецер, што ўстойліва цягне над узвышшам, дубнякі ў палях, іх там-сям відаць з замчышча, камяні-валуны пры дарогах, іхнія браты ляжаць у замкавым падмурку, курганы, маўклівыя курганы, магілы нашых продкаў. Ці памятае Навагрудак сябе маладога, моцнага, слаўнага, асененага штандарамі велікакняскіх войскаў? Цяжка пра гэта сказаць, ужо і тутэйшую мову толькі зрэдку пачуеш на яго брукаваных вуліцах.

Але ж сам горад пакуль што стаіць. Як помнік? Ці ўсё ж як жывы горад жывых людзей, нашчадкаў тых, што стваралі беларуска-літоўскую дзяржаву? Нявызнаныя шляхі чалавечыя, адны толькі-толькі прабіваюцца па цаліку, другія ж зарастаюць быллём, глухнуць у траве. Можа, сапраўды трэба забыцца на іх, каб пасля на гэтым новаўтвораным цаліку нехта змог прабіць сваю дарогу? Так, усё, зрэшты, упіраецца толькі ў гэтае пытанне—ці хочам мы ведаць і помніць пра былыя нашыя гарады, пра сябе колішняга, пра сваю мову, «радзіму і ёмістасць прыгажосці і сэнсу».

Цякуць рэкі вады жывой, пакуль што цякуць, струменяць, бруяцца, звіняць, і толькі іхняя музыка аднолькава зразумелая зямлі і чалавеку.

Фота **В. Ждановіча.**

# ПАСЛЯ СУСТРЭЧ

**Сёлета ў Маскве адбылася чарговая, IX нарада маладых пісьменнікаў Савецкага Саюза. На яе з'ехаліся маладыя літаратары з розных рэспублік, з розных краёў і абласцей нашай краіны.**

**Прадстаўнічай была і беларуская дэлегацыя — Алесь Наварыч, Анатоль Сыс, Галіна Тычка, Андрэй Федарэнка, Аляксандр Лукашук і іншыя.**

**Некаторыя ўдзельнікі гэтай нарады дзеляцца ніжэй сваімі ўражаннямі.**

## Аляксандр Лукашук:

У цягніку № 1 «Масква — Мінск» аб'явы па радыё робяцца толькі па-руску. Калі крануліся, Толя Сыс адразу папрасіў кнігу скаргаў, і ўсё наша купэ (А. Наварыч, А. Федарэнка і я) пакінула там свае меркаванні наконт двухмоўя дэ-факта. Эфект нагадаў залп счацвёранай гарматы: Сысу сталі падаваць чай з лімонам, да нас завітала начальніца поезда, а раніцай дынамік абвясціў прыбыццё ў сталіцу Савецкай Беларусі па-беларуску. Потым мы стаялі на прывакзальнай плошчы і нехта сказаў: вось галоўны вынік нашай паездкі. Што ж, можа, і так. Хаця ў кожнага, вядома, засталіся і асабістыя ўражанні.

Мяне на нараду пасылалі як публіцыста, у графе «пасада» камандзіровачнага пасведчання значылася «паэт», а ў Маскве сваё прозвішча я адшукаў у спісе драматургаў. Натуральна, нічога не заставалася, як пайсці на семінар празаікаў (тым больш, што ў гэтым жанры я паперу яшчэ не пераводзіў). Пайшоў — і трапіў на публіцыстычную інсцэніроўку пушкінскага радка «Лета к суровой прозе клонят...». Маю на ўвазе не ўзрост удзельнікаў (хаця некаторыя маладыя пераступілі ўжо рубеж Пушкіна), а драматургію і рэжысуру.

Лепш за ўсё, на маю думку, вядучым семінара ўдалася менавіта суровасць. За якія пару гадзін я даведаўся, што: а) кнігі — зло, народу не патрэбны і добра, калі вашы творы не чытаюць; б) Васіль Быкаў — харошы рускі пісьменнік, але збіўся з правільнага шляху; в) нарыхтоўка грамадзянамі солі і запалак аж да 2000-га года — народнае прадчуванне катастрофы, у якую нас цягне перабудова... І так — да канца алфавіта, уключаючы, здаецца, не толькі мяккі і цвёрды знакі, але і скасаваныя іжыцу з яцем.

Пасля знаёмства з некаторымі (не ўсімі) творамі, ухваленымі за «правільнасць шляху», я змог па вартасці ацаніць дзеяслоў, якім Пушкін ахарактарызаваў стварэнне прозы. Здавалася, што аўтары пісалі ў адной позе: моцна нахіліўшыся назад і ўправа (замест нудных тлумачэнняў, што такое «назад» і «ўправа», прывяду ўпадабаныя радкі з папулярнай на нарадзе паэмы «Письмо генсеку» казанскага паэта Рамана Цягунова: «Товарищ, тебя объегорили! Ты понял мою аллегорию?»). Няправільная пасадка, як вядома, пагражае скрыўленнем пазваночніка. Вынікам аднабаковай арыентацыі маладых на тэматыку, захаванне свяшчэнных асноў і запаветаў, нават без двукосся, можа стаць у лепшым выпадку творчы сколіёз. У горшым — трагедыя скалечанага графаманіяй чалавечага лёсу.





На жаль, майстроў, у якіх можна было б павучыцца алхіміі слова, на нарадзе амаль не было. Іх месцы запоўнілі, сярод іншых, і кіраўнікі, супрацоўнікі, аўтары «другога раду» «Нашего современника», «Молодой гвардии», «Москвы». Агульнай дыскусіі з імі не праводзілася, дый, баюся, яна б не прынесла плёну (адзіным вынікам нашай спрэчкі з загадчыкам аддзела паэзіі «Нашего современника» стаў разбіты графін у пакоі Уладзіміра Някляева. Выдаткі, вядома, панёс нічым не вінаваты гаспадар).

Але аб адной дыскусіі, якая не адбылася,— шкадую. Як ні дзіўна, фактычна не абмяркоўвалася такая пякучая праблема, як малады пісьменнік і палітыка. Канечне, на нефармальных семінарах за чаем не толькі вершы чыталіся, там расказвалася, хто што робіць у народных франтах, грамадскіх аб'яднаннях сваіх рэспублік, як ваюецца. Але спрэчкі не было. Аднак ці ўсё тут ясна? Я, безумоўна, выношу за дужкі пытанні страху і кан'юнктуры — дыягностыка амёбаў і іншых беспазваночных не патрабуе рэнтгенаграфіі. Таксама недыскусійным уяўляецца месца публіцыстыкі — гэта дзеўка вулічная (маю на ўвазе прапіску, а не манеры, прадавацца, як сведчыць практыка, можна і гекзаметрам) і з нумарных духоў аддае перавагу «Черёмухе-10».

Я хацеў бы пачуць думкі прадстаўнікоў «высакародных» жанраў: ці існуе грань паміж творчасцю і палітыкай, пераходзіць якую згубна для Слова? Як і чым яна вызначаецца? Максім Багдановіч не аб'яўляў галадовак, не ўваходзіў у рэвалюцыйныя арганізацыі («І дзякуй богу»,— сказаў мой таварыш, калі гаварылі пра гэта),— але хто адважыцца заявіць, што ён «недастаткова» любіў Беларусь? Тады як быць: менш здольныя на мітынг, таленты — за пісьмовы стол? Паэт і народ, улады, свабода — у таго ж Пушкіна ёсць выказванні наконт гэтага прама супрацьлеглыя. Каму і што сёння бліжэй, чаму? Пытанні, пытанні...

Я прывяду адказ добраахвотніка трох войнаў, чалавека, які не пазбягаў, здаецца, ніводнага выкліку свайго часу і, калі траплялў у бойку, лічыў дастойным толькі адзін зыход — перамогу.

«Калі ты зусім маладым адбыў павіннасць грамадству, дэмакратыі і іншаму, не даючы больш сябе вербаваць, прызнаеш адказнасць толькі перад самім сабой, на змену прыемнаму паху сяброўства, які б'е ў нос, прыходзіць нешта іншае, адчувальнае, толькі калі чалавек бывае адзін. Я яшчэ не магу даць гэтаму дакладнае вызначэн-

не, але такое адчуванне ўзнікае тады, калі ты сумленна і хораша напісаў пра што-небудзь і непрадузята ацэньваеш напісанае, а тым, каму плоцяць за рэцэнзіі, не падабаецца твая тэма, і яны гавораць, што ўсё гэта высмактана з пальца, і тым не менш ты непахісна ўпэўнены ў сапраўднай каштоўнасці сваёй работы; або калі ты заняты чым-небудзь, што звычайна лічыцца несур'ёзным, а ты ўсё ж ведаеш, што гэта важна і заўсёды было важна не менш, чым усё агульнапрынятае; і калі ты на моры сам-насам з ім...»

Любімы мной Хемінгуэй, праўда, ставіць умову свабоды пісьменніка: «Калі ты зусім маладым адбыў павіннасць дэмакратыі...» Мы, відаць, яшчэ не хутка адбудзем.

Мы ідзём па вузкай мяжы, што раздзяляе дзве свабоды: свабоду далучыцца да дэманстрацыі і далучыцца да дэманстрацыі дзеля свабоды. Крок улева, крок управа... Хто ведае, які хутчэй прывядзе да таго, напрыклад, каб у цягніку № 1 «Масква — Мінск» беларуская мова гучала не толькі з рэпрадуктара. Можа, крок наперад — у кожнага свой?



# Галіна Тычка:

Свае ўражанні ад нарады ў асноўным я выказала ў лімаўскай публікацыі за 9 чэрвеня. Таму зараз запынюся толькі на тым, аб чым гэта падзея прымусіла мяне задумацца.

На ўсесаюзнай нарадзе павінны былі быць прадстаўлены літаратуры больш ста нацый і народнасцей, якія паводле афіцыйных дадзеных насяляюць нашую краіну. А гэта значыць у Маскве сабраліся прадстаўнікі розных рас, розных рэлігій свету і, натуральна, цалкам ад розных культур, адны з якіх маюць тысячагадовыя традыцыі, другія значна маладзей. І таму ў гэтай сітуацыі цяжка было не задумацца пра месца і ролю свайго народа і сваёй нацыянальнай культуры ў свеце.

Усё, што знаходзіцца ў радыусе больш 100 кіламетраў ад Масквы, традыцыйна ў нас лічыцца правінцыяй. І таму мне, як і кожнаму правінцыялу, хацелася зразумець, што хаваецца за гэтым азначэннем. Паколькі зямля па форме круглая, то, не прэтэндуючы на вялікае адкрыццё, можна адназначна сцвердзіць, што геаграфічна ўсе на нашай планеце суседзі. Кожная краіна і кожны народ можа з аднолькавым на тое правам лічыць сябе пупам зямлі. Аднак эканамічная і палітычная цэнтралізацыя, якія існуюць у сучасным свеце, абарочваюцца ўрэшце цэнтралізацыяй духоўнай. Думаецца, што менавіта манаполія на інфармацыю, у дадзеным выпадку духоўную, непазбежна прыводзіць да комплексу правінцыйнай адасобленасці і абмежаванасці.

Паспрабую растлумачыць, што я маю на ўвазе пад манаполіяй на духоўную інфармацыю. Не трэба надта пільна прыглядацца, каб заўважыць, што ўсе культурныя сувязі нашай рэспублікі з іншымі народамі свету, ды нават і з бліжэйшымі суседзямі — народамі СССР, за выключэннем рускага, існуюць у асноўным на паперы. Далучэнне беларусаў да скарбаў сусветнай культуры ажыццяўляецца праз пасрэдніцтва рускай. Безумоўна, за гэта нельга не быць удзячным вялікай рускай культуры, але, з другога боку, гэтае пасрэдніцтва абарочваецца для нас самымі нечаканымі і непрадказальнымі вынікамі, а менавіта дэфармацыяй нацыянальнай самасвядомасці, яе нівеліроўкай і прыстасаванствам пад рускую. Перакладаючы творы нацыянальных літаратур на рускую мову, рускія літаратары дастасоўваюць іх да сваіх культурных нацыянальных традыцый. І гэта цалкам натуральна, так і павінна быць. Але паколькі на Беларусі культурныя традыцыі адны, на Украіне другія, у Расіі трэція, далучаючыся праз рускую культуру да скарбаў іншых культур, мы ўспрымаем іх праз светапогляд рускага чалавека, апасродкавана.

Варта адзначыць, што на сёння мы так прызвычаіліся да гэтага пасрэдніцтва, што не можам абысціся без яго нават там, дзе яно нам зусім не патрэбна. Так, усім добра вядома, што польская культурная традыцыя адыграла ў гісторыі нашай літаратуры не меншую, а, можа, нават і большую ролю, чым руская. Большасць беларусаў, нягледзячы на ўсе хібы сучаснай сістэмы адукацыі, і зараз без цяжкасці могуць чытаць творы польскіх пісьменнікаў у арыгінале. Аднак гэтая літаратура фактычна не даступна масаваму чытачу. Зайдзіце ў нашыя публічныя бібліятэкі: ад Хойнікаў да Браслава яны на 90 працэнтаў, калі не больш, укамплектаваны кнігамі на рускай мове. Дзе-небудзь у куточку сціпла месціцца паліца з кніжкамі беларускіх пісьменнікаў, а пра літаратуру на мовах нашых суседзяў-славян, на мовах, якія мы разумеем не горш за рускую, не варта нават і пытаць. Калі кнігі на польскай мове яшчэ можна набыць у кнігарні «Дружба», хоць цэны на іх такія, што будзеш доўга думаць, набываць альбо не, дарэчы, як і на перыядычныя літаратурныя выданні, то з арыгінальнымі творамі ўкраінскіх пісьменнікаў яшчэ горш. У развагах пра інтэрнацыяналізм і дружбу народаў чамусьці забываецца, што гэтая дружба — паняцце канкрэтнае і існуе ў першую чаргу на духоўным узроўні, на аснове духоўных кантактаў. Асабіста я не ведаю, дзе на Беларусі можна купіць кнігу на ўкраінскай мове, у якой бібліятэцы вас пазнаёмяць з навінкамі сучаснай украінскай літаратуры. Ды што там навінкі, нават украінскую класіку ў арыгінале вы і ў сталіцы знойдзеце з цяжкасцю, а як быць у абласных гарадах і райцэнтрах?..

Як вынік — мы не ведаем духоўных здабыткаў сваіх бліжэйшых суседзяў, а яны нашых. Ды што казаць пра культуру суседзяў, калі праракамі на сваёй бацькаўшчыне нават нашы айчынныя літаратары робяцца, толькі папярэдне заваяваўшы Маскву, шматлікага рускамоўнага чытача. Такім быў шлях В. Быкава, А. Адамовіча, А. Дударава. Можна згадаць і маладзейшых, тых жа М. Шэлехава, У. Бутрамеева. Балюча ўспамінаць, колькі талентаў аддаў наш народ суседнім культурам у цяжкі гістарычны час, калі беларускае друкаванае слова было пад забаронай і праследавалася, але яшчэ больш горка ўсведамляць, што і да сённяшняга дня гэты працэс не спыніўся.

Талент, памножаны на патрыятызм, — гэта нацыянальны скарб. Аднак гісторыя, відаць, нас нічому не вучыць. У свой час не знайшлося месца на бацькаўшчыне М. Улашчыку, пакінулі бацькоўскі край А. Каўка і В. Грыцкевіч. Але ж і сёння, прыкрываючыся высокімі словамі пра адраджэнне нацыянальнай культуры, знаходзяцца людзі, якія без ваганняў выжываюць з роднага дому найлепшых прадстаўнікоў нацыі. Многія сёння ведаюць студэнта Беларускага тэхналагічнага інстытута Алеся Гуркова. І ў той час, калі Беларусь мае такую патрэбу ў энергічных, ініцыятыўных, нацыянальна свядомых кадрах, А. Гуркову даюць накіраванне на працу некуды на Далёкі Усход. Канечне, той, хто вырашаў лёс Алеся Гуркова, без цяжкасці знойдзе сотні фармальных апраўданняў, але гэта сведчыць толькі пра тое, як нізка пала нашая мараль, наша духоўнасць.

Відаць, дзеля таго, каб беларусы ўсіх узроўняў і на ўсіх узроўнях не адчувалі сябе «дзядзькам у Вільні», варта ўсур'ёз падумаць пра сапраўднае развіццё нацыянальнай культуры адпаведным дзяржаўным органам і ўстановам. Нацыянальная культура не можа развівацца ў духоўнай ізаляцыі. Тое ж можна сказаць і пра асобных творцаў. Упэўнена, што значна больш карысці, чым усе ўзятыя разам маскоўскія нарады (маюцца на ўвазе ўсесаюзныя і на такім узроўні, на якім яны зараз праводзяцца), прынеслі б нам творчыя сустрэчы з літаратарамі суседніх рэспублік, сумесныя нарады — беларуска-польскія, беларуска-ўкраінскія, беларуска-літоўскія і г. д.

Калі на справе дбаць пра адраджэнне і развіццё нацыянальнай культуры, то даўно

ўжо неабходна адкрыць уласны літаратурны інстытут, дэлегаваць у іншыя краіны і рэспублікі здольных студэнтаў, якія ў перспектыве маглі б стаць перакладчыкамі і зрабіць шэраг іншых мерапрыемстваў, якія па-сапраўднаму ўмацоўвалі б і культурныя сувязі і дружбу нашых народаў. Сорамна народу, які больш сямідзесяці гадоў мае сваю незалежную дзяржаўнасць, з'яўляецца членам ААН, а жывіцца крошкамі з чужога стала.



# Андрэй Федарэнка:

## ЯК Я ЕЗДЗІЎ У МАСКВУ І ШТО Я ТАМ БАЧЫЎ, альбо УРАЖАННІ АД НАРАДЫ МАЛАДЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ

Эканомячы час і паперу, раздзяляю пісанне на дзве кароткія часткі: што мне на нарадзе спадабалася і што — не.

Найперш добра было, калі мы з Наварычам вельмі лёгка купілі ў Маскву квіткі (гэта трэба было рабіць самім) — перад намі ў чарзе стаялі чалавек пяць, ну, шэсць ад сілы; спадабалася, што чужыя апавяданні, якія ўдалося праслухаць на семінарах прачытаць, былі нікольні не лепшыя за нашыя, беларускія, і нават часткова былі прымітыўныя, нязграбныя; спадабалася, што я пад час нарады блізка пазнаёміўся з добрым нашым журналістам Алесем Лукашуком.

У нашым з Наварычам пакоі вечарамі працаваў «свой семінар». Збіралася па пятнаццаць, дваццаць пяць чалавек, калі — заўсёднікаў, калі — на змену, і сядзелі да раніцы. А прыходзілі якія хочаш — і смешна, і грэшна! Аж бярэ спакуса напісаць штук шэсць абразкоў, паназываўшы: «Дзень першы», «Дзень другі»... Завітаў раз нават адзін масон, прадстаўнік новае партыі — «Партии Всемирного Родства». Мы з Сысам пайшлі чытаць іхнюю праграму, дык там адных граматычных памылак было па семнаццаць на старонку. А замест увесь накіраваны супраць «национальных особенностей». Толькі тыя «браты і сёстры», якім радзіма — Зямля, па-іхняму, маюць права на будучыню, а ўсім іншым яны паадкручваюць галовы. А то раз прыйшло чалавек дзесяць, розных: з Данецка, Свярдлоўска, Смаленска, прыйшлі, пачулі, што мы гаворым па-беларуску, і кажуць паміж сабою: «А, это украинцы, украинцы. Хорошие, добрые люди эти хохлы...» і гэтак далей. Мы не аспрэчвалі, так і «гралі» цэлы вечар ва ўкраінцаў — і ніводзін чалавек не ўчуў розніцу ў мове! Праўда што,— всесоюзное совещание...

Неяк Сыс чытае ім лекцыю па гісторыі: Крывія, Смаленск, Вязьма, Полацк, Іван Грозны... Тады адзін хлопец перабівае: «Да забирайте вы ваш Смоленск, ей-богу! Поставьте нам по сто грамм да берите хоть Тверь!» Во смешна было.

Быў адзін свярдлоўскі паэт, чытаў на нашым «семінары» сваю паэму «Письмо генсеку», авангардную:

По-новому мыслить нельзя.
Меня убеждают в обратном,
Но я повторю многократно:
«По-новому мыслить нельзя!»

альбо:

Товарищ, тебя объегорили.
Ты понял мою аллегорию?

Магчыма, Сыс не палянуецца асобныя раздзелы (яны маленькія) перакласці і надрукаваць у нас дзе-небудзь, для, так сказаць, параўнання, бо паэма яму таксама спадабалася.

Едзем з Масквы. Усе абвесткі па цягніковым радыё па-расейску. Не астуджаныя пасля сямідзённых дэбатаў, пачынаем, вядома, «вылiваць» у кнігу водгукаў свае заўвагі наконт належнага месца роднай мовы ў родных цягніках. Што ўсчалося! Як у разварушаным мурашніку. Прыбегла брыгадзір поезда і, сеўшы ў нашым купэ, хітрым спосабам хацела нас справакаваць: «Я, конечно, понимаю вашу обиду, злость на то, что исчезает ваш диалект, но, согласитесь, это только на пользу культурным людям, потому что без белорусского диалекта русский язык станет чище и будет быстрее развиваться...» — з мяккаю ўсмешкаю, ласкавым голасам. А мы вытрымалі, змаўчалі. І што ж — заўтра раніцаю перапыняе мяне каля купэ гэтая самая брыгадзірка поезда, вачэй не падымае (самому няёмка) і, далібог, на чысцюткім «дыялекце» (за ноч хіба вывучыла?) вядзе такую бяседу: «Прабачце, прабачце мяне... Ах, што ж гэта я ўчора пляла... Такое, што нават сама цяпер ні слова не помню...» І падае мне лісток паперы, каб, значыць, перапаклалі абвесткі. Што Сыс і зрабіў, «и мы расстались, довольные друг другом»,— хочацца сказаць, выкарыстоўваючы стары штамп.

А не спадабалася мне менш, чым спадабалася. Чамусьці не знайшлося чалавека сярод кіраўнікоў нашага, ужо сапраўднага, семінара, які б захацеў (ці змог бы?) прачытаць нешта на беларускай мове, а прачытаўшы, вядома, зацаніць. Чытаць было што, бо Наварыч прывёз дзве свае кніжкі. За сябе не кажу, бо мяне ўвогуле не аказалася ў спісах ніводнага семінара, і быў я там «ні госць, ні гаспадар».

Цікавае адклалася ў канец. Прыязджаю ў Мінск — «мать честная», як Зошчанка піша,— стыпендыі не далі. За два месяцы. З-за нейкае чыста тэхнічнае драбязы. Я туды, я сюды, і з грэзьбою, і з мальбою — па сённяшні дзень! Як той казаў, з багатым не судзіся.

От, думаю цяпер, з'ездзіў у Маскву, дык з'ездзіў.

# ЛЮДУ ПАСПАЛІТАМУ

**СКАРЫНА. Бібліяграфічны даведнік. Мн.: Беларуская Савецкая Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 1989.**

У шырокім сусветным моры энцыклапедый два дзесяцігоддзі назад і Беларусь аблюбавала сабе прыстань. І адправіліся адгэтуль свае нацыянальныя лодкі ведаў, панеслі люду паспалітаму важкую інфармацыю: хто мы і што значым.

Пачалі мы з універсальнай энцыклапедыі БелСЭ, затым выдалі сістэматычную, а потым перайшлі на галіновыя і нават замахнуліся на персанальныя. Першым энцыклапедычным даведнікам, прысвечаным адной асобе, як і чакалася, стаў Янка Купала. Наступнай аказалася кніга «Францыск Скарына і яго час» — гэта наш абавязак перад 500-гадовым юбілеем вялікага гуманіста, беларускага першадрукара. На чарзе — «Максім Багдановіч», таксама «падганяе» векавы юбілей паэта.

Беларуская энцыклапедычная справа пачынае сваё трэцяе дзесяцігоддзе. Па «стажу» мы ўступаем сваім суседзям літоўцам, латышам, эстонцам, украінцам, не кажучы ўжо пра палякаў і рускіх. Трэба аддаць належнае нашаму кіраўніцтву энцыклапедычнай справы, якое ўжо з самага пачатку без раскалыхвання ўзялося фарсіраваць упушчанае. Зараз мы ўжо бачым і адчуваем гэты плён. Беларускія энцыклапедыі сталі на паліцы буйнейшых бібліятэк свету. Былі і ўпушчэнні — традыцыйная палахлівасць «кабы чего...». З-за гэтага на старонкі энцыклапедыі не трапілі некаторыя нашы буйнейшыя паэты, вучоныя, палітычныя дзеячы (А. Гарун, В. Ластоўскі, Я. Лёсік, У. Ігнатоўскі, А. Станкевіч і інш.). А некаторыя з тых, хто трапіў, незаслужана прадсталі перад чытачом у гіпертрафіраванай форме. Надышоў час выпраўляць перагібы, час «збіраць камяні». Новая энцыклапедыя — гістарычная. Якраз і абавязана ўсё расставіць па сваіх месцах, аддаць належнае гістарычным асобам і падзеям.

Напярэдадні юбілею Францыска Скарыны і ў сувязі з выхадам спецыяльна падрыхтаванага энцыклапедычнага даведніка варта сказаць пра яго каштоўнасць і ўпушчэнні. Так павялося, што ў перад'юбілейны час прынята гаварыць пра поспехі. Яно ж так і робіцца. Але ж і бяды хапае, і самая страшная — дэнацыяналізацыя цэлага вялікага славянскага народа. Гэта работа ішла нечувана наступальна, вытраўляючы ў людзей памяць, адымаючы ад іх нацыянальных герояў Францыска Скарыну, Льва Сапегу, Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча, Алеся Гаруна... Бамбілі нашы галовы калектывізацыяй, індустрыялізацыяй, нейкім звергхінтэрнацыяналізмам. А вынік — нігілізм, бяспамяцтва, духоўнае банкруцтва нацыі. Вандалізм, якога яшчэ не ведала гісторыя Беларусі.

Кніга выйшла цудоўна аформленая, з застаўкамі, каляровымі слайдамі, багатымі ілюстрацыямі. Можна гаварыць пра многае: упершыню, упершыню... Меркавалася, што кніга пойдзе па народзе. Сам Францыск Скарына з'явіўся! І што ж — дзевяць тысяч экземпляраў! Усяго толькі?! У радасці могуць паціраць рукі некаторыя «заслужаныя» работнікі культуры і асветы, што давялі нацыю да таго стану, калі 86 працэнтаў вучняў Беларусі ходзяць не ў сваю родную школу. Атрымаўся парадокс: Скарына зрабіў подзвіг у імя асветы беларуса, а беларус выцураўся Скарыны. Дык хто мы?..

Дзіўныя рэчы адбываюцца. Гаворым з чалавекам, усё разумее, як кажуць, даходзіць да першай памяці. Пройдзе месяц, другі, і зноў манкурт манкуртам. Купіў я некалькі экземпляраў «Скарыны». Паказаў старым знаёмым, добра-такі адрахлелым пад цяжарам ідэалагічнай муштры, і паглядзеў на іх рэакцыю: твары абыякавыя, вочы маўчаць. І толькі раскатурхаўшыся, адзін з іх загаварыў: «А дзе дастаць, гэта ж, напэўна, па знаёмству?» Чалавек калі і заходзіў у кнігарню, то толькі не ў беларускі аддзел. А зразумеўшы, што выданне цікавае, адзін знаёмы аграрнік і сам стаў купляць лішнія экземпляры сваім брыгадзірам, заатэхнікам. Гэта яўна выражаны цяжкі сімптом хваробы: нацыянальны нігілізм. У здаровай нацыі выхад такіх кніг чакаўся б з нецярпеннем, і тут жа яны былі б раскуплены і разнесены па хатах. У нас так званай інтэлігенцыі ў некалькі разоў больш, чым тыраж энцыклапедычнага даведніка. І трэба, каб галава балела не ў аднаго толькі, да прыкладу, Ніла Гілевіча ці ў Васіля Быкава, а і шмат у каго з людзей паспалітых.

«Мы за», — скажа нехта з чыноўных асоб.

— Э, не, — адкажам яму. — Дзесяцігоддзі адкрытай і закрытай агітацыі супраць беларускай мовы так не прайшлі. Сталінска-брэжнеўскія «меліяратары» добра падсушылі душу народа і яшчэ здзекліва баілі пра росквіт нацыянальнай культуры. Пра ўсё гэта яшчэ скажа наша гісторыя, бо след такі вялікі і выразны, што і Чарнобылем не закрыеш.

Пра ўсё гэта думаеш, калі чытаеш багаты фактычным матэрыялам энцыклапедычны даведнік «Скарына».

Праца вельмі і вельмі складаная. Спецыялістаў мала, а праблем нераспрацаваных шмат. Рэдакцыйнай калегіі і навуковым кансультантам, дый радавым рэдактарам БелСЭ, давялося папацець, каб выпрацаваць пэўны кірунак дзейнасці, каб адчувалася эпоха, каб не забыліся важнейшыя падзеі, каб не растрэслася персаналія. Можа, па гэтай прычыне ўхіліліся гэтую кнігу назваць энцыклапедыяй, а толькі энцыклапедычным даведнікам. Мне здаецца, што справу можна яшчэ папраўіць, будзе ж яшчэ нагода, і не адна: 450-годдзе смерці Францыска Скарыны (2002 год), 500-годдзе беларускага кнігадрукавання, калі нашы спадкаемцы будуць вольныя ад усякіх догмаў.

Усё ж і ў гэтай кнізе адчуванне Скарыны і яго эпохі дасягнута. Глыбокім па думцы аказаўся ўступны артыкул, напісаны нашым выдатным даследчыкам Уладзімірам Калеснікам. Ён з веданнем справы выкладае складаныя моманты з жыцця першадрукара, удакладняе факты яго біяграфіі. Напрыклад, многія лічаць, што Францыск Скарына сам быў добрым мастаком, меў адпаведную адукацыю. Уладзімір Калеснік уважліва перачытаў матэрыялы той эпохі, унік у сутнасць некаторых тэрмінаў і даў ім новае тлумачэнне. Не адмаўляючы ў праве асветніка быць добрым мастаком, даследчык усё ж заўважыў, што вучоба Скарыны на факультэце мастацтваў Кракаўскага універсітэта зусім не азначае, што ён стаў графікам ці жывапісцам, бо, як піша аўтар, «на гэтым факультэце мастацтвам лічылася граматыка і дыялектыка, а навукай — музыка. Жывапіс у часы Скарыны яшчэ быў цесна звязаны з рамяством, і маляванню вучылі не ва універсітэтах, а ў майстэрнях. Кракаўскія шкляры і мастакі належалі да аднаго цэха. Няма пацверджанняў, што Ф. Скарына вучыўся ў такой майстэрні і авалодаў уменнем маляваць ці гравіраваць». Што ж, думка слушная, і нашым вучоным яшчэ прадстаіць высветліць і гэты бок спадчыны першадрукара. І каб не пасеяць поўны

песімізм у чытачоў, У. Калеснік заключае: «Але гэта не перашкаджае бачыць у ім чалавека, які не толькі любіў і цаніў нашу графіку як сродак уздзеяння на свядомасць чытача, але быў і вялікім знаўцам тагачаснага гравёрнага мастацтва. Каб дабіцца высокай паліграфічнай культуры сваіх выданняў, патрэбна было глыбока разбірацца ў афармленчым мастацтве, мець выдатны густ». Хоць і важны бок дзейнасці Скарыны паставіў пад сумненне, але і не пакрыўдзіў яго, не прынізіў. І крыўды няма, а падумаць ёсць над чым.

Да нявысветленых момантаў біяграфіі Ф. Скарыны трэба аднесці і той, быў ён у Маскве ці не, хоць такое і магло адбыцца ў пачатку 1520-х гадоў. Прычына, напэўна, крыецца ў тым, што яго віленскі апякун Багдан Онкаў так і не змог дамовіцца з кансерватыўным дваром у Маскве аб рэалізацыі тут скарынінскіх выданняў. Гэта і не дзіва.

Вярхоўнае духавенства не прымала друкаванага слова. Па гэтай прычыне, ужо значна пазней, калі ў Маскве Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец задумалі ўкараніць друкарскую справу, яны не змаглі ўжыцца ў асяроддзі закаснелага праваслаўя і мусілі пакінуць Маскву. Для доўгабародых айцоў і прагрэсіўная культура Еўропы не стала аўтарытэтам. Затое кніжная культура, як і еўрапейскі рэнесанс, знайшла больш-менш прыдатную глебу на Беларусі.

Ва ўступным артыкуле У. Калеснік ацаніў скарынінскія прадмовы як новы для беларускага пісьменства XVI ст. свецкі жанр, што кніга павінна служыць «богу ко чти и людем посполитим к доброму научению». Мова выданняў гуманіста багатая народнымі выслоўямі, хоць і часта мяжуецца з укаранелымі царкоўнаславянскімі лексіёмамі. І, як паказала дапытлівая даследчыца вуснапаэтычнай творчасці Л. М. Салавей, Францыск Скарына быў добра знаёмы з тагачасным беларускім фальклорам, выкарыстоўваючы ў прадмовах, каментарыях розныя прыказкі, прымаўкі, паданні, нават міфы і казкі, тым самым асветнік перакідваў масток ад высокацаркоўнай паэтыкі да народнай традыцыі і наадварот. І гэта можна аднесці да актыву творчай практыкі Ф. Скарыны. Ён пісаў, што «книга сама нас добрых абычаев и дел научаеть». Народную мудрасць пераўноўваў са зборам «драгых скарбов», а песня для яго — крыніца маральнага здароўя. Найбольш жа гуманіст звяртаўся да скарбаў мудрасці, якая закладзена ў прымаўках: «Не копай под другом своим ямы, сам ввалишся в ню» або «Не став, Амане, Мардохею шибеница, Сам повиснеш на ней» і г. д.

У розных аўтараў энцыклапедычнага даведніка эпоха Скарыны прадстаўлена як важны час для станаўлення і развіцця нацыянальнай культуры, росту гарадоў як цэнтраў рамяства і гандлю, а таксама грамадска-палітычнай дзейнасці, узнікненнем кнігавыдавецкіх цэнтраў і г. д., і да т. п. Усё гэта Рэнесанс, або Адраджэнне, які ахапіў краіны Еўропы і не абмінуў зямлі Беларусі. Ён жа знайшоў і выявіў сябе ў старабеларускай літаратуры, у мастацтве, у філасофіі, у звароце да народнай культуры, у сцвярджэнні мовы як дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім. Зусім зразумела, што Францыск Скарына тут стаў самай яркай зоркай і як нельга лепш упісаўся ў працэс Адраджэння. Яго нарадзіў сам час. Ён мог толькі тут жыць, а не дзенебудзь у Маскве. Дапамог яму яго універсалізм ведаў, і ў многіх напрамках гуманістычна-навуковай дзейнасці ён стаяў ля вытокаў. Вось чаму і ў прапанаваным даведніку знайшлі адлюстраванне такія тэмы, як «Скарына-бібліёграф», «Ф. Скарына — перакладчык і рэдактар Бібліі»... Вядома, тут не ўсё ахоплена, бо няма раздзелаў «Ф. Скарына і прыродазнаўства», «Ф. Скарына і філасофская думка» і інш., аднак, хоць такога працягу не знайшлося, усё ж нешта з гэтага асветлена ў артыкулах «Мастацтва кнігі», «Методыка-біялагічная дзейнасць Ф. Скарыны» і ў іншых.

Без перабольшання можна сказаць, што выхад Скарынінскай энцыклапедыі — з'ява неардынарная, яна першая ў славянскім свеце і прысвечана аднаму чалавеку і яго часу. Здаецца, аналагаў няма.

Захапляючыся выхадам гэтага фаліянта, не можам не зрабіць заўваг, якія б маглі быць улічаны пры наступных выданнях. Варта ўключыць артыкулы пра тых, хто пісаў пра Скарыну, а менавіта Вацлава Ластоўскага, Адама Станкевіча, а таксама пра час Скарыны — Аляксандра Ельскага, Сільвестра Балтрамайціса, Антона Луцкевіча, Васіля Дружчыца, Міколу Ільяшэвіча, Канстанціна Тарасава, Міколу Ермаловіча, Уладзіміра Арлова. Прысвячаў творы Скарыне Генадзь Бураўкін і іншыя пісьменнікі, але іх тут таксама няма.

Патрабуе ўдакладнення артыкул «Скарынінскія найменні». Вуліца Ф. Скарыны з'явілася ў Маладзечне. А Беларуская гімназія імя Ф. Скарыны працавала ў Радашковічах з 1922 па 1928 год.

Напэўна, варта ўключыць асоб, якія ўпрыгожвалі час Скарыны. Маецца на ўвазе вайдэлот-песеннік з Беларусі Чурылка, якога слухаў сам кароль Жыгімонт І. Па той жа прычыне можна было б змясціць артыкул і пра Льва Сапегу, прадаўжальніка традыцый Скарыны. У новае выданне абавязкова трэба ўключыць артыкул пра маскоўскае аб'яднанне землякоў-беларусаў «Скарынічы».

Нядаўна Алег Лойка пісаў пра пэўную дамоўленасць беларускай навуковай дэлегацыі з кіраўніцтвам Ягелонскага універсітэта аб устанаўленні ў Кракаве мемарыяльнай дошкі. Ёсць і ўпамінаецца мемарыяльная дошка ў гонар Ф. Скарыны ў Вільні, але варта было б даць яе фатаграфію.

Няма артыкула ў даведніку пра Віленскі беларускі музей імя Івана Луцкевіча. А між іншым, там захоўваліся выданні скарынінскай пары.

А зараз пройдземся з алоўкам у руках па асобных артыкулах, змешчаных у Скарынінскай энцыклапедыі.

Пачнем з Сымона Буднага. Артыкул багаты інфармацыяй. Сказана, што асветнік разам з Лаўрэнціем Крыштоўскім і Мацвеем Кавячынскім арганізавалі друкарні і выпусцілі ў 1562 годзе «Катэхізіс», але на с. 351 у другім артыкуле — «Кавячынскі Мацей» — Г. Я. Галенчанка піша, што тут тады была надрукавана і кніга «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам», а пра гэтыя ж кнігі гаворыцца на с. 434 (артыкул «Нясвіж»). Значыць выпушчаны былі дзве кнігі, а не адна. Хацеў глянуць артыкул пра Л. Крышкоўскага, але такога тут няма, а варта даць.

У артыкуле «Маргарыта» (аўтар В. У. Чапко) гаворыцца пра жонку Ф. Скарыны, якая, паводле пазнанскага акта ад 23 кастрычніка 1529 г., удзельнічала ў падзеле спадчыны брата Францыска Скарыны — Івана. Дата смерці яе таксама год 1529. Глянуў артыкул «Скарына Іван». Сапраўды, брат першадрукара памёр гэтым годам. А вось Маргарыта, мусіць, жыла, ва ўсякім выпадку яшчэ год. Для гэтага варта заглянуць у дакумент, што змешчаны ў канцы кнігі, дзе чытаем: «Ліст прускага герцага Альбрэхта да віленскага магістрата і членаў рады Вялікага княства Літоўскага ў абарону Ф. Скарыны» ад 18 мая 1530 г., дзе гаворыцца: «А калі ў яго (Францыска. — Г. К.) адсутнасць што з яго маёмасці якім-небудзь беззаконнем было аднята, дык няхай міласціва будзе вернута. І аб ім, яго жонцы, дзецям, як аб іх, так і аб іншым дабры паклапаціцеся і правам ад усякай крыўды абараніце». Значыць, жонка жыла і ў 1530 годзе. У гэтым жа дакуменце названы «дзеці», а не «дзіця», а ў даведніку ёсць звесткі толькі пра аднаго сына Скарыны Сімяона Руса. На самай жа справе ў першадрукара быў яшчэ сын Францішак, які, паводле паведамлення храніста В. Гаека, загінуў у час пажару ў 1541 г. у Празе (с. 578), а значыць, у энцыклапедыі павінен быць і артыкул пра сына Францішка.

Час далёкі, і разумееццa, энцыклапедычнасць падання фактаў і падзей у такой кнізе далёка няпростая. Можа, таму яшчэ ў нашай навуцы так шмат розначытанняў.

Возьмем, да прыкладу, артыкул «Гісторыя адкрыцця выданняў Скарыны», дзе гаворка ідзе пра бібліяграфічнае выданне першадрукара. Тут упамінаецца бібліёграф С. Мядзведзеў, які каля 1666 г. зрабіў бібліяграфічнае апісанне. Але ж артыкула пра самога С. Мядзведзева няма. «Упершыню ў друкаваным выданні канкрэтныя кнігі Скарыны былі названы ў 1776 г. І. Р. Бакмейсцерам». На гэтай жа старонцы 307 чытаем, што звесткі пра выданні «Царствы», «Еклесіяст», «Ісус Сірахаў», «Песня песняў», «Прамудрасць божая», «Іоў» увёў Бакмейсцер. Трэба думаць, што гэта адзін і той жа Бакмейсцер. Глядзім адпаведны артыкул. Выходзіць, што ў першым выпадку гэта быў рускі выдавец Іван Рыгоравіч Бакмейсцер, але пра гэты факт ні слова, а ёсць звесткі іншага плана. А вось сын яго — Логін Іванавіч Бакмейсцер — сапраўды выканаў гэтую работу. З датамі таксама не заўсёды ў парадку, яны часта блытаюцца. Можна зразумець аўтараў, кожны з іх карыстаўся сваімі крыніцамі, а вось некаму ўжо трэба было праявіць пільнасць, зводзячы даты і факты ў сваю адпаведнасць. У адным артыкуле сказана, што

звод апублікаваны ў 1783 г. (с. 253), а на с. 307 ужо называецца год 1786.

У артыкуле, прысвечаным вядомаму гісторыку, выдатнаму кнігазнаўцу прафесару Віленскага універсітэта Іааахіму Лялевелю, як нам падаецца, змешчаны даволі сціплыя звесткі. Хоць на с. 369 чытаем: «І. Лялевель у 1823 г. увёў у навуковы ўжытак экземпляр кнігі «Ісус Навін», які знаходзіўся ў складзе канвалюта бібліятэкі Варшаўскага універсітэта. Канвалют уключаў кнігі «Суддзі», «Эсфір», «Еклесіяст», «Руф», «Песня песняў» і кнігу «Ісус Навін». Такая інфармацыя была б не лішняй у названым артыкуле.

Разумеецца, што дробязі ёсць дробязі, іх цяжка пазбегнуць, і з-за гэтага нельга баяцца выпускаць новыя энцыклапедыі, проста трэба быць больш пільнымі пры падрыхтоўцы адпаведных выданняў.

І яшчэ адна заўвага. Вельмі ўжо кароткія, а дакладней—усечаныя, даюцца біяграфічныя даведкі. Цяжка нават даведацца, адкуль паходзіць той ці іншы даследчык, адкуль родам, што чалавек скончыў, дзе вучыўся. Такога тут няма. Мне здаецца, гэта трэба мець на ўвазе ў далейшым. Такая памылка была ўжо допушчана пры выданні Купалаўскай энцыклапедыі, дык навошта іх прадаўжаць? Кажуць, што так патрабуе «метадычка». Дык яе ж ствараюць людзі, людзі могуць і паправіць.

Выдаткі выдаткамі, а Скарынінская энцыклапедыя—з'ява рэдкая, і яна з'явіцца найвялікшым укладам у даследаванне эпохі сярэднявечча. Гэта цудоўны дарунак 500-годдзю вялікага гуманіста. Будзем спадзявацца, што гэтая энцыклапедыя знойдзе свайго чытача ў шырокім славянскім свеце і без перакладу з беларускай мовы.

Генадзь КАХАНОЎСКІ




**«СТАТУТ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА 1588».** У невялікім слове «Да чытача» гаворыцца: «Гэта першае на Беларусі выданне, у якім комплексна разглядаецца выдатны помнік прававой культуры і юрыдычнай думкі феадальнага грамадства 16 ст.—Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. Яно фактычна з'яўляецца падрахункам развіцця даследаванняў гісторыі дзяржавы і права на Беларусі». А ва ўступным артыкуле «Сацыяльна-гістарычныя ўмовы ўзнікнення Статута Вялікага княства Літоўскага 1588», над якім працавала вялікая група беларускіх вучоных, гэты звод законаў ставіцца вельмі высока: «Сярод такіх сусветна вядомых помнікаў права, як законы Хамурапі, законы Ману, Законы дванаццаці табліц, Кодэкс Юсцініяна, Руская Праўда і інш. пачэснае месца належыць Статуту Вялікага княства Літоўскага 1588».

Напісаны на беларускай мове, ён на працягу 250 гадоў быў дзеючым законам і складаў аснову ўсёй прававой сістэмы Вялікага княства Літоўскага, а пасля далучэння Беларусі да Расіі—і ў Віцебскай і Магілёўскай губернях.

Гэтае выданне прысвечана 400-годдзю слыннага помніка.

У кнізе падаецца факсімільнае ўзнаўленне арыгінала Статута, зробленае з экземпляра, што захоўваецца ў Ленінградзе, у Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына, змяшчаецца яго адаптаваны тэкст, а таксама пераклад на рускую мову.

Важкім з'яўляецца ў кнізе энцыклапедычны даведнік, дзе змешчаны артыкулы, у якіх разглядаюцца прававая тэрміналогія Статута, яго ўзнікненне, выданне, ужыванне, зберажэнне і вывучэнне.

Багаты навуковы апарат выдання: каментарыі, літаратура, тэрміналагічны паказальнік да тэксту, імянны паказальнік, спіс асноўных скарачэнняў.

У выданні шмат ілюстрацыйнага матэрыялу—гербы, пячаткі, гравюры гарадоў, выявы вялікіх князёў Гедыміна, Альгерда, Ягайлы, Вітаўта, Аляксандра, трох Жыгімонтаў, а таксама Францыска Скарыны, Васіля Цяпінскага, Яўстафія Валовіча, Льва Сапегі і інш.

Выданне адрасуецца ўсім, хто цікавіцца развіццём прававой думкі на Беларусі, а таксама развіццём беларускай мовы і пісьменнасці ў 16 стагоддзі.

Выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, Мінск, 1989 г.

**«ГРАВЮРЫ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ».** Акрамя ўсіх сваіх талентаў Францыск Скарына быў яшчэ выдатны мастак. У першай славянскай кірыліцкай Біблii, якую беларускі першадрукар выдаў у Празе, а затым і ў віленскіх выданнях ён змясціў шмат выдатных сваіх ілюстрацый. Некалі вядомы даследчык рускай гравюры Д. А. Равінскі пісаў, што яны «паводле выдатнай работы па зместу і па мастацкаму выкананню свайму не маюць нічога агульнага з гравюрамі, якія сустракаюцца ў іншых славянскіх кнігах».

Гэтыя дрэварыты—першыя ў гісторыі беларускага мастацтва, яны—адзін з найбольш ранніх біблейскіх цыклаў у выяўленчай творчасці Усходняй Еўропы, у іх яскрава выяўляюцца кантакты беларускай гравюры з мастацтвам заходнееўрапейскай готыкі і Рэнесанса.

Чытач зараз мае магчымасць набыць самыя яркія з гэтых дрэварытаў: у кнігарнях з'явіўся набор з 13 паштовак, на якіх узноўлены ілюстрацыі з Біблii Скарыны.

Тэкст падаецца на беларускай, рускай, англійскай і французскай мовах.

Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1989 г.

**«ЗБОР ТВОРАЎ»** Уладзіміра Караткевіча, які выдаецца ў васьмі тамах, папоўніўся чарговым томам. Выйшаў з друку і прапануецца чытачам пяты том гэтага выдання, у які ўвайшла другая кніга славутага рамана «Каласы пад сярпом тваім», а таксама аповесць «Зброя». У абодвух гэтых творах расказваецца пра той час, калі выспявала і рыхтавалася на Беларусі гістарычнае паўстанне 1863 года, якое ўзначаліў выдатны сын беларускага народа Кастусь Каліноўскі.

У томе шмат фотаздымкаў.

Каментарыі да твораў зрабіў Анатоль Верабей.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«РОДНЫ КУТ».** Новая кніга прозы лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР Барыса Сачанкі разнастайная па тэматыцы і па жанрах твораў, змешчаных у ёй.

**У зборніку чытач знойдзе аповесць, якая дала назву кнізе і якая хвалюе нас болем, што нарадзіла чарнобыльская бяда; пазнаёміцца з апавяданнямі на сучасную тэму; прачытае нарыс пра Нідэрланды, дзе пабываў пісьменнік і пра якія так удумліва расказаў; згадае разам з аўтарам цікавых людзей — Алеся Гаруна, Язэпа Лёсіка, Андрэя Макаёнка, Аляксея Кулакоўскага, Сымона Блатуна, пра якіх піша Б. Сачанка; задумаецца над тымі праблемамі, над якімі разважае аўтар у падборцы мініяцюр «Думкі ўроссып».**

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«БЕЗ ЭПІТАФІІ». Дакументальная аповесць Эрнеста Ялугіна расказвае пра складаны лёс старшыні першага беларускага ўрада Зміцера Хведаравіча Жылуновіча, пра станаўленне маладой дзяржавы — Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.**

**У прадмове да кнігі кандыдаты гістарычных навук М. Сташкевіч і А. Кароль пішуць:**

**«Многія тысячы абылганых і незаслужана рэпрэсіраваных за гады культу асобы Сталіна былі рэабілітаваны ўжо ў канцы 50-х, але многія засталіся за межамі прыпыненага ў 60-я гады працэсу аднаўлення справядлівасці. Са Зміцерам Хведаравічам Жылуновічам (Цішкам Гартным) атрымалася складаней. Ён быў рэабілітаваны ў кастрычніку 1955 года «за недаказанасцю злачынстваў» і толькі ў верасні 1987 — «за адсутнасцю саставу злачынства», а ў сакавіку 1988 — адноўлены ў партыі. Палавінчатая рэабілітацыя ў 1955 годзе мела і палавінчаты вынік: яго імя вярнулі на старонкі гісторыі беларускай літаратуры, сталі выдаваць яго мастацкія творы, вывучаць іх у школах і вышэйшых навучальных установах, пісаць пра яго як мастака, але на яго грамадска-палітычнай і навукова-публіцыстычнай дзейнасці па-ранейшаму ляжала «табу». Другімі словамі, з нябыту вярнуўся Цішка Гартны, але па той бок застаўся Змітрок Жылуновіч. І, такім чынам, поўнага ўяўлення пра гэтую буйную, самабытную асобу, самародка з глыбінь народа мы не мелі».**

**Гэтай трагічнай і мужнай асобе і прысвечаны новы твор Э. Ялугіна. Ён разгледжаны і ўхвалены для друку сектарам гісторыі партыі Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП Беларусі.**

Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1989 г.

**«КАРАБЕЛЬ». Выйшаў з друку том выбранай прозы лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі Васіля Гігевіча. У яго ўключаны лепшыя творы пісьменніка — аповесці «Жыціва», «Калі пойдзе снег», «Забытая дарога», фантастычная аповесць «Карабель» і раман «Доказ ад процілеглага».**

**У кнізе змешчана біяграфічная даведка.**

**Кніга выйшла ў серыі «Бібліятэка беларускай прозы».**

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«СНЯЖЫНКІ НАД АГНЁМ» — кніга выбранай паэзіі лаўрэата літаратурнай прэміі імя І. Мележа Леаніда Дайнекі. У ёй друкуюцца лепшыя паэтычныя творы пісьменніка, напісаныя на працягу дваццаці год творчай працы. Вершы і паэмы выбраны з пяці паэтычных кніг, што выйшлі раней: «Галасы», «Бераг чакання», «Начныя тэлеграмы», «Мая вясна саракавая», «Вечнае імгненне».**

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«БАЦЬКОЎСКІ ДОМ» — кніга паэзіі Таісы Мельчанка, выкладчыцы беларускай літаратуры ў адной са школ Гомеля.**

**У зборнік увайшлі новыя вершы маладой паэтэсы, дзе, як сцвярджае анатацыя, ёсць «свежасць назіранняў, нечаканая вобразнасць», а таксама паэма развітання «Маці, буяе лета!».**

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«ЗАЛЕЖНАСЦЬ». Гэта першая самастойная кніга вершаў Яўгеніі Мальчэўскай, калі не лічыць яе даволі грунтоўнай паэтычнай падборкі «Святло асенняе зярнят», змешчанай у калектыўным зборніку «Нашчадкі».**

**У новай кнізе вершы аб дружбе і каханні, аб роднай прыродзе і мацярынстве, аб клопатах і трывогах людскіх, аб любові да радзімы.**

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«ГАРАДСКАЯ ГЕРАЛЬДЫКА БЕЛАРУСІ». У прадмове да сваёй кнігі Анатоль Цітоў піша, што «адной са знешніх адзнак станаўлення і развіцця гарадскіх паселішчаў Беларусі ў XVI—XVIII стагоддзях было фарміраванне гарадской геральдыкі», сцвярджае, што «старажытны гарадскі герб выконваў ролю «візітнай карткі» горада, і гэтая яго функцыя не страціла прызначэння і можа вельмі добра паслужыць як нашым сучаснікам, так і нашчадкам».**

**Вышэйназваная кніга — не першая работа аўтара на гэтую тэму. У 1983 годзе ён ужо выдаў невялічкую брашуру «Гербы беларускіх гарадоў», якая хутка разышлася і на сёння стала бібліяграфічнай рэдкасцю.**

**Новае выданне — грунтоўны і ўсебаковы разгляд беларускай нацыянальнай геральдычнай традыцыі. У ім — амаль поўны збор гарадскіх гербаў, якія мелі нашы гарады на працягу даволі шырокага храналагічнага прамежку.**

**У кнізе чытач знойдзе наступныя раздзелы: «Сімвалы незалежнасці», «Гарадскі герб», «Тыпалогія гарадскіх гербаў», «Гарадская геральдыка», «Беларускія гарады — вехі гісторыі», а таксама, што і вызначае навуковае выданне, — спіс скарачэнняў і спіс выкарыстанай літаратуры. У выданні шмат ілюстрацыйнага матэрыялу, яно змяшчае новыя фактаграфічныя і іканаграфічныя знаходкі.**

**Над афармленнем кнігі па матэрыялах і пад навуковым кіраўніцтвам аўтара працавалі мастакі Мікола Купава і Яўген Кулік. Афармленне — Міколы Купавы.**

Выдавецтва «Полымя», Мінск, 1989 г.

**«РУБАІ». Матэматык, філосаф Усходу. Класік ірана-таджыкскай літаратуры, які жыў і працаваў у далёкім XI стагоддзі. Амар Хаям — «мудры Амар Хаям, вешчы Амар Хаям, вечны Амар Хаям», як гаворыцца ў выдавецкай анатацыі.**

**Яго чатырохрадкоўі асобнаю кнігаю ў нас на Беларусі выдаюцца ўпершыню.**

**З фарсі-кабулі на беларускую мову рубаі Амара Хаяма пераклаў Рыгор Барадулін.**

**Укладанне кнігі і даслоўнікі зрабіў Валерый Чамбарысаў.**

**Шыкоўнае мастацкае афармленне кнігі мастака Мікалая Казлова.**

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«ЗАКАХАНЫ ВАНДРОЎНІК» — кніга паэзіі нямецкага рамантызму. У яе ўвайшлі вершы паэтаў-рамантыкаў XIX стагоддзя, дзе галоўнымі тэмамі з'яўляецца каханне, маладосць, жыццё, родны край.**

**У кнізе змешчаны добрыя падборкі паэзіі пяці нямецкіх паэтаў: Клеменса Брэнтана, Адэльберта Шаміса, Людвіга Уланда, Ёзэфа Айхендорфа і Вільгельма Мюлера.**

**Укладанне і пераклад з нямецкай мовы Уладзіміра Папковіча.**

**Прадмову «Жыцця чароўны цуд уславіць» напісаў І. Лапін.**

**Кніга выйшла ў серыі «Паэзія народаў свету».**

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«БЛАКІТНЫ ПАТРУЛЬ». Кнігу прозы Анатоля Давыдава, украінскага пісьменніка, склалі аповесці і апавяданні. У яе ўключаны аповесці «Катамаран», «Блакітны патруль», «Гаючы камень», а таксама некалькі апавяданняў.**

**З украінскай мовы творы пераклала Т. Тарасава.**

**Кніга рэкамендуецца вучням сярэдняга школьнага ўзросту.**

Выдавецтва «Юнацтва», Мінск, 1989 г.

## БЕЛАРУСКАЯ КНІГА НА МОВАХ СВЕТУ

**«КАР'ЕР». Гэтая аповесць Васіля Быкава перакладзена ўжо на шмат якія мовы. Летась яна выйшла ў Венгрыі. На венгерскую мову яе пераклаў Шапроні Андраш.**

Выдавецтва «Эўропа Кёнвікіада», Будапешт. 1988 г.

**«КАРНІКІ». Аповесць Алеся Адамовіча, якая мае падзагаловак «Радасць нажа, або Жыццё гіпербарэяў», польскія чытачы маюць зараз магчымасць прачытаць на роднай мове. Твор выдадзены ў Варшаве. На польскую мову яго пераклаў Анджэй Шыманьскі.**

Выдавецтва «Вспулпраца», Варшава, 1988 г.

# Нашы аўтары

**БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА Данута** нарадзілася ў 1938 годзе ў вёсцы Біскупцы Лідскага раёна. Скончыла Навагрудскае педагагічнае вучылішча, аддзяленне беларускай мовы і літаратуры Гродзенскага педагагічнага інстытута імя Я. Купалы.
Выдала зборнікі паэзіі «Дзявочае сэрца», «Нёман ідзе», «Запалянкі», «Доля», «Ты—гэта ты», «Браткі» і інш., а таксама шэраг кніг вершаў для дзяцей.
Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР.

**ЗАБАЛОЦКАЯ Людміла** нарадзілася ў 1950 годзе ў Крычаве. Скончыла Крычаўскае медвучылішча, філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Працавала ў раённай газеце, у БелСЭ.
Выдала зборнікі вершаў «Сакавік» і «Радаводны васілёк».

**ЛАНЕЎСКАЯ (САЧАНКА) Галіна** нарадзілася ў 1961 годзе ў горадзе Крычаве. Скончыла факультэт журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна. Зараз працуе ў часопісе «Мастацтва Беларусі».
Друкавалася ў рэспубліканскіх часопісах.

**АСТРАЎЦОЎ Сяргей** нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мінску. Служыў у Савецкай Арміі. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна. Працуе ў абласной газеце «Гродненская правда».
У «Маладосці» выступае ўпершыню.

**КУКСА Валянціна** нарадзілася ў 1951 годзе ў в. Гнеўчыцы Іванаўскага раёна. Скончыла Брэсцкі педагагічны інстытут імя А. С. Пушкіна. Працуе выхавацельніцай дзіцячага сада ў Брэсце.
У «Маладосці» выступае ўпершыню.

**КАЛКОЎСКІ Уладзімір** нарадзіўся ў 1959 годзе ў г. п. Любча Навагрудскага раёна. Скончыў фізфак БДУ імя У. І. Леніна. Працуе на вытворчым аб'яднанні «Інтэграл».
Друкаваўся ў рэспубліканскіх часопісах.

**ЧАРОПКА Вітаўт** нарадзіўся ў 1961 годзе ў Мінску. Служыў у Савецкай Арміі. Зараз працуе на адным з прадпрыемстваў Мінска.
Друкаваўся ў рэспубліканскіх часопісах.

**ЗУБ Іна** нарадзілася ў 1952 годзе ў Мінску. Скончыла факультэт французскай мовы Мінскага дзяржаўнага інстытута замежных моў. Зараз працуе перакладчыкам у міжгаліновым навукова-тэхнічным цэнтры «БелКарт».
Друкавалася ў часопісах «Беларусь», «Полымя», «Работніца і сялянка».
У «Маладосці» выступае ўпершыню.

**ЖУКОВІЧ Васіль** нарадзіўся ў 1940 годзе на хутары Забалацце Камянецкага раёна. Працаваў рабочым, у раённай газеце, на тэлебачанні, рэдактарам у выдавецтве «Мастацкая літаратура».
Скончыў Брэсцкі педагагічны інстытут імя А. С. Пушкіна, Мінскую вышэйшую партыйную школу пры ЦК КП Беларусі.
Выдаў кнігі вершаў «Паклон», «Мелодыя святла» і інш.

**МАРОЗАЎ Змітрок** нарадзіўся ў 1954 годзе ў пасёлку Язбы Крупскага раёна. Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Працаваў аграномам, быў на камсамольскай рабоце, зараз—у Дзяржаграпраме БССР.
Выдаў зборнікі вершаў «Пад небам бусліным», «Хлеб і памяць», «Хлебны верасень», кнігу апавяданняў для дзяцей «Азбука агранома Валошкі».
Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.

**ФЕДЗЮКОВІЧ Мікола** нарадзіўся ў 1943 годзе ў вёсцы Гутава Драгічынскага раёна. Служыў у Савецкай Арміі. Скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага. Працаваў у раённых газетах, рэдактарам у выдавецтве «Народная асвета», у газеце «Чырвоная змена». Выдаў кнігі паэзіі «Зямля-магніт», «Мілавіца», «Птушыны грай», «Макаў цвет» і інш.

**«МОЛОДОСТЬ» № 11 (1—176), 1989 г.**
**Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический иллюстрированный журнал**
(на белорусском языке)
Мастацкі рэдактар **Віктар КАЗЛОЎ.** Тэхнічны рэдактар **Яніна ВАЖНІК.**
Карэктары **Валянціна БАШАК, Мая ВІНАГРАДАВА.**
Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.
Адрас рэдакцыі: 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79, выдавецтва ЦК КПБ. Тэлефоны: 31-85-43—галоўны рэдактар і намеснік галоўнага рэдактара, 32-82-29—сакратарыят, аддзелы паэзіі, прозы, крытыкі, 31-76-14—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 39-87-70—фотакарэспандэнт.
Здадзена ў набор 20.09.89. Падпісана да друку 24.10.89. АТ 06372. Фармат 70×90¹/₁₆. Друк высокі. Умоўн. фарбаадб. 14,77. Умоўн. друк. арк. 12,87. Ул.-выд. арк. 14,2. Тыраж 10 088 экз. Зак. 381. Цана 60 к.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041, Мінск, Ленінскі пр., 79.



**Алег НАЗАРАНКА** нарадзіўся ў 1961 годзе. Змалку навучаўся музыцы ў музычнай школе, затым паступіў у мастацкае вучылішча імя Глебава. У 1980 годзе стаў студэнтам аддзялення графікі БДТМІ. Служыў у Савецкай Арміі, зараз выкладае ў мастацкім вучылішчы.

Тэматыка творчасці Алега Назаранкі самая шырокая: мінулае нашага народа, дзень сённяшні, дзень заўтрашні.

Знаёмячы чытачоў з творчасцю мастака Алега Назаранкі, «Маладосць» жадае яму плённай працы, поспехаў.





**А. НАЗАРАНКА. «І меч, і воля, і слова...»** (літаграфія, 1986).